


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**9** (1019)

ВЕРАСЕНЬ

Выдаецца
са снежня 1922 года

## ЗМЕСТ



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# НЕ ПЕРАСТУПІЦЬ МЯЖУ...

*Дэтэктыўнае апавяданне*

## 1

Берасцейскі лаўнік[1] Самуіл Корчак быў настолькі занятым чалавекам, што нават час, адведзены Богам для адпачынку, лічыў марнатраўствам, глупствам, нейкай недарэчнасцю. Ён пастаянна быў у руху, заняты нейкай важнай справай: штосьці рабіў, некуды ехаў, аб нечым думаў — інакш не мог, інакш яму здавалася, што жыве дарэмна, што нікому не патрэбны і што яго жыццё на гэтым свеце не мае ніякага сэнсу.

Так і ў адзін з ліпеньскіх ранкаў 1551 года Корчак, як звычайна, прачнуўся з першымі, яшчэ кволымі і нясмелымі, спевамі птушак. Аднак не саскочыў адразу з лежака на падлогу, не пабег на двор да бочкі з вадой, не штурхнуў у бок жонку: «Уставай, лежабока! Гатуй сняданак». Не, ён ляжаў з шырока расплюшчанымі вачыма і застылым позіркам, у якім адначасова застылі і сполах, і разгубленасць, глядзеў у кут на невялікі, старадаўняга пісьма, абраз. Вусны яго шапталі незразумелыя словы, пад левым вокам нервова пульсавала жылка, і па ўсім было бачна — Самуіл яшчэ не адышоў ад сну.

А гэтай ноччу ён сніў дзіўны сон: быццам у гарадскую ратушу да яго ў госці завітаў святы апостал Павел і ласкавым голасам запытаўся: «Дзеля чаго ты столькі працуеш, Самуіл? Няўжо тваёй сям'і на жыццё не хапае грошай?» Лаўнік сумеўся.

— Я больш працую для простых людзей, — адказаў ён нясмела апосталу, і ўбачыўшы на яго твары недаверлівую ўсмешку, гэтак жа нясмела, нібы апраўдваючыся, дадаў: — І праўда, людзі мне часам зусім не плоцяць грошай.

— А ты можаш хаця б адзін дзень у тыдзень прысвяціць сваёй сям'і: схадзіць з жонкай у царкву, на базар, з сынам — на рыбалку, праведаць бацькоў, наведаць брата? Ты можаш хаця б адзін дзень нічога не рабіць?

---

[1] ***Лаўнік*** — член гарадскога магістрата. Лаўнікі разам з войтам складалі *войтаўска-лаўніцкі суд,* які разглядаў крымінальныя справы гараджан.

---

***Мажылоўскі Уладзімір Барысавіч*** *нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1984). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў дырэктарам школы. Цяпер — загадчык аддзялення для састарэлых і інвалідаў Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Друкаваўся ў часопісе «Маладосць».*

— Магу! — прама ў сне шчыра, быццам на споведзі, ускрыкнуў Самуіл. — Я даўно збіраюся ўсё гэта зрабіць, але не маю часу — шмат працы ў магістраце.

Зноў недаверлівая ўсмешка расцягнула бяскроўныя вусны архангела і, быццам малому дзіцяці, шчымлівым ад ласкавасці голасам ён прамовіў:

— Ты падманваеш сябе, Самуіл, бо кожны чалавек мае час для зносін са сваімі роднымі. Праца — дабро, калі яна дапамагае зразумець сэнс твайго існавання на гэтым свеце. Калі ж яна падмяняе яго, выцясняе з галавы думкі аб сутнасці і паўнаце жыцця — яна становіцца праклёнам, пакараннем для родных і блізкіх табе людзей. Падумай пра гэта, Самуіл! Набярыся смеласці, прысвяці родным хаця б адзін дзень на тыдзень.

«Смеласці?» — гэтае слова канчаткова выцесніла сон з галавы лаўніка. Нават архангелу ён не мог дазволіць абвінавачваць сябе ў адсутнасці смеласці. Гэта ж так несправядліва ганьбіць таго, хто пастаянна рызыкуе жыццём, хто кожны дзень ахвяруе сабой дзеля іншых! Але, прачнуўшыся, Самуіл не ўбачыў апостала Паўла, і толькі з абраза на яго глядзелі добрыя вочы Іісуса. «А можа, і сапраўды мне не хапае смеласці прайсціся з жонкай па крамах ці ўзяць вуды і пасядзець з сынам на беразе Мухаўца? Можа, і сапраўды сэнс жыцця не ў тым, як і колькі я працую, а ў тым, як і каго я люблю?» Гэтыя пытанні Самуіл задаваў сабе, але з надзеяй чакаў адказу на іх ад Іісуса, позірк якога нечакана змяніўся, стаў строгім, калючым. «Што ж, — лаўнік адвярнуўся ад абраза і з шумам нібы выдыхнуў з сябе ўсе ваганні: — Сягонняшні дзень я прысвячу сям'і, тым больш, што сягоння гадавое свята — дзень першаапостальных святых Пятра і Паўла».

Вырашыўшы так, ён супакоіўся і нават, быццам добраму сябру, падміргнуў Іісусу: «Зранку з жонкай і сынам наведаю царкву святога Пятра, а потым пайду з Васяткам на Мухавец, пацягаем з ім печкуроў і плотак, а пашчасціць, дык і галаўня злаўлю на муху».

Дзіўна, як адзін сон, няхай і не зусім звычайны, можа змяніць чалавека. Яшчэ наогул вечарам, зручней уладкоўваючы галаву на падушцы, Самуіл думаў пра тое, што трэба зрабіць у нядзелю, не вызначыўшы, што найперш, а тут, прачнуўшыся, раптам нібы абмяк, абязволіўся, у яго вачах з'явілася нешта такое, чаго ніколі не было раней.

Гэты сон абудзіў прыціхлыя пачуцці, і ён зразумеў усім сваім добрым сэрцам, як сапраўды любіць жонку і сына, як сумуе без іх і наколькі яны яму дарагія. Самуіл і раней ведаў пра гэта, але жаданне дапамагчы іншым забірала ўсе яго сілы, выпальвала сэрца, знясільвала душу. А тут раптам асэнсаваў, што можа ўпусціць час, не паспець зрабіць тое важнае, што менавіта зараз патрэбна яго родным, і ад гэтага асэнсавання станавілася жахліва.

Самуіл паглядзеў на жонку, якая яшчэ спала. «Прабач, — папрасіў ён у думках у яе прабачэння, шкадуючы яе і саромячыся сваёй былой залішняй рашучасці. — Больш я не буду абражаць цябе і называць лежабокай».

Ён асцярожна падняўся, ступіў босымі нагамі на халодную земляную падлогу, наблізіўся да чырвонага кута, дзе пад ручніком цямнеў абраз. «Божа літасцівы, Божа ўсемагутны! — зашаптаў Самуіл нязвыклыя словы пакаяння. — Ты даў Адаму жонку, аб якой казаў, што яна костка ад косткі Тваёй і плоць ад плоці Тваёй. Ты асвячаеш шлюб як свяшчэнныя абавязкі мужа і жонкі, а таго, хто парушае іх — Ты караеш, бы здрадніка, які асмеліўся парушыць задумы Твае. Даруй мне, Гасподзь, што я нядбайна адносіўся да клятвы сваёй, што не шанаваў жонку сваю, як таго Ты патрабуеш, што…» «І даруй мне, Божа літасцівы, што не заўсёды я была моцнай апорай мужу свайму

любаму, што не заўсёды магла дагадзіць яму або дапамагчы ў справах яго цяжкіх», — пачуўся побач жаночы шэпт.

Самуіл ад нечаканасці страпянуўся, збіўся з думак, паглядзеў направа — побач з ім на каленках стаяла жонка і таксама, пазіраючы на абраз, каялася. На яе вачах блішчэлі слёзы, а словы былі такімі шчырымі, што ён канчаткова паверыў — сэнс жыцця не ў працы, не ў справах, хай сабе і зробленых дзеля дабра; сэнс жыцця ў сапраўдным каханні. А наступныя справы чалавека — гэта ўжо следства яго любові, і толькі.

Жонка закончыла малітву, перажагналася, паднялася з калень.

— Я яшчэ не прыгатавала табе сняданак, — у яе голасе прагучалі вінаватыя ноткі, — але я зараз, я хутка. Ты не паспееш памыцца і апрануцца, як я пастаўлю на стол.

— А я сягоння нікуды не спяшаюся, —не верачы сваім словам, усміхнуўся Самуіл.

— Ты сягоння не пойдзеш у магістрат? — жонка спалохана паглядзела на мужа. — Ты сягоння цэлы дзень будзеш дома? Ты не захварэў?

— Не, я здаровы і думаю схадзіць сягоння з табой і сынам у царкву. Потым, спадзяюся, што ты не адмовішся, і мы пройдземся разам па базары, купім табе і Васятку абноўкі. А вечарам… Эх, Насценька, як даўно я не купаўся ў нашай рэчцы, а калі быў на рыбалцы, дык і наогул не памятаю!

Самуіл смачна, да хрусту ў касцях, пацягнуўся, нейкае імгненне назіраў за тым, як з твару жонкі знікае недавер, саступаючы месца разгубленасці, як разгубленасць змяняецца радасцю, як яго Насця ўвачавідкі квітнее, наліваецца шчасцем, як мяняецца яе настрой. «Як мала трэба чалавеку для шчасця, — з сумам падумаў ён. — І чаму я гэта не разумеў раней? Куды ўсё спяшаўся, дурань?»

Аднак, як кажуць, чалавек мяркуе, а Бог вызначае. Не паспеў Самуіл апрануць свой святочны строй, як на яго двары сонна забрахаў сабака, і неўзабаве ва ўваходныя дзверы нехта рашуча загрукатаў.

— Адчыняй, дзядзька Корчак! — данёсся з панадворку зусім юны голас. — Дзядуля неадкладна выклікае цябе ў магістрат.

— Ну вось, — Самуіл вінавата паглядзеў на жонку, — здаецца, схадзілі разам і ў царкву, і на рыбалку.

Ён падышоў да дзвярэй, адчыніў іх, убачыў у праёме хлапечую постаць у яркай, святочнай кашулі.

— Што здарылася, Пятрок? — лаўнік пазнаў унука берасцейскага войта[1] пана Міхала Ласкевіча, і па бляску хлопцавых вачэй, па яго спатнелым ілбе і ўскудлачаных валасах здагадаўся — здарылася нешта такое, што прымусіла ў гэты святочны дзень старога войта выйсці на працу. — Ты ж ведаеш, якое сягоння свята і што сягоння кожны хрысціянін павінен маліцца, а не працаваць?

— Ведаю, але ж у нас забойства! — Пятрок у адчаі, што яго не разумеюць, нават махнуў рукой. — Дзядзьку Малака, купца з Цаглянай вуліцы, учора вечарам забілі.

— Малака Будніка? — гуллівы настрой прапаў, Самуіл спахмурнеў і, ні імгнення не вагаючыся, забыўшыся і пра свята, і пра свае абяцанні, кіўнуў хлапчуку: — Перадай дзеду, што зараз буду.

Напэўна, жаданне дапамагаць іншым, насуперак асабістаму, нараджаецца з нейкай унутранай патрэбы, і менавіта гэтая патрэба, а не баязлівасць ці сме-

---

[1] ***Войт*** — кіраўнік гарадской адміністрацыі. У дзяржаўных гарадах прызначаўся вялікім князем ВКЛ з заможных мяшчан або феадалаў.

ласць, штурхаюць чалавека на ўчынак. Учынак неабходны. Учынак нечаканы. І як назваць учынак, які здзяйсняецца па неабходнасці?..

Самуіл не думаў аб гэтым. Хударлявы, сярэдняга росту, простай знешнасці — ён нічым не нагадваў волата ці рыцара. Аднак у яго быў унутраны стрыжань, моцны, цвёрды, непахісны, такі, якога не мелі многія берасцейскія волаты, пра подзвігі якіх у горадзе хадзілі легенды, і, раскрываючы нейкае злачынства, ён быццам бы вёў уласную бязлітасную вайну з душагубам, а таму лічыў сваю працу багаўгоднай, праведнай.

## 2

У магістраце панавалі ранішні паўзмрок і нядзельная цішыня, і толькі з пакоя войта даносілася старэчае крактанне.

Не паспеў лаўнік пераступіць парог, як пан Ласкевіч запрасіў яго да сябе.

— Сядай, Самуіл, — кіўнуўшы галавой у адказ на прывітанне, войт паказаў на лаву і, крыху пачакаўшы, запытаўся: — Ты чуў, што ўчора вечарам старэйшыну купецкага цэха Малака Будніка зарэзалі?

— Зарэзалі? — Самуіл ад нечаканасці нават прыўзняўся над лавай. — Твой унук толькі што мне паведаміў аб забойстве Малака, але… Даўно ў нас купцоў не забівалі! Даўно!

— Мне аб гэтым учора позна вечарам расказаў яго сын Лаўрэн, — войт узяў са стала збан, напоўніў з яго кубак, са смакам выпіў, выцер вусы: «Добры квас!» Потым працягнуў: — Я цябе разумею: нядзеля, свята, сям’я, але ж і ты зразумей мяне: не можа труп чакаць такой спёкай да панядзелка, не па-хрысціянску гэта.

— Я ж не адзін у магістраце лаўнік, выклікаў бы Піліпа ці Фёдара.

— У іх сваіх спраў хапае, — бы ад дакучлівай мухі, адмахнуўся ад слоў падначаленага пан Міхал. — Ды ты і сам ведаеш, што Піліп, а тым больш Фёдар у такіх справах сапраўдныя ёлупні.

«Яны ёлупні і ў іншых справах», — у думках усміхнуўся Самуіл, а ўголас запытаўся:

— Хто яшчэ ведае аб смерці старога Будніка?

— Ну-у, — войт няўпэўнена пацiснуў плячыма, — на Цаглянай вуліцы, пэўна, ужо ўсе чулі. А ў горадзе? У горадзе пакуль ціха.

— А што думаеш ты, пан Міхал, аб забойстве купца? Каму была патрэбна яго смерць? Можа, купцы нешта між сабой не падзялілі? Мой бацька расказваў, што ў іх там неспакойна.

— У купцоў няма рознагалосся, — крыху падумаўшы, адказаў войт. — А неспакойна ў кавалёў з ганчарамі — незадаволены яны пошлінамі, кажуць, што для іх яны занадта вялікія, — пан Ласкевіч зноў узяўся за збан з квасам, але на гэты раз напоўніў ужо два кубкі: — Пакаштуй, Самуіл, квасу. Знатны квас, бадзёрыць не горш за раўгеню.

Корчак не стаў адмаўляцца, бо ведаў, што гэты квас рабіла жонка пана Міхала, што квас і сапраўды смачны, і галоўнае, што добрыя словы хвалы напою дастаўлялі войту немалую асалоду і звычайна ў такіх выпадках ён сціпла казаў суразмоўцу: «Так, жонка ў мяне сапраўдная чараўніца!»

— Цудоўны квас! — паставіўшы пусты кубак на стол, шчыра пахваліў напой лаўнік. — Такога, пэўна, нідзе ў горадзе не купіш.

— Ва ўсёй Літве не купіш! — задаволеная ўсмешка расцягнула вусны войта, вочы яго напоўніліся маладзецкім бляскам. Ён, здаецца, нават памала-

дзеў. — Жонка мая — сапраўдная чараўніца! — і войт, залпам апустошыўшы свой кубак, падвёў рысу пад гутаркай: — На следства даю табе пяць, не, тры дні. Знойдзеш душагуба раней — малайчына, пазней — нельга. Усё, Самуіл, зразумела?

— Як звычайна, — хмыкнуў у свае рэдкія вусы лаўнік. — Яшчэ дадай, каб я па дробязях цябе не турбаваў.

— Вось-вось, — усміхнуўся войт, — і па дробязях мяне не турбуй.

## 3

Двор купца Малака Будніка акружаў высокі плот, па-гаспадарску надзейна збіты з тоўстых дошак. Самуіл спыніўся ля веснічак, крыху падумаў, затым рашуча штурхнуў іх і адразу ж выскачыў назад на вуліцу, — у купецкім двары ў шалёным брэху заходзіўся сабака.

— Чорт бы цябе пабраў! — выціраючы рукавом кашулі лоб, вылаяўся лаўнік. — Не хапала яшчэ, каб я тут свае святочныя порткі пакінуў.

Самуіл асцярожна падышоў да агароджы, зазірнуў праз шчыліну ў двор, убачыў, як з хаты на ганак выйшаў высокі, шыракаплечы чалавек у цёмным кафтане. У постаці волата адчувалася, што чалавек валодае неймавернай сілай, што ён рашучы, смелы. Яго твар падаўся лаўніку спачатку занадта шырокім і непрыгожым, а асіплы голас — непрыемным.

Незнаёмец цыкнуў на сабаку, уважліва паглядзеў на веснічкі і, ужо збіраючыся павярнуцца і ісці назад у хату, заўважыў Самуіла, які тым часам падышоў да веснічак і прыадчыніў іх.

— Што ты тут шукаеш, міл чалавек? — не кранаючыся з месца, пацікавіўся ён.

— Я лаўнік гарадскога магістрата, — усё яшчэ не заходзячы ў двор, прадставіўся Самуіл, — і мяне накіраваў сюды берасцейскі войт пан Міхал Ласкевіч для расследвання забойства.

— Ты Корчак? — вочы волата крыху пацяплелі, ён скрывіў ва ўсмешцы свае мясістыя вусны і хмыкнуў: — Чаму ж не заходзіш? Гадоў пятнаццаць таму ты ў нас часценька бываў! Ці, можа, ужо забыўся?

— Нічога я не забыўся, Лаўрэн, — Корчак урэшце пазнаў старэйшага сына забітага купца і асцярожна адчыніў веснічкі. — Але ж пятнаццаць гадоў таму ў вас і такога ваўкадава не было на двары.

— Месяцы тры, як бацька яго купіў у некага са сваіх знаёмых. Раней у нас быў Палкан — стварэнне ціхае, ляное і бяскрыўднае. А гэтага нават я крыху баюся, паглядзі на яго пашчу, на яго іклы — д’ябал, а не сабака. І навошта ён бацьку спатрэбіўся такі? Не разумею. — Лаўрэн далей адцягнуў сабаку ад веснічак і замацаваў ланцуг за тоўсты крук, убіты ў сцяну адрыны, сказаў: — Заходзь.

Самуіл прайшоўся па двары, узняўся на ганак, пераступіў парог хаты і апынуўся ў вялікім, з нізкай столлю і маленькім акенцам пакоі. Ён спыніўся ў дзвярах, пачакаў, пакуль вочы прызвычаюцца да паўзмроку, што панаваў у хаце, агледзеўся. Але сярод пакоя ляжалі перавернутыя стол і лава, у куце бялела сарваная са сцяны палічка, побач з ёй валялася некалькі збанкоў і кубкаў, ля іх — рассыпаныя манеты і некалькі мяшэчкаў з серабром.

— Бацька ляжаў ля стала, — Лаўрэн праціснуўся ў памяшканне і, згорбіўшыся, нібы прывід, уладкаваўся на лаве ля процілеглай сцяны.

— А-а… — Самуіл хацеў запытацца, чым забілі старога Малака, але ніяк не мог знайсці патрэбных для гэтага слоў.

— Як загінуў бацька? — прыйшоў яму на дапамогу Лаўрэн. — Гражына казала, што ўчора адвячоркам у бацькі хтосьці быў у гасцях. Хто? Сястра не ведае. Ды яна цяпер наогул нейкая нібы не свая, быццам вар'ятка, і з таго, што кажа, нічога нельга зразумець.

— А дзе яна была ўчора?

— Ну ты ж, напэўна, ведаеш, што я ўжо трынаццаць гадоў жыву сваім дваром. Пятрок — восем гадоў як пастрыгся ў манахі Сімяонаўскага манастыра, і я яго не бачу месяцамі. Таму з бацькам жыла толькі Гражына, — Лаўрэн уздыхнуў. — Учора яна паліла лазню, кажа, калі зайшла ў хату, каб адправіць бацьку мыцца, убачыла, што ён ляжыць з перарэзаны горлам… Такое ўбачыць — жах для шаснаццацігадовай дзяўчыны.

— Ды тут і для мужыка вясёлага мала, — пагадзіўся з Лаўрэнам лаўнік і, зноў цяжка ўздыхнуўшы, спытаў: — А дзе цяпер труп твайго бацькі?

— У святліцы ляжыць на лаве, — быццам аб нечым звычайным абыякава адказаў Лаўрэн. — Сягоння раніцай мая жонка з суседкамі яго абмылі, перапранулі ў чыстую бялізну і перанеслі ў Гражынін пакой. Тут я пакуль забараніў прыбіраць, чакаў каго-небудзь з лаўнікаў — усё ж такі ні нейкага валацугу зарэзалі, а вядомага ў горадзе купца. І грошы загадаў не кранаць — хай, думаю, будзе так, як было ўчора вечарам.

— Гэта ты зрабіў правільна, — Самуіл падышоў да стала, прысеў на кукішкі, уважліва агледзеў плямы крыві на манетах, задумаўся. Потым падняўся на ногі і, быццам між іншым пытаючыся аб нейкай дробязі, пацікавіўся:

— Прапала што-небудзь у хаце ці з двара?

— Ды не, здаецца, усё на месцы. Нават грошы, як бачыш, не ўзялі.

— А нож не знайшлі?

— А хто яго шукаў? — абыякава пацiснуў плячыма Лаўрэн, і гэтая абыякавасць і адсутнасць смутку ў вачах сына забітага насцярожылі Самуіла. «Нешта няладнае тварылася ў сям'і старога Будніка, — падумаў ён. — Нешта хавае ад мяне Лаўрэн, нешта не дагаворвае». А ўголас прамовіў: — Пайду пагляджу на нябожчыка.

Забіты ляжаў на шырокай лаве галавой да абразоў, ля якіх гарэла адзінокая свечка. Калісьці ў далёкім юнацтве, калі Самуіл яшчэ сябраваў з сынам нябожчыка Петраком, Малак быў мажным, падобным на дубовы камель, мужчынам. Яго многія баяліся, бо калі на каго злаваўся, забываўся пра ўсё, мог моцна пабіць, а то і скалечыць. Тады ён не зважаў ні на чын, ні на пасаду, ні на саслоўе чалавека, які быў супраць яго.

Ён мог кінуць кубкам у карчмара, калі той даваў пракіслае піва, мог нават падняць сякеру на шляхціча, калі той абражаў ягоную веру. Казалі, што сваю першую жонку Малак забіў у прыпадку рэўнасці — ад яе ў яго застаўся сын Лаўрэн. Ды і другая жонка пражыла з Малакам нядоўга, паспеўшы нарадзіць яму сына Петрака ды дачку Гражыну. Памерла небарака зімой гадоў сем таму. Але пасля яе смерці Малак раптоўна змяніўся, перастаў піць, кожную нядзелю стаў наведваць царкву, дзе даўжэй за іншых стаяў перад абразамі на каленях і, выціраючы са шчок слёзы, аб нечым апантана прасіў Бога.

Цяпер жа на лаве ляжаў сухенькі, дробны стары з ссівелай, куцай бародкай. Калі б Самуіл не ведаў, што гэта не хто іншы, як былы грозны Малак, то ніколі не паверыў бы таму, што бачыць. «Змяніўся ты, дзядзька, — падумаў здзіўлены лаўнік. — Знешне вельмі змяніўся, а вось як у душы?..»

У левай руцэ нябожчыка бялеў невялікі сярэбраны крыжык, у правай жаўцела грамнічная свечка. Ля супрацьлеглай сцяны за невялікім сталом сядзелі дзве старыя жанчыны і амаль бязгучна чыталі Псалтыр.

Самуіл наблізіўся да лавы, апусціўся на калені, перажагнаўся і памаліўся. Потым падняўся на ногі і ўважліва агледзеў рану на шыі Малака. «Так, удар быў адзін і нанесены дакладна ў жылу, — адзначыў ён. — Рана невялікая, але, напэўна, глыбокая. Слядоў бойкі ні на руках, ні на твары не бачна. Цікава!»

— Дамавіну абяцалі зрабіць да апоўдня, — раптам амаль у самае вуха прашаптаў лаўніку Лаўрэн. — Трэба было б зрабіць яе на бацькавым панадворку, але хлопцы спалохаліся сабакі.

— Ну дык схаваў бы ты сабаку, — Самуіл быў незадаволены, што той перабіў яго думкі. — Запёр бы ваўкарэзіну ў адрыне — і ўся справа.

— Спрабаваў, але ж ён тады выць пачынае, воўчае семя.

Лаўнік прамаўчаў. Ён агледзеў невялікі, больш падобны на камору, пакойчык Гражыны. «Сціпла жыве дзяўчына, — падумаў ён. — Бацька меў грошы і, пэўна, немалыя, а дачка сама сабе пасаг рыхтавала». Самуіл узяў у рукі пяльцы з яшчэ незакончанай вышыванкай, падзівіўся прыгажосці ўзору. «А дзяўчына добра вышывае, сапраўдная майстрыца. Малайчына». Ён паклаў вышыванку на куфар і звярнуўся да Лаўрэна:

— А хто жыве па суседстве з тваім бацькам?

— Справа — Багдан Цыля, гандлюе мясам, злева — удава Ромкі Дылевіча, якога ў пазамінулым годзе ў лесе прыдавіла сухалінай. Дылевічуху завуць Паўліна.

— Не размаўляў з імі?

— Багдана я ўжо з год не бачыў, ды і няма яго зараз дома — усё ў раз’ездах. А Паўліна ўвесь дзень праводзіць ці ў сваёй пякарні, ці на базары.

— Ну, а дзеці ў іх ёсць? Можа, яны нешта бачылі?

— Дзяцей у іх хапае, — крыва ўсміхнуўся Лаўрэн, — асабліва ў Паўліны.

— Трэба з імі пагаварыць.

— Пагавары, — ахвотна згадзіўся сын нябожчыка і па інтанацыі яго, па нецярплівых жэстах Самуіл зразумеў, што тут нешта не тое...

## 4

Удава былога нарыхтоўшчыка дроў Рамана Дылевіча Паўліна, не зважаючы на свята, збіралася на базар. Гэта была высокая, але худая, як жэрдка, жанчына. Па яе зморшчаным, абпаленым сонцам і абветраным твары дакладна вызначыць яе ўзрост было немагчыма. Але па звонкім голасе, якім яна нешта загадвала дачцэ, па жывых, глыбокіх блакітных вачах Самуіл вырашыў, што ўдаве не больш за трыццаць гадоў. Ля яе ног стаялі два накрытыя посцілкамі кашы, ад якіх зыходзіў густы пах, мабыць, толькі што спечаных пірагоў і хлеба.

Убачыўшы незнаёмца на сваім двары, Паўліна на паўслове змоўкла і разгублена паглядзела на лаўніка. Аднак неўзабаве яна пацікавілася:

— Што пану трэба? Толькі кажы карацей, бо я і так спазняюся на базар.

— Я шукаю таго, хто забіў твайго суседа.

— Я не бачыла хто, і дзеці мае не бачылі.

— А я не пра забойцу хачу з табой пагутарыць, — чорт з ім, з забойцам, яго я і так знайду. Я хацеў у цябе запытацца, ці ёсць у Гражыны жаніх?

— Аж два! — усміхнулася ўдава. — Ваську, сына каваля Анішчука і Ціта Трыбуля, бацьку якога, як пляткараць на базары людзі, Малак вінен багата грошай.

— Гэта колькі?

— Ну-у не ведаю. Дзесяць коп[1], кажуць, а колькі на самай справе — хто ж табе скажа!

— Знаёмы я са Жданам Трыбулём, — Самуіл пачасаў шчаку, задумаўся: «Вось ён і першы падазраваемы, хто мог забіць Малака за даўгі». Потым запытаўся: — А ўчора адвячоркам да Будніка ніхто не заходзіў?

— Нікога не бачыла, — быццам адрэзала жанчына. Вочы яе пацямнелі, зрабіліся халоднымі, злоснымі. — Ды і наогул, ішоў бы ты адсюль... Хто ходзіць да Будніка? Ды ніхто да яго не ходзіць! Да Будніка яшчэ паспрабуй зайсці — калі не сам, то яго сабака разарве цябе на кавалкі і не падавіцца. Вунь учора Тараса Вырву ўсяго пакусаў. А ён хадзіў да Малака, толькі каб той крыху пачакаў з выплатай пазыкі.

«А вось і другі, хто мог зарэзаць Малака ад адчаю», — адзначыў сам сабе лаўнік і пацікавіўся:

— І колькі вінен Тарас Малаку?

— Дзве капы, — адказала Паўліна. І дадала: — Мне трэба ісці. — Яна падхапіла з зямлі кошыкі, строга паглядзела на дачку. — Пакуль не вярнуся — ні з кім не размаўляй і нікому не адчыняй веснічкі. Зразумела?

Дзяўчынка маўкліва кіўнула галавой.

На двор Багдана Цыля Самуіла нават не пусцілі, гаварылі з ім праз вароты.

— Хто ўчора вечарам прыходзіў да вашага суседа Малака Будніка?

— Нікога не бачылі!

— Ці не сварыўся Малак са сваімі дзецьмі?

— Нічога не чулі!

— А, магчыма, скажаце, як Малак жыў са сваімі суседзямі?

— Нічога не скажам!

«Ну і чорт з вамі! — Самуіл яшчэ раз паспрабаваў знайсці ў варотах шчыліну, каб хаця б убачыць жанчыну, з якой толькі што размаўляў. Аднак плашкі ў варотах былі так добра падагнаны, што ён не ўбачыў суразмоўцы. — Ладна, пагутару з тымі, аб кім ужо даведаўся».

## 5

Двор каваля Анішчука размяшчаўся непадалёку, таму менавіта да яго ў першую чаргу і накіраваўся лаўнік. Як і чакалася, Ваську ён не знайшоў ні каля хаты, ні ў хаце, якая, як падалося Самуілу, ніколі не ведала прабою, на які можна было б павесіць хоць якую зашчапку. У хаце панавала цішыня, якую парушала тлустая муха, што білася ў слюдзяное акенца.

Лаўнік агледзеўся: вельмі сціпла і небагата жыла кавальская сям’я, таму, пэўна, і не зачынялі ні вароты, ні хату. Стол, лаўкі, палічкі — усё, як і ў іншых хатах. Дзе-нідзе на лавах ляжаў кавальскі і цяслярны інструмент; на цвіках, убітых у сцяну, віселі вяроўкі, косы, нажніцы; на прыпечку валяліся стары кажух і нейкія транты. Калі вочы прызвычаіліся да паўзмроку, позірк выхапіў з бліжняга кута абраз. Самуіл перажагнаўся, яшчэ раз агледзеў хату і выйшаў на панадворак. Ён ужо сабраўся сысці са двара, як лёгкі ветрык данёс да яго слыху ці то гутарку, ці то шэпт. Лаўнік прыслухаўся. Сапраўды, у хлеве нехта нягучна размаўляў, але пра што — ён не мог разабраць.

---

[1] ***Капа*** — грашовая адзінка ў ВКЛ, якая адпавядала 60 грошам.

Самуіл асцярожна наблізіўся да хлева, расчыніў вароты і ўбачыў, што ля маленькай цялушкі на зэдліку сядзела старая і нешта той гаварыла.

Старая, пачуўшы, як рыпнулі вароты, замоўкла, мабыць, чакала, што першым загаворыць той, хто прыйшоў сюды. Самуіл маўчаў, разгубіўся, не чакаў такога.

— Хто тут? — урэшце не вытрымала старая. — Я ж сляпая, нічога не бачу.

— Я лаўнік берасцейскага магістрата Самуіл Корчак, — сказаў Самуіл. — Я хацеў бы пагутарыць з Васілём.

— А што натварыў Васятка? — сумелася жанчына.

— Нічога ён не натварыў, — лаўніку не хацелася знаходзіцца ў хляве, дзе патыхала гноем, ён дадаў: — Мне проста хацелася пагутарыць з ім пра сям'ю купца Малака Будніка.

— Малака Будніка? Што ведае Васятка пра гэтага блудлівага сабаку? — старая цяжка паднялася, адставіла ў кут зэдлік і, прытрымліваючыся сцяны, накіравалася да выхаду. — Зверам быў некалі твой Малак, а не чалавекам! Колькім людзям ён зла зрабіў! Колькіх зняславіў, колькіх пусціў па свеце жабракамі! А зараз, кажуць, прыкінуўся ягнём, у царкву ходзіць, вялікія ахвяры туды носіць. Цьфу, не можа воўк ператварыцца ў ягняці! — старая раптам засмяялася нейкім нядобрым смехам і як папярхнулася, крыху памаўчала і дадала: — Хаця не — можа, калі накіне на сябе шкуру забітай ім жа авечкі… Ніколі я не верыла Малаку і ніколі не паверу.

Сляпая выйшла на панадворак, прычыніла калком вароты ў хлеў, спынілася. Нейкі час яна стаяла напружаная, задумлівая. Яе вочы, заплыўшыя бельмамі, невідушча глядзелі міма лаўніка, аднак яму падавалася, што жанчына яго пільна разглядае. Самуілу стала ніякавата, і старая, быццам убачыўшы яго збянтэжанасць, пацікавілася:

— А ты, выпадкова, не сын Барталамея Корчака?

— Але, — адказаў ён.

— Ведала я твайго бацьку. Быў шалапутам у маладосці, аднак зла нікому не рабіў. Выпіць любіў, жарты любіў, мог разыграць таварыша, але ўсё гэта рабіў нязлосна, весела… Эх маладосць, маладосць! Як хутка праляцела жыццё! Здаецца, і доўга пражыла на гэтым свеце, а каб успомніць нешта адметнае — і няма чаго.

Самуіл разумеў, што жанчыне надакучыла адзінота, што менавіта з-за адзіноты яна пакутуе. Разумеў, што ёй трэба хоць перад кім выгаварыцца — перад цяляці, сабакам ці перад чалавекам. Мабыць, яна шмат перажыла, і перажытае — тая цяжкая ноша, якой яна пазбаўляецца, калі з кім размаўляе.

Яму было шкада гэтай няшчаснай старой, і ў іншых абставінах Самуіл, магчыма, з задавальненнем паслухаў бы пра яе жыццё, аднак зараз ён спяшаўся і не меў на гэта часу. Таму адразу спытаў:

— А дзе быў Васіль учора адвячоркам?

— Апошнія тры дні ён разам з бацькам днюе і амаль начуе ў кузні. Заказ добры атрымалі ад берасцейскага старосты пана Радзівіла.

— А дзяўчына ў яго ёсць?

— А як жа, — ласкава ўсміхнулася сляпая і ад гэтай усмешкі, здаецца, памаладзела на добры дзясятак гадоў. — Васіль у нас хлопчык прыгожы, сціплы. Хай і рос з маленства без маці, але пра жанчыну слова грубага ніколі не скажа. Адно нядобра — кахае ён дачку Малака Гражыну. І тая яго моцна кахае. Але ж паміж імі стаіць Малак, і ён хоча аддаць сваю дачку за сына нейкага свайго сябра, бо вінаваты таму шмат грошай. Вось Васятка і пяклуецца

ў кузні з ранку да позняй ночы, хоча зарабіць грошай і выкупіць Гражыну ў яе ж бацькі.

— А з Малакам Васіль размаўляў наконт Гражыны? Можа, сватоў пасылаў?

— Сватоў не пасылаў, але Хведар, гэта мой сын, Васілёў бацька, быў у Малака, гаварыў яму, што хоча прыслаць сватоў. І ведаеш, што яму адказаў Малак? Сказаў, што дачка супраць яго волі не пойдзе, інакш ён пазбавіць яе спадчыны, усё аддасць свайму сыну ад першай жонкі. Сказаў, што ніколі не дасць ёй бласлаўлення на шлюб з Васілём.

— А спадчына вялікая?

— Хто ж яе лічыў? — жанчына нядобра засмяялася. — Гаспадарка ў яго моцная, некалькі лавак у горадзе, пэўна, грошы ёсць і не малыя…

— А што Васіль?

— Казаў ён мне пра сваё гора. Ведаю, Гражына гаварыла яму, што за таго купца ніколі замуж не пойдзе. «Лепш з табой жыць буду невянчаная, а за нялюбага не выйду!»

— А не блуд гэта — жыць з мужчынам непавянчанай?

— Блуд? Блуд — з нялюбым жыць. Аддаваць яму сябе, сваю душу. А жыць з каханым — найвялікшае шчасце. Яшчэ святы апостал Павел казаў: «Канец усяго ўжо наблізіўся, дык будзьце разумнымі і чувайце ў малітвах. Перад усім майце заўсёды нязменную любоў між сабою, бо любоў закрывае мноства грахоў».

Самуіл не стаў спрачацца. Ён разумеў, што гэтая жанчына, якая пражыла доўгае жыццё, ведала, пра што гаварыла. Мабыць, яна пазнала, што такое каханне, пазнала не толькі шчасце ад яго, але і гаркоту. Усё прапусціла праз сваё сэрца і цяпер была шчырай з ім.

Ён падзякаваў старой за гутарку, развітаўся і накіраваўся да веснічак. «Што ж, Вася, здаецца, не мае дачынення да забойства, — разважаў Самуіл па дарозе. — Але ж з'явіўся яшчэ адзін, на каго падае падазрэнне — Лаўрэн. Ён і мог забіць бацьку з-за спадчыны».

Лаўнік выйшаў на пыльную вуліцу, і ў гэты момант зазванілі званы берасцейскіх цэркваў і царковак, нагадваючы вернікам сваім перазвонам, што сягоння вялікае свята, што трэба не бегаць па пыльных гарадскіх вулачках, а быць на ютрані, слухаць пропаведзі святароў, маліцца. «Можа, дарэмна я ўзяўся за гэтае расследванне сягоння? — падумаў лаўнік. — Можа, дарэмна я паслухаўся пана Міхала, і справа магла пачакаць да панядзелка? Малака пахаваюць, злачынцу я знайду, а вось абяцанні, якія даў жонцы раніцай, ужо не выканаю. Хаця, калі паспяшаюся, то яшчэ паспею схадзіць і на вячэрнюю службу, і з сынам на рэчку. І Насцю вазьмем з сабою, бо нават невідушчая старая сцвярджае, што трэба цаніць і песціць кожнае імгненне з любым чалавекам. Як там казаў святы апостал Павел: «Любоў закрывае мноства грахоў». Правільна казаў, але ж усяму ёсць мяжа, у тым ліку і грахам».

## 6

Самуіл ішоў па звілістай дарозе, і яго думкі, звілістыя і пякучыя — зусім як дарога, — віліся і круціліся вакол смерці старога купца, і чым больш звестак лаўнік збіраў аб гэтым забойстве, тым больш заблытаным і загадкавым яно станавілася. «Як бы мне не праміну́ць правільнага шляху? — пульсавала думка. — Кожны, з кім я ні сустрэнуся, гатовы быў забіць Малака, кожны люта ненавідзіў купца, і ніводны з іх, нават родны сын, не шкадуе аб яго смер-

ці. Хіба толькі Гражына блізка да сэрца прыняла бацькаву гібель і зараз, калі верыць Лаўрэну, сама не свая: каб не звар'яцела».

Лаўнік спыніўся на перакрыжаванні вуліц, нейкі час думаў, у які бок павярнуць, каго наведаць: Лаўрэнаву сям'ю ці сям'ю Тараса Вырвы? Урэшце вырашыў, што спярша пойдзе да Вырваў...

Яго прыходу да Вырвы ніхто не ўзрадваўся. Самуіл яшчэ з вуліцы пачуў, што на Тарасавым падворку плача жанчына і енчаць дзеці.

— Што тут здарылася? — падыходзячы да веснічак, спытаў Самуіл у аднаго з гараджан, якія купкамі, чалавек пяць, стаялі каля двара.

— Ды толькі што Тараса выцягнулі з пятлі. Павесіўся небарака ўчора вечарам у сваёй адрыне. Жонка думала, што ён на рыбалцы з суседам, а ён… Царства яму нябеснае і зямля пухам! — перажагнаўся нейкі мужчына з купкі цікаўных.

«Яшчэ адна ахвяра Малака, — лаўнік ужо сам пачынаў ненавідзець забітага купца. — А што, калі яго зарэзаў нехта з тых, каго ён некалі пакрыўдзіў? Ці нехта з нашчадкаў пакрыўджанага?» — новая здагадка мільгнула ў яго галаве, і ад яе лаўніку стала млосна: колькі такіх пакрыўджаных і абняслаўленых пакінуў Малак? Мноства! Гэта ж колькі часу трэба, каб кожнага знайсці і апытаць.

Пад жаночае галашэнне пакідаў Самуіл двор Тараса Вырвы.

З нядобрым прадчуваннем і шчымлівасцю на сэрцы ён накіраваўся і да двара старэйшага сына Малака, каб пагутарыць з яго жонкай, а калі пашчасціць, то і з Гражынай.

## 7

Гражына ўпарта маўчала, і гэтае яе ўпартае, цяжкае, бы восеньская навальнічная хмара, маўчанне цэлую ноч прыгнятала Лаўрэнаву жонку Аксінню. Яна неаднойчы спрабавала загаварыць з дзяўчынай, якая невядома чаму вечарам прыйшла да яе, ды так і засталася на ноч, але марна. Аксіння адчувала: той вельмі кепска, і думкі яе нейкія надта ж цяжкія. Спрабавала жартам ці ласкай адцягнуць яе ўвагу ад кепскіх думак, ад нуднага скавытання, аднак кожны раз натыкалася на калючы, жорсткі позірк дзяўчыны, у якім, акрамя пустэчы і вусцішнага холаду, нічога не было. Аксінні здавалася, што гэта позірк ужо нежывога чалавека, які, мабыць, павінен быў сканаць, але па нейкай недарэчнасці часова застаўся жыць. І што рабілася ў галаве Гражыны, Аксіння магла толькі здагадвацца.

Гражына пакутавала. Яна то стагнала, напэўна, ад нясцерпнага ўнутранага болю, то, сцяўшы зубы, скавытала, то заходзілася, галосячы.

А ў галаве дзяўчыны не было ніякіх думак, адно грувасціліся нейкія вобразы, абрысы нейкіх людзей. Яны круціліся ў неверагодным карагодзе, змянялі адно аднаго...

На душы Гражыны было жахліва, і яна не разумела, што з ёй. Тое, што некалі рабіла яе жыццё асэнсаваным, цудоўным, цікавым, людзі, з якімі яна сябравала, каханне, зараз выклікала пачуццё панічнага жаху — усё падавалася залітым крывёй, знішчаным і апаганеным... Яшчэ там, дома, ёй падалося, што яна памерла. І зараз, гледзячы на Лаўрэнаву жонку, Гражына ніяк не магла зразумець, чаго хоча ад яе гэтая добрая жанчына, чаму яна ласкава ўсміхаецца ёй, чаму падае кубак з нейкім пітвом, чаму пяшчотна гладзіць па валасах?.. Яна ўжо нічога не адчувала і нічога не разумела — які сэнс у размовах і суця-

шэнні, калі яе сэрца атручана, а цела і душа — нежывыя? Яна баялася толькі аднаго — сустрэчы з Усявышнім: што з ёй будзе... Баялася і ўсё ж спадзявалася, што ён яе зразумее і даруе грахі. І невядома, што для яе было больш страшным: агіднае мінулае і яшчэ горшае сапраўднае ці невядомае будучае. Калі не даруе...

У яе мінулым было шмат болю. І яна ў думках імкнулася, як толькі можна, адхрысціцца ад яго. Аднак жа там быў яе Васіль! Васілёк!.. Не, не, не! Не думаць аб ім, каб не выпацкаць яго светлы вобраз сваім грахом... Не думаць, забыць яго позірк, вусны, рукі, словы і абяцанні аб вечным каханні. Яно было вечным! Дык хай вечным і застанецца!..

Знясіленая ўспамінамі пра мінулае, Гражына сціснула кулачкі і ў бездапаможным адчаі пачала біць сябе па каленках, па галаве — уся яе істота імкнулася да аднаго — хутчэй бы памерці, каб назаўсёды пазбыцца і гэтага нясцерпнага болю, што разрывае душу, і ўспамінаў. Але пакуль жыццё цеплілася ў ёй маленькай, кволай іскрынкай уласнай годнасці: здрадзіла свайму каханню, не згасала толькі таму, што баялася забраць з сабой у бяскрайнюю невядомую будучыню праўду аб сваім каханні... Толькі яна адна, пражыўшы са сваім бацькам бясконцыя шаснаццаць гадоў, ведала сапраўдную праўду аб яго канчыне. Аднак, каму яна цікавая? Што ў ёй павучальнага? А вось праўду аб яе каханні людзям патрэбна ведаць — нельга звязваць шлюбам людзей, калі яны не хочуць гэтага; нядобра іх разлучаць, калі яны імкнуцца быць разам! Інакш гора, інакш няшчасці!..

Як гэта проста, і як складана! Ніхто не змог дапамагчы ёй давесці гэтую праўду да розуму бацькі, ніхто не дапамог, не падтрымаў, а таму прыйдзецца ёй забраць яе з сабой туды, куды пойдзе, каб ніхто не пасмеў апаганіць яе ні брудным словам, ні касым, здзеклівым позіркам.

Пад раніцу Гражына быццам заціхла на палаці, у закутку, куды яе паклала Аксіння.

«Ну вось і добра, — падумала яна. — Крыху паспіш, потым пап’еш адвару рамонку, і боль суцішыцца, адступіць. Бацькі паміраюць ва ўсіх, не ты першая, не ты апошняя. Так было на зямлі, так ёсць і так будзе». З гэтымі словамі яна патушыла лучыну ля печы і выйшла з хаты.

Лёгенькі дымок празрыстай, амаль нябачнай стужкай адарваўся ад лучыны і нетаропка пацягнуўся ўверх да валакавога акенца…

...Лаўнік зайшоў на Лаўрэнаў двор, калі туды толькі што прынеслі нежывое цела тапеліцы. «Мы думалі, што цёця прыйшла купацца, — перабіваючы адзін аднаго, расказвалі два хлапчукі, якія бачылі, як Гражына скочыла ў вір. — А калі заўважылі, што яна доўга не паказваецца з вады, мы спалохаліся і пабеглі да дзядзькі Сымона. Ён яе і выцягнуў, аднак ужо нежывую».

## 8

«Вось і ўсё, круг замкнуўся, — падвёў рысу пад расследваннем Самуіл. — А зараз — хутчэй да хаты». Цела яго ламала, быццам пасля цяжкай фізічнай працы, балелі патыліца і вочы, нясцерпна хацелася есці.

Лаўнік цяжка ўздыхнуў і паглядзеў на захад. Над прыціхлым горадам паміраў спякотны летні дзень. Змрок толькі пачынаў насоўвацца на зямлю, на дарожным пыле яшчэ яскрава былі бачныя цені прыдарожных бяроз, а вячэровая прахалода ўжо прыемна кранала твар, над ракой узнімаўся рэдкі, ледзь прыкметны туман.

«Дадому, дадому, дадому!» — адзіная думка пульсавала ў Самуілавай галаве. І ўсё ж, не зважаючы на голад і стомленасць, на нясцерпнае жаданне хутчэй убачыць жонку і сына, ён вырашыў па дарозе зайсці ў Сімяонаўскі манастыр, каб наведаць сябра дзяцінства Петрака і паведаць яму сумную вестку пра смерць яго сястры.

На манастырскім двары Самуіл спытаў у манаха, якога сустрэў ля варот, дзе можна знайсці айца Пятра. Той упэўнена, глянуўшы на яго, паказаў на царкву Дабравешчання.

Самуіл зайшоў у царкву і адразу ж убачыў айца Пятра. Той стаяў ля алтара і маліўся. Самуіл нейкі час прыслухоўваўся да малітвы, потым падхапіў яе, зашаптаў святыя словы — даўно забытае ім шчымлівае пачуццё шчасця пачало напаўняць яго сэрца.

Малітва скончылася, і айцец Пётр накіраваўся да выхаду, дзе яго і спыніў лаўнік.

Былы сябра падаўся Самуілу нейкім змарнелым, састарэлым. Яго некалі прыгожы твар, зараз густа зарослы чорным шчаціннем, выглядаў азызлым, пакамечаным. Блакітныя вочы, абведзеныя цёмнымі кругамі, здавалася, глыбока ўваліліся ў вачніцы. На нагах айца Пятра былі новыя боты, плечы прыкрывала заношаная, выцвілая раса, галаву пакрываў стары, незразумелага колеру, клабук.

Вестку пра смерць Гражыны ён прыняў спакойна: «На ўсё воля Божая!». Пачуўшы пра гвалтоўную смерць бацькі, спытаў:

— Ці знойдзеш ты забойцу?

— Я ўжо знайшоў яго, — адказаў быламу сябру Самуіл, але айцец Пётр нібы не пачуў і толькі пацікавіўся, як здароўе ў яго жонкі і сына.

Самуіл сумеўся і нечакана для сябе, нічога не ўтойваючы, расказаў манаху і пра сваю работу ў магістраце, і пра сон, і пра свае ранішнія абяцанні жонцы.

— Гэта табе быў знак, — голас святара гучаў спакойна і роўна. — Знак таго, што твае родныя пакутуюць у адзіноце, што ты наблізіўся да мяжы, за якой пачынаюць згасаць пачуцці, а гэта азначае — пакуты для тваіх жонкі і сына.

— Я ж іх люблю! Моцна люблю! — хваля пякучага холаду балюча сціснула сэрца. — Я ж імкнуся зарабіць паболей грошай, каб яны не ведалі нястачы.

— Не патрэбны ім твае грошы, — манах азірнуўся, паглядзеў на вогнішча, на якім двое работнікаў у невялікім казанку варылі вячэру і прапанаваў:

— Пойдзем.

Ля кастра ён спыніўся, узяў у аднаго з работнікаў пруток і выкаціў ім з вогнішча тры вугельчыкі, якія паклаў побач.

— Што ты бачыш? — запытаўся Самуіл у сябра.

— Касцёр, толькі невялічкі.

— А што адчуваеш?

— Спакой і ўтульнасць.

Тады айцец Пётр адкаціў адзін, самы вялікі, вугельчык убок, і адразу ж усе тры вугельчыкі пачалі цямнець, пакрывацца шэрым попелам, а праз нейкі час самы маленькі з іх дык і наогул патух.

Самуіл усё зразумеў без слоў.

— Дзякуй, Пятрок, за навуку! — уражаны ўбачаным, прашаптаў ён.

— Дапамагай табе Гасподзь! — адказаў святар і перажагнаў свайго сябра.

## 9

У панядзелак Самуіл Корчак з’явіўся ў магістраце апоўдні і яшчэ не паспеў зачыніць за сабой дзверы, як яго паклікаў да сябе берасцейскі войт пан Ласкевіч.

— Як ідзе расследванне забойства Малака Будніка? — звыкла кіўнуўшы галавой у знак прывітання, запытаўся ў лаўніка пан Міхал.

— Ніяк не ідзе, — адказаў той і, пракаўтнуўшы ад смагі сліну, шматзначна паглядзеў на збан, што стаяў на стале войта.

Пан Міхал перахапіў яго позірк, аднак квасу не наліў.

— Ты павінен шукаць забойцу! — сказаў войт. — Я даў табе на гэта пяць дзён…

— Тры дні, — сціпла ўдакладніў лаўнік.

— Гэта няважна, — войт, не зразумеўшы жарту, пагрозліва прыгладзіў свае вусы. — У мяне ўжо быў намеснік нашага старосты пана Радзівіла Чорнага і пытаўся, як ідзе следства. А што я мог яму сказаць? Што пан Корчак стаміўся, што яму не пад сілу такое заблытанае забойства, што ён слабак? Хіба паверыць мне намеснік?.. А калі і паверыць, і запытаецца, навошта такіх ёлупней я трымаю ў магістраце!? Што я адкажу яму? Скажы мне, Самуіл?

— А самае простае — гэта сказаць праўду.

— Э-э, не кажы так, Самуіл. Часам сказаць праўду намнога складаней і небяспечней, чым падмануць. Вось ты бадзяешся без справы па магістраце, а чаму не шукаеш таго, хто забіў купца?

— Я знайшоў яго яшчэ ўчора.

— Знайшоў? — войт ад нечаканасці ажно сеў на лаву. — Чаму тады маўчыш? — нейкі час ён запытальна глядзеў на Корчака, потым сказаў: — Усё жартуеш, Самуіл? Ну-ну, дажартуешся.

Войт павольна падняўся з лавы, падышоў да стала, наліў кубак квасу, падаў яго Корчаку. — Расказвай!

Самуіл выпіў квас, сказаў, што вельмі смачны, выслухаў словы ад войта пра тое, якая ў яго цудоўная жонка, і пачаў расказваць.

Спачатку расказаў пра тое, што абяцаў жонцы разам правесці свята, а закончыў паведамленнем пра смерць Гражыны.

Расказваў ён доўга, не ўпускаючы аніякіх дробязей, дакладна апісваючы кожнага чалавека, з якім яму давялося ўчора сустрэцца і пагутарыць.

Пан Міхал слухаў уважліва, зрэдку вохкаючы ад нецярпення: «Ведаю я гэтага прайдзісвета!» ці: «Сустракаўся я неяк з ім у магістраце», і калі Корчак закончыў, падвёў рысу пад пачутым:

— М-да, раскрыць такое заблытанае забойства за адзін дзень мог толькі ты, Самуіл. Не памыліўся я ў табе і думаю, што лаўніцкі суд падтрымае цябе і прызнае забойцам Тараса Вырву.

— А пры чым тут Вырва? — спытаў Самуіл.

— Хіба не ён забіў Малака? — здзівіўся войт. — Ён вінен быў купцу вялікую суму грошай, яго пакусаў сабака, ды і павесіўся ён, бо раскаяўся.

— Не, калі б купца забіў Вырва, то ён не выйшаў бы жывым са двара Малака, бо ты, пан, не бачыў яго сабаку. Ды і грошы купца засталіся.

— Няўжо тады Ждан Трыбуль? Вось падлюга — за некалькі коп срэбра забіць свайго таварыша па цэху! Ведаю я яго, і сынка яго паскуднага ведаю, — пан Міхал аж кіпеў ад абурэння. — Ну, не пазбегнуць яны шыбеніцы, калі вінаватыя.

— Няма іх віны ў смерці Малака. Не яны яго забілі.

— А хто ж тады? Няўжо… — ад нечаканай здагадкі войт прыкрыў далонню свой рот. — Няўжо Лаўрэн падняў нож на роднага бацьку?

— Не, не Лаўрэн зарэзаў бацьку. Гражына, — сказаў Самуіл.

— Гражына? Жартуеш?

— Я не жартую, пан Міхал, і калі хочаш ведаць праўду пра трагедыю суботнім вечарам у хаце Малака Будніка — слухай...

Пачалася яна два гады таму, калі малады каваль Васіль пакахаў купецкую дачку Гражыну. Пакахаў шчыра, усім сэрцам. І яна пакахала яго. Бачыліся яны рэдка, яе бацька не дазваляў ёй сустракацца з кавалём. Але насуперак яго волі хацелі быць разам. Бацька Васіля нават хадзіў да Малака, каб папярэдне дамовіцца, што прышле сватоў. Аднак Буднік і слухаць не хацеў пра гэта. Каб перашкодзіць маладым, ён недзе купіў вельмі злога сабаку. Ты б яго бачыў. З цяля, пашча, бы ў ляснога цмока, а іклы… Сабака, як меркаваў Малак, павінен быў парваць Васіля, калі б той асмеліўся зайсці на яго двор...

— Але як яна зарэзала бацьку?

— У суботу Гражына вытапіла лазню і пайшла запрашаць бацьку ісці мыцца. Малак якраз лічыў грошы — тую частку пазыкі, што прынёс яму Тарас Вырва. Вось тады, пэўна, і пачалася між бацькай і дачкою сварка. Гражына сказала, што калі пойдзе замуж, то толькі за Васіля. Бацька, вельмі злосны, сказаў: «Не!..» Яна настойвала на сваім... Пэўна, тым вечарам яны выказалі адно аднаму ўсё, што думалі. І вось Малак, раз’юшаны да бяспамяцтва, з кулакамі накінуўся на Гражыну, а яна, баронячыся, ударыла яго першым, што трапіла пад руку, а гэта былі нажніцы.

— Прыгожая казка, — сказаў войт. — Быў бы жанчынай — заплакаў бы. Як войт пытаюся — а дзе доказы, Самуіл?

— Акрываўленыя нажніцы я знайшоў у хаце Лаўрэна, але іх прынесла да яго Гражына…

— А можа Лаўрэн ці яго жонка, каб заблытаць сляды?

— Калі я разглядваў яе вышыванне, то заўважыў, што кавалак тканіны абрэзаны і мае руды кант. Яшчэ тады я падумаў, што тканіну рэзалі акрываўленымі нажніцамі і што гэта магла зрабіць толькі Гражына.

— Што яшчэ? Малака мог забіць толькі нехта са сваіх, бо чужога не прапусціў бы сабака, ды і грошы, як ведаеш, ніхто не ўзяў. А ў суботу ў хаце са сваіх была толькі Гражына.

— Усё?

— Гражына, калі я бачыў яе жывой, была апранута ў чыстае адзенне… Як пад вянец, ці не раўнуючы...

— Ну і што? Мая жонка тры разы на дзень мяняе сукенку, і я не бачу ў гэтым нічога кепскага.

Самуіл пацісну плячыма: для войта яго жонка была прыкладам сціпласці, працавітасці, маральнай чысціні, веры, чалавечага розуму... І што яму да Гражыны?..

А Гражына, забіўшы бацьку, скінула сукенку, заляпанаю крывёю. Яна пераапранулася ў чыстае, прыбралася, сабраўшыся пайсці туды, адкуль яшчэ ніхто не вярнуўся...

...Калі Самуіл прыйшоў дахаты, жонка сустрэла яго моўчкі. Была яна вельмі зажураная. Але ні разу не ўпікнула мужа, што ён не стрымаў свае абяцанні, якія даў ёй перад святам. І нават не нагадала яму пра іх.

Яна разумела, што ў той дзень ён толькі і думаў пра яе і сына.



Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# БЛАКІТНАЕ ДЗІВА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

## РАНІЦА НАД ДЗВІНОЮ

Над Дзвіной, смугой прымглёнай,
Плешча зарыва нябёс.
Сонца шар, як мяч чырвоны,
На руках люляе плёс.

А прамчыцца вецер — хвалі
Страпянуцца пасля сну.
Здасца: срэбныя каралі
Хтось рассыпаў у Дзвіну.

Хвалі пляснуць шумна ў кручу,
Як прамчыцца кацярок,
І гудок, густы, пявучы,
З круч страсе
Апошні змрок.

А Дзвіна плыве ў прасторы,
З даўніною рэй вядзе,
Цень Сафійскага сабора
Адбіваючы ў вадзе.

Хоць спявалі тут адвеку
Ёй саборныя званы,
Сумна ўсё ж:
З вараг у грэкі
Не плывуць даўно чаўны.

Сухадолая, лясная,
Коціць воды ў свет яна —
Трох рэспублік сувязная,
Наша слынная Дзвіна.

## КУПАЛАВА РАКА

***А на рэчцы на Арэсе***
***Многа, многа дзіва...***
Янка КУПАЛА

Дзе нізоўямі, дзе лесам,
Дзе нырнуўшы ў хмызнякі,
Воды ў Пціч
Нясе Арэса —
Праз вякі цячэ ў вякі.

Час загнаў яе ў каналы,
Там, дзе можна,
Волю даў.
А было каліс, Купала
Тут хадзіў, ёй гімн складаў.

---

*__Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч__ нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Хвалі ў словы адлівалі
Мары й думкі песняра,
Каб яны ў бязмеж крылялі,
Нам свяцілі,
Як зара.

Каб калоссем красавала,
Песняй рвалася з грудзей
Тая радасць, што Купала
Тут знаходзіў між людзей.

Хоць каналы, як парэзы,
Плынь спаволілі яе,
Слава слынная Арэсы
З ёй жыве,
Плыве,
Пяе.

Як раней, збірае дзівы,
Ёсць працяг жывы ў ракі:
Гэта — збожжавыя нівы
І Купалавы радкі.

З харaством у даўняй згодзе,
З сінявою жаўрука,
Не змялееш у народзе
Ты, Купалава рака!

## РЭЧКА ЦЕМРА

Пушча шлях твой,
Як стужку, адмервае.
Дзівіць пушча —
Спрадвечны мастак.
Хто ж цябе ахрысціў раптам
Цемраю?
Хто ж цябе ў нас
Пакрыўдзіў так?

Ты ж, як неба сінеча,
Празрыстая,
З табой побач святлей дубам.
Пад твой плёскат
Яны, плячыстыя,
Тут вядуць свой падлік гадам.

З круч схіляюцца вербы ніцыя —
У тваю паглядзець чысціню.
А мо хочацца пакланіцца ім,
Што ў сухмень сцеражэш
Ад агню?

Ці таму, што ты з пушчай цёмнаю
Тут здружылася, і здавён,
І пятляеш па ёй, нястомная,
Дорыш пушчы свой ціхі звон?

Вусце ёсць у цябе,
Вусце слыннае —
Гэта Ясельда-маці сама:
Не прымоўклая, салаўіная,
Песняй стала яна нездарма.

Таямнічасцю зачароўвае,
Пад пушчанскі забегшы дах,
Цемра — сіняя, вечаровая,
Цемра — чыстая, як вада.

## ВОЗЕРА МАЛОЧНАЕ

Гэта ўсім там відавочна,
Сам я чуў ад рыбакоў:
Зранку ў возеры Малочным
Не вада,
А малако.

Нездарма ж па-над вадою,
Па ўзбярэжжы, па траве,
Быццам пена з сырадою,
Раніцой туман плыве.

Рыба ў завадзях плюскоча —
І ляшчы, і акуні.
Над вадой шчупак праскочыць,
Бы мігне: «За мной нырні!»

Добра ім гуляць, сваволіць,
Схоў шукаць у асацэ.
Як шкадую, што ніколі
Не купаўся ў малацэ.

Не закідваў золкам вуду,
Не хадзіў там басанож,
Ды заўсёды помніць буду:
Цуды ёсць у нас усё ж!

Ці малочныя там ранкі,
Ці дзівосаў шмат яшчэ,
Мо пачуем ад Пыр*а*нкі.
Што з Малочнага цячэ?



Зінаіда ДУДЗЮК

# ЗАКОН ЗАХАВАННЯ КАХАННЯ

*Аповесць**

## 1

Адамкнуўшы ключом дзверы, Ада пераступіла парог пакоя інтэрната, паставіла рэчы на падлогу і агледзелася: ложак, стол, канапа, дзве ўбудаваныя шафы пры ўваходзе — мелася ўсё неабходнае для сціплага існавання. Тут ёй належала пражыць два гады, а пасля… Цяпер пра будучыню думаць не хацелася. Яна была задаволеная, што нарэшце здзейснілася даўняя мара: яе залічылі на Вышэйшыя курсы пры Літаратурным інстытуце, а таму не жадала азмрочваць настрой ніякімі разважаннямі ні пра мінулае, ні пра будучыню. Годзе, ужо ўсяго хапіла! Трэба паспрабаваць жыць адным днём, балазе для гэтага стварыліся пэўныя ўмовы.

Яна нават не стала распакоўваць валізку, яшчэ паспее, а вырашыла неадкладна ехаць у Літаратурны інстытут, каб заявіць аб сваім прыездзе і даведацца пра расклад заняткаў, якія пачыналіся з панядзелка. У калідоры сустрэлася з высокім хлопцам у акулярах, які першы павітаўся і спытаў:

— Прыехалі на курсы?

— Так, — адказала Ада.

— Будзем аднакурснікамі, — весела прамовіў ён. — Мяне завуць Гоша. Я з Кіева. А вы адкуль?

Яна назвала сябе, сказала, што з Беларусі, з Бабруйска, і спытала, як дабрацца да Літінстытута. Гоша растлумачыў, што з перасадкаю на метро трэба даехаць да плошчы Пушкіна, а там ужо на Цвярскім бульвары рукой падаць да дома Герцэна.

---

* Часопісны варыянт.

---

***Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна*** *нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданныя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

Ада шмат разоў была ў мінскім метро, але, мусіць, падземная дарога там залягала не так глыбока, як у Маскве, таму яна зараз звярнула ўвагу, як нахіляюцца ўперад людзі, якія падымаюцца на эскалатары, быццам хочуць хутчэй выйсці на паверхню, і як адхіляюцца назад тыя, што едуць да цягніка, нібы падсвядома супраціўляюцца спуску ўніз, у падзямелле. Сама паспрабавала стаць роўна, каб нікуды не хіліцца, але гэта была дарэмная спроба. Заўважыла, што і яе постаць адхіляецца назад, быццам баіцца трапіць у апраметную. Безумоўна, гэта толькі першае ўражанне, пасля прывыкне і не будзе звяртаць увагі, а мо яшчэ і пачне бегаць, як вунь той чарнявы хлопец, што паскакаў уніз ледзь не праз дзве прыступкі эскалатара.

Электрычка даімчала Аду да патрэбнай станцыі вельмі хутка. За той час яна толькі паспела разгледзець свой трохі стомлены з дарогі твар, адлюстраваны ў вагонным акне. Выйшла з падземнага перахода, убачыла сумную постаць Пушкіна, які з п’едэстала журботна пазіраў на мноства машын і людзей, ад якіх ажно мільгацела ў вачах. Вялікі паэт наперад ведаў, што ўся іхняя мітусня — пустая трата каштоўнага часу, адведзенага кожнаму чалавеку вышэйшымі сіламі. Мала хто з гэтых мурашоў, стомленых і вясёлых, злосных і абыякавых, знайшоў свой сапраўдны шлях у жыцці і шыбуе да канкрэтнай мэты. Большасць з іх заблудзіліся паміж працаю і сям’ёю, цягнуць воз са скрыпам, сварацца, мірацца і паміраюць, так не зведаўшы, якое ж яно павінна быць чалавечае шчасце.

Мабыць, Ада ў гэтай гурме была рэдкім выключэннем. Яна здзейсніла мару, паступіла на вучобу, куды хацела, пераадолеўшы адчайныя пратэсты і супраціў мужа. Пра свой намер сказала яму толькі за тыдзень да ад’езду, але і гэтага часу хапіла, каб выслухаць ад яго абвінавачванні, абразы, здзек далёка не заўсёды ў межах цэнзурнай лексікі. Урэшце яна не вытрымала, сабрала рэчы і сышла да маці, якая на яе таксама навалілася з павучаннямі не рабіць глупства і трымацца сям’і.

«Якой сям’і? — абурана думала Ада. — Не кахаю яго. Мо ніколі і не кахала».

Так, здалося, аднойчы, што Мечыслаў — добры хлопец. Ён такі і быў: пакладзісты, спакойны, памяркоўны, але толькі да вяселля. А потым пачаў ставіцца да яе, як да рэчы, якая павінна слугаваць і падпарадкавацца яму ва ўсім. Безумоўна, Ада паспяшалася з замужжам. Маці ўсё чаплялася:

— Табе ўжо за дваццаць. З гэтаю вучобаю застанешся старою дзеўкаю… Каму ты трэба будзеш з тваім дыпломам?

Ада тады вучылася завочна на трэцім курсе філфака ў Мінскім педінстытуце, працавала спачатку ў школе лабаранткаю, а яшчэ з восьмага класа перыядычна друкавала вершы ў раёнцы. Яе добра ведалі ў рэдакцыі, запрасілі на працу, дзе яна вяла аддзел пісьмаў, а таксама збірала матэрыялы для літаратурных старонак, таму аўтаматычна стала кіраўніком літаб’яднання.

Яшчэ калі працавала ў школе, на яе звяртаў увагу настаўнік фізкультуры Мечыслаў, а калі перайшла ў рэдакцыю, дык пачаў настойліва прапаноўваць пабрацца, а тут маці насела са сваімі ўгаворамі ды парадамі. Ада здалася пры адной умове, што дзяцей не будуць заводзіць, пакуль не скончыць інстытут. Пабыла з год замужам і зразумела: не той Мечыслаў чалавек, пра якога марылася: чужы, злосны, раўнівы, нястрыманы. Патрабаваў, каб яна пакінула вучобу ў інстытуце, таму што ён здатны пракарміць сям’ю сам. Аду смяшылі ягоныя заявы. Вядома, якія заробкі ў настаўніка. І чаму яна павінна адмаўляцца ад уласнага жыцця, каб дагадзіць мужу?

— А раптам з табою што здарыцца? На каго мне разлічваць? — пытала Ада.

— Ты маёй смерці жадаеш! — крычаў раз'юшана ён у адказ і знаходзіў яшчэ тысячу прыдзірак, каб зняважыць і пакрыўдзіць яе.

Гады ляцелі хутка. Ездзячы ў Мінск каб здаваць курсавыя і на сесіі, Ада наведвала часопіс «Маладосць», маладзёжную газету «Чырвоная змена», дзе і пачала часта змяшчаць свае вершы. Як толькі скончыла вучобу, сабрала і выдала першы зборнічак вершаў, неўзабаве — другі. Яе прынялі ў Саюз пісьменнікаў, пачалі запрашаць на семінары творчай моладзі. Кожная яе паездка даводзіла мужа да істэрыкі, але Аду, якая так і не адважылася займець дзяцей з гэтым чалавекам, ніштo не магло затрымаць. Нарэшце ў яе з'явілася магчымасць павучыцца ў Маскве, у Літаратурным інстытуце, пра які яна марыла яшчэ ў школьныя гады, ды тады так і не адважылася паехаць, бо маці сказала, што не здолее вучыць яе на стацыянары, няма чаго замахвацца невядома на што, маўляў, выйдзеш замуж — нікому твая навука не трэба будзе. Займей які-небудзь дыплом аб вышэйшай адукацыі — і дастаткова для дзяўчыны.

Ада была паслухмянай з маленства, але калі зразумела, што трапіла ў нерат, адважылася паўстаць супраць мужа і маці — і дамаглася свайго. Праўда, з матуляю яна не сварылася, а разжаліла яе слязамі, упала на канапу і доўга плакала наўзрыд, не прыкідваючыся, па-сапраўднаму, бо занадта горка было, што ніхто яе не разумее.

— Чым тут румзаць ды глупствам галаву забіваць, лепш бы дзіця нарадзіла, — прамовіла маці.

Дачка нічога не адказвала. Як яна магла растлумачыць, што не толькі душа, але і цела яе не прымае Мечыслава? Хіба можна нараджаць дзяцей без кахання? Якія ж гэта будуць дзеці? Душу можна ўгаварыць, упрасіць, пераканаць, яна патрывае. А цела ўпартае. Яно пратэстуе, адгукаецца болем на кожную нашу ману і няпраўду. Усе мітрэнгі, перажытыя перад ад'ездам, яшчэ скабкамі сядзелі ў памяці, але над усім панавала радасць ад новых падзей, якія чакалі яе наперадзе.

Яна пайшла ўніз з горкі па бульвары, убачыла прыгожы дом у садзе і яшчэ нейкія пабудовы за кованай агароджай, завярнула ў брамку. Злева на двухпавярховым будынку згледзела патрэбную шыльду, паднялася на другі паверх, пастукала ў дзверы загадчыцы навучальнай часткі Наіны Андрыянаўны Смалікавай. У маленькім кабінеце пад вялізнаю пальмаю, што стаяла ў куце і ахоўна, з любоўю, растапырвала лісце, за сталом сядзела гаспадыня. Яна ветліва сустрэла Аду, запрасіла сесці, прапанавала гарбату, але наведвальніца адмовілася, бо паснедала яшчэ ў цягніку. Пра Наіну Андрыянаўну Ада чула ад іншых пісьменнікаў. Гэта была ўжо немаладая жанчына, але твар яе яшчэ захоўваў адбітак колішняга хараства, хоць не маладзілася і не падфарбоўвала ні вусны, ні вейкі, ні пышныя цёмныя валасы, у якіх не было відаць сівізны. Загадчыца распытала курсантку пра яе хатнія справы, пра мужа і сям'ю наогул. Ада не стала расказваць, з якім скандалам з'ехала на вучобу. Не варта перакладваць свае праблемы на чужыя плечы, няхай думаюць, што ў яе ўсё добра, а штамп у пашпарце сам за сябе гаворыць. У гэты час зноў нехта пастукаў у дзверы. У пакой увайшла невысокая прывабная маладзіца, трохі старэйшая за Аду, але дагледжаная і з густам апранутая. Валасы, падстрыжаныя да плячэй, падтрымліваў бліскучы абручык пад колер бэзавай сукенкі. Яна адразу заўсміхалася. Было відно, што ўжо не раз наведвалася сюды.

— Заходзьце, заходзьце, Эмілія Міхайлаўна, — запрасіла загадчыца. — Гэта ваша аднакурсніца з Беларусі Ада Ліцвінка, знаёмцеся.

— Вельмі прыемна, — гулліва адказала жанчына. — Завіце мяне проста Эма.

— Ну, дзяўчаткі, у калідоры вісіць расклад, запасайцеся сшыткамі, ручкамі — і ў добры час. Вучыцца ў нас не надта цяжка, але прапускаць заняткі не раю, таму што, як бы мы лаяльна ні ставіліся да сваіх курсантаў, усё ж вам давядзецца здаваць залікі і экзамены, каб урэшце атрымаць дыплом.

— Мы будзем вельмі дысцыплінаваныя, — паабяцала Эма. — Не ведаю, як у Ады, а мой сын ужо дарослы і самастойны, ніхто маёй вучобе замінаць не будзе.

— Ды калі ж вы паспелі? — здзівілася Наіна Андрыянаўна.

— Само сабою атрымалася, — усміхнулася Эма, у яе паставе адчувалася задаволенасць сабою і лёсам, быццам яна дасягнула ўсяго, да чаго імкнулася, а вучоба для яе будзе прыемным баўленнем часу.

— А ў мяне дзяцей пакуль няма, — адказала Ада. — Муж застаўся дома. Так што мяне таксама ніхто не будзе адрываць ад няткаў.

— Вось і выдатна, будзем лічыць, што я займела дзвюх прыкладных курсантак.

— Скажыце, калі ласка, як тут вучыўся наш славуты пісьменнік Уладзімір Караткевіч? — спытала Ада.

— Выдатна вучыўся. Вельмі здольны быў.

— Ці чыталі вы ягоны раман «Нельга забыць» пра той час? Ён быў у некага закаханы?

— У выкладчыцу Ніну Молеву… Ведаю, што ёсць такі твор, але не чытала. Па-беларуску не разумею…

— Ды ў нас усё проста, як гаворыцца, так пішацца і чытаецца. Там ён вас назваў Галінаю Іванаўнай…

У дзверы зазірнулі. Наіна Андрыянаўна ўзрадавана сказала:

— Заходзьце! Хто там такі нясмелы?

У пакой увалілася гурма хлопцаў, сярод іх быў і Адзін знаёмы Гоша. Загадчыца пачала з імі знаёміцца. Ада з Эмай выйшлі з пакоя, наблізіліся да дошкі з раскладам, пачалі чытаць дысцыпліны, якія належала вывучаць. Чаго там толькі ні было: руская літаратара, гісторыя Расіі, філасофія, эстэтыка, тэорыя літаратуры, гісторыя эканамічных вучэнняў, тэатральнае і выяўленчае мастацтва, замежная літаратура, мова мастацкіх твораў, спецкурсы па творчасці рускіх пісьменнікаў XIX—XX стагоддзяў…

— Вы з якога горада? — спытала Эма.

— З Бабруйска. Невялікі гарадок, недалёка ад Мінска, мо чулі?

— Чула, там, здаецца, шыны робяць. І чым вы там займаліся?

— Працавала ў раённай газеце.

— Дык мы калегі. Я таксама з газетчыкаў. Раней мы жылі ў Свярдлоўску, а потым пераехалі ў Маскву. Мой муж тэлежурналіст.

Яна назвала прозвішча, знаёмае Адзе па адной маскоўскай тэлепраграме.

— Бачыла вашага мужа па тэлебачанні, постаць прыкметная. Цікавы чалавек…

— Так. Але праца яго вельмі небяспечная. Яны ж займаюцца расследваннем наркатрафіка, а гэта тоіць у сабе пэўную пагрозу.

— Вас гэта, напэўна, трывожыць, — паспачувала Ада.

— Вядома, хвалююся, але заўсёды спадзяюся на лепшае…

Наіна Андрыянаўна выйшла з хлопцамі з кабінета, расчыніла дзверы ў аудыторыю і сказала:

— Тут будзеце слухаць лекцыі.

Курсанты ўвайшлі ў пакой, патапталіся ля дошкі, Гоша нават сеў за стол і спытаў:

— Колькі жанчын будзе на курсе?

— Дзесяць, а мужчын трыццаць, — шматзначна адказала Наіна Андрыянаўна. — Вось першыя ластаўкі: Эма і Ада, абедзве замужнія.

Хлопцы расчаравана азваліся неўразумелымі воклічамі, як быццам яны прыехалі сюды жаніцца. Загадчыца засмяялася і суцешыла іх:

— Дзяўчат поўная Масква! Усе вашы! Дарэчы, заўтра першая нядзеля верасня, у якую масквічы адзначаюць Дзень горада. Можна сказаць, што вы трапілі з карабля на баль. Праграма свята вельмі цікавая і разнастайная. Афішы вісяць на тумбах. Безумоўна, усюды не паспееце, таму раю засяродзіцца на тым, каму што болей падабаецца. Праезд у метро бясплатны. Жадаю цікава адпачыць. А ў панядзелак прашу на заняткі. Расклад у калідоры…

**2**

На другі дзень раніцай Ада сутыкнулася з Гошам на кухні. Ён прывітаўся і спытаў, чым яна збіраецца сёння займацца.

— Мусіць, паеду глядзець Маскву. Зусім яе не ведаю. Толькі аднойчы была на экскурсіі. Нас правезлі на аўтобусе па горадзе, паказалі Траццякоўскую галерэю, павадзілі па Крамлі міма вялізнай пушкі і звона, завялі ў маўзалей, на гэтым усё скончылася.

— Калі дазволіце, стану вашым гідам, з намі яшчэ Сеня Хмурноў паедзе. Ён наогул у Маскве ўпершыню. Хлопец з Чувашыі.

— Паедзем, — пагадзілася Ада. — Дайце мне хвілін дзесяць на зборы.

— Выдатна, — Гоша зірнуў на гадзіннік. — У дзесяць сустракаемся, я вам пагрукаю ў дзверы.

Ада пераапранулася з халата ў цёмную трыкатажную сукенку, накінула лёгкую куртку з зеленаватай плашчоўкі. У Маскве стаяў ясны і цёплы пачатак верасня, але на ўсялякі выпадак трэба было перастрахавацца, раптам надвор’е зменіцца. Прычасалася, пакруцілася перад люстэркам, якое вісела на сцяне. Потым прыдзірліва агледзела пакой, ці ўсё на месцы. Учора яна вымыла падлогу, дзіву далася: пад ложкам сабраўся слой пылу. Мусіць, тут шмат гадоў жылі мужчыны, якія ніколі не прыбіралі ў пакоі. Ада працерла вокны, павесіла новыя фіранкі, на стол паставіла талерку з яблыкамі, як звычайна рабіла дома. Яе маці жыла на ўскрайку горада за вузенькай і зарослай аерам рэчкай Бабруйкай у прыватным доме, мела стары сад, які раз на чатыры гады так буйна пладаносіў, што не ведалі, куды дзяваць тую садавіну. Новае Адзіна жытло пахла бабруйскімі яблыкамі і мела даволі прыемны і ўтульны выгляд. У дзверы пагрукалі. Ада адчыніла, убачыла Гошу, а з ім маладога мужчыну, невысокага, з чорнымі вачамі і сімпатычным тварам.

— Знаёмцеся, гэта Сеня Хмурноў, — сказаў Гоша.

— Вельмі прыемна. Нядобра знаёміцца праз парог. Зайдзіце на хвілінку ў пакой.

— Ну, паглядзім, як вы тут уладкаваліся, — Гоша смела пераступіў парог. — Выдатна! Так могуць прыхарошыць звычайны інтэрнацкі пакой толькі жанчыны.

— А вы, хлопцы, хто, паэты ці празаікі? — спытала гаспадыня.

— Па нас не відно? — іранічна спытаў Гоша.

— Гоша падобны на паэта, узнёслы, парывісты, а наконт Сені не ведаю… — адказала Ада.

— Так, я пішу вершы, — сказаў Гоша, — але на курсах мы абодва лічымся перакладчыкамі. Будзем нешта перакладаць.

— Жадаю поспеху, — засмяялася Ада, пачаставала хлопцаў яблыкамі, і разам яны рушылі аглядаць горад.

Прайшліся па праспекце Руставелі да прыпынку метро, спусціліся пад зямлю і паімчалі з грукатам па цёмным тунэлі, куды задумаў Гоша. Па ўсім бачылася, што ён меў пэўны план. Як толькі вынырнулі з падземнага перахода, Гоша прапанаваў:

— Паедзем да маіх сяброў у наша прадстаўніцтва. Я пазнаёмлю вас з землякамі, хоць сам я напалову рускі, але Украіна — мая радзіма, якую вельмі люблю, — сказаў Гоша і рынуўся ўперад, Ада з Сенем ледзь паспявалі за ім.

«Усе мы нешта і некага яўна ці ўпотай любім, — падумала Ада. — Але далёка не ў кожнага хапае смеласці адкрыта пра тое сказаць. Прынамсі, я мо толькі ў вершах даю сабе волю. А ці трэба раскрывацца, выказвацца, разнасцежваць душу, калі твае прызнанні і лепшыя пачуцці пасля могуць абярнуцца супраць цябе, калі ператворацца ў брыдкія плёткі? Са мною было гэта ўжо не раз. Хоць бы ўзяць лепшую сяброўку Ларысу, якая пісала вершы, хадзіла на літаб’яднанне, адначасова распаўсюджвала розныя небыліцы пра мяне ад зайздрасці, бо яе творы адмаўляліся друкаваць у мінскіх выданнях. Ёй здавалася, што я знарок не дацягваю яе вершы да пэўнага ўзроўню. Якія могуць быць вершы, калі твая душа заплыла брудам, калі ты робіш кепска чалавеку, які добра ставіцца да цябе? Зрэшты, такіх, мабыць, і не варта цягнуць за вушы ў літаратуру, дзе ім няма чаго рабіць? Вершы пішуцца найперш не для друку, а для таго, каб вызваліць душу ад пачуццяў, якія просяць выйсця, ліюцца рыфмаванымі радкамі, струменяць крынічкаю. Нельга іх стрымліваць. Здаецца, калі не дасі ім волю, то захлынешся і загінеш. А друкаванне — справа другасная. Можна выбраць нешта і надрукаваць, калі твор нясе ў сабе мастацкую каштоўнасць. Для мяне пісанне вершаў — лад жыцця…»

Разважаючы так, Ада нават трохі адстала ад хлопцаў, але Гоша своечасова спыніўся і пачакаў яе, каб не згубіць у вірлівым людскім натоўпе. Нарэшце яны прыйшлі ў нейкае памяшканне, дзе было чалавек сем маладых мужчын, якія весела і хутка перамаўляліся паміж сабою па-украінску, потым аднекуль узнікла пляшка гарэлкі. Разлілі ў маленькія кілішкі, выпілі за Украіну, за сяброўства стоячы і не закусваючы. Ада таксама мусіла прыгубіць пітво, каб не пакрыўдзіць людзей.

Увогуле Ада трымалася сціпла, хавалася за спінамі Гошы і Сені, у размовы не лезла, каб лішні раз не звяртаць на сябе ўвагу. Ёй было няўтульна ў гэтым мужчынскім гурце, і яна падумала, што можа і самастойна агледзець Маскву, не абавязкова ўвязвацца ў мужчынскую кампанію.

Нарэшце Гоша развітаўся з землякамі і прапанаваў наведаць знакаміты Арбат. Ада і Сеня пагадзіліся. Метро зноў за лічаныя хвіліны даімчала іх да месца. Што ні кажы, вельмі зручны транспарт. На Арбаце гэтым святочным днём было шматлюдна, як на кірмашы. Гандляры прадавалі карціны і матрунак, размаляваных пад Сталіна, Брэжнева, Гарбачова і Ельцына. Мастакі малявалі нешта на мальбертах. Музыкі ігралі на гітарах, саксафонах, скрыпках. Нейкі хлопец у вышыванцы нешта далікатна выцінаў на дудачцы. У расчыненыя футаралы зрэдзь-калі сыпаліся грошы. Людзі сядзелі за столікамі, пілі ды елі. Усё тут было дарэчы, усім хапала месца.

Сеня захацеў піва, Гоша падтрымаў яго, Ада згадзілася папіць кавы. З кубачкам яна падышла да гітарыста, які віртуозна выконваў нейкую класічную рэч, і падумала, што Касьян тут таксама мог бы знайсці магчымасць для выяўлення ўласных музычных здольнасцеў. Але ён, мабыць, так і не сабраўся напісаць заяву на курсы, прынамсі, нічога пэўнага не адказаў на яе прапанову

паехаць разам на вучобу. А раптам усё ж прыедзе! Ах, Касьян, Касьян, столькі шчасця і столькі гаркоты выклікаў успамін пра яго…

У інтэрнат вярталіся пад вечар. Убачылі ў небе вялізныя рознакаляровыя паветраныя шары, якія з-за ціхага надвор’я доўга віселі на адным месцы. Паназіралі крыху за імі, пасля толькі спусціліся ў падземны пераход. Там было тлумна і шумна. Гоша з Сенем пачалі пераміргвацца, аглядаючы дзяўчат, якія стаялі ўздоўж сцен. Ада не адразу зразумела, што яны маюць на ўвазе, мо проста ацэньваюць масквічак з мужчынскага пункту гледжання. Хлопцы ёсць хлопцы, яны не могуць абыякава праходзіць міма хараства ў спадніцах. Аднак Гоша патлумачыў:

— Путаны выйшлі на паляванне…

— Калі ёсць попыт, дык будзе і прапанова, — адказала Ада. — Патрыярхальны свет нарадзіў шмат заганных з’яў у грамадстве. Я нікога не хачу пакрыўдзіць.

— Згодны, — пацвердзіў Гоша. — У нашым свеце шмат недасканалага, але нам гэтага не паправіць.

— А мяне ўсё задавальняе, — прамовіў Сеня. — Я гатовы любіць путан і сваю жонку, Маскву і сталіцу маёй Чувашыі, Чэбаксары, і ўвесь свет наогул!

— Каб дазваляла каліта! — засмяяўся Гоша.

— Гэта ты трапна прыкмеціў.

Ада і не заўважыла, як хутка праляцеў дзень, толькі зараз успомніла, што яны не абедалі, а пара ўжо і павячэрыць. Таму запрасіла хлопцаў:

— Прыходзьце да мяне праз гадзінку, я бульбу звару.

Яны ўзрадаваліся і паабяцалі з’явіцца абавязкова.

Ада наабірала бульбы, пакінула на малым агні варыцца, а сама пайшла ў гастраном, які быў побач, праз дарогу, купіла сасісак, памідораў, смятаны і булачак. Вячэра атрымалася не надта багатая, але па-студэнцку добрая. Хлопцы ахвотна паелі бульбы з салатаю і сасіскамі, папілі чаю з булачкамі ды варэннем і, мусіць, не пашкадавалі, што на цэлы дзень прынялі ў сваю кампанію жанчыну.

Пасля таго, як госці пайшлі, Адзе засталося памыць посуд і хутчэй легчы спаць, бо хоць і ездзіла цэлы дзень, але нахадзілася так, што ногі ажно гулі. Яна колькі разоў павярнулася з боку на бок, выбіраючы найбольш зручную позу для сну, згадала Касьяна, мусіць, успаміны пра яго ніколі не пакінуць яе, як бы яна ні адгаворвала сябе забыць мінулае. Аднак усё ж заснула, стомленая доўгаю вандроўкаю па Маскве, у шчаслівым прадчуванні першага дня заняткаў, які чакаўся заўтра.

## 3

Ада ехала ў Літінстытут і яшчэ несла ў душы слабую надзею, што раптам і Касьян прыехаў на вучобу — гэта было б вялікім шчасцем. Яму таксама карысна пажыць у Маскве, паспяваць на Арбаце, займець новых знаёмых, мо нават і вельмі карысных.

У аўдыторыі сабралася ўся група. Людзі былі прыкладна ва ўзросце да сарака гадоў, толькі некалькі мужчын мелі сіваватыя галовы і было відно, што ім, мусіць, пераваліла за пяцьдзясят. Касьяна не ўбачыла. Курсанты няспешна рассаджваліся, выбіралі сабе месцы і напарнікаў. Ада з Эмай занялі першы стол у радзе каля дзвярэй, адразу за імі селі верныя рыцары — Гоша з Сенем. Празвінеў званок. Праз некалькі хвілін увайшла Наіна Андрыянаўна, павіншавала прысутных з пачаткам навучальнага года, праверыла па спісе, ці

ўсе ў аўдыторыі, і засталася задаволеная: усе. Выявілася, што ў групе будуць вучыцца людзі з далёкага замежжа: француженка Наталі, югаслаўка Мірыям і афганец Латыф. Іхнія прозвішчы Ада не запомніла, а імёны адразу ўпячаталіся ў памяць. Было шмат курсантаў з Казахстана, Арменіі, Азербайджана, Кіргізіі, Карэліі і яшчэ бог ведае скуль.

Наіна Андрыянаўна ўрачыста абвясціла, што сёння заняткаў не будзе, а курсантаў правязуць на аўтобусе і пакажуць Маскву, каб палюбілі яе, як родны горад, які з радасцю прымае ўсіх годных людзей, здатных ствараць і працаваць на яе гонар і славу. Аўтобус чакае ля брамкі, можна ісці і займаць месцы.

Шумлівай гурмой, нібы дзеці, хлопцы і дзяўчаты расселіся ў аўтобусе. Іх павезлі па вуліцах, даволі хутка, так што нешта разгледзець не было магчымасці. Мільгалі будынкі, вежы і сцены Крамля. Наіна Андрыянаўна весці экскурсію не ўзялася, яе новыя выхаванцы пазіралі за вокны і нічога адметнага не бачылі. Масква як Масква. Раптам пачуўся ўзрушаны голас Гошы:

— Глядзіце, Белы дом!

Усе павярнуліся і ўбачылі высокі будынак. Масква яшчэ жыла нядаўнімі падзеямі, звязанымі з расстрэлам Белага Дома... Ада падумала, як добра, што не здарылася грамадзянская вайна, што жыццё працягваецца. І гэта цудоўна!

Эма не паехала на экскурсію. Яна ведала Маскву ўздоўж і ўпоперак. Побач з Адай месца пуставала, і яна міжвольна падумала: «Як шкада, што Касьян не паехаў са мною на вучобу. А мог бы! Піша выдатныя вершы. Сядзеў бы зараз побач! Якое было б шчасце!» І адразу абарвала гэтую думку, каб не тузаць сэрца горкімі згадкамі, жыць тым, што ёсць! Няма на што наракаць! Здзяйсняецца мара! Усё выдатна!

Аўтобус імчаў наперад, курсанты аціхлі, стомленыя мільганнем за вокнамі. Гадзіны праз паўтары вандроўка скончылася. Наіна Андрыянаўна сказала, што ў іх яшчэ будуць экскурсіі ў іншыя гарады і цікавыя мясціны. А пакуль усе вольныя. Пажадала добра падрыхтавацца, каб заўтра са свежымі сіламі ўзяцца за вучобу.

Ада яшчэ ў аўтобусе вырашыла, што пойдзе сама, без спадарожнікаў, на Красную плошчу і ўсё разгледзіць як след. Выйшла на вуліцу Горкага і рушыла ў бок Крамля міма мноства крамаў, кафэ, музейчыкаў. Рухалася з людской ракою, якая няспынна плыла шырокаю і прыгожаю вуліцаю, востра адчуваючы адзіноту ў гаманлівай гурме. Нават і не падумала, а проста выдыхнула: «Касьян, Касьян, як жа я цябе кахаю! Але табе няма справы да маіх пачуццяў!» І адразу адпрэчыла гэтую думку, таму што трэба было пачынаць новае жыццё без уздыхаў, згрызот і смутку. Перад паездкаю на вучобу яна рыхтавалася, шукала і занатоўвала звесткі пра тыя мясціны, дзе ў розныя гады жылі беларусы ў Маскве. Тут выхоўваў і далучаў да навукі царскіх дзяцей святар, паэт і драматург Сімяон Полацкі. Хадзіў праз Красную плошчу (тады гэта быў галоўны маскоўскі базар) у друкарню, дзе выдаваў кніжкі, а пазней узначальваў манастыр. Недзе Ада чытала, што быў ён астролагам і здолеў дакладна прадказаць момант зачацця Пятра Аляксеевіча, будучага цара Пятра Першага. Трохі пазней у Пасольскім прыказе, які знаходзіўся на тэрыторыі Крамля насупраць Спаскай вежы, працаваў перакладчыкам беларускі асветнік Ілья Капіевіч. Падрабязнасцей іхняй дзейнасці Ада не памятала. Трэба было вярнуцца да гістарычных крыніц, каб удакладніць звесткі пра гэтых выдатных асоб, а можа, напісаць цыкл артыкулаў пад агульнай назвай «Масква беларуская» для сваёй раёнкі. Не варта адкладваць надоўга, потым пачнуцца экзамены і залікі, не будзе часу, а пакуль светла і цёпла, самы час заняцца гістарычнымі росшукамі.

У Ады захоўваліся запісы назваў вуліц, на якіх у свой час жылі Янка Купала і Канстанцыя Буйло. Усе гэтыя мясціны яна яшчэ збіралася наведаць.

Ада павярнула налева, яе позірк прыцягнула прыгожая царква, вельмі яскрава размаляваная, яна пайшла да яе і раптам здзіўленым позіркам утаропілася ў круглую каменную калодку. Спынілася, разглядаючы дзіўнае збудаванне і нарэшце здагадалася: гэта ж Лобнае месца! Храмы рушыліся, Масква перабудоўвалася, а калода, на якой секлі галовы, працягвала стаяць!..

Знакамітыя мясціны, знакамітая сталіца… Цяпер вось і Ада прыехала сюды вучыцца. Наогул з розных краін свету едзе моладзь у Маскву па вышэйшую адукацыю, і па ўсім відаць, што дыпломы, атрыманыя тут, каціруюцца ў іх на радзіме. Ада, стоячы каля Лобнага месца, узіралася ў круглую калоду, міжвольна пачала складаць верш:

На плошчы пукатай,
Што тайнаў шмат месціць,
Ля царскіх палатаў
Ёсць Лобнае месца,
Дзяржаўнаахоўнае,
Любасць турыстаў,
Стаіць, быццам новае,
Год, можа, трыста…

Дастала нататнік, паспешна запісала першыя радкі, што прыйшлі самі сабою, дапісаць верш вырашыла дома. Згадаліся падзеі Смутнага часу, калі ў Маскве загінула шмат літвінаў. І падумала, ці не ў гэтым храме вянчаўся Ілжэдзмітрый з Марынай Мнішак, калі яна была прызнана расійскаю царыцаю. Праўда, праз некалькі дзён успыхнула змова на чале з Шуйскім і ўсё змянілася на працягу нейкай гадзіны. Труп забітага Ілжэдзмітрыя пакінулі на Чырвонай плошчы для здзекаў, можа, недзе тут і ляжаў, а Марына апынулася ў палоне. Ёй яшчэ пашанцавала, што здолела схавацца пад спадніцу сваёй ахмістрыні, калі раз’ятраны натоўп уварваўся ў царскія палаты. Таму і выжыла. А потым стала паланянкаю разам з бацькамі і мноствам іншых літвінаў і палякаў, якія ацалелі ў той жудаснай бойні, калі Васіль Шуйскі расчышчаў месца для ўласнага каравання.

Ада падумала, што варта пашукаць матэрыялы, якія датычацца тых падзей, ды напісаць паэму, а, можа, нават раман пра Марыну Мнішак, маленькую жанчыну, якая выправілася замуж у чужую краіну, каб кіраваць ёю, стала царыцаю, а потым давялося ёй перажыць жудасныя мітрэнгі і разам з маленькім сынам вытрываць катаванні і прыняць страшную смерць...

«Ну вось, выправілася на шпацыр з добрым настроем, а зноў развярэдзіла душу гістарычнымі падзеямі, хоць і было гэта даўно, — міжвольна падумала Ада. — Нельга чалавеку адначасова жыць у мінулым і цяперашнім часе, думаць пра наступнае ды яшчэ прымаць усё блізка да сэрца. Вельмі цяжкая справа. Хоць без гэтага сардэчнага болю немагчыма спасцігнуць сапраўдную сутнасць падзей, якія адбыліся некалькі стагоддзяў таму, зразумець учынкі людзей, мэты і памкненні, якія рухалі імі. Але годзе ўжо на сёння ўражанняў. Трэба вяртацца ў інтэрнат, павячэраць ды класціся спаць».

## 4

Увечары Ада прымасцілася ля акна, доўга пазірала на Астанскінскую вежу, якая высока ўздымалася над шчыльнаю забудоваю і свяцілася чырвонымі агнямі. Сачыла за чародкаю галубоў, што ў добра асветленым горадзе не спяшаліся на спачын, а ўсё яшчэ прыляталі на дах пяціпавярховага дома

насупраць, садзіліся, а потым зноў некуды ляцелі. Мусіць, яны прызвычаіліся жыць у вялікім горадзе і, пакуль хадзілі па вуліцах людзі, вышуквалі сабе нейкую спажыву.

Перад паездкаю ў Маскву Ада паабяцала сабе: не будзе ні шкадаваць пра мінулае, ні згадваць яго. Што было, тое мінулася. Ды перажытае міжволі вярталася памяццю, авалодвала настроем, перад вачамі ўсплывалі нейкія малюнкі, чуліся дыялогі, якія яна доўжыла і доўжыла, разважаючы з сабою ці з ім, Касьянам.

У іхняй сустрэчы было нешта містычнае. Яшчэ ў васямнаццаць гадоў прысніўся ёй неверагодна прыгожы хлопец, з залацістымі валасамі і сінімі вачамі, быццам з тых міфічных Лятаўцаў, якія зоркамі спускаюцца на зямлю,ператвараюцца ў мужчын і жывуць між людзьмі, колькі здолеюць. Яна цалавалася з тым хлопцам пад зорным небам. Дзіўна, ёй ніколі не сніліся эратычныя сны, а звычайна бачылася нешта звязанае з яе журналісцкай працай, усё яна некуды ехала ці ішла з незнаёмымі людзьмі. Можа, таму гэты сон урэзаўся ў памяць. Ва ўсялякі момант магла заплюшчыць вочы і зноў убачыць таго Лятаўца, як жывога, быццам толькі што з ім развіталася.

Ада працавала, вучылася, прыглядалася да супрацоўнікаў і аднакурснікаў, але таго, якога прысніла, нідзе не сустракала. Бегала да нейкіх хлопцаў на спатканні, з некім сябравала, з некім ліставалася, але адчувала, што нікога не кахае так, каб раз — і назаўсёды. Міжволі шукала прыснёнага, але нідзе яго не было. Таму і замуж згадзілася пайсці за Мечыслава пад націскам маці, што не бачыла вялікай розніцы паміж тымі хлопцамі, якія патэнцыяльна маглі стаць яе мужамі. Прамінула шмат гадоў, перш чым лёс звёў яе нарэшце з Касьянам. Аднойчы летам яна ўбачыла афішу, на якой была выява барда з гітарай. Яна спынілася перад ёю, і сэрца закалацілася ад хвалявання. Гэта быў той самы хлопец, прыснёны ў васямнаццаць гадоў. «Касьян Цымбалевіч. Аўтарскія і народныя песні, рамансы», — прачытала яна. Зірнула на дату. Канцэрт меўся адбыцца на наступны дзень у Палацы культуры шыннікаў, а таксама ў санаторыі, які знаходзіўся на Бярэзіне, побач з Бабруйскам.

Яна, супрацоўнік раённай газеты, мела магчымасць без білета наведваць культурныя мерапрыемствы, якія адбываліся ў горадзе. Сядзела ў шумлівай зале і з хваляваннем чакала барда. Людзі пачалі нецярпліва пляскаць у ладкі. Шырма рассунулася, на пустую сцэну з-за кулісаў выйшаў прыгожы малады мужчына з хвалістымі светлымі валасамі і сінімі вачамі. Ён пакланіўся, пашчыпаў струны гітары і пачаў спяваць. Голас у яго быў прыемны, мяккі, такім бы спяваць калыханкі. Здавалася, што бард рухаўся ў прасторы гукаў, чутных толькі яму. Ягоныя жэсты, поступ, позіркі падпарадкаваліся дзіўнаму рытму. Ада не магла адарваць ад спевака вачэй, і яшчэ не розумам, а падсвядома разумела: менавіта гэтага чалавека яна кахала з таго самага моманту, як убачыла Лятаўца ў сне.

Калі прагучалі апошнія акорды, слухачы, зачараваныя спевамі, колькі хвілін маўчалі, а потым зала ўзарвалася магутнымі воплескамі. Нецярплівыя дзяўчаты пабеглі на сцэну з кветкамі. Спявак галантна цалаваў ім ручкі і дзякаваў. Ада тым часам накіравалася за кулісы. Там яна сустрэла Касьяна. Ён нёс бярэмя букетаў, убачыўшы яе, спыніўся. Яна сказала яму, што з’яўляецца супрацоўнікам мясцовай газеты і што ўражаная яго выступленнем і хацела б узяць інтэрв’ю, каб шырэй расказаць пра яго чытачам.

— Аглядальнік? Хочаце мяне агледзець? — іранічна пасміхнуўся бард. Ада сумелася ад пачутага. — Праз гадзіну ў мяне яшчэ адна сустрэча ў клубе санаторыя. Можа, толькі пасля таго пагутарым, — дадаў ён.

— Добра, — згадзілася яна.

— А ведаеце што, пачакайце хвілінку, я збяру рэчы, і на маёй машыне паедзем на новую сцэнічную пляцоўку. Што ж гэта я кветкі трымаю? Гэта вам…

Ада адхіснулася, прамовіла:

— Не трэба! Гэта ж вашы кветкі!

— А куды я іх падзену? У гасцініцу павязу ці што? Бярыце, вам яны вельмі пасуюць.

Ада прыняла кветкі, паклала іх на абшарпаны стол, што стаяў за кулісамі, склала з іх, калі Касьян выйшаў з грымёркі, гожы акуратны букет.

Калі ён неўзабаве вярнуўся, Ада ўжо трымала той букет у руках.

— Якое хараство! Давайце я вазьму вас на працу кветканосцам! — пажартаваў ён.

— Згодная, — адказала Ада, ледзьве хаваючы хваляванне.

Вельмі ж недасяжна прыгожы быў гэты чалавек. У Ады, як яна лічыла, была сціплая знешнасць: сярэдні рост, звычайны круглы твар з дробнымі рысамі, зялёныя вочы, каштанавыя валасы. Але на яе звярталі ўвагу хлопцы, можа, таму, што было ў яе паставе, вачах, аблічы нешта ўзнёслае, рамантычнае.

— У такім разе едзем у санаторый, будзеце яшчэ і маім навігатарам, бо ў вашым горадзе я ўпершыню, — прапанаваў Касьян.

— З задавальненнем. Паедзем туды, — Ада ўзмахнула рукою, паказваючы напрамак і не ўтрымалася, каб не спытаць. — Ці даўно вы выступаеце?

— Ды ўжо гадоў пяць.

— Шкада, што раней да нас не прыязджалі. Гледачы атрымалі вялікае задавальненне. Я — таксама.

— Дзякуй, — адказаў Касьян, на імгненне адрываючы позірк ад дарогі. — Калі адчуваеш, што твая праца прыносіць радасць людзям, што ты — не проста блазан на сцэне, які выйшаў павесяліць публіку, а крануў іхнюю душу, самыя патаемныя струны, дык жыццё набывае сэнс.

— Дзе ваша сталае месца працы?

— У гродзенскай філармоніі, а раней сам па сабе трэнькаў.

— Не кажыце так. Вы цудоўна спявалі і ігралі. У вас нават прозвішча музычнае.

— Усе мае дзяды і прадзеды займаліся тым, што рабілі цымбалы, гуслі, скрыпкі ды гралі на гэтых інструментах на вяселлях. Адсюль і прозвішча пайшло. А я выбраў гітару як найбольш папулярны інструмент. Але ёсць у мяне задума сабраць аўтэнтычны аркестр з традыцыйнай дудою, барабанам з бразготкамі, скрыпкаю ды цымбаламі. Як грымнем разам, дык увесь свет заскача. Толькі вы пра маю мару не пішыце, бо не здзейсніцца.

— Як жа можна не сказаць пра мару?

— Можна напісаць, што мару яшчэ раз наведаць ваш горад. А якія тут ёсць славутыя мясціны?

— Найперш — крэпасць.

— Ведаю, учора паразглядваў бастыёны, пахадзіў па сутарэннях. Цікава, ці ёсць якія адметныя факты, якія датычацца гісторыі крэпасці?

— Ёсць звесткі пра так званы «Бабруйскі план», прыдуманы дзекабрыстамі Мураўёвым-Апосталам і Бястужавым-Руміным, якія ў той час камандавалі Палтаўскім і Чарнігаўскім палкамі ў крэпасці. Яны хацелі ўзяць у закладнікі цара Аляксандра Паўлавіча, які меўся наведаць Бабруйск у 1823 годзе. Потым мелі намер рухацца на Пецярбург разам з высокапастаўленым палонным. Гэтую задуму аспрэчыў Пестэль. І яна не здзейснілася. Цар без прыгод агледзеў Бабруйск, крэпасць і ад’ехаў. Потым, як вы ведаеце,

дзекабрыстаў-зачыншчыкаў павесілі, вось такая гісторыя. Яшчэ кажуць, што ёсць пад крэпасцю шмат падземных хадоў, але я ніколі не адважвалася хадзіць па падзямеллях, і, думаю, там ужо ўсё завалена.

— Цікавая інфармацыя, — адзначыў Касьян.

— Вось мы і на месцы, — сказала Ада, калі пад'ехалі да транспартнай стаянкі.

Да будынка санаторыя, узведзенага ў стылі архітэктуры сталінскіх часоў, вяла сцяжына, абсаджаная дрэвамі, кустоўем і кветкамі. Касьян прыпаркаваў машыну. Ада паклала кветкі на сядзенне, выйшла з салона, і яны разам падаліся да адміністрацыйнага корпуса.

Потым Касьян зноў спяваў. Ада не магла наслухацца і нагледзецца на яго. І ўсё думала, як жа ёй цяпер жыць без гэтага чалавека? І для чаго нейкія вышэйшыя сілы паказалі ёй яго, на пакуту ці на шчасце?

Пасля канцэрта работнікі санаторыя запрасілі Касьяна і Аду ў пакой пры сталоўцы на вячэру. Было там і віно, але Касьян спаслаўся на тое, што за рулём піць сабе не дазваляе. Прысутныя выпілі за сустрэчу, пажадалі поспехаў спеваку, а ў дарогу далі цэлафанавы пакунак і цёпла развіталіся з гасцямі. Ада зноў несла кветкі, хоць іх было і не так шмат, як на папярэднім выступленні.

— Куды паедзем? — спытаў Касьян, заводзячы машыну.

— Не ведаю, — адказала яна. — Вам, мусіць, трэба было б адпачыць, а я навязалася са сваім інтэрв'ю.

— Адпачну, паспею. Можа, пасядзім дзе-небудзь на беразе ракі? Яшчэ віно пракісне.

— Дык вы ж за рулём…

— Ёсць такі нюанс. Добра, давайце пакінем машыну дзе-небудзь, а самі пойдзем на рэчку. Люблю глядзець на ваду. Яна мяне супакойвае.

— Можна і так, — адказала Ада, адчуваючы, што не хоча расставацца з Касьянам.

А потым яны сядзелі на беразе ракі. Пачало ўжо змяркацца. На тым баку быў поплаў, застаўлены стажкамі сена.

Ля іхніх ног плёскаліся хвалі, кусты вербалозу хісталі галінамі і паласкалі іх у вадзе пад лёгкім ветрыкам. Навокал панавала прыемная вечаровая цішыня, калі ўсё жывое рыхтуецца да сну.

Касьян дастаў з пакета віно, адкаркаваў бутэльку, прапанаваў крыху выпіць. Яна згадзілася, і яны пілі віно з бутэлькі. Над імі было зорнае жнівеньскае неба, з якога час ад часу падалі знічкі. Ада забылася пра ўсе свае абавязкі і турботы, час спыніўся, быццам яна трапіла ў месца з найвялікшай гравітацыяй, дзе законы дзейнічаюць не так, як звычайна на зямлі. Касьян, мабыць, адчуваў, што зачараваў дзяўчыну, ягонай душою таксама запанавала ўзнёсласць і натхненне, самы час пісаць вершы. Ён сказаў пра дзіўнае адчуванне, якое аднойчы перажыў:

— Не ведаю, сон ці ява, але мне здаецца, што я не нарадзіўся, а зляцеў аднойчы з неба, згарнуўся клубком — і падаў уніз.

— Вы — Лятавец, самы сапраўдны Лятавец. Я гэта зразумела адразу, калі ўбачыла вас на афішы.

— Лятавец? Гэта хто такі?

— Лятаўцы — персанажы славянскай міфалогіі. Яны ў выглядзе зорак злятаюць на зямлю, ператвараюцца ў людзей і жывуць, колькі здолеюць. У іх залацістыя валасы, сінія вочы, яны вельмі прыгожыя.

— Не, мяне нарадзіла звычайная зямная жанчына, хіба мо ў цела немаўляці ўсялілася душа Лятаўца, — разважліва прамовіў Касьян.

— Адкуль бярэцца ваша музыка? Вы яе ствараеце, ці яна уладарыць вамі?

— Безумоўна, гук першасны! Ён існаваў да мяне. Але я, калі дакранаюся да гітары, хачу адчуць яе настрой, каб напоўніць свет гукамі. Нашы душы тады гучаць суладна з інструментам. Можа, зусім не так заспявае яна, як мне чакалася, але я ведаю, што струна нарадзіла гук, якому патрэбна было нарадзіцца. А за ім выбудоўваецца музычная прастора з мноства новых гукаў, дзеля якой і выходзіць музыка на сцэну, а зала напаўняецца слухачамі. І тады час быццам запавольваецца. Прынамсі, мне здаецца, што дзве гадзіны канцэрта пралятаюць, як дваццаць хвілін.

— Ці можна спасцігнуць загадку музыкі?

— Мабыць, гэтая задача не мае рашэння. Тайна музыкі — не пошук універсальнага адказу, гэта шлях да мэты, якая ляжыць за межамі чалавечага жыцця і разумення. Яе нельга дасягнуць, можна толькі наблізіцца, што і складае сэнс нашага існавання.

— Як вам бачыцца ваша далейшае жыццё?

— Хачу быць патрэбным, выконваць сваё прызначэнне. Дакладна ведаю, што недарэмна прыйшоў на Зямлю. Ува мне з маленства жыве адчуванне гуку і слова, што я і спалучаю ў сваіх песнях.

— Вам прыносіць радасць творчасць?

— Так, радасць адчуваю, але занадта часта сутыкаюся з цяжкасцямі, выпрабаваннямі, неразуменнем. Тады супакойваю сябе, што гэта часовая з’ява, і рухаюся далей. Для мяне шмат значыць не столькі прызнанне, колькі быць пачутым і зразуметым, бо гэта патрэбна не толькі мне, а ўсім людзям.

— Вы незвычайны і вельмі прыгожы. Вам з вашай прывабнасцю, мабыць, дзяўчаты не даюць праходу, — захоплена прамовіла Ада, ёй так хацелася пераказаць свой колішні сон, але сумнявалася, ці паверыць ён, яшчэ падумае, што журналістка выдумляе абы-што.

— Ведаеце, мая жонка вельмі раўнівая і нястрыманая, калі што заўважыць, дык будзе на баранкі мне і прыхільніцы.

— У вас і дзеці ёсць?

— Дачка.

— А я так і не адважылася завесці дзіця, хоць даўнавата замужам, нешта стрымлівае мяне ад гэтага кроку, хоць і хочацца…

— Адклад не йдзе на лад…

Ягоныя словы пра сям’ю быццам вярнулі Аду да ўспрымання рэчаіснасці. Яна разулася, увайшла ў ваду, паклала кветкі на ваду і іх падхапіла плынь.

— Гэта ахвяра Бярэзіне, каб помніла нас, — сказала яна, вяртаючыся на бераг.

— Я зразумеў.

— А цяпер мне пара. Вельмі прыемна было з вамі пазнаёміцца. Я напішу тэкст і магу прачытаць вам яго па тэлефоне ці, калі вы не супраць, сустрэнемся яшчэ раз у зручны для вас час.

— У мяне заўтра яшчэ выезд ў буйны калгас, запрашаю паехаць са мной. Яны прышлюць машыну, так што я буду вольны казак.

Ада ўзрадавалася і не прымусіла сябе ўпрошваць. Безумоўна, яна паедзе, каб яшчэ хоць адзін дзень пабыць разам з Касьянам.

У калгасе іх добра сустрэлі, наладзілі вячэру. Старшыня, яшчэ не стары чалавек, адразу пачаў заляцацца да Ады, што выклікала рэўнасць Касьяна. Аду смяшыла такая праява пачуццяў з боку барда. Кахання няма, а рэўнасць ёсць.

Старшыня, хоць і быў на падпітку, але ўзяўся завезці іх у Бабруйск. Ён гнаў машыну на страшэннай хуткасці, а Касьян абдымаў Аду за плечы, паказваючы, што гэта ягоная жанчына. Адзе было прыемна адчуваць ягоную прыхільнасць, яна нават не думала, што з імі можа здарыцца нешта благое. Нічога не магло здарыцца, бо яна нарэшце сустрэла таго чалавека, які ёй быў наканаваны лёсам для шчасця. Сапраўды, яны даехалі да гасцініцы без прыгод. Старшыня галантна і не без шкадавання развітаўся з імі, мусіць, адчуў нейкім чынам і сваю далучанасць да мастацтва.

Пакуль ехалі, Касьяна добра разабрала. Ада ўзялася правесці яго ў нумар, тым больш, што Касьян патрабаваў, каб яна неадкладна прачытала яму тэкст інтэрв'ю.

Яны селі ў крэслы адно насупраць аднаго. Ада пачала чытаць. Касьян уважліва слухаў, згоднаківаў галавою. Пасма залацістых валасоў упала яму на лоб. Ада перастала чытаць, зірнула на яго, пагладзіла па валасах. Ён перахапіў яе руку, пацалаваў пальцы і сказаў:

— Дзякую, гэтак хораша пра мяне ніхто не пісаў.

— Калі вас тэкст задавальняе, дык буду аддаваць у друк. Пакіньце мне адрас, я вышлю вам газету.

Ён прадыктаваў адрас, Ада запісала, але ёй хацелася, каб і ў яго ўсё ж засталіся нейкія звесткі пра яе, таму прапанавала:

— Запішыце мой тэлефон.

Касьян дастаў нататнік, разгарнуў. Ада ўбачыла, што на старонцы запісана дзясяткі два тэлефонных нумароў без імёнаў і прозвішчаў. Яна зразумела: столькі нумароў нельга было трымаць у галаве, ён запісвае нумары таму, што не можа адмовіць, але нікому і ніколі не тэлефануе! Яна для яго толькі адна з мноства іншых жанчын, якія мільгаюць перад вачамі шэрай масай. Мо ў кожным гарадку знаходзіцца не адна такая, як Ада, якая набліжаецца да яго і знікае назаўсёды. Яна прыхавала крыўду, абуджаную здагадкай, пачала развітвацца.

— Пабудзьце са мной. Нешта мне зрабілася самотна…

Ада засталася, пасядзела і пагутарыла з ім. А як сцямнела, усё ж пайшла дамоў. Касьян падаўся яе праводзіць. І тады паўтарыўся сон. Яны на развітанне пацалаваліся пад зорным жнівеньскім сонцам. З неба шчодра падалі знічкі на вялікае іхняе шчасце, толькі яны нічога не заўважалі…

Ада абудзілася ад успамінаў. Зразумела: і далей будзе думаць пра Касьяна, дык не засне да ранку, а затым будзе кляваць носам на занятках. Ёй удалося хутка заснуць, але сярод ночы раптам нехта моцна пагрукаў у дзверы. Яна падхапілася, сэрца хутка-хутка калацілася з перапуду, але не паднялася, голасу не падала, за дзвярамі таксама маўчалі. Падумала, нехта заблудзіўся, пераблытаў пакоі, легла зручней і сцішылася.

## 5

Першы дзень заняткаў, сонечны і цёплы, парадаваў курсантаў і выкладчыкаў. Лекцыі былі ўводныя, усё толькі пачыналася, але Ада з Эмай, якія сядзелі за першым сталом, старанна запісвалі ўсё, што казаў выкладчык. У час перапынкаў хлопцы выходзілі пакурыць, часам да іх далучаліся дзяўчаты, абмяркоўвалі навіны літаратуры, жыццё.

Ада прыглядалася да аднакурснікаў. Сярод мужчын вылучыла афганца Латыфа, смуглага з непраглянымі чорнымі вачамі і правільнымі рысамі твару. Вельмі прыгожы быў Грыша Вепраў, светлавалосы, па-юначы строй-

ны, які ведаў на памяць процьму вершаў і мог у любы момант па-майстэрску пачытаць што-небудзь сваё ці чужое. Да паступлення на курсы ён працаваў у Сібіры ў нейкай філармоніі як спявак і чытальнік. Сімпатычнай выдавала Агнія Дымава, у вельмі акуратна пашытай уласнымі рукамі сукенцы. Ада высока ацаніла яе выраб, бо іншы раз таксама нешта бралася сабе шыць, але ці швы ў яе аказваліся занадта перацягнутымі, ці нешта кроілася не надта ўдала, рэдка калі заставалася задаволеная тым шытвом.

Эма яе проста зачаравала выхаванасцю і ўвагаю. І ў першы ж дзень прапанавала наведацца на Чыстыя Пруды, дзе некалі жыў Міхаіл Булгакаў. Пасля заняткаў яны няспешна пайшлі па вуліцы. Ада заўважыла галантарэйную лаўку і прапанавала зайсці. Памяшканне было маленькае, але набітае розным дробным таварам: ніткамі, стужкамі, напарсткамі, іголкамі. Ада звярнула ўвагу на карункі, прыцанілася, набыла два метры і сказала:

— Куды-небудзь прышыю.

Выйшлі з крамы і сутыкнуліся з Наінай Андрыянаўнай.

— Гуляеце, дзяўчаты? — спытала яна.

— А вы куды? — пацікавілася Эма.

— У гастраном купіць якіх харчоў.

— Ахвота вам цягнуць адсюль харчы, у вас жа Басманны рынак пад бокам.

— Ніколі не хаджу на рынак. У тым раёне мой былы муж жыве, не хачу з ім сустракацца.

— Чаму вы развяліся? — спытала Ада.

— Смешная гісторыя. Мы з ім жылі і не мелі дзяцей. Дактары казалі, што ён бяздзетны. А тут раптам ягоная сакратарка зацяжарала. Ён ёй паверыў і пайшоў да яе. Вось і ўсё. З таго часу мы з Віктарам не бачыліся.

— Вы вельмі перажывалі? — спачувальна спытала Эма.

— Спачатку трохі бедавала, а пасля палюбіла і ацаніла волю. Куды хачу паеду, куды хачу пайду, калі хачу вярнуся. Можа, толькі трохі шкадавала, што не мела сваіх дзяцей. Але ў мяне столькі было курсантаў, бездапаможных, як дзеці, што ім я аддавала душу і вольны час. Шмат хто з былых выхаванцаў тэлефануе мне, заязджае, гэта прыемна. З працаю мне пашанцавала. Я ж нават дысертацыю напісала. Магла б падацца ў выкладчыкі, лекцыю прачытала — і вольная! А мне гэтага мала. Хацелася працаваць з людзьмі і дзеля людзей. Тое мне Бог і даў… Ну, шчаслівa. Мне на той бок, — сказала Наіна Андрыянаўна, узмахнула рукою на развітанне і пашыбавала да пераходу.

Эма вяла Аду па старых вуліцах, расказвала пра маскоўскае жыццё, распытвала пра Бабруйск.

— У мяне там засталася маці, — уздыхнула Ада. — Жыве яна на ўскрайку горада ў сваёй хаце. Бацька загінуў у аварыі, разбіўся на матацыкле з сябрам, малады яшчэ быў. Вось так мы і жывём як бы ў горадзе, але па-вясковаму, садзім грады, трымаем курэй, парася, іншы год дык і качак разводзім, але яны занадта пражорлівыя.

— А муж? Ты ж замужам, Наіне Андрыянаўне казала.

— Муж аб’еўся груш. Не пускаў мяне сюды, мы пасварыліся, а што будзе далей, час пакажа.

— Муж ды жана — адна сатана. Перамелецца…

— Ды я не бядую, жыву адным днём. Мне добра тут. І гэтага дастаткова. Між іншым, Чыстыя Пруды ў сярэдневечча называліся Паганым стаўком, мусіць, тут былі язычніцкія капішчы. Таму і ўбачыў Булгакаў тут розную нечысць.

Эма здзіўлена зірнула на Аду і спытала:

— Адкуль ведаеш?

— Чытала… У сярэдзіне XVI стагоддзя тут знаходзіўся Літоўскі двор, куды прыязджалі прадстаўнікі Вялікага Княства Літоўскага. Яго тэрыторыя была агароджана высокім плотам, ахоўвалася царскімі вартаўнікамі, так што жыццё паслоў трохі нагадвала існаванне вязняў. Нашы купцы прывозілі тавары на знарок створаныя Панскія і Смаленскія іншаземныя гандлёвыя рады, бо і Смаленск тады быў яшчэ ў складзе ВКЛ. Туды наведваліся не толькі маскавіты, але з'язджаўся люд з ваколіц. У лютым 1584 года сюды прыбыў дваццацісямігадовы Леў Сапега на чале вялікага пасольства, згодна са звычаямі таго часу прывёз у падарунак Івану Грознаму пародзістых коней з пазалочанай вупражжу, пістолі, срэбны посуд ды іншыя скарбы. Зараз ужо дакладна не помню, што там было яшчэ. Дамову падпісаў, дзякуючы прыроднаму розуму, эрудыцыі і выхаванасці…

— Цікавішся гісторыяй? Дык пішы творы пра гэта.

— Так, цікаўлюся. Можа, калі і напішу...

Непрыкметна яны прыйшлі да сажалкі з мутнай вадою, спыніліся, Эма паказала на будынак насупраць:

— Тут жыў Булгакаў. Можам зайсці ў пад'езд.

Расчынілі дзверы, увайшлі ў паўцёмную прастору лесвічнай пляцоўкі, убачылі сцены, спісаныя спрэс прыхільнікамі вялікага празаіка.

— Што робіцца! — ахнула Ада. — Гэта трэба так спаскудзіць жытло! Эма, калі-небудзь і твой пад'езд такім чынам размалююць!

— У нас дамафон, не атрымаецца. Пайшлі, пастаім ля дзвярэй. Калі яшчэ сюды збяромся…

Яны падняліся па прыступках, пастаялі на пляцоўцы. Ада падумала, што жыў на свеце выдатны пісьменнік Булгакаў. Але розныя палітычныя і сацыяльныя акалічнасці не дазвалялі яму існаваць вольна і шчасліва, п'есы не ставілі, кніжкі не выдавалі. А пасля, калі ён памёр, успомнілі, пачалі ствараць кінафільмы і ставіць п'есы, кніжкі выдаваць. Хоць бы хто яму на той свет занёс гэтую радасць! Сказала Эме:

— Шкада пісьменнікаў, якіх не любілі і не прызнавалі пры жыцці. Калі б ім стварылі спрыяльныя ўмовы, колькі б яны напісалі!

— Не думаю, — запярэчыла Эма. — Ведаю па сабе. Пакуль я была маладая, мела шмат праблем, тады і кніжкі пісаліся. А цяпер усё выдатна! Сям'я забяспечана, муж — добры чалавек, сын уладкаваны, а не пішацца. Спакойна і ціха на душы, быццам у калодзежы, дзе даўно ваду не чэрпалі.

— Лічыш, што пісьменніку патрэбны цяжкасці, што ён, як некаторыя кажуць, павінен быць галодны?

— Хоць і не хочацца мець асаблівых жыццёвых непрыемнасцей, але выходзіць, што без іх няма творчасці, няма моцных пачуццяў. Я іншы раз проста вар'яцею, гатовая нешта бязглуздае ўтварыць, каб узварушыць дрыгву будзённасці.

— Дзе вы бываеце, можа, на прыроду выязджаеце?

— Ездзім на дачу, смажым шашлакі і гуляем у карты.

— А грады?

— Не, мы на такія подзвігі не здатныя!

— Прынясі мне, калі ласка, пачытаць сваю прозу, — папрасіла Ада.

— Добра. А ў цябе што? Толькі вершы?

— Ёсць некалькі апавяданняў і дзве аповесці, але ж яны напісаны па-беларуску.

— А ты перакладзі што-небудзь…

— Добра, паспрабую…

Ада з Эмаю накіраваліся да станцыі мерто, па прыступках спусціліся да платформы і разышліся. Адразу з грукатам падкаціла электрычка, Ада ўвайшла і паімчала ў новае сваё жытло, да якога вельмі хутка прызвычаілася. Гайдаючыся ў вагоне, яна падумала, што пасля заняткаў застаецца вольны час, можна хадзіць у гістарычную бібліятэку і шукаць цікавыя матэрыялы, што датычацца Беларусі. Маскву яна яшчэ разгледзіць, два гады наперадзе! На бліжэйшы час трэба было сабраць падборку вершаў, зрабіць падрадкоўнікі на рускай мове, каб падрыхтавацца да абмеркавання на секцыі паэзіі. Для гэтага варта ўзяць напракат пішучую машынку, не валачы ж яе з дому. А мо ў каго з хлопцаў ёсць тэхніка? Але ж не хацелася ад некага залежыць, трэба разлічваць толькі на сябе і самой спраўляцца з уласнымі праблемамі.

Пасля вячэры яна ўзялася пераглядаць новыя вершы. Усё, што пісалася ў апошнія гады, было звернута да Касьяна ці апавядала пра яе пачуцці і перажыванні, надзеі і расчараванне, чаканні і спадзяванні на шчаслівыя сустрэчы яшчэ і яшчэ… Пасля той самай першай сустрэчы з ім, яна паслала яму артыкул, але адказу доўга не было.

Ада не вытрымала і патэлефанавала. Мусіць, дома ён быў не адзін, бо адчувалася напружанасць у голасе. Плёў нейкую лухту, што на рыбалку не можа паехаць, бо ў яго рэпетыцыя і гэтак далей. Ада спытала, ці атрымаў ён яе ліст, ён адказаў коратка:

— Так.

Яна развіталася, паклала трубку і заракласся больш не тэлефанаваць. Няхай жыве сабе чалавек, няхай будзе шчаслівы з уласнаю сям'ёю. Мусіць, спазнілася Ада з ім сустрэцца, а цяпер ужо нічога не папраўіш. Аднак пад самы Новы год усё ж прыйшоў ад Касьяна ліст, ёй захацелася перачытаць яго цяпер. Яна дастала са стала спісаны і згорнуты аркуш паперы, выпрастала яго і пачала чытаць шэптам:

«Добры дзень! Даруй, калі ласка, што не адгукаўся, схіляю галаву сваю грэшную да ног тваёй літасці. Даруй. Бо пісаць лісты для мяне — пакута цяжкая. Сядзіш за сталом, як ёлуп, і думаеш, як сказаць тое, што хочацца, бо думка не сказаная — яшчэ не думка. А думка сказаная, тым больш напісаная, яшчэ не ўся думка — вось і пакутуеш. А раптам цябе не так зразумеюць.

Дзякуй за артыкул, усё выдатна напісана, нават лепш, чым я сам пра сябе думаю. Навін асаблівых у мяне няма — жывём, хлеб жуём ды неба капцім. Так, калатуша нейкая, а не жыццё. Апошнім часам напісаў некалькі добрых вершаў і больш нічога — сумна і холадна.

Яшчэ раз даруй за доўгае маўчанне. Не хацеў цябе пакрыўдзіць, так атрымалася. А гэта табе плён майго доўгага роздуму:

Мне помніцца бераг празрыстай ракі,
Зялёныя вочы, рамонкавы бераг.
Нябачна ў нябёсах пяюць жаўрукі,
Воля і шчасце — без меры, без меры!

Мне трызніцца смеху твайго вадаспад
І ўздых (ад чаго — невядома) працяжны.
Мы поруч, з'яднаны пустэльняю страт,
Між намі кахання агонь недасяжны.

Згарае усё, успамінамі — попел,
Ды ў сэрцы — вачэй тваіх жаўрукі.
Я помню рамонкавы бераг і поплаў…
Даруй, Уладарка празрыстай ракі.

Дазволь павіншаваць цябе з надыходзячым Новым годам. Плёну і шчасця! Касьян Баламут. Яшчэ раз даруй. З твайго дазволу цалую тваю гжэчную ручку. Да пабачэння».

Калі Ада атрымала гэты ліст, дык здзівілася, чаму «недасяжны агонь кахання», калі яна кахае яго, а ён — яе? За што просіць даравання? Што хацеў сказаць? Адны загадкі. Сапраўды, цяжка зразумець чалавека правільна, калі ён сам сабе баіцца праўду сказаць. Ада кахала, але не спяшалася навязвацца са сваімі пачуццямі, спадзявалася, што Касьян, якога яна найчасцей называла «мой Лятавец», летам прыедзе зноў і тады яны разбяруцца з пачуццямі.

**6**

Касьян сапраўды прыехаў у жніўні, папярэдне патэлефанаваў ёй у рэдакцыю, а потым яны сустрэліся ў гасцініцы. У ягоным нумары працаваў тэлевізар. Касьян уладна абняў Аду. Дыктарка прамовіла:

— Мужчына ёсць мужчына.

Так супала. Было незразумела, чаму яна гэта прамовіла? Але Касьян парывіста выключыў тэлевізар і абхапіў Аду за плечы.

— Як жа я засумавала па табе, Лятаўчык мой! — прашаптала яна.

— Сумаваць не варта, мы ўсё дагонім. У нас цэлае жыццё наперадзе.

— Цяжкая справа — усё жыццё даганяць ды чакаць, — засмяялася яна. — А нельга неяк проста жыць, нічога не даганяць і не спаганяць?

— Мусіць, можна, толькі ў мяне не атрымліваецца. Хочацца шмат паспець, — сказаў ён, яшчэ мацней прытуліў да сябе жанчыну і доўга цалаваў.

Яна адказвала ўзаемнасцю, гэта былі хвіліны любасці, пра якія яна марыла, аднак, не да канца перакананая ў ягоных пачуццях, спытала:

— Ці кахаеш мяне?

— Анягож, — адказаў ён адным словам, і яна паверыла яму, бо прагнула пачуць прызнанне, няхай сабе і так.

Потым было мілаванне, захапленне і пяшчотныя словы. Ён называў яе ластавачкай і сонейкам, чаго яна ніколі і ні ад кога не чула, што западала ў душу і заставалася там назаўсёды, як памяць пра лепшы час жыцця. Упершыню Ада адчула сябе часцінкаю другога чалавека, свайго Лятаўчыка. І гэта было дзіўна, бо такога адчування ніколі не перажывала.

Праз тры дні Касьянавы справы былі скончаны, ён адвыступаў, адспяваў і паехаў. Ада адразу напісала яму, паслала новыя газетныя нататкі пра ягоныя песні і талент. Дарэмна чакала званка ці ліста. Толькі аднойчы выпадкова ўключыла тэлевізар і ўбачыла яго з гітарай, ён спяваў і чытаў вершы. Яна падумала тады, што, мусіць, магла б усё жыццё праседзець ля тэлевізара, каб толькі глядзець на яго:

— Лятавец мой, Лятавец. Дзе ж ты лётаеш? Чаму ніколі не згадваеш пра мяне?

Яна набралася адвагі і патэлефанавала сама, сказала, што глядзела па тэлебачанні перадачу з ягоным удзелам, і вельмі ёй спадабаліся вершы. Пагутарылі нядоўга, бо Касьян некуды спяшаўся. Яна папрасіла напісаць ёй доўгі-доўгі ліст, ён паабяцаў і ўсё ж напісаў. Толькі давялося ёй чакаць некалькі месяцаў.

«Дзень добры, Сонейка, Сонейка-Слязінка!

Вось і пачаў гэты доўгі-доўгі ліст. Праўда, не маю пэўнасці, ці скончу сёння. Хаця і так затрымаўся з ім аж занадта. Даруй. Праўда, парываўся, але

то тое, то гэта, адным словам — нечага не хапала. А можа, таму што я ўсё-ткі эгаіст, атрымаў ад цябе вестачку з аўраю дабрыні і любові і сяджу, як той англійскі лорд, маўляў, мне добра, дык, пэўна, добра і ўсім.

Маўчанне, маўчанне, заснула душа, а мо і не прачыналася. Жыццё складаецца з суцэльнай бязладнай мітусні. Займаешся чорт ведае чым, толькі не сваёй душою. А яна ж птушка далікатная, паганяць цябе не будзе. Сядзі, куме, можа, высядзіш трасцу з халераю. Пі гарэлку, калі надта прыцісне, марнуй час.

Я ведаю, як цяжка жыць і помніць пра смерць, і ведаю, што іншага шляху няма, і ўсё-ткі жыву, як гарох пры дарозе. А засталося ўсяго нічога, агарак свечкі… Запаленай… Кім? Куды іду? Куды вядзе дарога? Як сплаціць тыя паскудствы, да якіх прычыніўся? А поўня вісіць над светам, як бубен, грукае па сэрцы: плаціць, плаціць. У гэтым свеце за ўсё трэба плаціць, нават за знічку, якая ляціць не ў тваё далоні… За позірк… Значыць, усё залежыць ад таго, якімі вачамі ты глядзіш на гэты свет. Заблудзіўся, закруціўся з высалапленым языком, з няўцямнымі вачыма подбежкам шыбую да ямы, у якую буду падаць усю рэшту вечнасці. І сапраўды, без'языкі звон гайдаецца над галавою. Бом. Бом. Толькі аглухлы ўсё адно нічога не чуе. Бом. І паляцела пясчынка часу няўзнак ператварацца ў валун. Бом — і канат, які звязвае цябе з гэтым жыццём, выцягваецца ў тоненькую нітку. Бом! І замест торнай дарогі — балота! А ўсё ж насуперак усяму подбегам, подбегам…

Бывай здаровенькая, купальская заранaчка».

Ада чытала, перачытвала гэты ліст і не знаходзіла нічога, чым магла б наталіць сваё каханне, каб яно расло і дужэла, каб імклівай ракой поўніла істоту. Гэта быў ліст ні пра што, каб толькі адчапіцца ад надакучлівай жанчыны. Ён здаволіўся яе каханнем, яна для яго толькі адна з мноства іншых, якія, магчыма, таксама дамагаюцца ягонай увагі.

Яна адступілася. Паміж імі ўсталявалася доўгае маўчанне, пакуль выпадкова не сустрэліся ў Вязынцы, дзе ладзілася свята паэзіі. Сутыкнуліся твар у твар і хвіліну стаялі, быццам не пазнаючы адно аднаго ў дзіўным утрапенні. Пасля загаварылі разам, спехам, жартамі ды смехам. А праз колькі хвілін разышліся ў розныя бакі, бо Касьяну трэба было напрыканцы дня выступаць, спяваць песні ды чытаць вершы, а ёй шукаць спадарожны транспарт і памалу дабірацца ў Бабруйск. Адчуваючы віну за тое паспешлівае развітанне, ён прыслаў ёй яшчэ адзін ліст:

«Добры дзень, Зара-Зараніца! Шкадую, што так бязглузда, так недарэчна развітаўся з табою. Некуды бег, некуды спяшаўся, так хацелася шмат што сказаць, а слова далі, калі ўжо і людзей амаль не было... І цябе — таксама...

Цяжка... Дайшоў да нейкай мяжы, да глухога раздарожжа, а тут яшчэ «прэласці» сямейнага жыцця. Я не скарджуся. Мой дзед казаў: «Кожны мае тое, што заслужыў».

А далей быў верш, дзе лірычны герой звяртаўся з любоўю да невядомай жанчыны, называў планетаю любові і недасяжнаю зоркаю. Але Ада ўжо не хацела думаць, што гэтыя параўнанні тычацца яе, не хацела верыць радкам хаця б таму, што Касьян не напісаў, што прысвячае іх ёй. Можа, ён проста хацеў паказаць ёй свой новы твор.

Трывожны дзень, ашчодраны дажджом.
Ты адплыла планетаю любові,
Адцятая бязлітасным нажом
Сляпога лёсу… Божа, што з табою?

Шалёны вецер. Скроні студзіць золь.
Маўчыць прастор. Заві — не дазавешся.
Як балагол за мной вандруе боль,
Брыдзе услед па гарадах і весях.

Каго люляюць рэкі добрых рук?
Каму світае светлае прадонне
Душы тваёй?.. Гудзе настылы брук.
Золь-літасцівіца суцешыць і прыгорне.

Над раздарожжам лёсаў і надзей
Палае зорка, што была табою.
Самотны, я малюся на цябе,
Планета запаветнае любові.

Яна падзякавала яму за ліст, паслала некалькі сваіх новых вершаў, але адказу не атрымала. На наступнае лета Касьян не прыехаў. І яна зразумела, што зорка яе душы назаўсёды згасла на ягоным небасхіле, перастала існаваць. Яе ахапіла дэпрэсія, не хацелася ні працаваць, ні варушыцца. Адзінае, што змагла, дык напісала спавядальныя радкі не для друку, сабе:

Зноў цемрай знішчана святло,
А смерць зацягвае сіло
Ды кліча йсці за ёю ўслед,
Каб сэрцу смуткам не смылець,
І абяцае вечны рай.
Памры і болей не ўмірай!
Ні звад, ні бедаў, ні пакут,
Увесь цяжар пакінеш тут…
Так лёгка крок у крок ступіць.
Жыць ці не жыць?..

Яна ўяўляла, як яе будуць хаваць, як збяруцца калегі, знаёмыя, суседзі, толькі Касьяна між іх не будзе. Ён нават не даведаецца, што яна памерла. Гэта спыняла яе. Як жа можна памерці і не развітацца з ім? «Ах, Лятавец, колькі тугі прынёс ты мне? Навошта ў нябёсы паклікаў, а потым пакінуў на грэшнай зямлі?» — з горыччу думала яна і трывала з апошняй сілы. Калі боль станавіўся невыносны, зноў прыходзілі страшныя думкі:

Даўно ўжо мне няма куды ўцякаць,
Няма куды схаваць гаркоту думак.
Трымаю лёс, як амфару ў руках,
Разглядваю з усмешкаю і сумам.
Што там, на дне? Дапіць ці пачакаць?
А голас глухне ў малітоўным тлуме.
Трымаю лёс, як амфару ў руках,
Разглядваю з усмешкаю і сумам…

Нарэшце ўсё ж знайшла выйсце, зразумела: трэба нешта мяняць, нельга хаваць сябе зажыва. Вось і наважылася паехаць вучыцца ў Маскву, тады і паклікала яго з сабою.

Ён не адказаў на яе ліст. Яна зразумела, што яму ейная прапанова не спатрэбілася і больш не турбавала, нічым не нагадвала пра сябе. Толькі калі ў ліпені атрымала паведамленне, што залічана на курсы, паслала Касьяну паштоўку, павіншавала з днём нараджэння і паведаміла, што едзе вучыцца. Дзіва дзіўнае — атрымала адказ.

«Дзень добры, Сонейка!

Атрымаў тваю паштоўку. Яна такая шчымлівая і сонечная і адпавядае майму настрою. Дзякуй!

Зайздрошчу табе, цэласнасці тваёй натуры. Змагла вырвацца з такога цёплага балота паўсядзённасці, працуеш, спеліш душу, імкнешся да мэты. А ў мяне не атрымліваецца так, за два гады нашкрабаў адзін вершык — вось і ўвесь набытак.

Самотніка чакала кара
Наканавання
Быць толькі сведкам
І рабом свайго маўчання.

Нядаўна сустракаўся з сябрамі, трохі мы перабралі за сталом, палезла з нас брыдота. А раней мы так добра разумелі адно аднаго. Мяняецца час і мяняе нас. Вось такая «геніяльная» выснова. Зазвычай я не п’ю, а тут як з ланцуга сарваўся. Цяпер разумею, што ўсё можна было зрабіць па-іншаму, але, мусіць, планіда ўжо такая. Не так даўно мне трапілася на вочы цытата, здаецца, Канфуцыя: «Усё будзе так, як будзе, нават, калі будзе не так». Бачыш, цягне мяне на філасофію, можа, у гэтым вінаватая твая паштоўка, бо сяджу і пішу гэты ліст, гледзячы на яе. Згадваю Вязынку, Бабруйск, Бярэзіну і цябе над ёю… Даруй асталопу. Плёну табе. Да пабачэння».

Гэты ягоны ліст быццам абяцаў працяг адносін, таму і думала Ада пра Касьяна ў Маскве, хоць і забараняла, адгаворвала сябе, але не здолела перасіліць парыванне. Напісала яму ліст да запатрабавання, расказала пра першыя дні вучобы, паведаміла адрас і тэлефоны, па якіх яе можна адшукаць. Спадзявалася, раптам знойдзе магчымасць і прыедзе да яе ў Маскву хоць на дзень. Якое гэта было б шчасце — пахадзіць па горадзе, пагутарыць, наслухацца і нагледзецца на яго! На ўсялякі выпадак праз тыдні два яшчэ і патэлефанавала яму, папярэдзіла, што ліст чакае яго на пошце, але тады нехта быў дома з ягоных сямейнікаў, таму размаўляць доўга не маглі. Ён запісаў адрас і нумары тэлефонаў і развітаўся. Ада засталася чакаць.

Цяпер, перабіраючы ў памяці згадкі, яна з цеплынёю думала пра той час, бо нічога больш светлага і прыгожага не было ў яе жыцці. Безумоўна, першае пачуццё закаханасці яна зведала яшчэ ў школе, але гэта было дзіцячае захапленне, калі з хлопчыкам, які ёй падабаўся, яна нават не адважвалася загаварыць.

Ахопленая успамінамі, Ада доўга не магла заснуць, не ўдавалася спыніць плынь думак, нешта спрабавала рыфмаваць, але бачыла, што атрымліваецца лухта, і пакінула гэты занятак. Варта было ёй задрамаць, як нехта зноў пачаў малаціць у дзверы. «Якому дурню не спіцца? — злосна буркнула сабе, але адчыняць дзверы і не падумала. — Гэта ж якім трэба быць баязліўцам, каб ноччу ўпотай грукаць да жанчыны?..»

## 7

Эма не адразу, а праз некалькі тыдняў прынесла дзве свае празаічныя кніжкі і, аддаючы Адзе, сказала:

— Вось мой скарб!

— Выдатна. Дзякую. Буду па вечарах чытаць.

Ада пагартала кніжкі, паглядзела выхадныя дадзеныя, усё выдавалася ў Свярдлоўску.

— Ты там доўга жыла?

— Так, даволі доўга, ажно надакучыла.

— Безумоўна, у Маскве выдацца лягчэй і наогул…

— Цяпер аднолькавы скрозь заняпад, галоўнае, каб душа была бадзёрая, а гэта, на жаль, далёка не заўсёды ўдаецца.

Перад пачаткам заняткаў, калі ў аўдыторыі сабраліся ўсе курсанты, Ада, якой абрыдлі начныя грукі ў дзверы, выйшла да стала і сказала:

— Калегі, я прашу вас не грукаць у мае дзверы па начах. Не ведаю, хто гэта робіць, але згадзіцеся, што непрыстойна будзіць жанчыну без прычыны. Калі вам нешта трэба са мною абмеркаваць, калі ласка, звяртайцеся не ў такі позні час. Прашу вас не рабіць так. Нечаканы стук не проста будзіць мяне, а палохае.

— Мне таксама грукаюць, — сказала француженка Наталі.

— Так, так, — пацвердзіла югаслаўка Мірыям.

— Бачыце, я не адна ахвяра гэтага хуліганства. Майце сумленне і гонар, паводзьце сябе прыстойна. Калі я аднойчы не палянуюся падняцца, каб адчыніць дзверы, ды пабачу таго героя, дык у той жа дзень напішу скаргі ва ўсе інстанцыі, тады, думаю, яму мала не падасца.

Ніхто з хлопцаў нічога не адказаў і не запярэчыў. Маўчалі, быццам не маюць да гэтага ніякага дачынення. Ада вярнулася да свайго стала і села на месца…

Нейк Наіна Андрыянаўна сказала Адзе:

— У мяне для цябе дзве навіны і абедзве добрыя, — і зрабіла паўзу.

Ада наструнілася, падумала ўсхвалявана, мо Лятаўчык тэлефанаваў і папрасіла:

— Кажыце хутчэй, памру ад цікаўнасці…

— У суботу едзем на экскурсію ў Ясную Паляну ўсёй групай.

— Выдатна! А што яшчэ?

— Тут цябе зямляк шукаў.

— Які зямляк? — насцярожылася Ада, зноў думаючы пра Касьяна.

— Хлопец-завочнік з Мінска, ён і называў сваё прозвішча, ды я забылася.

— Што яму трэба?

— Не ведаю, проста пабачыцца па-зямляцку. Ён жыве ў інтэрнаце літінстытута, рыхтуйся сустракаць госця.

Сапраўды, увечары нехта пагрукаў у дзверы. Ада адчыніла і ўбачыла невялічкага чарнявага кудлатага хлопца з гітарай, які павітаўся і спытаў:

— Дзе ты прападала? Цэлы дзень цябе шукаў.

— Хіба мы раней сустракаліся? — здзівілася Ада.

— Я — Мікола Патапеня з вёскі Марудава. Ты ж мне лісты пісала, кансультавала наконт вершаў.

Ада здагадалася, гэта быў адзін з пачаткоўцаў, вершы якога яна друкавала на літаратурных старонках раёнкі, а часам пасылала яму лісты і раіла, што і як паправіць, каб дацягнуць твор да пэўнага ўзроўню.

— Ну, заходзь, зямляк, расказвай навіны.

Хлопец прайшоў да стала, паставіў гітару, сеў па-гаспадарску зручна і паведаміў:

— Усё выдатна! Удалося вырвацца з вёскі, развітацца з ветэрынарствам. Ажаніўся з мінчанкаю, Міланаю завуць. Жыву пакуль з цешчаю, але, на шчасце, яна амаль увесь час на лецішчы пасецца. Паступіў у літінстытут, прыехаў на ўстаноўчую сесію. Дазнаўся, што і ты тут, вырашыў наведаць.

— Добра, будзем піць гарбату. Я на кухню на колькі хвілін, ты не сумуй.

Ада ўскіпяціла чайнік, заварыла гарбату, зрабіла бутэрброды, паставіла варэнне, цукар, печыва, наліла ў кубкі вару, запрасіла:

— Частуйся, калі ласка, і расказвай, што там у Мінску?

— Нічога асаблівага, тое, што і ў Маскве: чэргі, талоны, дэфіцыт.

— Што пішаш?

— Вершы пакуль, але ёсць задумы і на прозу. Хочаш, раскажу сюжэт, толькі ты не ўздумай красці.

— Бог з табою, нашто мне твой сюжэт? Дам табе параду: ніколі не расказвай пра тое, пра што збіраешся пісаць. Выгаварышся — і стане табе нецікава.

— Можа і так, — пагадзіўся хлопец.

— Але ты і жук! Адзіны раз прапусціла заняткі, дык ты тут жа прыйшоў мяне шукаць! І да каго? Да загадчыцы навучальнай часткі!

— Прабач, я не ведаў, што ты загуляла. Вельмі хацелася пабачыцца. Можа, я табе паспяваю, каб віну загладзіць?

— Паспявай, калі маеш жаданне.

Хлопец узяў у рукі гітару, пашчыпаў струны і сказаў:

— Словы і музыка мае.

— Выдатна. Ты і нотную грамату ведаеш?

— Нашто яна мне? Мелодыю трымаю ў галаве. Бо кожны верш мае сваю мелодыю, ці не заўважала?

Ён зацягнуў сіплаватым голасам нешта невыразнае, трэнькаў па струнах аднастайна. Хіба мог ён параўнацца з Касьянам, у якога гітара ў руках быццам ажывала і выцінала дзівосныя гукі, а сам музыка так рухаўся па сцэне, нібы спраўляў нейкі таямнічы абрад. Ада ўзіралася ў смуглявы твар госця, чорныя вузкія вочы пад калматай чупрынай і думала: «Мала ў ягонай знешнасці славянскага, хіба толькі мова. Найхутчэй атрымалі ягоныя продкі генетычную спадчыну ад качэўнікаў обраў, якія некалі межавалі са славянамі ды збыткавалі з іх. На зіму сяліліся ў сем'ях славян, сілком бралі сабе іхніх жонак і дзяўчат, а пасля з'язджалі, а чарнявыя нашчадкі заставаліся ў славянскім асяродку».

— Мікола, скуль ты родам? — спытала яна.

— З Палесся, — не без гонару адказаў ён, — на Бабруйшчыну мяне накіравалі працаваць ветэрынарам пасля тэхнікума.

— Там, дзе рэчка Обраўка, вёска Обрава ды горад Кобрын — твая радзіма?

— Не, я з-пад Століна.

— Гэта неістотна. Галоўнае, што душа ў цябе беларуская і спяваеш панашаму.

— Ведаеш, я хоць вясковы, у беларускай школе вучыўся, але выветрыліся ўсе веды, пакуль служыў у войску, цяпер даганяю са слоўнікам.

Мікола праспяваў яшчэ колькі песень сваіх і чужых і нарэшце сказаў:

— Мне ў цябе падабаецца. Бадай, заначую…

— Табе няма дзе спаць? — здзівілася Ада, а сама падумала: «Вось калі ў ім обр прачнуўся».

— Ёсць ложак, але аднаму сумна, хацеў бы з табою...

— У цябе ёсць жонка для гэтае справы, — засмяялася Ада.

— Яна дома, а тут не лішняе каля добрай жанчыны пагрэцца.

— Бачу: у цябе на шыі крыжык матляецца…

— Я шчыры вернік праваслаўны…

— Дык чаго ж ты мяне на грэх штурхаеш?

— Які там грэх! Бог сказаў: кахайцеся і размнажайцеся!

— Мне твая задума не падабаецца, ідзі ты, хлопец, па-добраму туды, скуль прыйшоў…

— Слухай, чаму няма гармоніі ў свеце? — спытаў ён. — Чаму я хачу, а ты не?

— А таму, што ты, шчыры праваслаўны вернік, можаш сабе дазволіць саграшыць, потым пакаешся і зноў будзеш рабіць тое самае. А я не хрышчоная, мне нельга грашыць, бо няма перад кім каяцца, толькі перад сабою, а гэта значна цяжэй і страшней, чым перад Богам. Павер мне. Уласнымі згрызотамі можна сябе да смерці давесці.

— Дык ты мо і ў Хрыста не вырыш?

— Якая табе розніца, у што я веру?

— Хрыстос быў, навукова даказана!

— Ці мала што, Мікола, было. Мо і ты яшчэ святым угоднікам станеш. Зрэшты, ні даказаць, ні абвергнуць існаванне Бога немагчыма. Кожнаму чалавеку патрэбен хаця б уяўны абаронца. А з другога боку, калі нейкая вышэйшая сіла існуе, дык выглядае яна далёка не так, як уяўлялі сабе мастакі — з барадою ды вусамі… Людзі стварылі сваіх багоў падобнымі да сябе, а не наадварот. Разумееш?

— Калі жанчына пачынае філасофстваваць, мне робіцца сумна, бо як ветэрынар я добра ведаю яе сапраўднае прызначэнне. Пайду лепш да дзяўчат на свой пяты паверх, — расчаравана сказаў Патапеня, падхапіў гітару і падаўся з пакоя.

Ада з палёгкаю ўздыхнула і падумала: «Вось яшчэ адзін рыхтуецца ў інжынеры чалавечых душ. Усе мы толькі блудзім ды блукаем на гэтым свеце, не бачым сваёй дарогі, прызначэння, не разумеем уласнага шчасця. Не навучаныя. Нешта важнае страчана ў нашым соцыуме: традыцыі, добры прыклад сям'і, што павінна жыць у вяках. А яно, тое галоўнае, рушылася і гублялася з пакалення ў пакаленне з моваю, самабытнай культурай, з рамёствамі ды фальклорам… Навошта я падцягвала і друкавала вершы гэтага Патапені? Нічога людскага, мабыць, з яго не атрымаецца. Хаця, хто тут з нас без заганаў? У кожнага свой шлях, свае памылкі і згрызоты. У мяне таксама гэтага дабра хапае. Усе мы збеглі ў Маскву ад нейкіх жыццёвых нягод. Бежанцы ад саміх сябе…»

## 8

Ада ўзяла пішучую машынку напракат, падрыхтавала тэксты падрадкоўнікаў і прынесла іх на заняткі секцыі паэзіі, якая налічвала дзесяць чалавек. Перад званком вырашыла раздаць вершы аднакурснікам. Армянін Ара і кіргіз Кажагільды грэбліва адвярнуліся.

— Мы жаночых вершаў не чытаем, — буркнуў Ара.

— А я вашы з задавальненнем пачытаю, калі дойдзе чарга, ды і разбяру дэталёва, — адказала Ада з іранічнай усмешкай. — Я гэта ўмею рабіць, шмат гадоў кіравала літаб'яднаннем.

Гэтыя два хлопцы выклікалі ў яе адмоўныя эмоцыі з першых дзён сумеснага навучання. Аднойчы прыземісты Кажагільды падымаўся з Адаю ліфтам. Кіргіз уважліва паглядзеў на жанчыну і сказаў:

— Я згубіў ключ ад пакоя, можна ў цябе пераначаваць?

— Нельга, у кіргізаў мужчыны на жаночай палавіне не начуюць, — з'едліва адказала яна.

— Я думаў, ты мне паспачуваеш.

— Тут, акрамя мяне, жывуць яшчэ трыццаць мужчын, думаю, яны з радасцю дапамогуць, — адказала Ада і выйшла з ліфта, абурана думаючы: «Трэба такую лухту прыдумаць, ключ ён згубіў!»

Ара жыў злева ад Адзінага пакоя. Быў ён высокі, з чорнай кучараваю галавой і арліным носам, насупленымі зламанымі бровамі, з-пад якіх пазіралі халодныя непрыемныя вочы. З яго пакоя часта чуліся крыкі і спевы ледзь не да світання, што не давала магчымасці заснуць. З-за гэтага Ада злавала на яго.

Празвінеў званок — у клас увайшлі знакаміты паэт Максім Сераброў і крытык Алег Махонькін, якія вялі паэтычны семінар. Сераброў быў даволі высокі, з хваравіта шэрым тварам, разумнымі вачамі, маўклівы, калі разбіралі вершы, устаўляў час ад часу слова, усю асноўную нагрузку браў на сябе дробны, са зморшчаным тварам Махонькін, які вельмі ўважліва ставіўся да кожнага твора, не прапускаў ні аднаго ўдалага радка, а калі бачыў лухту, дык без жалю бэсціў.

У той дзень разбіралі творы ленінградскага паэта Сяргея Шастова. Нешта не спадабалася Махонькіну ў той падборцы, і ён сказаў пра гэта аўтару. Шастоў набычыўся, не прымаючы ніякай крытыкі, стаў даводзіць, што ў Ленінградзе існуе свая паэтычная школа, а ён з'яўляецца яе вучнем.

— Мёртвыя вучні мёртвых паэтаў, — не вытрымаў Сераброў, у якога была ўласная думка пра творчасць некаторых леніградскіх лірыкаў.

Шастоў страшэнна раззлаваўся, бо зняважылі не толькі яго, але ягоных настаўнікаў, схапіў свае рэчы і падаўся з аўдыторыі. Усталявалася гнятлівая цішыня. Агнія Дымава, па-жаночы адчуваючы віну за ўсіх, сказала:

— Што вы, мужчыны, ваюеце? Хопіць у літаратуры месца ўсім: геніям і графаманам. Вось у мяне бяда. З мужам развялася, а без мужчыны жыць не магу. Быццам палавіну мяне адрэзалі, і я хаджу, трымаючы рукамі вантробы, баюся, што яны вось-вось вываляцца. Масква поўная людзей, а роднай душы не знайсці. Скажыце мне, цудоўны паэт Максім Паўлавіч Сераброў, як вырашыць маю праблему? Вы ж разумны чалавек, пішаце геніяльныя вершы, якія не толькі вас, але і ўсіх нас, мададзейшых, поражывуць.

Агнія скардзілася на жаночую долю, ледзь не плакала. Адзе было няёмка слухаць яе, бо сама ніколі не адважылася б раскрыцца гэтак перад чужымі людзьмі, каб вызваліцца ад уласнага болю. Агнія магла. У яе была іншая ментальнасць, якая дазваляла ёй выглядаць слабой і нават бездапаможнай у гэтым мужчынскім асяроддзі. Сярод паэтаў налічвалася толькі тры жанчыны.

На гэтай слязлівай і маркотнай ноце скончыўся чарговы паэтычны семінар. Усе разышліся. Ада вярталася дамоў з сібірачкай Тоняй Сурковай, ішлі да станцыі метро, размаўлялі.

— Як там у вас у Сібіры?

— Прыемнага мала. Часам холадна, часам галадна. Не хочацца туды вяртацца. Сын даслужвае апошні год у войску, таксама турбота, трэба яго неяк тут уладкаваць. Што ён адзін без мяне будзе рабіць?

— Было ж там нешта добрае. Столькі песень Пахмутава напісала пра той край.

— Было. Аднойчы на цеплаходзе ехала па Енісеі, мне далі паруліць! Уражанняў хопіць на ўсё жыццё. Нездарма мужчыны так рвуцца да ўлады.

— Я некалі таксама хацела ехаць па камсамольскай пуцёўцы ў Сібір, ды маці не пусціла. У яе быў нейкі свой адмоўны досвед на гэты конт, — заўважыла Ада.

— Ат! — махнула тая рукой Тоня. — Усялякае бывае... Такая ў нас рамантыка! Ад яе ажно верне.

— Тонечка, можа, зойдзем у «Елісееўскі»? — сказала Ада. — У мяне нічога няма на вячэру.

— Пайшлі.

Жанчыны мінулі помнік Пушкіну і пашыбавалі ў гастраном. Ён стаяў насупраць, зусім побач, і вельмі падабаўся Адзе. Размяшчаўся ў шыкоўным будынку з высачэзнаю столлю, аздоблены ляпнінай з пазалотаю. У прасторнай зале заўсёды мелася ў наяўнасці і ў дастатку харчоў, у той час, як у другарадных гастраномах найчасцей свяціліся пустыя халадзільнікі. Увайшлі ў сярэдзіну памяшкання, агледзеліся. Па каўбасу стаялі тры чаргі.

— Давай станем у розныя, мо якая хутчэй будзе рухацца, — прапанавала Ада.

— Нешта не хочацца ў чарзе марнавацца, мо якой рыбы купіць?

— Дык і па рыбу таксама чарга…

Жанчыны разышліся, сталі ў розныя чэргі. Яны купілі сыравяленай каўбасы, каб магла паляжаць без халадзільніка колькі дзён, узялі хлеба і малака ды накіраваліся ў інтэрнат.

— Тоня, а дзе твой муж? — спытала Ада.

— Чорт яго ведае, мо ў Ізраіль з’ехаў. Ён быў яўрэй. А як тваё сямейнае жыццё склалася?

— Звычайна, толькі дзяцей яшчэ не завяла, такая вось бясплодная смакоўніца.

— Ты яшчэ маладая, у цябе ўсё наперадзе. Колькі табе?

— Трыццаць.

— А мне ўжо за сорак. Іншы раз адчуваю сябе перастаркам…

— Што ты, Тонечка, ты вельмі добра выглядаеш…

— Стараюся…

Размаўляючы, яны непрыкметна даехалі да інтэрната, дзе іх сустрэла вахцёрка-армянка сярэдняга веку, захутаная ў шэрую пуховую хустку.

— Замерзлі, Марыета Арамаўна? — спытала Тоня.

— Так, цяжка пераношу пахаладанні.

— Тут столькі хлопцаў бегае, можна пагрэцца.

— Вой, дзяўчаты, я ўжо і майткі лянуюся зняць, а вы кажаце… Для мяне ўсё лепшае мінула. Даседжу тут адзін год да пенсіі ды і падамся ў вырай на поўдзень.

Ада зірнула на палічку, дзе паштальёнка пакідала лісты для насельнікаў інтэрната. Ад Касьяна па-ранейшаму нічога не было. Яна з сумам падумала: «Крыніца Лятаўчыкавага кахання перасохла, а мо і не было зусім нічога, толькі гульня, пісаў жа ён у лісце, што душа ягоная заснула, а мо і не прачыналася».

Ада развіталася з Тоняю і накіравалася ў свой пакой.

У пакоі было холадна. Ацяпленне яшчэ не ўключалі. Аду, як і вахцёрку-армянку, таксама даймалі раннія маскоўскія халады. Яна падумала, што трэба купіць нейкі абагравальнік ці хоць гумаваю грэлку, каб класці ў пасцель пад ногі.

Ада папіла гарбату пад ціхі гоман радыёпрыёмніка, прыслухалася і са здзіўленнем пачула, што інтэрв’ю бралі ў прафесара, кандыдата мастацтвазнаўства, пісьменніцы Молевай Ніны Міхайлаўны, той самай, у якую ў час вучобы быў закаханы Уладзімір Караткевіч. Слынны навуковец апавядала пра расійскіх мастакоў-авангардыстаў, аб’яднаных вакол студыі «Новая рэальнасць». Ада ўважліва ўслухоўвалася ў голас жанчыны і думала: «У рамане Караткевіча жанчына, якую пакутна кахае беларускі пісьменнік, памерла ад аперацыі на сэрца. Закаханы герой павёз сваю каханую-нябожчыцу, каб пахаваць у Беларусі. Не мог пакінуць яе ў Маскве, хоць мёртвую забраў з сабою. Такая сумная гісторыя...»

## 9

Група на чале з Наінай Андрыянаўнай раніцай выехала ў Ясную Паляну. Эма адмовілася ад экскурсіі, казала, што шмат разоў была там з мужам. Ада сядзела адна ля акна і азірала наваколле, якое мільгала за вокнамі. У аўтобусе было шумна, асабліва ззаду, дзе рэй вёў Гоша Строма. Хлопцы гулялі ў карты, часта спрачаліся, нешта выкрыквалі незразумелае, казалі, што карыстаюцца «блатной феняй».

Краявіды былі вельмі падобныя да беларускіх: лясы, палі, часам маляўнічыя ўзгоркі, як пад Мінскам. У нейкім невялічкім гарадку спыніліся ля кафэ паабедаць. Там Ада ўпершыню ў жыцці пакаштавала медавуху, напой ёй вельмі спадабаўся. Закусіла славутым тульскім пернікам, таксама вельмі смачным.

Аўтобус пакаціў далей. Зноў мільгалі палі, лясы у восеньскай красе, селішчы, і раптам нехта выгукнуў:

— Ясная Паляна!

Ада і сама ўжо ўбачыла шыльду на ўзбочыне і ўзрадавалася, што нарэшце яны прыехалі, куды імкнула яе душа. За вокнамі замільгалі вясковыя хаты, мусіць, тут жылі нашчадкі тых прыгонных сялян, якія належалі графу Льву Мікалаевічу Талстому. Аўтобус спыніўся на шырокай пляцоўцы, разлічанай на вялікі паток турыстаў. Але на гэты раз тут нікога не было. Мабыць, перабудова адбіла ў людзей ахвоту да падарожжаў.

Хлопцы і дзяўчаты высыпалі з аўтобуса, мінулі браму з дзвюх белых вежаў, накрытых зялёнаю бляхай, пайшлі па бярозавай алеі міма вялікага саду, дзе людзі абіралі жаўтаватыя сакавітыя антонаўкі і складвалі ў драўляныя скрынкі. З-за дрэваў ужо віднеўся зялёны дах белага будынка, таго самага, у якім некалі жыў Талстой з вялікай сям'ёй і слугамі. Ада набліжалася да дома пісьменніка, і хваляванне ўсё больш ахоплівала яе. Яна міжвольна спытала сама ў сябе: «А калі б знакаміты пісьменнік жыў не тут, а ў іншай мясцовасці, якія былі б ягоныя кнігі? Ці ўплывае месцажыхарства на творчасць? Безумоўна, уплывае. Таму што самая нязначная з'ява можа стаць фактам паэзіі ці празаічнай замалёўкі. Але трэба, каб тая ці іншая падзея закранула душу, неяк адбілася ў свядомасці, сфармавалася ў пачуццё і выявілася думкай, якую можна было б запісаць на паперы».

Пакуль Наіна Андрыянаўна хадзіла ў адміністрацыю і дамаўлялася, каб курсантам дазволілі прайсціся па пакоях, яе выхаванцы некалькі разоў абышлі вакол двухпавярховага будынка, прыглядаючыся да дэталяў даху, падваконняў, аздобы сцен, адкрытай веранды з ажурнай агароджаю і вельмі простага ганку. Усярэдзіне жытло графа Талстога таксама выглядала даволі бедна. Простыя посцілкі на ложках, звычайныя шторы, старая і сцёртая падлога, белы абрус на абедзенным стале. Ада разумела, што гэтыя сціплыя рэчы тым і каштоўныя, што да іх дакраналіся рукі вялікага пісьменніка. Столькі часу і падзей мінула: рэвалюцыя, дзве вайны, нават Чарнобыль не абмінуў гэтыя мясціны, а жытло працягвае існаваць...

Экскурсавод вельмі будзённа правяла кароткую экскурсію, спынілася на асобных датах і падзеях жыцця вялікага пісьменніка, пра якія прысутныя добра ведалі і самі са школьных ды ўніверсітэцкіх праграм. Нараджэнне, страта маці, вучоба ва ўніверсітэце, служба ў войску на Каўказе, удзел у Крымскай вайне, вандроўка па Еўропе пасля адстаўкі, жаніцьба, педагагічная дзейнасць, творчасць. Вось так, жыццё вялікага чалавека можна змясціць у некалькі энцыклапедычных радкоў, толькі ніхто не ведае, што ён адчуваў, як успрымаў жыццё, як рэагаваў на тыя ці іншыя падзеі. Пра гэта можна меркаваць толькі

па творах і артыкулах. А рэакцыя ў Талстога на падзеі ў Расіі была заўсёды бурная, на жаль, адна асоба не можа павярнуць кола гісторыі ў пэўны бок без дапамогі войска, без хіжасці і хітрасці. На такія заганныя метады Талстой не быў здатны, ён заставаўся пісьменнікам, які назіраў і вывучаў жыццё, рабіў высновы з надзеяю, што яны спатрэбяцца грамадству. У канцы аповеду экскурсавод дазволіла задаць пытанні.

— Скажыце, калі ласка, чаму Леў Мікалаевіч, пражыўшы жыццё з Соф’яй Андрэеўнай, раптам ва ўсім расчараваўся і пайшоў з дома? — спытала Ада.

— Думаю, крызіс сталага ўзросту. Здарылася так, што пад канец жыцця яны разышліся ў поглядах, жылі побач, але паасобку. Гэта, мусіць, вельмі прыгнятала Льва Мікалаевіча. Не магу сказаць, што перажываў Талстой у той час, пра гэта лепш было б спытаць у яго. Зараз мы пойдзем на магілу, можа, там зразумееце нешта з таго, што пакуль застаецца для нас таямніцай.

Экскурсанты даўгавата ішлі па зялёнай, чамусьці не кранутай восенню дарожцы сярод прысад, мо з-за таго, што тут было ўдосталь вільгаці, якою перанасычалася паветра. Нарэшце спыніліся на зялёнай палянцы з сакавітай травой, пасярод якой неяк наўскасяк, мабыць, зарыентаваная на захад-усход знаходзілася магіла без аніякага помніка, даволі вялікая, зялёная ад травы. За ёю цягнуўся яр і вялікі стары лес. Такое ціхае месца выбраў сабе вялікі пісьменнік для вечнага спачыну, а для вечнай славы ён шмат працаваў на працягу ўсяго жыцця.

Хлопцы і дзяўчаты моўчкі стаялі вакол магілы. Наіна Андрыянаўна ўсклала загадзя падрыхтаваныя кветкі на тое месца, дзе маглі быць грудзі нябожчыка. Ніхто не спяшаўся, хацелася стаяць тут як мага даўжэй, удыхаць гэтае паветра, каб панесці ўспаміны з сабою. Экскурсавод расказала пра чароўную «зялёную палачку», у якую не толькі ў маленстве, але і пасля, у сталым узросце, верыў Леў Мікалаевіч. Недзе яна тут закапаная на ўскрайку яра. Калі б яе ўдалося знайсці, усе людзі зажылі б шчасліва. Пакуль яе ніхто не знайшоў. Хаця Леў Мікалаевіч ўсё ж адкрыў формулу шчасця: усе шчаслівыя перажываюць шчасце аднолькава, а няшчасце ў кожнага сваё. Экскурсавод завяршыла аповед і павяла прысутных да аўтобуса.

Адзе хацелася яшчэ раз увайсці ў дом, разгледзець самой усе рэчы і дэталі, бо тады за натоўпам аднакурснікаў не ўсё ўбачыла, але туды вярнуцца не дазволілі. Экскурсанты зрабілі некалькі фотаздымкаў і накіраваліся ў бярозавую алею да брамы з белымі вежамі.

Аўтобус рушыў у зваротны шлях. Ада глядзела ў акно і думала, што яна з Мечыславам таксама ўвесь час жыла разам, але паасобку. Кожны быў заняты сабою і сваімі справамі. Ён цэлымі днямі працаваў у школе, выкладаў фізкультуру, вёў секцыі баскетбола і валейбола, вазіў дзяцей на спаборніцтвы. Яна служыла ў газеце, гойсала па раёне, вучылася завочна, прасіджвала ў бібліятэцы, рыхтуючы курсавыя работы. Даходзіла да таго, што ім проста не было пра што гаварыць. Калі здаралася так, што заставаліся сам-насам, уключалі тэлевізар ці проста чыталі газеты. Калі яна пісала вершы, ён з пагардай паглядваў на яе занятак і казаў:

— Кніжак напісана столькі, што іх хопіць на тысячу гадоў наперад.

Ада пярэчыла яму:

— Кожны пісьменнік укладвае ў твор інфармацыю пра свой час. Гэта вельмі важна не толькі ў мастацкім, але ў сацыяльным і гістарычным плане. Наступныя пакаленні павінны ведаць вопыт папярэднікаў, іхнія памкненні, надзеі, мары, каб лепш арыентавацца ў прасторы і часе. Мінулае — гэта падмурак будучыні.

— Тысячагоддзі мінаюць, а чалавек застаецца тым жа: хіжым, агрэсіўным, сквапным. У жыцці, як у спорце, без агрэсіі і волі перамогу не атрымаеш.

— Жыццё нельга ператвараць у спаборніцтва, таму што прырода надзяляе людзей132 рознымі здольнасцямі. Гэта мужчынскі падыход: прыйшоў, пабачыў, перамог.

— У жанчын падыход процілеглы, — засмяяўся Мечыслаў. — Яны толькі і глядзяць, куды пайсці, куды падацца, каго любіць, каму аддацца.

— Не блазнуй! — злавала Ада. — Не хачу з табой сварыцца, але калі працягваць спрэчку, дык усё ж людзі далёка сiганулі ад жорсткасці і дзікасці, ты мусіш гэта прызнаць. І скончым на гэтым.

Яны змаўкалі. Але заставалася ў памяці раздражненне, незадаволенасць і ўзнікала пытанне: «Чаму я павінна жыць побач з гэтым чужым чалавекам? Толькі таму, што трэба быць замужам?» Тры гады таму ў яе жыцці з'явіўся Касьян, і раптам усё змянілася. Яна ўпершыню спасцігла, што азначае належаць чалавеку, якога кахаеш. Тады перастала сварыцца з мужам, ён жыў побач, але яна не заўважала яго. Яна варыла абеды, прыбірала кватэру, мыла бялізну, а думкамі і душой была са сваім Лятаўчыкам, незалежна ад таго, ці адгукаўся ён званкамі і лістамі, ці маўчаў па паўгода. Яна была ва ўладзе кахання, толькі яму падпарадкоўвалася, пісала шмат вершаў, друкавала іх у сваёй газеце, а найчасцей у мінскіх выданнях.

Цяпер, вяртаючыся памяццю ў тыя дні, яна ўжо шкадавала пра той час, змарнаваны побач з мужам. Нядаўна маці прыслала ліст і напісала, што заходзіў Мечыслаў, цікавіўся, як Адзе жывецца ў Маскве. Мабыць, ён яшчэ хацеў наладзіць адносіны, а яна менавіта зараз цвёрда вырашыла для сябе, што больш не будзе рабіць ранейшых памылак. Безумоўна, Касьян не пакіне сям'ю, але яна будзе кахаць яго, пакуль гэтае пачуццё не згасне ў сэрцы, мо і да смерці. Прынамсі, была перакананая, што замуж трэба выходзіць толькі па вялікім каханні, тады не будзе шкада ні часу, ні жыцця, якое аддаеш каханай асобе. Калі нешта не складзецца, значыць, выйшла памылка, нехта кахаў недастаткова, нехта гуляў у каханне.

Зрэшты, вялікае шчасце пакахаць выпадае, можа, раз у жыцці, ну, ад сілы — два ці тры. Астатнія мімалётныя захапленні існуць толькі да першых расчараванняў. Чалавек, які па-сапраўднаму не кахае, не можа дараваць іншай асобе ніякіх недахопаў і слабасцей. Тады ўсё імгненна развальваецца, быццам замак, пабудаваны на пяску. Вунь Соф'я Андрэеўна і Леў Мікалаевіч былі першапачаткова з'яднаныя ўзаемнымі пачуццямі, потым сям'ёю, творчасцю, аднак настаў час, калі яны пачалі жыць кожны для сябе. Такі мілы эгаізм, які прывёў да краху. Бо каханне трэба карміць і дагледаць, як далікатную кветку, інакш яна завяне, засохне і памрэ...

— Што ты, Ада, так задумалася? — спытаў нечы голас.

Яна ад нечаканасці ажно здрыганулася, узняла галаву і ўбачыла, што над яе сядзеннем схіліўся Сеня Хмурноў.

— Проста еду. А што?

— Нічога. Можна да цябе зайсці ўвечары на гарбату?

— Заходзь, калі ёсць такое жаданне, — адказала Ада без энтузіязму.

— Дзякуй, хоць і бачу, што не надта я жаданы госць.

Ад Сені патыхала півам. Ада зразумела, што ён п'янаваты, таму і набраўся смеласці падысці з такой прапановаю.

— Не звяртай увагі на маю інтанацыю, я трохі стамілася. Заходзь, раскажаш пра сябе, ведаеш, я трохі пішу прозу. Мне цікавыя розныя жыццёвыя калізіі.

— Калі стамілася, дык сёння не прыйду…

— Дзякую за разуменне.

З першых дзён Ада звыкла трымацца самадастаткова, у госці ні да каго не хадзіла і да сябе не запрашала, тым больш, што часу вольнага не мела. А сёння дык менш за ўсё яна хацела б піць гарбату з Сенем, добра, што ён гэта зразумеў. Праніклівы аказаўся чалавек, таму можна зрабіць выснову, што здольны да рэфлексіі, аналізу і творчай працы, толькі любоў да піва і віна можа знішчыць гэтыя цудоўныя якасці.

**10**

Ада выйшла з падземнага перахода і адчула, што нехта падхапіў яе пад локаць. Азірнулася і ўбачыла незнаёмага мужчыну.

— Вы вельмі сімпатычная, давайце здыму вас з Ельцыным і Гарбачовым. Бясплатна, проста для рэкламы, — папрасіў ён.

Ада зразумела, пра што просіць незнаёмец. Гэта быў фатограф, які працаваў на вуліцы, побач стаяў на трынозе фотаапарат. Фотаздымкі Ельцына і Гарбачова у натуральны рост былі акуратна выразаныя, наклееныя на фанеру і замацаваныя на падстаўцы. Абодва лідары красаваліся, як жывыя.

— Здымацца з гэтымі старымі не хачу, — засмяялася Ада. — Вы б каго-небудзь маладога ды сімпатычнага тут паставілі.

— Прабачце, хацеў зрабіць вам прыемнае. У вас нейкія вочы неспакойныя, усхваляваныя і прыгожыя.

— Дзякуй за камплімент. Даруйце, я спяшаюся…

Ада сапраўды хвалявалася, сёння на семінары паэзіі павінны разбіраць яе вершы. Яна не ведала, што і як там пройдзе. Безумоўна, пабойвалася, што будуць крытыкаваць, асабліва армянін з кіргізам. А зрэшты, яны ж яе вершы чытаць адмовіліся, дык і сказаць нічога не здолеюць. Можа, дарма зрабіла, што аддала на разгляд новыя творы, можа, трэба было прапанаваць нешта са старога, што ўжо было надрукавана? Але не, вершы, напісаныя за апошні час, былі ёй асабліва дарагія, таму што ўсе яны прысвячаліся яе Лятаўчыку. Летась ёй далі пуцёўку ў санаторый, што знаходзіўся паблізу Гародні, яна з радасцю ўзяла яе. Хоць было гэта ў пачатку снежня, пара шэрая і непрытульная, але ўсё роўна там было хараша. Корпус, дзе жыла Ада, стаяў на беразе вялікага, яшчэ не замерзлага возера. Да берага зляталіся лебедзі, яна штодня бавіла вольны час з гэтымі вялікімі і прыгожымі птушкамі, карміла іх, размаўляла з імі. Патэлефанавала Касьяну. Ён знайшоў магчымасць прыехаць да яе. Гадзіны чатыры яны хадзілі па лесе, размаўлялі, чыталі вершы, цалаваліся. І здавалася, не было раднейшага чалавека, чым ён. Пасля яна правяла яго на аўтобус, усміхалася. Пакуль ён глядзеў у акно, махала на развітанне рукою. Вярталася ў корпус і плакала. Потым пісала вершы пра тое, што адчувала і перажывала. Радкі так натуральна выліваліся на паперу, быццам даўно драмалі ў яе душы, а толькі цяпер прачнуліся і патрабавалі выйсця. У гэтых творах яна сумавала і кахала, чакала і спадзявалася на новую сустрэчу. Думала, што ён знойдзе магчымасць прыехаць яшчэ, але дарэмна, яны больш наогул не бачыліся.

Вярнуўшыся дамоў, напісала яму ліст і паслала некалькі вершаў, але ён на тое пісьмо так і не адказаў, проста па тэлефоне павіншаваў з Новым годам. Зрэдку тэлефанаваў позна ноччу, ведаў, што яна спіць у асобным пакоі, бо звыкла працаваць па начах. Гутарку пачынаў жартам:

— Падсунься трохі, дай побач паляжаць.

— Мой ложак занадта вузкі, — адказвала яна са смехам. — Як жывеш, Лятаўчык?

— Усё добра. Шмат ездзіў па гарадах і весях. У мяне жыццё, як у блазна, трэба публіку весяліць.

— Але ж ты нічога іншага рабіць не хочаш і не можаш.

— Мусіць, так.

— У такім разе табе няма на што крыўдаваць…

Начныя іхнія гаворкі доўжыліся гадзінамі, так што рука стамлялася трымаць трубку. Ён чытаў новыя вершы, часам спяваў новыя песні. Гэта былі хвіліны яе ціхага таемнага шчасця. У роце перасыхала ад хвалявання. І вельмі не хацелася развітвацца, бо невядома калі будзе новая сустрэча ці хоць такая ж вось цёплая размова па тэлефоне.

Ада паднялася на другі паверх, убачыла, што хлопцы-аднакурснікі кураць, у аўдыторыі сядзелі толькі Агнія і Тоня, яны нешта ціха абмяркоўвалі. Ада павіталася і села за свой стол.

— У цябе добрыя вершы, — сказала Агнія.

— Дзякую. Жанчыне жанчыну зразумець лёгка, а што скажуць мужчыны, невядома.

— Што б ні сказалі, ты ж пісаць не кінеш. Кожны сам стварае сваю долю, а паэты ў дадатак яшчэ пішуць вершаваны летапіс жыцця, а ўжо наколькі ў каго хапае таленту — справа іншага кшталту. Некаторым Бог нічога не дасць, дык ён сам возьме. Іншаму пашанцуе атрымаць вялікі талент, а ён яго змарнуе, жыўцом закапае.

— Мужчыны наогул лічаць жанчын людзьмі другога гатунку, дык што нам цяпер і не жыць? — спытала Тоня. — Будзем жыць і пісаць, як Бог на душу пакладзе.

Празвінеў званок. Хлопцы няспешна ўвайшлі ў аўдыторыю і адразу за імі з’явіўся высокі і змрочны, як скала, паэт Сераброў і маларослы крытык Махонькін. Ада наструнілася ў чаканні абмеркавання.

— Хто прачытаў вершы Ады Літвінкі? — спытаў крытык.

Паднялося некалькі рук.

— Нягуста, — адзначыў Сераброў. — Ну, нічога, затое мы прачыталі. Алег Мяфодзьевіч скажа першы сваю думку, а потым я далучуся.

Ад хвалявання ў вушах Ады ўсчаўся такі звон, што яна не разабрала першыя словы, занадта ціха сказаныя Махонькіным. Яна сцішылася, прыслухалася і зразумела, што водгук крытыка станоўчы, ён зачытваў асобныя радкі, адзначаў эмацыянальнасць, жаноцкасць, глыбіню пачуцця. Яна слухала і здзіўлялася, як хораша гэты маленькі чалавек з маршчыністым тварам яе зразумеў, мусіць і сам, маючы нягеглую знешнасць, перажываў закаханасць без спачування і ўзаемнай любасці. Крытык выказваўся занадта доўга, Ада разумела, што не вартая такой увагі.

Потым коратка выказаўся Сераброў, адзначыў вартасці, падкрэсліў, што адразу відно: вершы напісаныя жанчынаю, і гэта добра. Трэба каб сутнасць чалавека свяцілася ў падтэксце.

— Радкі «праз тугу маю бачу ў твар бяду, адвярнуся, як напаткаецца» магла напісаць толькі жанчына, бо мужчына хутчэй за ўсё кінуўся б у бойку. Хаця, безумоўна, і мужчыны розныя бываюць. Іншы не тое, што адвернецца, а кінецца бегчы з усіх ног, — Сераброў упершыню ўсміхнуўся, усмешка ягоная была па-дзіцячы адкрытая і даверлівая. — Карацей кажучы, вершы Ады Літвінкі нас парадавалі. Хто яшчэ хоча выказацца?

Устала Агнія і хораша расказала пра свае жаночыя перажыванні, з якімі пераклікаліся Адзіны вершы. Лірычная гераіня была блізкай яе душы настолькі, быццам аўтарка падслухала яе думкі і выклала на паперу.

Больш ніхто выказвацца не пажадаў. Крытык Махонькін трохі расказаў пра творчасць Аляксандра Блока, чаго патрабавала навучальная праграма. Але Ада не здатная была нешта чуць і ўсведамляць. Яна перажывала хвіліны шчасця, што яе зразумелі, што пішацца ў яе не нейкая рыфмаваная лухта, а ўсё ж вершы. Бо заўсёды сумнявалася ў сваёй творчай працы, а маці і муж пераконвалі, што яна дарэмна марнуе час і паперу.

Увечары да яе прыйшоў Сеня Хмурноў без папярэджання і запрашэння.

— Прабач, што я экспромтам, — пачаў ён. — Мне сказалі, што сёння разбіралі твае вершы. Сераброў з Махонькіным хвалілі. Я прыйшоў папрасіць, каб ты мне іх пачытала.

— Ну, добра, пачытаю. Можа, пад гарбату?

— Гэта было б цудоўна.

Ада разліла вар у кубкі, дадала заваркі.

— Табе паболей? — спытала яна.

— Ага, ты заўважыла, я люблю моцныя напоі.

— Чым ты займаўся да курсаў?

— Працаваў мастаком-афарміцелем у будаўнічым упраўленні. Потым пачаўся развал, не было чаго будаваць. Мяне скарацілі першым. Вось і прыехаў сюды ад нуды.

— Дзеці ў цябе, мусіць, ужо вялікія.

— Дачка ад першага шлюбу скончыла сёлета дзесяцігодку, ад другога — сыну год з паловай.

— Дык ты малады тата! — усміхнулася Ада, сама падумала, што недзе няшчасная жанчына гадуе дзіця і ніякай дапамогі не атрымлівае ад гэтага аматара моцных напояў.

— Так выйшла…

— А з кім твая маладая жонка засталася?

— З цешчаю, цесць нядаўна памёр. Старыя вельмі не хацелі, каб яна ішла за мяне. Бачылі, што нічога вартага я не ўяўляю. А яна закахалася, гэта ўсё і вырашыла…

— А ты кахаеш?

— Не ведаю, у мужчын гэта неяк інакш адбываецца…

Ада прачытала зусім новы верш, напісаны па вяртанні з Яснай Паляны, дзе рэфрэнам ішоў радок «выспелі яблыкі ў садзе графа Талстога». Старалася вымаўляць выразна кожнае слова, здалося, ён зразумеў і сказаў:

— Бач ты, ніхто з нас нічога не напісаў пра тую экскурсію, а ты паспела ўжо. Малайчына! Яшчэ што-небудзь…

Яна прачытала яшчэ адзін верш пра нязвыклую для яе маскоўскую халадэчу, у якім астылы ложак параўноўвала з магілаю.

— Гэта мы вінаватыя, што не сагрэлі цябе, — сказаў Сеня.

— Ды вы і сябе гарэлкаю грэеце, — засмяялася Ада. — Яшчэ гарбаты?

— Налівай, як заварнік вып’ю, тады і пайду, калі зусім з табою не ап’янею. Прыгожая ты, толькі вусны тонкія, прыдаюць твару строгасць. Але гэта ўжо характар такі. Давай я цябе намалюю.

— Не, не трэба! За той малюнак ніколі не разлічуся.

— Ай, Ада, добрая ты жанчына, але сухаватая. Ніякага ў цябе какецтва, гульні… Трэба заняцца тваім выхаваннем.

— Слухай, ішоў бы ты спаць і не тлуміў мне галаву, вольны мастак! Мне таксама хочацца быць незалежнай хаця б тут, на курсах. Я даўно замужам і вельмі стамілася ад празмернай мужчынскай увагі.

— Зразумеў, злачынна недаступная… Навязвацца не буду, гонар не дазваляе. Добрай ночы!

Сеня няспешна выйшоў, быццам чакаў, што яна верне яго. Ада хуценька прыбрала са стала, памыла на кухні посуд, замкнула дзверы, легла ў пасцель, узяла адну з кніжак Эмы Чаркасавай. Аўтарка найчасцей разглядала звычайныя жыццёвыя тэмы і сітуацыі, але дазваляла сваім героям рабіць пэўны выбар, адкрыта, амаль анатамічна дэманстравала напружаную працу душы і розуму ў момант пошуку выйсця з цяжкага становішча. Гэтую прозу Ада не проста чытала, а праз падтэкст і паміж радкамі даведвалася шмат пра аднакурсніцу. З таго досведу выходзіла, што Эма зацяжарала ў пятнаццаць гадоў, вымушана была ехаць да родзічаў у Свярдлоўск. Затое цяпер у сорак гадоў яна мела дарослага сына. Скончыла вячэрнюю школу, уладкавалася сакратаром-машыністкаю ў газету, потым і сама паспрабавала пісаць. Кадраў не хапала. Яе ўзялі журналістам. Так пачалося новае Эміна жыццё. Асоба яна была імпульсіўная, нявытрыманая, што дадавала праблем. Але ўрэшце Эме ўдалося выйсці замуж за чалавека на пятнаццаць гадоў старэйшага за яе, што дазволіла ёй з'явіцца перад бацькамі з добрай рэпутацыяй. Хаця яна, мусіць, на іх вельмі крыўдавала, бо ніколі не згадвала ў гутарцы ні маці, ні бацьку, быццам іх зусім ніколі не было на свеце. Мужам яе аказаўся таленавіты тэлежурналіст, якога лёс добра паматаў па бяскрайніх прасторах Расіі, і цяпер у сталым узросце яму якраз не хапала хатняй цеплыні і ўтульнасці, што ён і атрымаў. Эма нідзе не працавала, бо не магла знайсці цікавую творчую працу ў Маскве, не маючы вышэйшай адукацыі. Прыйшла на курсы, каб займець дыплом.

Ада дзяліла празаікаў на два тыпы. Да першага адносіла аўтараў, абмежаваных у творчасці толькі падзеямі ўласнага жыцця, яны заўсёды пішуць толькі пра сябе. Да другога тыпу падыходзілі ўсе празаікі з шырокай фантазіяй і ўніверсальнымі здольнасцямі. Эма была празаікам першага тыпу, а таму не надта цікавым для Ады, хіба толькі ў тым плане, што гэтыя творы шмат што расказалі пра іхняга стваральніка. Зрэшты, пераважная большасць чытачоў мала цікавіцца асобаю аўтара. Гэта раней пісьменнікі былі багатыя людзі не толькі духоўна, але і матэрыяльна. Цяпер усё змянілася. Людзі мала чытаюць. Мінуў час лірыкаў, настаў час эканамістаў і юрыстаў.

## 11

У канцы верасня здарылася нечаканая прыемная падзея. На курсы прыехала Адзіна зямлячка Ярына Макаўка. Наіна Андрыянаўна прывяла дзяўчыну ў аўдыторыю, прадставіла. Ада была знаёмая з Ярынаю не толькі па публікацыях, некалькі разоў сустракаліся ў Доме літаратара ў Мінску.

Эма ў той дзень не прыйшла на заняткі, таму Ярына заняла яе месца. На перапынку спытала:

— Ці ёсць тут вартыя хлопцы?

— Ёсць, напрыклад, Грыша Вепраў, толькі апошнім часам ён чамусьці не ходзіць на заняткі. А вунь зірні, які прыгожы афганец Латыф, вочы цямней ад ночы! За намі сядзіць Гоша Строма ў акулярах — інтэлектуал. Ды хапае, кожны чалавек па-свойму цікавы, — адказала Ада.

Пасля заняткаў яна не заўважыла, куды падзелася Ярына, а потым ужо на вуліцы ўбачыла, што тая пайшла некуды з Латыфам. Ада падумала пра зямлячку, што, мабыць, яна — вельмі дзейсная і мэтанакіраваная натура, ведае чаго хоча і без асаблівага разбору імкнецца дасягнуць жаданага, але гэтая неразборлівасць хутчэй за ўсё ёй шкодзіць.

З гэтага дня самотнае жыццё Ады трохі парушылася, бо Ярына магла прыбегчы ў любы момант, каб нешта спытаць ці нечым падзяліцца. Родам

яна была з чарнобыльскай вёскі, якую закапалі, пераехала з бацькамі жыць у Мінск. Ёй пашанцавала, што паспела там атрымаць кватэру як маладая пісьменніца.

Канечне, і ў правінцыі жыць можна, але цяжка і нязручна, далёка ехаць да выдавецтваў, часопісаў і газет, якія могуць надрукаваць тваe творы.

Ада часам адчувала: што і Ярына глядзіць на яе як на правінцыялку-няўдаліцу, але не звяртала ўвагі. Ведала, час усё расставіць па месцах. Зрэшты, кожны робіць сваю справу. А тут, на курсах, здаецца, ніхто нікому не замінае, бо нікога тут не друкуюць і не выдаюць, усяго і радасці, што пахваляць на семінары.

На другі дзень Ярына на заняткі прыпазнілася, прыйшла і расчаравана заўважыла, што побач з Адаю сядзіць Эма. Сеня Хмурноў перасеў ад Гошы за апошні стол і саступіў месца Макаўцы побач з Гошаю. Слухалі лекцыю па філасофіі прафесара Выдрына, не спрачаліся і не пярэчылі. На перапынку Ярына паклікала Аду ў калідор і ціха сказала:

— Латыф мяне вельмі расчараваў. Уяві сабе: даўно жанаты і мае чацвёра дзяцей. Чаму гэтыя азіяты так хутка размнажаюцца пры іхняй беднасці?

— Гэта ў іх адзіная радасць у жыцці. Ежы і вады не густа, затое жонка пад бокам. Краіна ваюе, патрэбны салдаты. Кажуць, у вайну нараджаецца больш хлопчыкаў.

— Чаго, дзяўчаты, шэпчацеся? — спытала Наіна Андрыянаўна, якая незаўважна падышла да іх. — Ужо сакрэты завяліся?

— Не, проста разважаем пра жыццё, — адказала Ярына.

— Як уладкавалася? Як адчуваеш сябе? — спытала ў яе Наіна Андрыянаўна.

— Выдатна.

— У суботу едзем на экскурсію ў Ленiград, рыхтуйцеся.

— Прыгожы горад, я там была адзін раз. Так уразіў мяне, што потым нават прысніўся, — сказала Ада.

— Паедзем цягніком туды і назад, там будзем два дні, — сказала Наіна Андрыянаўна і адышла да гурту хлопцаў, якія дымілі цыгаркамі.

Ехалі на экскурсію ноччу, нічога за цёмнымі вокнамі не бачылі. Ленінград сустрэў пранізлівым ветрам і шэрымі фарбамі пахмурнага дня. Але да абеду вызірнула сонца, і настрой ва ўсіх палепшыўся. У першы дзень наведалі Эрмітаж, на другі дзень планавалі азнаёміцца з экспазіцыяй Рускага музея і пабываць у Ісакіеўскім саборы.

Ада і Ярына вячэралі ў рэстаране пры гасцініцы, дзе было шумна, іграла музыка, спявала жанчына з непрыемным рэзкім голасам.

— Пройдземся па горадзе? — спытала Ярына.

— Згода.

Яны звярнулі на паралельную вуліцу і няспешна пайшлі ўдоўж гранітнай набярэжнай. У чорнай вадзе масляніста адлюстроўвалася святло ліхтароў. Наперадзе віднеўся прыгожа акрэслены мост.

— Паглядзець бы, як разводзяцца масты, — сказала Ада.

— Мусіць, трэба чакаць да апоўначы… Ды хіба пешкі тыя масты аббяжыш?

Раптам перад імі ўзнік невысокі чалавек у цыліндры з парасонам у руцэ. Такі рухавы, што немагчыма было разгледзець ягоны твар, пайшоў поруч і спытаў:

— Вы ўпершыню ў Ленінградзе?

— Я ўпершыню, — адказала Ярына, — а мая сяброўка ўжо была раней тут на экскурсіі.

— Хочаце паглядзець, як разводзяцца масты на Няве?

— Гэта вельмі цікава, — сказала Ярына.

— Я вам дапамагу, калі вы не супраць. Буду вашым Сусаніным у лепшым сэнсе гэтага слова, — засмяяўся ён.

Чалавек спыніў таксі, якое імчала міма, запрасіў іх у машыну. Сеў побач з шафёрам, сказаў, куды ехаць, і яны паімчалі ў процілеглы бок. Паспелі своечасова пераскочыць мост, таксі спынілася, усе выйшлі з машыны. Назіралі, як марудна разыходзіліся дзве палавіны моста, як нахіляліся ліхтары, здавалася, вось-вось пакоцяцца ўніз. Але нічога не рушылася. Мост велічна ўзняў крылы і замёр.

— Паедзем да наступнага моста, — загадаў чалавек у цыліндры.

Таксіст завёў машыну, і яны паляцелі па начным горадзе насустрач новай прыгодзе. Ада збілася з падліку, колькі было тых мастоў, толькі запомніла асобныя назвы: Дварцовы, Ліцейны, Біржавы, Охцінскі, Валаданскі, Фінляндскі… Калі ад’ехалі ад апошняга, было далёка за поўнач. Чалавек у цыліндры спытаў, у якой гасцініцы яны спыніліся і адвёз іх туды. Дзяўчаты не паспелі як след падзякаваць, як таксі знікла з вачэй.

— Няўдзячныя мы, Ярынка, нават не спыталі, як чалавека завуць. Ён жа за нас, мусіць, шмат таксісту заплаціў і часу патраціў процьму?

— Думаю, так.

— Ты ягоны твар хоць разгледзела?

— Не. Вельмі ж рухавы, адзенне на ім з дзевятнаццатага стагоддзя. Мабыць, нейкі акцёр забыў пераапрануцца ды так і пайшоў дамоў з тэатра ці кінастудыі.

— Слухай, можа гэта быў сам Пушкін Аляксандр Сяргеевіч? — спытала Ада, прымхліва пазіраючы на Ярыну.

— Калі гэта так, дык нас чакае бліскучая літаратурная будучыня! Стаў бы Пушкін турбавацца за дзвюх беларускіх дзяўчат.

— Не ўсё так проста. Ягоная няня была з Беларусі, звалі яе амаль, як цябе, Арына.

— Ну, калі табе хочацца думаць, што сам Пушкін нас вазіў па горадзе, дык і думай, толькі нікому не расказвай, бо засмяюць.

Яны падняліся ў свой нумар, сабраліся спаць, але сон не ішоў. Яны ляжалі на ложках, якія стаялі насупраць, і размаўлялі ў цемры.

— Чаму ты спазнілася на заняткі? — спытала Ада.

— Мяне са спазненнем залічылі па блаце. Мая сяброўка Люся вучылася тут у папярэднім выпуску, было ў яе трагічнае каханне. З-за гэтых мітрэнгаў Наіна Андрыянаўна ёй вельмі спачувала і палюбіла, як родную дачку. Люся папрасіла за мяне, сказала пра маю праблему — і вось я на курсах.

— А якая ў цябе праблема?

— Ты не заўважыла? Я ж цяжарная… Мой каханак дзяцей не любіць. Так што я ўсё ўзяла на сябе.

— Маеш права. Жаніцца ён не думае?

— Не, — коратка адказала Ярына, голас яе сарваўся на плач.

— Супакойся, не трэба плакаць.

— Не ведаю, чаму мне так не шанцуе. Першы мужчына, які мне падабаўся, проста згвалціў мяне. Гэта быў шок! Я доўгі час наогул баялася хлопцаў, палохала іхняя грубая сіла. Віктар падаўся мне ласкавым і добрым, але нягледзячы на маё каханне, ён не жадае майго дзіцяці. Думаю, што і я таксама яму не патрэбна. Як дазнаўся пра цяжарнасць, адразу знік, — Ярына заплакала наўзрыд.

— Не трэба нервавацца, дзіцяці нашкодзіш. Хто б мог падумаць… А дзіця вырасціш і сама. Мой бацька разбіўся на матацыкле разам з сябрам, засталася маці са мною. Ён быў вельмі прыгожы. Валасы кучаравыя і цёмныя, а вочы сінія-сінія. Маці пабегла на тое месца, дзе яны загінулі, а трупы ўжо адвезлі ў морг.

— Які жах, — уздыхнула Ярына.

— Выгадавала мяне маці сама, праўда, клопатаў асаблівых са мною не мела. Да школы бавілася я ў двары, у нас свая хата ў Бабруйску. Калі ў школу пайшла, заставалася да вечара ў групе падоўжанага дня. А потым падрасла, дык і гаспадарку даглядала, бо маці цэлы дзень на працы. Усё мінае, Ярыначка.

— А ты чаму дзіця не займела?

— Не знайшла яшчэ таго мужчыну, ад якога захацелася б мець дзяцей.

— Мусіць, ты вельмі пераборлівая…

— Свет вялікі, людзей шмат, вось і разбягаюцца вочы… Табе трэба спаць, дзіця патрабуе адпачынку. Дабранач, — сказала Ада і аціхла, не хацелася ёй разважаць пра сваю будычыню, бо нічога пра яе не ведала: дзе будзе працаваць, дзе жыць — усё трэба было пачынаць спачатку.

## 12

Вярнуўшыся з Ленінграда, Ярына цэлы тыдзень не заходзіла да Ады. Толькі ў нядзелю знайшла час з самага ранку, нешта ёй карцела расказаць.

— Мабыць, прапушчаныя лекцыі перапісваеш па вечарах? — спытала Ада.

— Хіба ты нічога не ведаеш?

— Не, а што?

— Занадта адасоблена жывеш, трэба ўлівацца ў калектыў.

— Няма часу і жадання. Дык што там у цябе?

— У мяне новы каханак Генка Сполахаў.

— Дзе ты яго знайшла?

— Жыве са мною па суседству. Летась курсы скончыў, працуе рэдактарам у выдавецтве.

— Віншую, можа, будзе дзіцяці добры бацька.

— Не ведаю, здаецца мне, што ён такі ж разбэшчаны п’яніца, як і некаторыя тут.

— Мо як утрымаеш?

— Ён старэйшы за мяне на дзесяць гадоў. Калі да гэтага часу не стварыў сям’ю, дык, мусіць, яна яму не вельмі трэба, але паспрабую.

Ада спачувала Ярыне, якая мабыць саромелася сказаць бацькам, што збіраецца нарадзіць дзіця без шлюбу, таму была гатовая хоць якога мужыка прывезці ды паказаць, каб людзі не мянташылі языкамі. Разумела і тое, што зямлячкай зараз кіруюць інстынкты ці цвярозы разлік, толькі не высокія пачуцці. Зрэшты, можна сказаць і так, што Гена Сполахаў у яе жыцці — выпадковы мужчына.

— Шчыра жадаю, каб у цябе было ўсё добра. Хоць сама разумееш, усё добрае мае зваротны бок з процілеглым зместам.

— Купіла кніжку Леаніда Андрэева «Ружа свету», можа, хочаш пачытаць?

— Не, у мяне цяпер іншая праца, не хачу збівацца з рытму.

— Што ты робіш?

— Капаю патроху гісторыю, хачу напісаць цыкл артыкулаў «Масква беларуская», расказаць пра асветніка Ільлю Капіевіча, пра Сцяпана Палубеса, гэта

не прозвішча, а мянушка, вялікі быў майстар па вырабе кафлі, шмат маскоўскіх цэркваў упрыгожыў. Пад гэтай мянушкаю фігуруе ў энцыклапедыях. Ну, і гэтак далей. Шмат беларускага люду тут жыло ў сярэднявечча, каго вывезлі ў палон, хто сам прыехаў на заробкі. На першых лекцыях, калі я размаўляла з выкладчыкамі, мяне прымалі за карэнную масквічку. Мабыць, нашы землякі паўплывалі прыкметна на тутэйшую гаворку, жывучы ў Ганчарнай ці Мяшчанскай слабадзе. Дарэчы, апошняя назва паходзіць ад беларускіх месцічаў. Час ад часу наведваю розныя куточкі, разглядваю, прыкмячаю, шукаю сляды ўплыву нашай культуры. Сёння таксама збіраюся ў гістарычную бібліятэку, а пасля дзе-небудзь пашвэндаюся. Карацей, няма ў мяне часу на тое, каб сумаваць…

— Добра табе, ты незалежная. А да мяне паўгрупы ўжо ходзяць у госці. Цэлы дзень дзверы не зачыняюцца. Калі Сполахаў іх не паразганяе, дык яны мне на галаву сядуць.

— Можа, Ярыначка, гэта і добра, каб ты не сумавала, а берагла здароўе.

— Пайду, мусіць, Сполахаў прачнуўся, есці хоча.

— Няхай табе шчасціць.

Ада, як і планавала, спачатку паехала ў гістарычную бібліятэку, пагартала старыя часопісы, пачытала мемуары Фадзея Булгарына, а потым падалася на Красную плошчу. Зноў пацягнула яе на тое страшнае Лобнае месца. Тут яна раптам вярнулася ў думках да Марыны Мнішак. Што праўда пра яе, а што не?.. Пасля таго, як першы самазванец быў забіты, з'явіўся новы, які сабраў войска і наблізіўся да Масквы. Марына адразу ўбачыла, што гэта іншы чалавек, і доўга не згаджалася прызнаць яго мужам. Аднак з палітычных матываў вымушана была гэта зрабіць, каб захаваць за сабою карону расійскай царыцы. Кіравалася разлікам, а апынулася над страшнай прорваю. А калі б яна прынцыпова не прызнала новага самазванца, што было б? Ці не расправіўся б ён з ёю? І наогул, няўжо на гэтым скончыўся б паход другога самазванца на Маскву? Мабыць, не. Некаторыя бачылі ў той вайне магчымасць зарабіць ці проста нарабаваць і такім чынам узбагаціцца. Ва ўсякім разе, калі б Марыне ўдалося вярнуцца дамоў, то, мабыць, на яе долю не выпала б столькі выпрабаванняў...

Занадта часта людзі стаяць перад выбарам, як быць у той сітуацыі, у якую яны нечакана трапляюць… Кожны выбірае тое, на што ў яго хапае духу. Я не жадаю вяртацца да Мечыслава, каб прыкідвацца і выконваць ролю жонкі. Хоць застаюся без кватэры, без працы і падтрымкі. Тое, што Касьяну я непатрэбная, зразумела, у яго свая сям'я і свае праблемы. Што мне застаецца? Задушыць каханне і пашукаць замену Лятаўчыку? Як пішуць замежныя псіхолагі, ён толькі адзін з тыпалагічнага шэрагу. А дзе той шэраг? Каго побач з ім я магу паставіць? Як жыць без кахання? Існуе такі ланцужок: каханне — натхненне — творчасць. Калі задушу каханне, не напішу ні радка. Для чаго мне паказалі ў сне Касьяна, калі не далі магчымасці жыць з ім побач у бязмежным шчасці? Людзі не вартыя такога бязвоблачнага жыцця! Разумею: той сон быў пасланы мне для творчасці. Каханне — рэактыўнае паліва паэзіі і наогул літаратуры, бо без любові да роднай зямлі, да звычайных людзей з іхнімі якасцямі і заганамі нельга нічога вартага стварыць.

Яна і не заўважыла, як ногі самі прынеслі яе да гасцініцы «Масква» на вуліцы Ахотны рад, 2, дзе таямніча загінуў Янка Купала. Што трэба было зрабіць народнаму паэту, каб не апынуцца ў той момант на лесвічнай пляцоўцы?.. Мабыць, у Смерці ёсць тысяча спосабаў, каб знішчыць паэта...

Шасціпавярховы будынак гасцініцы ўзвышаўся над вуліцай пляскатым фасадам, аздобленым у стылі архітэктуры трыццатых гадоў. Збудаванне было старое, з абабітай тынкоўкаю.

Ада зайшла ў маленькае кафэ, купіла блінец з курагою і кубак кавы, села за столік, піла духмяны напой, глядзела на гасцініцу і думала, што нельга разбураць, знішчаць і забываць старое, каб на ягоным месцы будаваць новае. Мінулае павінна існаваць у сённяшнім дні, як добры вопыт, як набытак, якім трэба кіравацца ў наступным.

Дамоў Ада вярталася ў прыгнечаным настроі. Даехала да станцыі «Наваслабодскай», выйшла на паверхню і перасела на тралейбус. Ехала міма Ціхвінскага завулка, дзе ў доме нумар адзінаццаць амаль усё жыццё пражыла беларуская паэтэса Канстанцыя Буйло. Да пяцідзесяці васьмі гадоў працавала ў канторах, даслужылася да намесніка дырэктара «Саюзветпрама». Ці гэтая праца дадавала натхнення паэтэсе?..

Цяпер рана цямнела. Гарэлі ліхтары, вакол іх, як начныя матылі, мітусіліся першыя сняжынкі. Горад рыхтаваўся да спачыну. Ада думала пра заўтрашні дзень, што трэба паглядзець расклад на панядзелак і ўзяць патрэбныя сшыткі для лекцый. На прахадной яна павіталася з армянкай-вахцёркай, якая сказала:

— Цябе нейкі мужчына шукаў.

— Які? — спытала Ада насцярожана і адразу падумала: мо Касьян прыехаў. — Які ён?

— Не разгледзела я. Мне ўсе маладыя на адзін твар, як кітайцы.

— Куды ён пайшоў?

— Не паведамляў, сказаў, што вернецца яшчэ…

Ада хвалявалася, не ведала, што рабіць, ці чакаць тут, ці ісці на вуліцу выглядаць, ці падняцца да сябе ў пакой. Сказала вахцёрцы:

— Прапусціце яго, калі ласка, да мяне, я буду чакаць.

— А раптам гэта які бандыт?

— Не ваджу я хаўрусу з крымінальнікамі, — адказала Ада і пайшла да ліфта.

Раптам успомніла, што некалі прысылаў ёй ліст нейкі хлопец з турмы, толькі яна яму нічога не адказала. Для чаго ёй было тое ліставанне? Каб перавыхаваць ці ўратаваць? Дык на той час яна была ўжо замужам, у самой хапала мітрэнгаў, што не тым шляхам пайшла, сама здзейсніла злачынства супраць уласнай душы і цела.

Ада ўвайшла ў пакой, пастаралася суняць хваляванне. Хто б там ні быў, а хацелася, каб прыехаў Касьян, яна павінна прыгатаваць вячэру і чакаць. Але нічога не паспела. У дзверы пагрукалі. Ада адчыніла і ўбачыла Мечыслава. Адразу ўзнікла жаданне зачыніць дзверы перад ягоным носам, але яна адступіла ўбок і запрасіла:

— Праходзь.

Мечыслаў увайшоў у пакой, агледзеўся, паставіў на канапу валізку, замест прывітання спытаў:

— Як ты тут жывеш? Агульныя кухня, прыбіральня, душ? Гэта ж проста ваенны камунізм…

— У спачуваннях патрэбы не маю. Мяне ўсё задавальняе.

— Швэндацца цэлымі днямі па Маскве табе падабаецца? Дзе была цэлы дзень?

— Спачатку ў гістарычнай бібліятэцы, а потым пахадзіла па горадзе. А ты прыехаў вучыць мяне жыццю? Дык я сытая тваёй навукаю па вушы!

— Дрэнна я цябе вучыў, трэба было кулакамі ўбіваць у галаву, што самае галоўнае для жанчыны — сям’я, сям’я, сям’я!

— Гэта ты сябе маеш на ўвазе? Ты — мая сям’я? Дык памыляешся! Можаш падаваць на развод! Я да цябе не вярнуся!

— Ужо знайшла тут замену?

— Ты чаго прыехаў?

— Каб узяць за каўтуны і завезці цябе дамоў!

— Табе спатрэбілася бясплатная служанка? Няма каму варыць абеды, прыбіраць кватэру, і жончына зарплата ў гаспадарцы не лішняя? А я, паскудная, усяго гэтага цябе пазбавіла! Абвыкай абыходзіцца ўласнымі сіламі!

Ада бачыла, што Мечыслаў закіпае, змяніўся з твару, пачырванеў, нават вочы наліліся крывёю, але не хацела саступаць яму і падпарадкавацца.

— Я кахаў цябе, — сказаў ён са злосцю.

— Кахаў? Ды ты ўяўлення не маеш, што гэта такое, каханне!

— А ты ўжо зведала?

— Паслухай, Мечыслаў, што я табе скажу, і зразумей мяне. Прыехаў, будзь госцем. Можаш і заначаваць тут, на канапе, я табе не вораг, але жонкай тваёю я больш не буду. Даруй, я сказала праўду і прыняла канчатковае рашэнне.

— Калі ты яго прыняла?

— Табе якая розніца?

— Мы ж добра жылі, пакуль ты не паехала ў Маскву.

— Ты добра жыў. А мне было блага. Што ў нас агульнага? Абедзенны стол ды пасцель? Нават па тэлевізары мы глядзелі розныя перадачы: ты футбол ды хакей, а я шукала што-небудзь пра гісторыю, літаратуру ды культуру. Мне нецікава з табою. Лепш я буду адна, чым так. У мяне няма часу на цябе, Мечыслаў!

— Як ты можаш закрэсліць столькі гадоў сумеснага жыцця?

— Гэта было не жыццё, а пакута не толькі для маёй душы, а нават для цела. Усе мае хваробы: страўнік, галава — ад таго жыцця.

— А цяпер ачуняла, разумная вельмі стала! Волю атрымала!

— Мечыслаў, не крычы, людзі за сценамі чуюць. Давай цывілізавана вырашым справу пра развод. Я пакідаю табе ўсё: кватэру і яе начынне. Мне нічога не трэба. Жыві, жаніся, усё ў цябе будзе выдатна. Я, мажа, наогул не здатная для сям'і. Вырасла без бацькі, патрэбы ў мужчынах не адчуваю. Ты ж як педагог можаш мяне зразумець!

— Ты, крывадушная, маўчала, маўчала, а тут раптам — на табе! Я лепшыя гады патраціў на цябе!

— А ты хочаш, каб я табе ўсё сваё жыццё падаравала?

Мечыслаў заскрыгатаў зубамі, выкрыкнуў:

— Ненавіджу, ненавіджу, — схапіў валізку і выскачыў з пакоя.

— Ідзі з Богам, — сказала ўслед яму Ада і не адчула ў душы нічога, акрамя расчаравання.

## 13

Эма Чаркасава запрасіла Аду і Ярыну ў Дом літаратара. У той вечар збіраліся маскоўскія празаікі, чыталі апавяданні, а потым разбіралі іх. У невялікай зале сядзелі чалавек дваццаць старых мужчын. Твары іхнія былі зрэзаныя такімі жывапіснымі маршчынамі, што здаваліся неверагоднымі маскамі. Вельмі цікава было назіраць, як мяняюцца гэтыя абліччы ў залежнасці ад думак, на іх былі напісаны ўсе эмоцыі.

Стары чалавек сядзеў за сталом, прозвішча ягонае не называлі, бо ўсе тут адзін аднаго ведалі, акінуў позіркам прысутных, спытаў:

— Усе на месцы?

Яму адказалі, што нікога больш чакаць не будуць, і ён нудным гугнявым голасам пачаў чытаць. Апавяданне было нецікавае і невыразнае, надуманае, пра вясковую жанчыну, якіх гэты пісьменнік можа паўсотні гадоў не бачыў. Пасля чытання зрабілі перапынак. Усе выйшлі ў фае праветрыцца. Эма з цікавасцю зірнула на аднакурсніц і спытала:

— Як вам гэты твор?

— Недалугі, як і аўтар, — адказала Ярына. — Мусіць, гэтым дзядам няма чаго рабіць, вось яны і высмоктваюць прозу з пальца. Лепш бы ўжо мемуары пісалі, дык і то было б цікавей.

— А ты, Ада, што скажаш?

— Трэба надаць апавяданню больш дынамікі, руху, тады маладзіца ў апавяданні ажыла б, а то яна толькі сядзіць ды думае. А ў вёсцы няма калі асабліва задумвацца, трэба працаваць ды працаваць, калі і думаць, дык падчас працы.

— Я згодная з вамі, — сказала Эма.

Яны вярнуліся ў залу, куды паступова пачалі збірацца пісменнікі. Пачалося абмеркаванне. Некаторыя празаікі хвалілі апавяданне, некаторыя рабілі заўвагі. Устала Эма і асцярожна пераказала тыя думкі, якія пачула ад аднакурсніц. Прысутныя ўважліва яе выслухалі, і было падобна на тое, што пагадзіліся.

Упершыню Ада па-сапраўднаму зразумела характар Эмы, якая некалькі месяцаў праседзела з ёю за адным сталом. Яна здатная збіраць чужыя думкі, прысвойваць і выдаваць за свае. З такой пазіцыяй нічога вартага не напішаш. Адна справа вучыцца ў другіх, гэта патрэбна, а зусім іншая — прысвойваць сабе чужое. Ада падумала, што, жывучы ў Маскве, варта было б нешта перакласці з прозы ці вершаў на рускую мову і пахадзіць па рэдакцыях, але чамусьці ўсё адкладвала...

Калі вярнуліся ў інтэрнат, Ада запрасіла Ярыну на гарбату.

— Дзякуй, зайду на хвілінку, перадыхну ды пайду Сполахава карміць.

— Нажыла ты сабе турботу…

— І не кажы. Вось мазі вязу, — сказала Ярына, усаджваючыся на канапу і дастаючы з сумкі нейкія пляшачкі.

— Гэта ад чаго?

— Малочніцу ў мяне выявілі.

— Падарунак ад Сполахава?

— І яго намажам, — лёгка адказала Ярына.

— Дык будзеш гарбату?

— Не, не…Трэба ісці. Нешта стала стамляцца…

— Дык цяжарнасць — справа нялёгкая.

— Нічога, ужо нядоўга засталося.

— У Маскве будзеш раджаць?

— Не, тут няма ніякіх умоў, каб дзіця гадаваць. Трэба дамоў ехаць… Там і мама што-небудзь паможа…

— Давядзецца мне зноў адной тут сядзець. Больш на гэтыя чытанні прозы не пайду. Пусты занятак. Да таго ж адной страшна па вечарах хадзіць, — паскардзілася Ада.

— А чаму ты не пасябруеш з кім?

— Не хачу. Уяві чыста тэарэтычна: прыручыш некага, а пасля трэба адвыкаць. Два гады праляцяць хутка… І для чаго?

— Калі нічога не атрымаецца, дык хоць успаміны застануцца…

— Не, Ярынка, я з тых, што, калі кахаць, дык кахаць, а прыкідвацца і выконваць нейкую фальшывую ролю не жадаю. Такі характар… Бачыш, як

Юлія Друніна зрабіла. Памёр муж, перабудова памяняла арыенціры, яна не захацела жыць у такіх умовах. Уключыла матор машыны ў гаражы і... Яна, дарэчы, вучылася таксама на нашых курсах, тут сустрэла і пакахала свайго мужа, які быў выкладчыкам.

— Не расказвай такія жахі перад сном, пайду я.

Ярына ўжо накіравалася да дзвярэй, а раптам спынілася і спытала:

— Ці ты бачыла майго Сполахава?

— Не, як я магу яго вылічыць? Тут сем паверхаў, мноства людзей жыве…

— Дык пайшлі да мяне, пазнаёмлю.

— Можа, няёмка? — засумнявалася Ада.

— Усё будзе добра…

— Ну, пайшлі, толькі я на пяць хвілін, бо ў мяне тут поўны завал. Сёе-тое трэба пачытаць ды і папісаць не шкодзіла б.

Жанчыны выйшлі з пакоя і падаліся ўздоўж пустога доўгага калідора, завярнулі ў левае крыло, дзе жыла Ярына. Ледзьве паспелі ўвайсці, як прыбег Сполахаў, трохі вышэй сярэдняга росту, у майцы, з галавою, уцягнутаю ў плечы, прыгорблены, барадаты, даволі паношаны і патрапаны жыццём. Ён жыў у суседнім пакоі, гэтак лёс паклапаціўся пра Адзіну зямлячку.

— Дзе была? — спытаў ён разражнёна, не вітаючыся.

«Знаёмая песня, — падумала Ада. — Яшчэ і не муж, толькі каханак, а патрабуе ўжо справаздачы пра кожны крок. Што будзе далей, аднаму Богу вядома».

— Пазнаёмся, гэта мая зямлячка Ада, разам вучымся. А гэта Леанід Сполахаў, выдатны рускі празаік, які прыехаў заваёўваць Маскву з Узбекістана.

— Вельмі прыемна, — сказала Ада.

Сполахаў паморшчыўся, як ад зубнога болю, спытаў:

— Якое ў цябе прозвішча?

— Літвінка.

Сполахаў засмяўся:

— Ну і прозвішчы ў вас: Літвінка, Макаўка. З такімі прозвішчамі — у літаратуру? — з сарказмам прамовіў ён. — Вам толькі на рынку бульбаю гандляваць.

— У мяне цудоўнае прозвішча, якое паказвае на прыналежнасць маіх продкаў да Вялікага Княства Літоўскага. Мне яно падабаецца.

— Ты з Літвы?

— З Беларусі. Я думаю, Ярына пра нагодзе раскажа вам пра нашу краіну.

— Трызня, — пагардліва кінуў ён і пачаў заглядваць у цэлафанавы пакунак, які прынесла Ярына. — Пажраць што-небудзь будзе? — нецярпліва спытаў ён.

— Зараз згатую, — адказала Ярына.

— Паклічаш, як будзе гатова, — сказаў Сполахаў і выйшаў.

Ада правяла позіркам нягеглую постаць мужчыны, а калі ён выйшаў, спытала ў Ярыны:

— Чаму ў яго плечы такія, высока паднятыя?

— Год таму ён перанёс аперацыю, выдалілі палавіну лёгкага. Мусіць, яму цяжка было дыхаць, дык ён так прывык трымаць плечы, — са спачуваннем адказала яна. — Увогуле, ён неблагі чалавек, мо занадта ганарысты, дык жа празаік!

— Я пайду, Ярынка, у мяне яшчэ шмат спраў. Дабранач…

Ада выйшла, накіравалася ў свой пакой, па дарозе ёй сустрэўся Ціхан Давыдзенка, самы старэйшы курсант, які прыехаў ажно з Дальняга Усходу, дзе працаваў ляснічым. Быў ён светлы з твару, у ягоных выбеленых валасах не бачылася сівізны, толькі цяжкаватая хада выдавала, што ў чалавека баляць паясніца і ногі.

— Адачка, я хацеў запрасіць цябе ў госці. Заходзь зараз…

— Дзякуй, не магу, я толькі з горада...

— Тады заўтра…

— Не, і заўтра не атрымаецца. Лепш у які іншы дзень. Яшчэ будзе час. Вы, мусіць, не ведаеце, заўтра ў Доме літаратара сход маскоўскіх пісьменнікаў. Варта схадзіць ды паслухаць. Бывайце…

Ада развіталася з Ціханам, а думкамі вярнулася да Ярыны і Сполахава. Ён не ганарысты, а эгаістычны, да таго ж дрэнна выхаваны, у такім узросце яго не пераламаеш. Колькі яму? Бадай, даўно за сорак. А мо ён проста дрэнна выглядае? Бадай, сумеснага жыцця ў іх не атрымаецца. Але ўсё на гэтым свеце часовае. І невядома, як дзіцяці жыць лепш: ці з чэрствым і чужым айчымам, ці толькі пры маці-адзіночцы? Складаныя задачы ставіць жыццё, а хутчэй гэта мы самі сябе заганяем у кут, скуль немагчыма вылезці. Чым даўжэй жывём, тым болей робім памылак.

## 14

На наступны дзень аўдыторыя гула. Курсанты абмяркоўвалі падпісанне Белавежскага пагаднення і развал СССР. Такой краіны больш не існавала. У кожнага было сваё меркаванне на гэты конт. Адны казалі, што гэта добра, іншыя цяжка ўздыхалі, не разумеючы, як так магло здарыцца. Але ўсе разумелі, што зараз жыццё пераінačыцца, толькі каму на карысць...

Тоня Суркова падышла да Ады і здзекліва сказала:

— Ну што, беларуска, як будзеце жыць без нас?

— Як і жылі, — адказала Ада. — Будзем працаваць.

— Такую дзяржаву развалілі!..

— А людзі ўсё адно будуць разам, — сказала Ада.

У аўдыторыю тым часам увайшла Эма, спытала:

— Чаго гэта сёння так шумна на калідоры?

— Хутка вясна, — усміхнулася Ада. — У снежні сонца паварочвае на лета.

— А я думала, мо што здарылася.

— Я прачытала твае кніжкі.

— Усе?

— Усе, з цікавасцю! Магу нават сюжэты пераказаць. Вось прынесла, — Ада выцягнула Эміны кніжкі з сумкі і паклала на стол.

— Добра, калі ты такая заўзятая чытачка, дык я падпішу табе адну.

Эма выбрала самую тоўстую кніжку ў цвёрдай блакітнай вокладцы з назваю «Папярэднік», зрабіла дарчы надпіс і паклала перад Адай.

— Дзякую, Эмачка, буду я ў сваім Бабруйску перачытваць ды цябе згадваць.

Празвінеў званок, у аўдытоторыю павалілі хлопцы, разам з імі прабраўся ў памяшканне пах тытунёвага дыму. Пачынаўся звычайны дзень заняткаў на курсах, якіх потым было шмат...

## 15

Набліжаўся Новы год. Курсанты здалі залікі, раз’ехаліся ў свае, цяпер ужо незалежныя рэспублікі на канікулы. Ада паехала да маці. Але добрага настрою хапіла толькі на адзін дзень. Яна ўжо ўзялася пісаць артыкул пра Ілью Капіевіча, засяродзілася на тэксце, нічога не чула і не заўважала. Нячутна падышла маці, села побач і спытала:

— Чаму ты не ідзеш да Мечыслава?

— А што я там не бачыла?

— Ён жа твой муж…

— Я больш да яго не пайду, і, калі ласка, не замінай мне працаваць, — адрэзала Ада.

— Што ты сабе думаеш? Можа, лепшага знойдзеш? Тут, кажуць, на яго ўжо школьніцы палююць, — з горыччу сказала маці.

— Мне ўсё роўна.

— Як гэта табе ўсё роўна? У цябе там кватэра, мэбля! Ты збіраешся ўсё пакінуць яму? Да яго заўтра дзесяць прыбягуць!

— Мама, пакінь мяне ў спакоі! Няхай бягуць і жывуць. Мне не трэба нічога! Не хачу, каб нешта нагадвала пра яго! Столькі гадоў патрачана дарэмна!

— Паслухай, што ты набрала сабе ў галаву? Чым ён табе не падыходзіць? Не п’е, не курыць, здаровы ды разумны, сімпатычны. Што табе яшчэ трэба? Не хочаш туды ісці, давай паклічам Мечыслава ў госці ды разам адсвяткуем Новы год. Патэлефаную яму, згода?

— Тэлефануй і святкуй з ім сама, — адказала Ада, устала з-за стала і пачала збіраць рэчы ў сумку.

— Куды ты?

— Паеду да цёткі Тамары. Мне трэба працаваць, а не слухаць розную лухту, — злосна адказала Ада.

— Навошта табе працаваць? Каму патрэбная гэтая твая пісаніна?

— Мне патрэбна, мне падабаецца так жыць.

— Застанешся адна, будзеш, як я, самотна сустракаць святы. У будзень адной яшчэ сяк-так! А ў святы невыносна! — маці заплакала. — І ты мяне пакідаеш. Дзеля каго, дзеля каго я зжыла сваё жыццё? Ці не дзеля цябе? Замуж другі раз не выйшла. Баялася, каб чужы чалавек, айчым, цябе не пакрыўдзіў… І вось маю падзяку!

— Жыць трэба дзеля сябе, тады не будзеш крыўдаваць, што патраціла жыццё на іншых.

Ада спакавала сумку, узяла пішучую машынку, паперу, тое-сёе з рэчаў, апранула паліто. Маці загаласіла:

— Для чаго ж я начэй не спала, цябе гадавала-а-а? А ты такая жорстка-а-а-я і непаслухмяная- я-я.

Ада падхапіла сумку і выскачыла з хаты. Яна ведала матчыну натуру, якая ўмела дасягаць жаданага выніку, калі не пагрозамі, дык слязамі. Нічога, паплача і супакоіцца. Застацца дома азначала з дня ў дзень слухаць яе дакоры і прэтэнзіі, а гэта было невыносна. «Да чаго ж некаторыя бацькі не паважаюць асобу дзіцяці, а кіруюцца толькі ўласнымі меркаваннямі. Тым больш непрыемнае і непрымальнае такое стаўленне да мяне, бо я ўжо не дзіця, а дарослая жанчына, а таму не жадаю, каб за мяне вырашалі, як і з кім жыць», — падумала Ада, супакойваючы сябе.

Яна накіравалася на аўтавакзал. Падумала, калі ніякага транспарту не будзе, дык пойдзе пешшу. Для шалёнага сабакі дваццаць кіламетраў не адлегласць. Вяртацца дамоў не хацела. Ёй пашанцавала: перад святам далі на патрэбным маршруце дадатковы аўтобус, які і завёз яе да цёткі Тамары ў вёсачку, якую з усіх бакоў акаляў лес. Адзе здалося, што за апошнія гады ён яшчэ больш наблізіўся да агародаў, быццам меў намер выцесніць жыхароў.

Вёска была засыпана снегам, але дарогу пачысцілі, мабыць, яшчэ раніцаю. Да весніц цётчынай хаты з вуліцы была таксама пракапана сцежка. Калматы сабачка выкаціўся насустрач з двара, але, гаўкнуўшы разы

два, пазнаў Аду і радасна завіляў хвастом. З цёмных сенцаў госця расчыніла дзверы ў хату, і цётка Тамара, убачыўшы яе, кінулася насустрач, пачала абдымаць ды цалаваць:

— Адачка, прыехала, не забываеш сваю старую цётку! А я думаю, хто там за акном прамільгнуў. Чаму ж ты адна? Дзе Мечыслаў?

— Ён заняты.

— А я ўжо зусім замаркоцілася. Ад Антона нічога няма паўгода.

Цётчын сын паехаў некалі па камсамольскай пуцёўцы ў Сібір, так і застаўся там жыць. Пакуль быў маладзейшы, дык кожнае лета прыязджаў з дзецьмі, а ў апошнія гады нешта не паказваўся, прысылаў разы два на год пару лістоў, тым і абмяжоўваўся. Цётка маркоцілася, але на долю асабліва не наракала, бо ў вёсцы засталіся толькі самотныя старыя людзі, моладзь не затрымлівалася.

— Цётачка, не трэба сумаваць, у вашага сына сваё жыццё: дзеці, унукі. Ён жа і сам ужо дзед. Няма яму часу, настрою, а іншы раз і жадання пісаць. Гэта ж старому мужчыну сесці за стол, узяцца за ручку ды напісаць ліст — амаль подзвіг!

— Які ж ён стары? Усяго нейкіх пяцьдзесят шэсць гадоў!

— Гэта для вас ён малады, а для мяне дык стары, амаль пенсіянер.

— Чаго ж мы стаім. Распранайся, можа, паясі што.

— Не, пакуль не хачу.

Ада павесіла паліто на кручок каля дзвярэй, распакавала сумку, дастала друкарку, паставіла на стол у кухні, бо ў чыстым пакоі на стале красаваўся тэлевізар. Уздыхнула з палёгкай і толькі цяпер адчула знаёмы пах цётчынай хаты: высушаныя грыбы, малако, мацярдушка, чабор...

— Добра ў цябе! — сказала Ада.

— Прыязджай ды і жыві ў мяне. Калі там твая вучоба скончыцца?

— А дзе я буду працаваць? У калгасе? Рада б у рай…

— Сапраўды, складанае цяпер жыццё, раней сям'ёю на гаспадарцы працавалі, толькі пра зямлю дбалі, а цяпер людзей адвярнула ад старых звычаяў. Нікому тая зямля не патрэбная. Усе лёгкую працу палюбілі, хто здатны галавою думаць, а хто і не. Я не пра цябе, Адачка, а наогул. Ты ў нас таленавітая. Усёй вёскай чыталі твае артыкулы і вершы, пакуль у газеце працавала. А куды ты пасля вучобы?

— Не ведаю, дасць Бог дзень, дасць і працу.

— А як ты жывеш?

— А нічога, жывём. Засталося ў вёсцы сем баб ды адзін дзед. Кажуць, неперспектыўныя мы. Паўміраем, дык і вёска наша прападзе, зарасце лесам, — уздыхнула цётка Тамара.

— Шкада. Мо хоць якія дачнікі з'явяцца.

— Пакуль не знаходзіцца ахвотнікаў. Рэчка далекавата...

— Цяпер не праблема штучны ставок выкапаць.

— Дык мо пойдзем да Клавы ды патэлефануем тваёй маці, што ты даехала. Тэлефон жа толькі ў яе, — прапанавала цётка.

— Схадзі сама, а мне трэба брацца за справу, — адказала Ада.

— Толькі прыехала — і ўжо за работу?

— Мала часу, цётачка, а зрабіць трэба шмат. Схадзі да Клавы, а я пакуль надрукую пару старонак.

— Добра, не буду табе замінаць…

Цётка няспешна надзела ватоўку, завязала старую выцвілую хустку, зашпілілася на ўсе гузікі, паглядваючы на пляменніцу, і пайшла з хата. Ада тым часам узялася дапісваць артыкул пра Ілью Капіевіча. Складаны лёс быў

у гэтага таленавітага чалавека. Падлеткам у час вайны трапіў у палон, яго вывезлі ў Расію. Калі праз шэсць гадоў вярнуўся, дык аказалася, што маёнтак ягоных бацькоў ужо прыбралі да рук чужыя людзі, а яго абвінавацілі ў здрадзе каралю. Вымушаны быў выехаць за мяжу. У Амстэрдаме служыў пратэстанцкім святаром. У 1699 годзе ў друкарні Яна Тэсінга пачаў выдаваць кнігі. У 1701 годзе Капіевічу ўдалося адчыніць уласную друкарню. Сярод выданняў пераважалі падручнікі па гісторыі, арыфметыцы, граматыцы, вайсковай і марской справах. У час Паўночнай вайны вярнуўся ў Віцебск, скуль быў запрошаны Пятром I у Маскву з уласнай друкарняй, але выдаваць кнігі яму не дазволілі, а прапанавалі працаваць перакладчыкам у пасольскім прыказе. Друкарню забралі. Нягледзечы на глыбокую старасць, Капіевіч, расчараваны варункамі, выехаў зноў у Амстэрдам з дачкою, дзе і памёр у 1714 годзе.

Ада разважала, чаму ж тады шмат каму з выдатных асоб было мала месца на радзіме? І яны выконвалі сваё прызначэнне далёка за яе межамі. Там станавіліся нацыянальнымі героямі, сусветна вядомымі навукоўцамі, літаратарамі, музыкамі, спевакамі...

У цётчынай хаце добра працавалася. Нават на Новы год Ада не зрабіла перапынку, была перакананая, што ў гэты дзень трэба добра папрацаваць, каб потым увесь год пісалася. Яна не заўважыла, як праляцеў час канікулаў. Напісала яшчэ адзін артыкул пра беларускіх разьбяроў па дрэве Язэпа Андрэева з Оршы ды Кліма Міхайлава са Шклова, якія ў сямнаццатым стагоддзі ўпрыгожвалі алтары некаторых маскоўскіх храмаў. Разьба потым пакрывалася пазалотаю і вельмі багата глядзелася. Распачала яшчэ адзін артыкул пра майстра па вытворчасці адметнай кафлі Сцяпана Іванава (Палубеса), лёс якога быў падобны на лёс Ільі Капіевіча. Родам ён быў з Мсціслаўля. Яго таксама вывез разам з палоннымі князь Трубяцкі ў час вайны з Масковіяй 1654—1667 гадоў, але «пазычыў» хлопчыка ігумену манастыра. Пасля таго, як Сцяпан авалодаў майстэрствам вырабу кафлі і стаў вядомы, пераехаў у Маскву, дзе зладзіў уласную майстэрню ў Ганчарнай слабадзе і займеў шмат вучняў. Ягонай кафляю былі аздоблены храмы, якія будаваліся ў той час і надавалі асаблівую прыгажосць інтэр'ерам. Гэтыя майстры былі родам з Магілёўшчыны, што здавалася асабліва цікавым для чытачоў раёнкі.

Ада аднойчы знарок ездзіла на вуліцу Ганчарную ў Маскве, каб на свае вочы ўбачыць тую кафлю ў царкве Успення і была ўражана хараством, якое не страцілася, не сцерлася праз стагоддзі. Царква гэтая была пабудавана на сродкі жыхароў Ганчарнай слабады, дзе жылі майстры з Вялікага княства Літоўскага. Яны для сябе пастараліся на славу. Шатровая званіца выглядала лёгкай і ажурнай, звонку царква пафарбавана ў чырвоны колер і аблямавана белаю фарбаю, накрыта зялёным дахам. Ужо на варотах убачыла Ада адметнае маёлікавае пано з раслінным малюнкам у рамцы, як вітальная усмешка беларускага майстра праз стагоддзі. Паўночны фасад аздабляў шырокі маляўнічы фрыз, паўднёвы — асобныя ўстаўкі. Чаго толькі не было на той кафлі: дзівосныя нацюрморты з экзатычных пладоў з райскімі птушкамі, выявы анёлаў і Віфліемская зорка, вінаградныя гронкі і нават скульптуры чатырох апосталаў. А найбольш уразіла кафля, на якой была намалявана валошка з васьмю пялёсткамі: чатыры жоўтыя і чатыры сінія. Гэтая самасейная кветка хоць і расце скрозь на Зямлі, але чамусьці толькі беларусы найбольш любяць яе. Мо таму, што ўсе нашы палявыя ды лугавыя кветкі вельмі сціплыя, а валошка, як лапік чыстага неба ў жыце, быццам Богам пасеяная. Мабыць, з маленства вынес Сцяпан Іванаў памяць пра цудоўную кветку і навечна замацаваў яе на сцяне храма, як уласную найвялікшую святыню. Бадай, ніхто з ягоных вучняў так і не пераўзышоў майстра.

Гэтак жа дзівосна аздоблены «Церамок» над брамай Круціцкага падворка, немагчыма нагледзецца на тое хараство. Фрызы, ліштвы, пано з кафлі ззяюць на вонкавай сцяне будынка. Каларыт кампазіцый глыбокі, напружаны, пабудаваны на дысанансным спалучэнні трох асноўных колераў: жоўтага, зялёнага і сіняга, які найчасцей выкарыстоўваецца для фона. Кафля ў асноўным выраблялася рэльефная, пластыка малюнка незвычайна багатая, спеўная, яна быццам перацякае з аднаго фрагмента арнаменту ў наступны.

Міжвольна падумаеш, а ці здатныя цяперашнія майстры на такую справу? Мабыць, не, бо цяпер усё робіцца машынамі, а тая кафля стваралася натхнёным сэрцам і рукамі майстроў. Таму і мянушку атрымаў майстар Палубес, што звычайны чалавек на такое чараванне з глінаю не быў здатны. Пра свае ўражанні Ада ўзнёсла апавядала ў нарысах і лічыла, што гэта будзе цікава чытачам, бо далёка не кожны паедзе ў Маскву, каб адшукаць там храмы, у якіх шчыраваў Сцяпан і ягоныя вучні.

Ада вярнулася ў Бабруйск. Маці зрабіла выгляд, што паміж імі ніякае сваркі не здарылася, была лагоднай і вясёлай. Гэта дачку ўсцешыла, але дома яна не затрымалася, а падалася ў рэдакцыю, дзе застала толькі галоўнага рэдактара, ветлівага пажылога чалавека ды маладую ягоную сакратарку, павіталася. Рэдактар пачаў распытваць, што тым ды як у Маскве.

— Усё звычайна. Сталіца жыве і красуе. А я прынесла тры артыкулы пра літвінаў у Маскве, — сказала Ада.

— Гістарычныя? Цікава…

— Можна назваць і так. Пачытаеце, пабачыце… Я хацела спытаць, Уладзімір Апанасавіч, ці возьмеце мяне назад у газету пасля вучобы?

— Зараз у нас штат цалкам укамплектаваны, але… Ты вучыся… Потым пагаворым, — няпэўна сказаў ён.

— Добра, потым дык потым…

Ада выйшла з рэдакцыі разгубленая. Няма месца. Ну што ж, там будзе відаць...

Яна падалася на чыгуначны вакзал і купіла білет на цягнік на заўтра ў Маскву. Затым з задавальненнем прайшлася па горадзе, зазірнула на двор сваёй школы, але не затрымалася там, баючыся выпадкова сустрэцца з Мечыславам. Зараз яна добра разумела Наіну Андрыянаўну, якая пазбягала сустрэч з былым мужам нават праз шмат гадоў пасля разводу.

Нічога не змянілася ў горадзе за час яе адсутнасці, хіба толькі зніклі чырвоныя транспаранты з камуністычнымі лозунгамі. Раней іх было ў горадзе шмат. Зайшла ва ўнівермаг, убачыла пустыя паліцы, ля якіх стаялі без справы прадаўцы і нешта між сабою ціха абмяркоўвалі. Ведала, што і тут, як і паўсюль, харчовыя прадукты даюць па талонах. І не толькі прадукты. «Што ж такое атрымліваецца? — здзіўлялася Ада. — Людзі сеюць, убіраюць, прамысловасць працуе, а чамусьці нічога не хапае... Мабыць, нешта не тое робіцца... Як тут людзям быць?.. І што будзе са мной?.. Мяне ж нішто, акрамя літаратуры, не цікавіць. Ці павінна я гвалціць душу і прымушаць сябе займацца, напрыклад, вытворчасцю нейкіх рэчаў, гандлем і яшчэ Бог ведае чым?.. Гэта ж не маё. Ёсць тыя, хто да гэтага здатны... Не варта думаць пра тое, што будзе праз год і больш?... Час пакажа, нешта прыдумаю…» — адмахнулася ад вярэдлівых думак Ада і заспяшалася дамоў. Пад нагамі рыпеў снег. Яе ціхі гарадок, у якім пераважала аднапавярховая забудова (толькі ў цэнтры ўзвышаліся трохпавярховікі), драмаў пад белым покрывам зімы.

## 16

На занятк у першы дзень пасля канікулаў з’явіліся не ўсе, некалькі чалавек з розных рэспублік, мабыць, яшчэ не паспелі прыехаць. Армянскі паэт Ара хадзіў змрочны, як хмара.

— Што гэта з ім? — спытала Эма.

— Не ведаю, — адказала Ада.

— Ты ж побач з ім жывеш.

— Толькі сёння яго ўбачыла.

У аўдыторыю ўвайшла Наіна Андрыянаўна, павіншавала ўсіх з Новым годам, выказала добрыя пажаданні, паглядзела, хто адсутнічае і выйшла.

Ара, праходзячы каля стала, за якім сядзела Ада, раптам спыніўся і сказаў:

— Буду чытаць твае вершы, нават перакладу на армянскую мову.

— Бог з табою! Навошта, каб чытаў ды яшчэ перакладаў, калі сам казаў, што арганічна не выносіш жаночых вершаў? Нельга здзеквацца з сябе, Ара.

— Мяне адлічваюць з курсаў! Што мне трэба зрабіць?..

— Прабач, я не ведала, — адказала Ада.

Ара пайшоў, сеў за свой апошні стол. Эма паднялася, не кажучы ні слова, выйшла. Вярнулася праз некалькі хвілін і паведаміла:

— Ару і Грышу Веправа збіраюцца адлічыць з курсаў за п’янства і дрэнную вучобу. З Гошам Стромам пакуль не ведаюць, што рабіць. Ён з некім пабіўся ў інтэрнаце, размалаціў акно. Ён таксама п’е.

— Адкуль ведаеш?

— Хадзіла да прарэктара.

— Ён табе ўсё гэта сказаў?

— А што, хіба гэта сакрэт? Ужо загад на стале ляжыць…

Праз колькі хвілін прыйшоў прафесар Выдрын і пачаў чытаць лекцыю па філасофіі. Тэма была цесна звязаная з гісторыяй Расійскай дзяржавы.

Ада, з жалем думаючы пра Гошу Строму, слухала няўважліва. Думала, мабыць, варта напісаць у дэканат калектыўны ліст ад усёй групы, каб хоць гэтага хлопца ўратаваць. За Грышу Веправа не было сэнсу прасіць, ён амаль месяц не з’яўляўся на заняткі, залікі і экзамены не здаў. Ара таксама лічыў за лішняе хадзіць з заліковай кніжкаю, думаў, што яго і так атэстуюць, занадта ганарысты. Памыліўся. Гошу было шкада, здольны хлопец, да таго ж самы малады ў групе. Так, задзірысты, але адстойвае свае меркаванні, не хітруе...

...Пасля апошняй лекцыі ў аўдыторыю ўвайшлі Наіна Андрыянаўна і прарэктар, які абвясціў, што за дрэнную вучобу, разбэшчанасць і п’янства Ару Васкерчана і Грыгорыя Веправа адлічылі з курсаў. Усе ўтрапёна маўчалі, таму што былі сведкамі, як гэтыя хлопцы ігнаравалі вучобу. Калі Наіна Андрыянаўна сказала, што цяпер рашаецца, як быць з Гошам Стромам, Ада не стрымалася, прамовіла:

— Не ведаю, чым правініўся Строма, але я перакананая, што ён вельмі здольны, эрудыт, да таго ж самы малады сярод нас. І калі ён у нечым правініўся, дык мы можам заручыцца за чалавека ды апекаваць яго.

Пачуліся галасы:

— Гошу не дамо! Не чапайце Строму!

— Ціха! Ціха! — супакоіла ўсіх Наіна Андрыянаўна.

— Я буду скардзіцца, — выкрыкнуў Ара і выйшаў з аўдыторыі.

Ада паглядзела на Гошу Строму. Ён апусціў галаву. Рукі бездапаможна ляжалі на стале.

Яна паглядзела на яго, такога знерlivанага, безабароннага і зноў пашкадавала Гошу. Мабыць, ён не зусім вызначаўся ў жыцці, трапіў пад чужы ўплыў. Цягнуўся да старэйшых, прапіваў з імі стыпендыю, галадаў... Прапіваў і ганарары, зрэдку і заробленае на разгрузцы вагонаў... Што галадаў, дык бачна: вакол пазногцяў гнайнікі, а гэта — авітаміноз...

У інтэрнат яна вярталася з Ціханам Давыдзенкам. Выпадкова ці знарок ён сустрэў яе каля выхаду з варот Літінстытута.

— Добра ты Гошу падтрымала, — сказаў Ціхан. — Я таксама пра яго добрай думкі.

— Шкада хлопца. У яго ж універсітэт за спінаю. Ён можа тут у аспірантуру паступіць. А вы дахаты ездзілі?

— Так, злётаў. А ты чым займалася на канікулах?

— Напісала тры артыкулы, да якіх ніяк рукі не даходзілі.

Ішлі гаманілі. Ціхан правёў Аду да прыпынку метро і, развітваючыся, сказаў:

— Зайшла б калі ў госці. Я прывёз розных далікатэсаў.

— Нешта ў мяне часу не хапае. Калі-небудзь забягу.

— Не адкладвай надоўга, я буду чакаць.

— Добра, дамовіліся, пакуль, — Ада ўзмахнула на развітанне рукой і пачала спускацца па прыступках уніз. Яна звыклася з маскоўскім рытмам жыцця, жвава бегала па эскалатары, прыспешвала час.

У інтэрнаце ўсё было, як звычайна. Хтосьці хадзіў па калідоры, хто быў у сваім пакоі...

...Справа ад пакоя, у якім жыла Ада, жыў рускі паэт Аляксей Чубаў з Рыгі. Высокі, заўсёды ўскудлачаны і пахмурны. Звычайна, калі з кім размаўляў, пазіраў сабе пад ногі. У яго пакоі, як і ў Адзіным, было ціха. Гэтага хлопца яна рэдка бачыла ў інтэрнаце на кухні, ён сабе нічога не гатаваў. На кухню часта забягалі Гоша, Сеня ды француженка Наталі з югаслаўкай Мірыям. Гэтыя дзяўчаты так дрэнна размаўлялі па-руску, што Адзе рэдка калі ўдавалася зразумець, што яны кажуць. Іншы раз на кухню прыходзіла Агнія Дымава. Яна мела кватэру ў Маскве, а ў інтэрнат пасялілася, каб радзей сустракацца з мужам, з якім нядаўна развялася, але кватэру пакуль падзяліць не паспела.

У той вечар на кухні гаспадарыў Гоша, нешта памешваў у каструльцы. Ада прыйшла сюды ўскіпяціць чайнік.

— Дзякуй, Ада, што падтрымала мяне, — сказаў ён. — Каб не ты, астатнія, напэўна, прамаўчалі б, не заступіліся б за мяне, — як не заступіліся за Ары і Грышу.

— Наконт Грышы правільна. Яго даўно на курсах ніхто не бачыў. Невядома, куды хлопец знік. Ара таксама не цукар. Па начах так гагаталі ў ягоным пакоі, што немагчыма было заснуць. Невядома, чым ён там займаецца. Паслаў мне Бог суседа! Аднойчы дзяўчына нейкая крычала немым голасам. А ты чалавек прыстойны! Прынамсі, мне падабаешся. Як павячэраеш, зайдзі ды раскажы, што з табою здарылася. Ты ездзіў у Кіеў?

— Няма мне да каго ездзіць.

— А я толькі з Бабруйска. Прыходзь, пачастую чым-небудзь хатнім.

— З задавальненнем зайду, — паабяцаў Гоша. — Гэта такая рэдкая з’ява, што ты некага запрашаеш. Мужчыны ходзяць і аблізваюцца, гледзячы на твае дзверы.

— Не выдумляй, чаго ім аблізвацца? У Маскве шмат жанчын, акрамя мяне. А я занудная, рыхтуюся да заняткаў, чытаю ўсё, што задаюць дадаткова да праграмы, сама шукаю дакументы, якія датычацца Беларусі. Карацей,

Гоша, трэба спяшацца. Вучоба наша хутка скончыцца, а тады не ведаю, як ты, а ў мяне наўрад ці будзе нагода прыехаць у Маскву.

Ада вярнулася ў пакой, папіла гарбату, але не вячэрала, ведала, што Гоша сваім варывам не натоліцца, трэба будзе яго пакарміць і паесці за кампанію з ім.

Гоша не прымусіў сябе доўга чакаць.

— Заходзь, заходзь, аднакашнік, сядай да стала, — запрасіла Ада. — Частуйся, вось курыныя адбіўныя, тут піражкі з капустаю, варэнне. Наядайся, мне адной з гэтым не ўправіцца, пачарсцвее і сапсуецца.

— Ты мяне песціш…

— Што ты, Гоша, я проста хачу, каб ты мне дапамог знішчыць гэтыя запасы.

— З насолодаю, — адказаў Гоша, жуючы катлету.

— А каб ты нічога лішняга не падумаў, я скажу табе, што вельмі люблю слухаць твае разважанні пра постмадэрнізм і андэграўнд.

— Здзекуешся?

— І не думала. Сапраўды захапляюся тваёю эрудыцыяй і думаю, што табе на гэтых курсах сумна. Ад няма чаго рабіць ты і займаешся глупствам.

— Згодзен, мяне губіць п’янства. Усё! Бяруся за розум. Тым больш, што да стыпендыі яшчэ некалькі галодных дзён. Учора мы сабралі хто што меў, паслалі Сеню па піва, трэба ж было адзначыць сустрэчу. Пайшоў ён і прапаў. Прыцёгся апоўначы п’яным у дым. Пытаем, дзе быў? Адказвае: таго піва ўсім усё роўна не хапіла б, а так хоць я адзін напіўся.

— Дык што ты тут п’яны тварыў? — спытала Ада.

— Ды нічога. Піў, буяніў, не заўсёды помніў і разумеў, што рабіў. Карацей, патроху вар’яцеў.

— Гоша, ты здольны чалавек. Разумею, табе мае парады без патрэбы, ды ўсё ж я табе скажу, што не варта псаваць сваё жыццё.

— Ада, я ўдзячны табе. Праўда, мне гэта прыемна.

— А хто ў цябе з родных ёсць?

— Нікога... Бацька пакінуў нас, калі я пад стол пешкі хадзіў. Мама памерла тры гады таму. Працавала медсястрой, ездзіла ў сваю бальніцу на працу праз увесь горад, не пераходзіла на іншую работу, спадзявалася, што атрымае добрую пенсію. Дзве гадзіны штодня траціла на дарогу. І да пенсіі не дажыла. Такая трагедыя. Калі б працавала бліжэй да дома, можа, пажыла б даўжэй.

— Бачыш, Гоша, гэта яшчэ табе адзін прыклад таго, як трэба берагчы жыццё. Лічы мяне названай сястрой, каб я мела магчымасць даваць табе добрыя парады. А як захочаш есці, заходзь. Лішняя бульбіна ці яшчэ што ў мяне для цябе заўсёды знойдзецца.

— Шкада… А я думаў, што ў цябе да мяне ўзніклі іншыя пачуцці.

— Ты крыху памыляешся… Але павер мне, ты разумны чалавек. Калі захочаш, у цябе будзе ўсё выдатна. Галоўнае, не плыві па шляху найменшага супраціўлення.

— Хто табе даў такое імя? — раптам спытаў госць.

— Бацька. Ён загінуў маладым у аварыі... Ада — другая жанчына пасля Евы. Мой лёс — заўсёды быць другой.

— Памыляешся, ты — першая пасля Евы, — усміхнуўся Гоша. — Мне здаецца, што ты трохі камплексуеш і недаацэньваеш сябе.

— Усе мы вартыя таго, што робім, як жывём, не больш і не менш. Кажуць жа, што вышэй за сябе не скокнеш. А з другога боку, калі нічога не ствараць, дык ні з чым прыйдзеш да фінішу.

— А што ты думаеш пра сваю будучыню? — спытаў Гоша і паглядзеў Адзе ў вочы.

— Я нічога не баюся, акрамя сваёй дурасці. Усе свае беды мы ствараем самі. Пастараюся меней рабіць таго, што несуладна з маёй душой. Увогуле, Гоша, трэба прыслухоўвацца да сваёй душы, яе не падманеш. А галава — гэта камп'ютар, які ўмее добра разлічваць, аднак часам заводзіць нас са сваімі разлікамі ў такія варункі, з якіх потым вельмі цяжка выблытацца. У мяне ёсць прынцып: жыць і працаваць з любоўю. Буду прытрымлівацца яго і надалей.

— Што ж, я таксама паспрабую ўзяць на ўзбраенне твой прынцып. Раней мала задумваўся, жыў сабе і жыў. Вось і дайшоў да таго, што ледзь не адлічылі.

— Мацуйся, мацуйся, — сказала Ада, калі заўважыла, што Гоша перастаў есці.

— Дзякую, сыты.

— Тады вазьмі з сабою піражкоў.

— З задавальненнем. І Сеню пачастую, бо ён, здаецца, пасля таго, як выпіў за нас, не закусваў.

— Прызнаюся табе шчыра, Сеня мне не вельмі падабаецца. Ад яго прыстасаванствам патыхае.

— Ёсць такі грэх, але хлопец ён не з горшых.

— Можа, і так. Гэта не важна, асабіста для мяне. Хутка мы раз'едземся і, можа быць, ніколі не пабачымся болей, разумееш мяне?

— Так, гэта сумна, — згадзіўся Гоша. — Але я цябе ўсё роўна знайду аднойчы, каб спытаць, як жывеш…

## 17

У дзверы пагрукалі. Яна адчыніла і ўбачыла Ціхана Давыдзенку.

— Чакаў цябе, чакаў, ды і вырашыў сам выправіцца ў госці. Як у той прыказцы, калі гара не ідзе да Магамета…

— Заходзьце, Ціхан Сцяпанавіч. Праўда, я толькі што з горада, дык яшчэ не маю чым вас частаваць.

— Я ўсё прынёс, — прыўзняў ён у руцэ цэлафанавы пакунак.

— Ды вы багаты госць!

Ціхан прайшоў да стала, выцягнуў з пакунка бутэльку віна, сыр, каўбасу, булачкі, мёд.

— У мяне радасць, — ён паклаў на стол кніжку ў мяккай вокладцы.

— Віншую.

Яны селі за стол. Ада разгарнула Ціханаву кніжку, на якой быў намаляваны тыгр.

— Тут, мусіць, пра вашы паляванні? — спытала яна.

— Пра ўсё патроху. Ведаеш, у нас там ёсць не толькі прыгожыя мясціны. Аднойчы ў тайзе набрыў я на разбураныя каменныя збудаванні. Археолагі пакуль іх не бачылі. Пытаў у навукоўцаў, што гэта за сцены ў зарасніках стаяць. Мне ніхто толкам нічога адказаць не можа. Так што пасля таго, як маю знаходку раскапаюць, дык, можа быць, праслаўлюся на ўвесь Саюз.

— Саюза ўжо няма, — усміхнулася Ада. І, крыху памаўчаўшы, сказала: — Я радуюся за вас. Прыгожая кніжка, добра аформленая і даволі аб'ёмная. Як гэта вам удалося за такі кароткі тэрмін выдаць яе?

— Паслаў рукапіс. І ляжаў ён у выдавецтве пару гадоў. Пайшоў туды, пазнаёміўся з рэдактарам, неяк сышліся, пагаварылі, ён і паскорыў справу.

— Умеюць мужчыны паміж сабою дамаўляцца. Гэта выдатна.

— А ты скуль зараз, мо са спаткання якога?

— Была ў ваенна-гістарычным архіве. Хацела пра крэпасць, што ў маім Бабруйску, пачытаць якія дакументы. Дык нічога не далі, сказалі: усе матэрыялы на апрацоўцы. Затым забегла ў лаўку пісьменніка, купіла томік Бярдзяева, пагартайце, — прапанавала яна, падаючы кніжку госцю, — а я пайду чайнік пастаўлю.

Пакуль закіпаў чайнік, Ада паставіла на стол талеркі з ежай.

— Прыгожа ў цябе атрымліваецца, — пахваліў Давыдзенка.

— Прабачце, фужэраў у мяне няма, давядзецца віно піць з кубкаў.

— Яно ад таго не сапсуецца.

Ада села. Госць наліў у кубкі віно.

— За вашу ўдачу, Ціхан Сцяпанавіч, — прамовіла Ада, па-ранейшаму трымаючы дыстанцыю з гэтым немаладым, у яе разуменні, чалавекам, і прыгубіла віно, даволі смачнае, салодкае.

— Слухай, а да тваёй зямлячкі хлопцы гужам валяць. Я ўжо думаў, мо і мне туды падацца?

— Не варта, Ціхан Сцяпанавіч. Ярына выбрала Сполахава. У яе хутка радзіны, з ім яна збіраецца ехаць дамоў. У Мінску мае кватэру. А хлопцы бегаюць не да яе, а да Сполахава, занадта ён кампанейскі. Не адвык ад халасцяцкага жыцця, мае многа сяброў, — адказала Ада.

— Яна ж прыехала цяжарная...

— Не пашанцавала дзяўчыне: каханы, як дазнаўся, што яна цяжарная, пакінуў яе. Куды ёй было дзявацца ад сораму перад бацькамі і знаёмымі? Вось і схавалася сюды. А тут Сполахаў яе ўпадабаў. Калі ўжывуцца, дык і будзе бацька дзіцяці. Праўда, гэта малаверагодна. Хаця, навошта нам корпацца ў чужых лёсах, калі сваіх не ведаем?

Ціхан даліў у кубкі віно і сказаў:

— Я хацеў бы выпіць за цябе, за тваю недаступную жаноцкасць. Ведаеш, ішоў і хваляваўся, як перад экзаменам.

— Хіба я такая страшная?

— Нейкая занадта правільная, не курыш, не п’еш, сяброўства асаблівага ні з кім не заводзіш.

— Я набіла пару гузакоў у жыцці. Яны навучылі мяне жыць самадастаткова і ні на кога не разлічваць. Незалежнасць — вельмі прыемная рэч! Гэта падлеткам патрэбныя сябры ды сяброўкі, каб дзяліцца першымі жыццёвымі радасцямі і праблемамі, а я ўжо даўно вырасла. Калі ісці спакойна і асабліва не тузацца, дык нават вельмі шмат можна панесці. Пакіньце мне сваю кніжку, я з цікавасцю пачытаю, — прапанавала Ада.

— Я табе яе падару.

— Буду вельмі ўдзячная.

Давыдзенка зноў даліў віно і сказаў:

— А цяпер давай вып’ем за нас. Хачу сказаць, што ты мне падабаешся…

— Годзе вам, Ціхан Сцяпанавіч, рассыпацца кампліментамі, я на іх звычайна рэагую адмоўна.

— Як жа да цябе падступіцца?

— А навошта?

— Давай вып’ем яшчэ трохі для смеласці, і я ўсё растлумачу.

Яны выпілі. Ада няспешкі пазірала на госця і ўжо здагадвалася пра тую набалелую тэму, якую ён збіраўся распачаць.

— Вось мы жывём у гэтым няўтульным інтэрнаце, самотныя, чужыя. Чаму б нам не зблізіцца?

— У сэнсе? Вы маеце на ўвазе паходы ў тэатр ці ў батанічны сад? — спытала Ада.

— Толькі не ў сад. У мяне такі непрыемны выпадак быў. Пайшоў з дзяўчынаю ў парк, а тут міліцыянер…

— Ціхан Сцяпанавіч, дык я ж вам не для таго прапаноўваю, а каб расліны паглядзець. Думала, вас як ляснічага флора цікавіць.

Давыдзенка нерваваўся, што размова ўвесь час скіроўвалася не туды, куды яму было трэба. Нарэшце адважыўся абняць Аду, яна ўхілілася і сказала:

— Рука ў вас цяжкая…

— Ада, як ты не можаш зразумець? Нам было б добра разам.

— Гэта вы так лічыце, лесавод і паляўнічы. Засумавалі ў горадзе па сваім будзённым жыцці, бо ў нас тут амаль штодзень свята. Калі скончыцца вучоба, вы спакойна паедзеце да сваёй жонкі, а я што буду рабіць, калі раптам прывыкну да вас?

Ён няўцямна глядзеў на Аду, мусіць, не чакаў такой гаворкі.

— Не варта гэтак сур’ёзна ўспрымаць жыццё. Усё мінае хутка. Адседжу тут два гады, і не будзе чаго ўспомніць.

— Тут я вам не памочніца...

Ён змоўк.

Ада ціха радавалася, што змагла ахалоніць госця, і не пасварылася з ім, нічым не абразіла. Гэты чалавек быў старэйшы за яе гадоў на дваццаць, і, мабыць, успрымаў Аду як легкадумнае дзяўчо. А яна аказалася не такой...

Ада правяла госця да дзвярэй, развіталася з зычліваю ўсмешкай. Усё добра...

Ада засталася адна, прыбрала са стала, апранула піжаму, легла ў пасцель, пачала чытаць Давыдзенкаву кніжку, якая складалася з паляўнічых апавяданняў. Факты ў аснову твораў былі пакладзены цікавыя, але мова бедная. У кожным апавяданні дубы ды бярозкі кучаравыя, лес зялёны, а неба сіняе. Чалавеку трэба было павучыцца ў Тургенева ці Прышвіна. Але, мабыць, не было часу ці жадання. Чытаць далей не хацелася.

Ада адклала кніжку, выключыла святло, падумала пра тое, што трэба зрабіць заўтра, і сцішылася, каб хутчэй заснуць. Увогуле яна прывыкла класціся спаць позна, бо па начах пісала вершы, а ў час вучобы — курсавыя.

У Маскве яна прывучала сябе да рэжыму: класціся ў адзінаццаць і ўставаць у сем, каб выходзіла гадзін восем сну, і так ледзь здароўе не падарвала, пакуль старалася паспець на працы, у інстытуце і дома. Настаў яе залаты час. Ні пра што не клапаціцца і не думаць. Бадай, такой шчаслівай яна ніколі не была. Каб яшчэ Касьян знаходзіўся побач…

## 18

Вясна прынесла перамены. З’ехала Ярына. З’ехала неяк ціха, нават не развіталася з Адаю, бо загадзя не папярэдзіла яе, што збіраецца ад’язджаць, а пасля не застала яе ў інтэрнаце, пакінула цыдулку ў дзвярах, на якой напісала свой хатні тэлефон і адрас, прасіла адгукнуцца...

І яшчэ нечаканасць: з паэтычнага семінара, з якога адлічылі Грышу і Ары, сышлі Шастоў і Суркова. Яны пакрыўдзіліся, што іхнія творы крытыкавалі на семінарах, вырашылі такім чынам адпомсціць Сераброву. Шастоў нейкім чынам арганізаваў на тэлебачанні перадачу пра сябе, запрасіў на яе Суркову, кіргіза Кажагельды і інгуша Аліка Башыева. Самі тую перадачу паглядзелі і вельмі хвалілі яе. Ада тэлевізара не мела, пра гэтую перадачу яе ніхто не папярэдзіў. Разумела: аднакурснікі праігнаравалі яе, каб адпомсціць за тое, што яе вершы хваляць кіраўнікі семінара. Усё гэта дробязі, на якія не варта было звяртаць увагі...

На двары хутка стала цёпла. Зацвіў стары сад каля дома Герцэна. Усё навокал імкліва мянялася, але любавацца дзівоснай парою адраджэння прыроды было некалі, трэба было здаваць экзамены і залікі. Да таго ж пераважная большасць курсантаў засумавала па сямейніках, усе, як кажуць, мелі чамаданны настрой.

Ада паспяхова здала ўсё, што патрабавала навучальная праграма, і з лёгкай душою паехала на лета ў Бабруйск. Маці зноў пачала яе ўгаворваць вярнуцца да Мечыслава, казала, што ён ужо сустракаецца з нейкай дзяўчынаю, маўляў, не будзе такі мужчына марнаваць сваё жыццё на недасяжнае каханне.

— Мне ўсё роўна, як і з кім ён жыве.

— Застанешся адна век векаваць, пашкадуеш, ды будзе позна, — ушчувала дачку маці.

— Лепш адной, чым з ім, — адрэзала Ада і падалася ў рэдакцыю газеты, каб пакінуць новыя вершы.

Галоўны рэдактар знаходзіўся ў адпачынку. Застала толькі адказнага сакратара пажылога мужчыну Анатоля Савельевіча Хмеля, які мудраваў над макетам новага нумара газеты.

— Прывітанне, Ада. Прынесла нешта новае?

— Ёсць трохі вершаў.

— Без цябе раскідалася літстаронка. Ніхто не хоча ёю займацца. Я вяду яе сам. Але вершы — не маё. Калі ты ўжо вернешся?

— Калі я і вярнуся, дык невядома, ці знойдзецца тут для мяне месца.

— Не турбуйся, я на пенсію хутка пайду і табе месца вызвалю.

— Працуйце, калі ласка, маё месца мяне не міне…

— Ты нават не ўяўляеш, як цяпер лёгка працаваць! Ніякай цэнзуры! Няма забароненых тэм, — сказаў Хмель.

— Гэта добра, аднак жыццё рухаецца хвалямі. Трэба чакаць перамен да лепшага, — заўважыла Ада.

— Як там Масква? — раптам спытаў Хмель.

— Масква неспакойная, мабыць, нешта там наспявае. Я не цікаўлюся палітыкаю, але, мяркуючы па мітынгах і дэманстрацыях, нейкія там перамены будуць…

— Ну, мы цяпер самастойная дзяржава. Няма чаго на іншых азірацца.

— І то праўда. Шчасліва вам. Прывітанне ад мяне ўсім супрацоўнікам.

Ада не затрымалася ў рэдакцыі, прайшлася па горадзе, завярнула да будынка гасцініцы, пабудаваным у стылі сталінскага ампіру, але не надта высокая, адаптаваная да малапавярховай забудовы гарадка. Тут яна сустракалася з Касьянам, чытала яму інтэрв'ю, згадвала дыялогі і тую пяшчоту, якою яны безразважна дзяліліся.

Дома патэлефанавала Ярыне Макаўцы ў Мінск. Тая пазнала яе па голасе, радасна спытала:

— Як там курсы?

— Стаяць на месцы. Што ў цябе, хто нарадзіўся?

— Дачушка. Назвала Хрысцінкаю.

— А як твой Сполахаў?

— Спачатку быццам нічога, вывозіў каляску ў двор. А потым як панесла яго. Пачаў вадзіць нейкіх бамжоў, усю кватэру запаскудзілі, карацей кажучы, выгнала я яго. Будзеш у Мінску, заходзь.

— Дзякуй, Ярынка, пры нагодзе зайду паглядзець на твой найдасканалейшы твор — дачушку. Будзьце здаровыя і шчаслівыя.

На другі дзень Ада з'ехала да цёткі Тамары, дзе ёй працавалася спакойна

і плённа. Найперш вырашыла даправіць вершы, якія пісаліся на працягу года. Пакуль іх дапрацоўвала, напісалася сёе-тое новае. Потым занялася перакладам сваёй прозы, каб даць пачытаць Эме. Раніцай і вечарам выходзілі з цёткаю на грады, палолі ды палівалі, гэта была прыемная змена заняткаў. Час ляцеў хутка, творчыя справы рухаліся. Ада была вельмі задаволеная, што прыехала менавіты сюды, бо маці не дала б ёй спакою.

## 19

У канцы жніўня Ада вярнулася дамоў і на тыдзень раней тэрміну выехала ў Маскву. У інтэрнаце адразу ўбачыла перамены. Замест стараватых вахцёрак яго цяпер ахоўвалі маладыя хлопцы ў чорнай уніформе. Яны ўважліва разглядалі пропускі курсантаў, перш чым дазволіць зайсці ў інтэрнат...

З задавальненнем яна наведвала гістарычную бібліятэку, каб працягнуць росшукі матэрыялаў пра Марыну Мнішак. Чытала часопісы «Русская старина», шмат неверагодных звестак знаходзіла, але на тэму, якая яе найбольш цікавіла, нічога новага не траплялася...

За дзень да пачатку заняткаў забегла Ада на курсы, дзе яе гасцінна сустрэла Наіна Андрыянаўна, частавала гарбатаю, доўга распытвала пра тое, што адбываецца ў Беларусі.

— Людзі жывуць, працуюць, — адказвала Ада. — Як усюды...

Затым Наіна Андрыянаўна пацікавілася:

— Як там Ярына?

— Усё добра. Нарадзіла дачушку, назвала Хрысцінкай, прагнала п’янтоса Сполахава. Жыве, гадуе дзіця...

— А ты куды збіраешся ісці працаваць пасля заканчэння курсаў?

— Пакуль не ведаю. Мо вярнуся ў газету ці ў Мінску пашукаю якую працу.

— Ну, няхай табе пашанцуе.

Ада развіталася з Наінай Андрыянаўнай і вырашыла прайсціся па вуліцы Горкага, пашыбавала міма помніка Пушкіну ў кірунку Краснай плошчы. На другім баку вуліцы раптам заўважыла маладога мужчыну, са спіны вельмі падобнага на Касьяна. Нават вятроўка такая ж чорная.

Хваляванне ахапіла яе душу. Спярша хацела бегчы ў падземны пераход і даганяць, а потым перадумала. Калі гэта сапраўды Касьян, дык чаму не папярэдзіў яе, што прыедзе, чаму не знайшоў? Хутчэй за ўсё гэта нейкі чужы чалавек, таму не варта нервавацца і даганяць. І ўсё ж яна сачыла за тым чалавекам, пакуль ён не растварыўся ў натоўпе. Зноў нахлынулі згадкі, але ўжо не так востра і балюча перажывала іх Ада. Мабыць душа адаптавалася і змірылася з тым, што Касьян заўсёды будзе недасяжна далёка. Міжвольна склаўся кароткі верш:

Я пакінута сумам,
Ні званкоў, ні лістоў не чакаю.
Не баліць маім думам,
Калі да самоты звыкаю.
Занядбаная марай,
Я згубілася ў стомленым свеце.
Ні ратунак, ні кара
Мяне між людзьмі не прыкмецяць.
І няма ў мяне сілы
У мінулае згадкай вяртацца.
Я надзеі знасіла
На шляху да нязбытнага шчасця.

## 20

Пачаліся заняткі на курсах. У другі год навучання неяк асабліва ціха стала ў інтэрнацкім калідоры. Жыццё кожнага жыхара сёмага паверха ўсталявалася, набыло пэўны парадак. Некаторыя хлопцы вярнуліся з новымі кніжкамі. Як ні дзіўна, свой першы зборнік падараваў Адзе Мамед Задэ з аўтографам «На добрую память о первом откровении», хоць яна ніколі з ім ні пра што не размаўляла, мабыць, ён проста прыязна ставіўся да яе. І як жа ўдала легла ёй на душу ягонае чатырохрадкоўе:

В тёмном сгустке кипящей Вселенной
Ярких яростных солнц миражи —
Это тайной любви сокровенной
Бесконечная светится жизнь.

Гэтак ёй уяўлялася яе пачуццё да Касьяна, але так прыгожа сказаць не ўмела, а ў Мамеда атрымалася. Увогуле ягоныя вершы былі ўзнёслыя, заглыбленыя ў перажыванні і сягалі ў бязмежныя прасторы космасу. Азербайджанскі паэт пісаў па-руску, ніколі, мусіць, не здолее вывучыць родную мову. Гоша Строма хоць без цяжкасці засвоіў украінскую мову, але таксама піша па-руску, так яму зручней, вельмі дасціпна і дакладна ўкладае сваё разуменне рэчаў у рыфмаваныя радкі...

...Прыходзілі новыя выкладчыкі, чыталі лекцыі па новых дысцыплінах. Другарадныя прадметы, якія здаваліся не надта цікавымі, хлопцы стараліся прапускаць. Абыякава паставіліся яны да эканомікі, якую выкладала жанчына гадоў сарака пяці, вельмі прыемная і ўсмешлівая. Яна не крыўдавала, што на яе лекцыі ходзіць мала мужчын. Анойчы застала ў аўдыторыі толькі жанчын і сказала:

— Дзякуй за салідарнасць. Сёння лекцыю не буду чытаць, пасядзім пагамонім. Ведаеце, у эканоміцы ёсць такое слова «сінекура», гэта калі чалавек нічога не робіць, а яму зарплата ідзе. Дык вось і мы з вамі сёння пажывём як сапраўдныя сінекурцы. Я пакурыла б з вашага дазволу. Не паспела, так спяшала на лекцыю…

— Курыце, калі ласка, — сказала Агнія.

— Дзякуй, — адказала выкладчыца, дастала пачак з цыгарэтамі, прыкурыла адну цыгарэціну, прыадчыніла акно і выпускала дым на вуліцу. Яна маўчала і з насалодаю глытала дым.

«Не пашанцавала жанчыне, — падумала Ада, — займела дрэнную звычку, а цяпер яна ёю кіруе».

Выкладчыца быццам пачула яе думкі і сказала:

— Наіна Андрыянаўна — малайчына. Адпачывалі мы з ёю ў Дубултах. Прыехалі туды, смалілі цыгарэту за цыгарэтай. Аднойчы сядзелі на беразе, глядзелі на мора, я кажу: закурым. А яна мне спакойна так паведамляе: «Я кінула. І ўсё. Ніякіх праблем». Я, на вялікі жаль, не магу не курыць.

— А я і не хачу кідаць, — азвалася Тоня Суркова. — Наогул, калі нават няма чаго рабіць, курыш, дык быццам пры справе.

Дзяўчаты пасядзелі трохі для прыліку і разышліся, бо наступны меўся быць семінар па драматургіі, які наведваць ніхто не пажадаў, акрамя Ады. Выкладчыца, старая кабета, стомленая жыццём, акінула яе позіркам і спытала:

— Толькі вас адну цікавіць драматургія?

— Выходзіць, што так.

— Тады я вам раю проста пахадзіць па маскоўскіх тэатрах. Вы маеце права бясплатна наведваць спектаклі, варта толькі ў касе паказаць білет студэнта Літінстытута ці курсанта Вышэйшых літаратурных курсаў. Вам дадуць вольныя месцы.

— Вельмі добрая прапанова, я паспрабую арганізаваць аднакурснікаў.

Сапраўды, Ада падабрала добрую каманду. Па тэатрах пагадзіліся пахадзіць француржанка Наталі, югаслаўка Мірыям і Агнія Дымава. Найперш пайшлі ў МХАТ, ён насупраць Літінстытута. Але спектакль аказаўся такі невыразны, што Ада праз тры дні ўжо не магла ўспомніць сюжэт. Тое ж расчараванне спасцігла курсантаў і ў тэатры імя Маякоўскага, у іншых...

Ада вырашыла, што цяпер тэатральнае мастацтва перажывае крызіс, як і ўся краіна. Ды ці толькі тэатральнае? А літаратура?..

Так Ада вучылася, не вельмі сыходзячыся з аднакурснікамі. У яе з імі — ні агульных спраў, ні агульных інтарэсаў. Хіба толькі прыемным было тое, што Эма прачытала Адзіны пераклады прозы, пахваліла і выказалася:

— Вельмі ж ты любіш сваіх персанажаў, кожнага імкнешся зразумець.

— Сапраўды, гэта так. Толькі любоў і з’яўляецца прычанаю ўсялякай творчасці, — адказала Ада.

А сама падумала: «Калі Эме спадабалася мая проза, дык мо варта занесці яе ў якое выдавецтва?» Яна гэта зрабіла неадкладна. Рукапіс прынялі, сказалі зайсці праз месяц. Калі якасць задаволіць рэдактара, дык будуць збіраць тыраж. Усцешаная, Ада на другі дзень пахвалілася Эме пра свой магчымы поспех, але гэтую навіну аднакурсніца ўспрыняла з крывою ўсмешкай, у якой змяшаліся зайздрасць і пагарда. Ада ўмела чытаць настрой людзей па вачах і міміцы, таму зразумела, што з Эмы добразычлівая сяброўка не атрымаецца.

У мінскім выдавецтве рыхтаваўся да друку яе зборнік вершаў, Ада хвалявалася і з-за яго. Патэлефанавала — аказалася, што зборнік ужо выдалі і прапанавалі прыехаць, каб атрымаць ганарар.

Ада адпрасілася ў Наіны Андрыянаўны і паехала ў Мінск. У выдавецтве ёй выдалі дзесяць аўтарскіх экзэмпляраў кніжкі і грошы, якіх магло хапіць хіба толькі на адны зімовыя боты. Заехала да Ярыны. Тая ўзрадавалася, паказала Адзе сваю прыгожанькую дачку, паскардзілася, што бацька ёю не цікавіцца.

— Нічога, буду жыць з дачушкай, — усміхнулася Ярына, узнімаючы малую. — З ёю не засумуеш. Яна такая вясёленькая ў мяне.

Дзяўчынка заўсміхалася, замахала пухленькімі ружовымі ручкамі.

— Добра ў цябе, толькі я спяшаюся.

— Паначуй у мяне. Куда ты паедзеш?

— Заеду да маці на дзянёк. Вучоба ў чэрвені заканчваецца, лічаныя месяцы засталіся, — сказала Ада і дадала: — Падпішу табе свой новы зборнік, мо калі пачытаеш.

— Віншую! Гэта добрая навіна. Паабедала б хоць з намі...

— Дзякуй, Ярынка, як сапраўдны бедуін, я амаль не ем у дарозе, каб не мець лішніх клопатаў. Гадуй дачушку. Шчасця табе!

Ада развіталася і паспяшала на вакзал, дзе купіла білет у Бабруйск, і нарэшце ў чаканні цягніка як след разгледзела сваю новую кніжачку, велічынёю з далонь, беленькую з вельмі сціплым афармленнем. Было спакойна і радасна ад адчування, што яе думкі і пачуцці зафіксаваліся на паперы. Цяпер не толькі яна, а магчыма, і нехта іншы здолее прачытаць іх і адгукнуцца сэрцам.

У купэ, дзе яна сядзела, увайшла жанчына гадоў пяцідзесяці, высокая, мажная, павіталася, паставіла валізку, зняла паліто, села, прыгледзелася да

спадарожніцы. Між тым, Ада адразу пазнала яе, гэта была дырэктар аднаго абласнога драмтэатра.

— Недзе я вас бачыла, — прамовіла спадарожніца.

— Я вас таксама пазнала. Помніце, калі ваш тэатр прыязджаў у Бабруйск на гастролі гадоў пяць таму, я брала ў вас інтэрв'ю.

— Было, было… Сёлета таксама да вас збіраемся. А вы па-ранейшаму ў газеце працуеце?

— Не, заканчваю Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літінстытуце ў Маскве.

— Цікава там?

— Вельмі.

— А пасля вучобы куды?

— Пакуль не ведаю. Мо зноў у газету вярнуся…

— Нам у тэатр патрэбны загадчык літаратурнай часткі. Ці не зацікавіла б вас такая пасада?

— З задавальненнем пайду да вас на працу. Толькі як быць з жытлом?

— Што-небудзь прыдумаем.

— Вы калі заканчваеце вучобу?

— У канцы чэрвеня.

— Вось вам візітка. Патэлефануйце мне папярэдне і прыязджайце. Я буду вас чакаць.

— Дзякуй, абавязкова аб'яўлюся... А ў мяне новы зборнік выйшаў, я падпішу вам на памяць.

— Вельмі прыемна, дзякуй.

Ада паставіла аўтограф на кніжачцы і аддала спадарожніцы. Тая падзякавала, адразу пачала з цікаўнасцю гартаць зборнік.

Ада выйшла ў Бабруйску з вагона амаль шчаслівая. Яе будучыня пачала вымалёўвацца даволі прывабна. Працуючы ў тэатры, у чужым горадзе яна нават не будзе выпадкова сустракацца з Мечыславам, не будзе чуць матчыны папрокі наконт неўладкаванага жыцця і страчанай кватэры. Хутка пачнецца яе новае жыццё, на новай пасадзе, з іншымі людзьмі. Хаця мо і дарэмна яна адразу пагадзілася ехаць у той горад, можа, трэба было пашукаць працу ў Мінску. Там усё ж бліжэй да выдавецтваў і розных часопісаў. Мінск — сталіца, а гэты горад — правінцыя, але і там людзі жывуць…

## 21

У апошнія месяцы перад заканчэннем вучобы кожны курсант быў устурбаваны сваёю будучыняй. Кожны збіраўся вяртацца ў сваю рэспубліку, цяпер ужо самастойную, далёкую ад Масквы... Ада ведала, што многія адчуваюць сябе самотна.

У гэтыя дні было бачна, што асабліва самотнай адчувала сябе Агнія Дымава. Аднойчы яна прыйшла да Ады і сказала, што не знаходзіць сабе месца. Усё ў яе дрэнна.

— Пойдзем пройдземся, развеем тваю тугу, — прапанавала Ада.

— Зайдзі на хвілінку да мяне, паглядзі, як я жыву, — сказала Ада.

Жанчыны ўвайшлі ў пакой. Аду ўразіў шырачэнны ложак, які займаў амаль увесь пакой. Яна ўсміхнулася:

— Разумею, Агнешка, на такім ложку ўсялякі аптыміст засумуе. Гэта ж сапраўдны сэксадром!

— Не магу жыць адна, хілюся, як былінка пад ветрам…

Жанчыны пайшлі ў батанічны сад, які быў недалёка. Якраз заквітнеў бэз. Там расло мноства гатункаў духмяных і прыгожых кустоў самых розных колераў ад блакітных і ружовых да цёмна-фіялетавых. Пераважалі махровыя кветачкі.

— Агнія, мы тут на шчасце можам столькі кветак сабе за пазуху накідаць, што на ўсё жыццё хопіць! І не трэба шукаць няцотную колькасць пялёсткаў, кожная галінка мае іх без ліку, зрывай і загадвай жаданне.

— А што, давай, мо хоць бэз нас ашчасліваіць, — сказала Агнія.

Яны доўга хадзілі па садзе, наталяючы вочы і сэрцы незвычайнай прыгажосцю. Кветкі, мусіць, для таго і існуюць на свеце, каб радаваць людзей, цешыць і даваць спакой. А праз колькі дзён Ада заўважыла, што Агнія наведваецца да яе суседа Чубава, і парадавалася за аднакурсніцу, здаецца, знайшла яна сваё шчасце з дапамогаю бэзу. Адзіна ж удача ўсе яшчэ недзе блукала па свеце, а можа, яна проста не заўважала яе, аслепленая каханнем да Касьяна...

Вясной прыкметна актывізавалася Эма. З’яўлялася на заняткі ў нечым ружовым, у што хіба толькі немаўлят апранаюць, або ўсцягвала на таўставатыя ногі чорныя ласіны. Неяк спытала ў Ады:

— Як ты думаеш, хто ў нашай групе самы цікавы з мужчын?

— Гоша Строма, — адказала Ада не задумваючыся, — ён самы малады, але, як мне здаецца, мае найлепшую перспектыву. Да таго ж умее ўзяць сябе ў рукі і мэтанакіравана займацца патрэбнай справаю.

Пасля той гаворкі Ада заўважыла, што Эма распачала паляванне на Гошу. Лавіла яго ў калідоры на перапынках, падпільноўвала пасля заняткаў і неяк прыручыла, хоць была гадоў на дзесяць старэйшая. Аднойчы папрасіла Аду:

— Можна да цябе ў госці напрасіцца?

— Калі ласка, — адказала Ада.

Але гэта была толькі зачэпка, каб прыйсці ў інтэрнат. Эма заначавала ў Гошы. Як далей развіваліся гэтыя адносіны, Ада не ведала і не цікавілася. Зразумела толькі, што маскоўскай пані захацелася свежых уражанняў, яна іх сабе арганізавала. Паводзіны Эмы ў жыцці былі вельмі падобныя на дзеянні жаночых персанажаў у яе прозе.

Актыўна Чаркасава пачала прапагандаваць сваю творчасць у асяродку выкладчыкаў і нават прарэктару падаравала некалькі кніг. Ада здзіўлялася: чаго раптам Эма так пачала мітусіцца перад заканчэннем курсаў. А потым пра ўсё даведалася, калі зайшла да Наіны Андрыянаўны. Тая сядзела зажураная пад пальмаю, якая таксама выглядала сумна.

— Што здарылася? — спытала Ада. — Ваша пальма захварэла?

— Калі дрэнна мне, дык і пальма пачынае хварэць.

— А што ў вас?

— Нешта са здароўем, такая горыч у роце, — ухілілася ад адказу Наіна Андрыянаўна.

— Гэта вынік жоўці ў выніку нейкага раздражнення, незадаволенасці, мая мама часам скардзілася на такія сімптомы. Што не так?

— Мяне выжываюць з працы.

— Хто?

— Адна з курсантак.

Ада здагадалася:

— Эма?

— Так. Яна ўжо і да прарэктара хадзіла, прыносіла план рэарганізацыі курсаў, у яе, ці бачыш ты, свежыя ідэі, а я са сваім выхаваўчым падыходам даўно састарэла.

— Не варта вам перажываць з-за гэтага. У яе ж нават адукацыі педагагічнай няма: толькі курсы ды дзесяць класаў. Недавучка зайздрослівая, толькі і ўсяго! Я з ёю пагутару…

Наіна Андрыянаўна знешне супакоілася, падзякавала за спачуванне і разуменне, пачала гартаць нейкія паперы. Ада вярнулася ў аўдыторыю і спытала ў Эмы:

— Ты сапраўды думаеш заняць месца Наіны?

— А чаму б і не! Колькі ёй яшчэ тут сядзець?

— Яна сваё месца заслужыла шматгадовай працай, а ты хто? У цябе няма ні адукацыі адпаведнай, ні, як я бачу, душэўнай цеплыні, каб працаваць з людзьмі. Прабач, я не хацела цябе пакрыўдзіць, а проста сказала тое, што думаю.

— Табе няма справы да мяне. Не лезь, куды не просяць. Яна старая, няхай ідзе адпачываць.

— Дзякаваць Богу, не ты вырашаеш кадравыя пытанні ў Літінстытуце. Калі не спыніш свае інсінуацыі, дык я паклічу на дапамогу групу. Разам вырашым, што з табою рабіць.

Эма фыркнула і адвярнулася, не жадаючы працягваць гаворку.

Пасля заняткаў Ада пайшла ў выдавецтва, дзе пакінула прозу. Сустрэлася з галоўным рэдактарам, быў ён у песімістычным настроі, сказаў, што макет кніжкі гатовы, тыраж збіраюць па Беларусі і Украіне, таму што прозвішча аўтара не рускае.

— А ўвогуле, — падвёў ён рысу, — не ведаю, ці выстаім. Такая імклівая інфляцыя, што ніякіх прыбыткаў выдавецтва не мае, адны страты. Да таго ж сувязі з былымі рэспублікамі СССР абрываюцца, немагчыма працаваць.

Ада зразумела: мала надзеі на тое, каб тут выдацца, падзякавала за клопат, пажадала поспехаў і пакінула выдавецтва...

На наступны дзень адбыўся апошні семінар па паэзіі, куды Ада прыйшла з новым зборнікам. Кіраўнікі семінара — паэт Сераброў і крытык Махонькін прынялі прыхільна яе новыя вершы, асабліва адзначылі радок «Я надзеі знасіла на шляху да нязбытнага шчасця». Толькі Алік абурана сказаў, што Ада ўсё выдумляе ў сваіх творах, бо нікога не кахае і нічога не адчувае. Аўтарка толькі ўсміхнулася на ягоную рэпліку. Пакрыўджаны саракагадовы хлопчык дробна помсціў ёй, некалі ж заляцаўся да яе, ды марна, гэта было смешна.

Усё цяпер было ў апошні раз: залікі, экзамены. Нарэшце настаў апошні дзень, калі ім выдалі пасведчанні аб заканчэнні курсаў, на якіх было напісана залатымі літарамі «Саюз пісьменнікаў СССР». Яны атрымалі дакументы аб адукацыі ўжо неіснуючай дзяржавы...

Вечарам Ада патэлефанавала ў Гомельскі тэатр і на другі дзень пакінула Маскву. Спяшалася пачаць новае жыццё.

* * *

Праз год, ужо працуючы ў Гомелі, Ада даведалася, што ў горад прыязджае Касьян Цымбалевіч з гуртам «Наўда». Адзін з канцэртаў адбудзецца ў памяшканні тэатра. Ада не ведала, як сябе паводзіць. Ці трэба паказвацца яму на вочы? Ці варта згадваць тое, што быллём парасло? Калі ён за тры гады не пацікавіўся ёю, дык навошта ёй нагадваць пра сябе? Прыхільніц у яго, мабыць, хапае. Але канцэрт вырашыла паглядзець.

Яна не думала, што будзе з такім хваляваннем і любасцю слухаць ягоны голас. Пазнавала знаёмыя вершы, якія ён ператварыў у песні. Асабліва ёй

падабаўся тэкст з рэфрэнам: «Мяне абмінула жанчына, мяне абмінула жыццё». Хацелася думаць, што гэта напісана пра яе. Словы песень ліліся шчыра, дападалі да сэрца, давалі глебу для роздуму.

Касьян быў вельмі прыгожы, жанчыны не зводзілі з яго вачэй. Гурт пры сабе ён стварыў таксама даволі прыемны, яшчэ адзін гітарыст, флейтыст і барабаншчык. Мабыць, сабраць музыкаў з аўтэнтычнымі інструментамі не ўдалося...

Ада глядзела толькі на Касьяна і не магла на яго наглядзецца. Няхай бы гэты канцэрт ніколі не канчаўся! Але прагучалі апошнія акорды. Зала ўзарвалася воплескамі і крыкамі: «Біс! Брава!» Артысты колькі разоў пакланіліся, але больш спяваць не сталі. Ада не адважылася пайсці за кулісы, чакала ў фае каля чорнага выхада. Калі ўбачыць яе Касьян, праходзячы міма, дык тады ўжо ўсё будзе залежаць ад яго; не заўважыць — такі лёс. Трэба змірыцца і не трызніць немагчымым шчасцем, бо ў Цымбалевіча сваё жыццё, сям’я, праца…

Касьян спяшаўся, несучы вялізны ахапак букетаў, шаргацеў цэлафанам, Аду не заўважыў. Яна правяла яго позіркам і толькі зараз згледзела, што ў двары шмат жанчын і дзяўчат. Як толькі Касьян з’явіўся ў дзвярах, фанаткі кінуліся да яго. Ён абрынуў на іх кветкі, а хлопцы гурта, хоць і з цяжкасцю, адцяснілі натоўп, і Касьян хуценька схаваўся ў салоне машыны. Ужо праз акно ён пачаў даваць аўтографы. Распісваўся на паперках, сурвэтках, далонях, адна вар’ятка нават лоб падставіла… Ада глядзела на любага Лятаўчыка, і вялікае яе каханне захлыналася ад радасці сузірання. Аднак яна не жадала быць у натоўпе фанатак, які акаляў яго.

Нарэшце машына пачала сігналіць і паціху кранулася з месца, паехала. Прыхільніцы ледзь не кладліся пад колы, а потым беглі ўслед за машынаю. Ада з горыччу адчула, што яе шчасце назаўсёды ад’ехала ў чорным лімузіне. Яна разгублена глядзела ўслед і разумела, што менавіта гэтыя гады, калі яна кахала, пакутавала, пісала вершы, былі сапраўдным жыццём. Выйшла на ганак, села на лаўку, акінула ўсхваляваным позіркам апусцелы двор, дастала з сумкі агульны сшытак, у якім распачала пісаць раман пад назваю «Царыца Марына», на апошняй старонцы накідала новы верш. Ён узнік раптам сам сабою і нязмушана выліўся на паперу:

Я цябе сярод тысяч шукала,
Не стуляла стамлёных павек,
Заклікала, маліла, гукала:
Адпусці! Дай мне волю навек!
І прыклікала дух твой нарэшце.
Ты з’явіўся, як прывід, чужы.
Сэрца ўзнёслае грудзі не месціць.
Пра наступнае мне раскажы.
Ты маўчыш, ты мінулым распяты,
І не звык ратаваць і гадзіць.
Адпусці — папрасіла зацята.
Ты пацiснуў плячыма: ідзі.
Я іду, а наперадзе морак.
Як над прорвай глыбокай стаю.
Не хапае мне сонца і зорак,
Забяры ў мяне памяць маю…



**Валерый МАКСІМОВІЧ**

# ПАКУЛЬ Я ТУТ

* * *

Зямля свой спеўны голас падае —
Душа ёй ціхім рэхам адгукнецца,
Засведчыць тым, што і яна жыве,
Што і яна на волі, а не ў клетцы.

Як загамоніць звонкім галаском
Лістота на бярозцы маладая,
Душа не зможа вытрымаць — цішком
Пачне маліцца, бо яна жывая.

Малебен той — за ясень ля двара,
За вербалоз, за клён шыракалісты,
За птушак гаману, буянне траў —
За гэты свет чароўны і вячысты.

Сярод вітальнай літургіі ўсёй
Ёсць тая, што кранае сэрца болей:
Малю, мой свеце, вечна будзь са мной
І не сыходзь з вачэй маіх ніколі.

Хачу застацца назаўжды, навек
У краі гэтым слаўным і прыгожым…
Пакуль я тут, душа мая жыве
І наталіцца хараством не можа.

---

*__Максімовіч Валерый Аляксандравіч__ нарадзіўся 21 сакавіка 1962 года ў вёсцы Траянец Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1989). Доктар філалагічных навук. Быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры БДУ, першым прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Працуе ў Інстытуце філасофіі НАН Беларусі.*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Мяцежнай споведзі скрыжалі» (2012).*

* * *

Тварыць, здзіўляцца, верыць і любіць —
Ну колькі моцы ёсць і колькі змогі!
Пакуль мы ў гэтым свеце, у жыцці,
І б'юцца сэрцы зноў, і ходзяць ногі.

Трымацца моцна, спружана ў сядле
І мкнуць наперад цераз крутагор'е, —
Заўсёды лёс выпрабаванні шле,
Каб мы маглі адолець іх, агораць.

Жыццё — не з хмельнай вадкасцю пацір:
Даволі ў ім і роскрыжаў, і зломаў, —
Яно не роўнядзь водная, а вір,
Які бурліць успенена без стомы.

І хай! Я добра ведаю, і ты,
Мой дружа, вер у гэта сэрцам чыстым,
Што недзе ля чысцюткае вады
Даўно чакае нас з табою прыстань.

Чакае човен нас, каб мы маглі
На гэты свет усмак налюбавацца…
Як добра, што з вандровак па жыцці
Нам ёсць куды бязбоязна вяртацца.

* * *

Жыве краса ў распалымнасці дзён,
Ды час яе, на жаль, недаўгавечны.
Трапляем мы ў яе абсяг-палон —
І зноў плывём-вяслуем Шляхам Млечным.

Мастак, ты вострым позіркам сваім
Увекавеч саснёныя дзівосы,
Зрабі іх вечным сімвалам жывым
Зваротнага — зямнога — шляху-лёсу.

Мы ўсе, як тыя кветкі, што цвітуць
І водарацць духмяна, лугаспеўна,
Пялёсткамі пакуль не ападуць
У мора густатравае спадзеўна.

Малюй, мастак, з душы сваёй твары
І на дзівацтвы не зважай прыроды.
Пунсовым, яркім полымем гары
І ў самую скупую пару года.

І, можа, праз далёкія гады
Сустрэць тваю карціну давядзецца,
І я змагу, я здолею тады
Хоць на кароткі міг душой сагрэцца.

* * *

У ціхіх зыках летніх вечароў,
Дзе можна ўдосталь сэрцам памаліцца,
Хачу, мае сябры, калісь ізноў
Ажыць душой мяцежнаю, збудзіцца.

У сполахах праменнага святла,
У кветцы лугавой або сцяблінцы, —
У тым, чым тут душа мая расла,
Хачу я неўзаметку заіскрыцца.

Жыццё маё, прашу, ты не шкадуй
Свайго цяпла, сваёй красы-сінечы
І хараство зямное ахвяруй,
Пакуль я тут, пакуль не кліча вечнасць.

Я зблізку цябе бачыў і здалёк,
Вучыўся дыхаць і любіць, як трэба,
І, памятаючы пра свой выток,
З надзеяй тайнай пазіраў на неба.

За незваротным прыцемкам гадоў
Адной жадаю мары толькі збыцца:
Хоць макаваю дробкаю малой
Ў зямным жыцці аднойчы паўтарыцца.





**Алесь ВЕТАХ**

# НОЧ ПЕРАД ВЯЛІКАДНЕМ

***…Чалавек нараджаецца на пакуту, як іскры, каб імкнуцца ўгору.***

Кніга ІОВА.

***І світ Божий як Великдень, І люди як люди.***

Тарас ШАЎЧЭНКА.

Набліжалася апоўнач. Рыгорка прачнуўся адразу, як толькі матуля пакратала ягоны плячук. Ледзьве раскатурхала Сяргейку, які цёр ручанятамі вочы, не кемячы, што да чаго. Ваньку, самага меншага, не будзіла, а пачала паціху на яго, абвялага і заспанага, нацягваць штонікі. Большанькім таксама загадала апранацца, і дзеці пачалі варушыцца, надзяваць кашулькі. Праз некалькі хвілін Рыгорка і Сяргейка сядзелі ў касцюмчыках і, крыху схіліўшыся, зашнуроўвалі чаравікі.

Малы Ванька так і не прачнуўся. Матуля, апрануўшы яго, узяла соннага на рукі і рушыла з хаты, перад самым парогам похапкам паправіла лёгкую шэрую хустачку на галаве, схапіла з крэсла загадзя падрыхтаваную пузатую торбу з ручнікамі, сурвэткамі і ўсім тым, што спатрэбіцца для абраду ў царкве і пасля яго. Большыя дзеці падаліся за маці следам, і так ішлі ўсю дарогу за ёй, узяўшыся за рукі, нібы кураняткі за квактухай. Пад покрывам цёмнай ночы іх цяжка было ўбачыць і разгледзець.

А маці ступала асцярожна, навобмацак, зрэдку спынялася, каб хаця дзенебудзь не ўзбіцца на сустрэчнае дрэва ці камень. Вуліца даўно не асвятлялася, хадзіць па ёй глыбокай ноччу было небяспечна. Каб жа Люба была не

---

***Алесь Ветах (Бельскі Алесь Іванавіч)*** *нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ. У 2000—2002 гг. узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 г. адначасова — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (2000).*

*Выступае як літаратуразнавец і крытык.*

адна, а з мужам, дык пачувала б сябе смялей, больш упэўнена. Аднак з дзецьмі ў такі час выбралася з хаты ўпершыню, ніколі да гэтага не рабіла, наадварот, старалася раней іх укласці ў свае пасцелі і аберагала сон, уходжваючыся па гаспадарцы — каб хаця, крый божа, не грымнуць у хаце парожнім вядром, не бразнуць чыгунком ці міскай, не ляпнуць дзвярыма. Люба, маці траіх хлопчыкаў, непакоілася, каб толькі не спазніцца і прыйсці своечасова, так як і дамаўлялася з добра знаёмай псаломшчыцай. Калі яна з малым Ванькам на руках выкіравалася да ўзгорка, то пакрочыла больш упэўненай і цвёрдай хадой — пад’ём па гары яна ведала, як «Ойча наш», як пяць сваіх пальцаў, бо ў дзяцінстве гэтым шляхам яе часта вадзіла за руку бабуля Алена. Потым, калі вучылася ў школе, класная кіраўніца на бацькоўскім сходзе папярэдзіла Любіну маці, каб тая больш не хадзіла да царквы. Дзяўчынка паслухмяна рабіла ўсё, што ёй казалі дарослыя, аднак яшчэ доўга ўпотайкі ад людскіх вачэй насіла нацельны крыжык, чытала з бабуляю нанач малітвы. А як не стала бабулі — яна засталася з Богам сам-насам. Аднойчы Люба ўсё ж асмелілася і зноў наведалася да царквы, але тое было даўно, яшчэ да замужжа. Яна згадала, што адчула тады на душы лёгкасць ды радасць, вярталася назад і, здавалася, ляцела на нябачных крылах.

Большыя дзеці таксама пакрочылі шпарчэй, амаль подбегам даганяючы маці. Хаця ўсю дарогу ішлі ціхенька, амаль крадучыся, не перамаўляліся, хіба што адзін раз Люба напаўшэптам папярэдзіла Рыгорку з Сяргейкам, каб не баяліся, калі ля хаты Пахомчыкаў да брамы з брэхам падскочыць вялікая чорная аўчарка. Але, на шчасце, сёння яна ў глухім, сляпым змроку не ўчула людзей, якія рухаліся недзе побач і, быццам начныя прывіды, міналі высокую сцяну з дашчатага плота. Жанчына з дзеткамі спяшала хутчэй дайсці туды, дзе іх ужо чакалі. Красавіцкая ноч ахінула сваім цёплым крылом, хаваючы ад непатрэбных, непажаданых вачэй.

Неўзабаве Люба з дзецьмі ступіла на тэрыторыю цвінтара, пакрочыла па дарожцы між кустоў дзікай ружы ды старога бэзу і апынулася перад масіўнымі дзвярыма Мікалаеўскай царквы. Узялася за ручку дзвярэй, націснула ўніз, аднак тыя не паддаліся. Тады Люба нясмела, ціха пастукала.

— Хто там? — пачуўся адтуль, з сярэдзіны, насцярожаны жаночы голас.

Люба пазнала псаломшчыцу цётку Веру. З ёй, маці сваёй былой аднакласніцы, яна і мела справу наконт хрышчэння, а тая, у сваю чаргу, перамовілася з айцом Кірылам. Люба, саромеючыся, папрасіла, каб тое адбылося таемна, гэта значыць, каб ніхто не бачыў і не ведаў, бо яе муж Барыс партыйны, працуе інжынерам, а камуністам, маўляў, хрысціць сваіх дзяцей забаронена. Калі б не цётка Вера, то, магчыма, бацюшка і адмовіў бы ў такой просьбе, але паколькі да яго звярнулася жанчына, якая дапамагае ў царкоўных справах, то пагадзіўся.

— Мы тут. Свае, — ціха адказала Люба, і пасля гэтых слоў адразу клацнуў замок, дзверы прыадчыніліся.

Маці з дзецьмі неўпрыкмет апынулася ў будынку царквы. І вось яна з утрапёнасцю стаіць у напаўасветленым храме, акурат насупраць алтара. Левай рукой падтрымлівае соннага Ваньку, правай — папраўляе хустачку на галаве, затым лагодна прыкладвае далонь малому да спінкі, здаецца, што яна мацней прытуляе дзіця да свайго мацярынскага сэрца. Айцец Кірыл далікатна цалуе срэбны крыж і пачынае таемны, адмысловы абрад хрышчэння, на якім не будзе больш нікога, апроч Любы і яе дзяцей, а таксама адзінай сведкі — псаломшчыцы Веры, якая да таго ж запісалася хроснаю маці. Хросным Люба

пазначыла свайго дзядзьку з Палесся, які, праўда, даўно не прыязджаў да іх у госці, аднак раней, як тая адведвала яго хворага ў Пінску, раіў пахрысціць дзяцей. «Ты не зважай на свайго Барыса. Зрабі ціха, без агалоскі. Лепш, каб ён не ведаў. А то не дзеці ў цябе будуць гадавацца, а нехрысці. Немаведама чаго тады ад іх прычакаеш. Глядзі, не спазніся», — раіў Любе матчын старэйшы брат-паляшук, ён жа шчыры праваслаўны вернік. Са свякрухай Люба на гэты конт вырашыла не раіцца, бо як толькі заікнулася, што, маўляў, трэба было б дзяцей пахрысціць, то мужава маці ўспрыняла яе клопат як штосьці непажаданае, нават небяспечнае, таму адразу засцерагла: «Глядзі, не нарабі бяды. А то Барысу нашкодзіш. Ён жа праз тваё глупства пацярпець можа».

Пра ўсе гэтыя мітрэнгі, звязаныя з хрэсьбінамі, старэйшы Рыгорка да пары да часу нічога не ведаў, як і нічога не было вядома яго сярэдняму брату Сяргейку, які наўрад ці што-небудзь уцяміў бы ў акалічнасцях таемнай падзеі, якая чакала іх наперадзе. Рыгорка заканчваў апошні клас пачатковай школы, Сяргейка толькі пачаў хадзіць у дзіцячы садок, а Ваньку нядаўна мінула паўтара года. Меншы быў зусім малы, існаванне яго і ўваходжанне ў свет трымалася яшчэ на неўсвядомленых паводзінах, імкненнях, адчуваннях, таму Ванька не ведаў сутнасці таго, што робіцца навокал. Матуля паведаміла аднаму Рыгорку, што іх чакае ў гэтую вясновую ноч, але папярэдзіла, каб ён нічога брацікам не казаў, нікому не разгалошваў гэтую навіну. Люба даверыла сыну таямніцу, быццам дарosламу, патлумачыла, куды і навошта павядзе іх заўтра: «Пойдзем, як сцямнее, у царкву да Боканькі. Цябе з брацікамі пахрысцяць. Бацюшка надзене табе крыжык. Ты станеш праваслаўным. Хрыстос возьме цябе, Сяргейку і Ваньку пад сваю апеку. Ён будзе бараніць вас ад усяго ліхога, будзе вашым заўсёдным заступнікам. Хрышчаны чалавек не мае благіх думак, не робіць ніякіх кепстваў. Галоўнае, каб Хрыстос жыў у тваім сэрцайку. Яго трэба любіць так, як ты любіш мяне, сваю маму, — і працягвала далей, паклаўшы руку на плячук Рыгоркі. — Ты старэйшанькі, то дужа спадзяюся на тваю помач. Калі пабуджу цябе позна-позна, а гэта будзе ўжо ноч, то ты адразу збірайся і дапамагай Сяргейку, каб ён хуценька апрануўся. Возьмеш брацiка за руку, а я маленькага Ваню, і пойдзем разам да бацюшкі, каб ён вас пахрысціў».

Усё так і адбылося, як задумала Люба. Цяпер з дзецьмі яна далучылася да таямніцы хрышчэння. Рыгорка стаяў у храме на палатняным ручніку поруч з братам і матуляй, слухаў, як моліцца і спявае бацюшка, хоць нічога не кеміў, глядзеў, як той раз-пораз падымае ўгору срэбны крыж. Здзівілі хлапчука выявы святых на вялікіх абразах; іхнія вочы, здавалася, строга пазіралі на яго, Рыгорку, і пільна сачылі за ўсім тым, што дзеецца ў царкве. Хлапчука здзівіла, што на сценах пасярод прымацаваных да іх абразоў намаляваны рамонкі і васількі — звычайныя кветкі, такія ж, як ён летась на ўскрайку жытнёвага поля рваў маме на букет. «Мабыць, гэтыя кветкі рваць нельга, калі іх у царкве малююць», — падумалася яму, і ён згадаў, як маці казала, што той, каго хрысцяць, болей не павінен рабіць ніякай шкоды. Рыгорка ў белай кашулі пакорліва стаяў у чаканні нейкага цуду, яму здавалася, што бацюшка будзе яшчэ доўга-доўга чытаць тоўстую кнігу, гаварыць штосьці незразумелае, але такое дзіўна-суладнае, прыгожае, аж сэрца замірае. І раптам айцец Кірыл, трымаючы невялікі пэндзлік, падышоў да Рыгоркі і па чарзе памазаў пахкім алеем яго лоб, грудзі, вушкі, ручкі, босыя ножкі. Затым бацюшка ўзяў Рыгорку за руку і падвёў да вялікага бліскучага чана, нахіліў ягоную галаву над гэтай ёмістасцю і, шэпчучы «Крещается раб Божий…», абліў тройчы святою вадою. Айцец

Кірыл асцярожна апусціў праз галаву хлопчыка залацісты крыжык на нітачцы. Здавалася, яму таемна даруецца нейкая вялікая ўзнагарода, але не разумеў, за што яна даецца і чаму. Бацюшка скончыў хрышчэнне словамі: «Кто хочет идти за Мною, отвергнись себя, и возьми крест свой, и следуй за Мною». Потым да Рыгоркі падышла псаломшчыца цётка Вера і падала свечачку, якую ён адразу ж зацiснуў у кулачок, быццам атрымаў нейкую маленькую паходню ці лучынку з агеньчыкам, якую трэба данесці, як птаху сінічку з прачытанай ім казкі, да людзей. Пасля Айцец Кірыл хрысціў Сяргейку. Сярэдні брат таксама выканаў паслухмяна ўсё, што трэба было.

А вось Ванька, які драмаў на Любіным плечуку, неўзабаве пачаў раз-пораз усхліпваць, тулячыся тварам да матчыных грудзей. Адчувалася, што ён вось-вось пачне хныкаць, румзаць. Матуля мацней прыгарнула да сябе малога, каб ён суцішыўся, супакоіўся. Як толькі айцец Кірыл узяў абедзвюма рукамі Ваньку і апусціў над чанам з вадою, той пачаў плакаць і разгублена крычаць, разганяючы рукамі паветра. Здавалася, гэтым плачам і енкам, усёй сваёй істотаю ён гукаў: «Памажыце! Ратуйце!». Але пасля таго, як малы Ванька з крыжыкам на грудзях апынуўся на матчыных руках, адразу ж аціх, каўтнуў апошні раз слёзы, проста імгненна суняўся яго нервовы калатун. Кудысьці ўмомант зніклі і хваляванні Рыгоркі пра брата, ён нават засмяяўся, калі Ванька падняў угору ўказальны пальчык і паківаў у бок айца Кірыла: «Ню-ню! Ню-ню!». Бацюшка з густой рыжаю бародкай паблажліва ўсміхнуўся, падзівіўся, як той імпэтна махае пальчыкам, нібыта заклікаючы больш не чапаць яго, хлопчыка Ваньку, і, мабыць, хацеў ён сказаць даросламу чалавеку, што нельга крыўдзіць маленькіх. Толькі ў Рыгоркавага меншага брацiка вынікла непаразуменне з айцом Кірылам, а так хрышчэння ў царкве скончыліся ціха, як і пачалося. Люба з дзецьмі вярталася дахаты гэтак жа, як і прыйшла, у непрагляднай цемры, ціш-ком і непрыкметна. Адзінае, што адрознівала яе стан ранейшы і цяперашні, дык гэта адчуванне лёгкасці, прыўзнятасці. Радасна тахкала сэрца ад таго, што яна зрабіла штосьці самае важнае і патрэбнае ў жыцці. І для дзяцей, і для сябе, і для Барыса, якога яе родны дзядзька крыху недалюбліваў акурат праз ягоную абыякавасць да Бога, да рэлігіі і веры. Памятаючы дзядзькаву параду, Люба доўга думала, як у гэтай справе з хрышчэннем дзяцей абмінуць мужа, улучыць момант, каб таго не было дома, інакш кажучы, каб ён нічога не ведаў. Разам з тым Люба спрабавала ўявіць, чым можа скончыцца яе самадзейнасць, калі Барыс даведаецца пра хрышчэнне. Але дарэмна яна баялася гаварыць мужу пра свой намер. Калі Люба ўсё ж пазбавілася нерашучасці, ваганняў і прызналася Барысу, што наважылася перад Вялікаднем пахрысціць дзяцей, той махнуў рукою і сказаў: «Рабі як ведаеш. Абы ціха, без шуму і гаму». Ён даў зразумець: гэта цалкам твая ініцыятыва, а ў мяне, маўляў, і без таго розных клопатаў хапае. Ужо добра тое, што муж не пярэчыў, не пачаў сварыцца, адгаворваць ці, што горш, забараняць, перашкаджаць зрабіць задуманую, нават спланаваную ёй, Любай, гэтую доўгачаканую і адказную справу. Яна сэрцам адчувала, што дзецям без Бога аніяк нельга ў жыцці — у кожнага з іх павінен быць анёл-ахоўнік.

Наступны дзень, а дакладней, нядзельны ранак, для Рыгоркі з братамі пачаўся з частавання рознымі стравамі і прысмакамі. Асабліва шмат у шырокай лазовай пляцёнцы ляжала цукерак. Маці частавала дзяцей з нагоды хрышчэння варэнікамі з сырам, пірагом з вішнёвым варэннем, салодкімі пернікамі з макам, хрушчамі, печывам з тварагом і грушавым павідлам. Усё елі і запівалі журавінавым морсам. Пасля святочнага стала Рыгорка папрасіўся

ў бацькоў збегаць пагуляць да свайго сябра Лёніка, што жыве ад іх далекавата, па той бок мястэчка. Частка дарогі да Лёнікавай хаты пралягае праз выган, які напалову падзяляе, быццам зялёная мяжа, іх старое паселішча. Сяргейка застаўся з бацькамі ды малым Ванькам, хоць і яму карцела сысці на вуліцу.

Пры самым выгане Рыгорка пабачыў старэйшых Пілатавых хлопцаў. Рыжы Пашка з усіх сіл напорыста цягнуў за сабою на вяроўцы сляпога сабаку Тузіка, а ягоны чорнавалосы брат Колька сцёбаў з вар'яцкай жарсцю няшчаснага чацвераногага нявольніка дубцом і прыкрыкваў: «Ну, пайшоў, дахадзяга! Варушыся! Гэй-гэй! Гоп-ля-ля!». Рыгорка не адразу скеміў, куды яны сілком валакуць Тузіка, што найчасцей бегаў у цэнтры мястэчка каля хлебнай крамы. Там яму перападаў кавалак хлеба, які ён, калі атрымоўвалася, хапаў інстынктыўна — сходу, на ляту, а калі не лавіў пачостку, то шукаў яе на нюх, чмыхаючы носам пры самай зямлі.

— Куды вы яго?! — не ўтрымаўся, выгукнуў Рыгорка, і на яго выцягнутым, худым твары з вострым носікам з'явіўся адбітак недаўмення, і ён адразу са шкадаваннем дадаў: — Тузік нічога не бачыць, ён што малое сляпое кацянё. Хіба не ведаеце?

— Ага, дзякуем, што сказаў! Адкрыў Амерыку! Усе ведаюць, што ён бадзячы, нічыйны. Сляпень аблавухі! Пёс смярдзючы! — адказаў, гневаючыся, Пашка Пілат. — Мы — санітары, і знішчым гэты лішай, гэты смурод, Ірада клятага, — і незадаволена выкрыкнуў: — А табе што трэба? Ідзі роўненька сваёй дарожкай!

— Дык куды вы яго? — не сунімаўся Рыгорка, бачачы, як сабака тузае галавой сюды-туды, імкнучыся вылузнуцца з вяроўчыны на сваёй шыі, упіраецца, падскугольваючы, лапамі.

— На кудыкіну гару. Ясна? Нам сам загадчык райпо Антаневіч даручыў адвесці гэтага бадзягу і пабірушку да сажалкі і ўтапіць. Нават заплаціў — даў па трыццаць капеек кожнаму. Сказаў нам: «Хлопцы! Ад сённяга вы санітары. Прыбірайце жывое смецце!» Во як!

— Пакіньце яго! Адпусціце! — узбунтавалася маленькае трапяткое сэрца Рыгоркі, і хлапчук заступіў шлях да расправы з Тузікам.

Ягоная постаць насупраць большых на галаву Пілатавых братоў паўстала ва ўсёй сваёй мізэрнасці: Рыгорка быў яшчэ такі малы, як згаданы сінячок, да таго ж хударлявы — адны скура ды косці, крыху сутулы, з тонкімі і кароткімі ручанятамі. Можна сказаць, Дон Кіхот у мініяцюры. Уявіць карціну супрацьстаяння малога Рыгоркі і старэйшых за яго хлопцаў-шасцікласнікаў няцяжка.

— Ты чаго на ражон прэшся? Заступнічак знайшоўся! — абурыўся Пашка Пілат. — Ты хочаш тут нам даказаць, што мы дарэмна стараемся пазбавіцца ад заразы. Дзеці каля крамы яго рукамі гладзяць, а пасля хварэюць. Хай здохне гэты гнюс!

— Не дам! Тузік, як і людзі, хоча жыць! — цвёрда, упэўнена сказаў малы Рыгорка. — Не чапайце няшчаснага! А то буду бараніць яго!

— Можаш паспрабаваць, але пашкадуеш! — гнеўна папярэдзіў Колька. — Па карку захацеў?! То атрымоўвай!

І Колька Пілат штурхануў з усяе моцы Рыгорку, які паляцеў долу, як збіты з дрэва яблык. Пашка з раз'юшанасцю наскочыў на дробную ахвяру, быццам люты драпежнік. Ён рэзка перавярнуў малога Рыгорку тварам да зямлі, закруціў яму рукі за спіну.

— Дай канец вяроўкі! — крыкнуў Пашка брату.

— На, бяры! Вяжы гэтага смарчка! — падахвочваў раззлаваны Колька.

— Пачакай-пачакай, зараз атрымаеш на арэхі. Ён нас, браток, на ўсё жыццё запомніць! — пагрозліва папярэдзіў расчырванелы Пашка, і ў ягоным голасе чуўся такі гарачлівы, шалёны гнеў, што, адчувалася, стрымаць яго немагчыма.

Штурхаючы заняволенага малога Рыгорку, хлопец падвёў яго да тэлеграфнага, падобнага на вялікі крыж, слупа і пачаў прывязваць. Хутка абаронца Тузіка стаяў прымацаваны да слупа-крыжа, са скручанымі вяроўкай рукамі, мог пакратаць хіба толькі пальцамі і паварушыць нагамі. Побач трымцеўкалаціўся сабака. Калі Тузік заскуголіў, то Колька Пілат моцна перацягнуў яго дубцом і стукнуў пад чэрава нагою, што той адразу ж сціх і прысеў, прыціснуўшы вушы.

А Пашка Пілат узяўся за Рыгорку. Перш ён кулаком садануў хлопчыку ў нос, і з яго цурком палілася чырвоная юшка, якая пачала сцякаць на белую кашулю — акурат тую, якую ён учора апранаў у царкву на хрышчэнне. Чырвоныя сляды-палоскі беглі, размалёўваючы тканіну, павялічваліся, утвараючы сям-там цэлыя пляміны.

— Ну што скажаш, смаркач? — папытаў, рагочучы Пашка Пілат. — Будзеш ведаць, як да нас сляпіцай лезці і бараніць смердзюхая!

— Разбойнікі! — выгукнуў пагардліва Рыгорка, і з яго вачэй заструменілі слёзы.

— Гэта мы разбойнікі?! — гарлапаніў разлютаваны Пашка. — Прасіся, а то дрэнна будзе! Зараз у штонікі накладзеш!

— Ні-ко-лі! — адказаў ён, плачучы, свайму суддзю, пракурору і карніку ў адной асобе.

— Ладна, калі ты так! Ну, трымайся, слюнцяй! — крыкнуў Пашка Пілат і пачаў ліхаманкава мітусіцца пры слупе, быццам штосьці шукаючы.

Ён раптам убачыў і схапіў шкельца ад разбітай ушчэнт бутэлькі. Гэтае зялёнае шкельца востра ўпілося ў адну далонь Рыгоркі, затым — у другую. Рукі ўмомант пакрыліся чырванню, з іх пачала капаць кроў. Рыгорка панікла абвесіў галаву, церпячы боль, здавалася, што ён абмёр, не падаваў больш голасу.

Невядома чым скончылася б уся гэтая крывавая гісторыя, каб здзек з Рыгоркі не пабачыла Марыя Мяцельская — маладая дзяўчына, якая, едучы на веласіпедзе, скіравалася на дарожку праз выган. Яна і шуганула братоў Пілатаў, вызваліла беднага Рыгорку з няволі, які закалаціўся, як асінавы лісток. Марыя супыніла кроў, адарвала ад сваёй кашулі некалькі палосак тканіны і перавязала хлопчыку раны. Змарнаваны, стомлены Тузік ляжаў побач і пазіраў, як дзявочая рука суцешліва гладзіць галоўку дзіцяці. Потым Марыя павяла Рыгорку да калодзежа, памыла яго твар, адцерла падсохлую кроў на нагах. Пабіты, паколаты, нібы Хрыстос, малы Рыгорка вяртаўся дахаты, і побач з ім крочыла Марыя, якая пабачыла яго першыя пакуты і раны. Напярэдадні Вялікадня воляю лёсу гэтае дзіця спазнала ўвесь жах зямной Галгофы, боль Хрыста на крыжы. Як і тысячагоддзі таму, паўтараецца і доўжыцца гісторыя чалавечага болю і пакуты.

Рыгор на ўсё жыццё запомніў і таемнае хрышчэнне, і сваё ўкрыжаванне. Такое, зразумела, не забываецца. Пазней, у дарослым жыцці, ён стаў Рыгорам Іванавічам, кандыдатам медыцынскіх навук, працаваў кардыяхірургам, аднак ніводную аперацыю, нават самую звычайную, ён не правёў без веры і надзеі, бо цудоўна ведаў, што ўсё ў руках Уладара жыццяў і Сусвету. Ён перакананы,

што быў бы зусім іншым чалавекам, і, напэўна, інакш склаўся б ягоны лёс, калі б не тая ноч перад Вялікаднем, таму ўдзячны маме Любе, што пахрысціла іх, сваіх дзяцей, у Мікалаеўскай царкве. Гэтую ягоную веру ніхто не змог адабраць, бо яна цеплілася ў сэрцы, жыла, хай сабе і таемна, абуджалася і мацнела ў самых няпростых і цяжкіх абставінах.

І вось прабегла гэтулькі часу. Змяніўся свет, і цяпер кожны можа ўранку, днём ці ўвечары без аглядкі пайсці да царквы, наведаць малебен, святочную літургію ці імшу. Рыгор Іванавіч хварэе, яму з цяжкасцю даецца кожны пражыты дзень. Заўтра — найвялікшае гадавое свята: светлае Уваскрэсенне Хрыстова, Вялікдзень. Рыгор Іванавіч, як толькі прачнуўся, крыху прыўзняў галаву і ўзяў са століка малітоўнік, паклаў маленькую кніжачку на грудзі. Гэта па даўняй звычцы, а так малітоўныя словы ён ведае на памяць, яны выцякаюць з ягонага чулага сэрца, напоўненага сёння ціхай радасцю: «Воскресение Христово видевше, поклонимся святому Господу Иисусу, единому безгрешному. Кресту Твоему покланяемся, Христе, и святое воскресение Твое поем и славим…»

# ВОЧЫ Ў ВОЧЫ

Яна зноў не сустрэла мяне, аднак, як і ў папярэднія разы, хоць і мінула багата часу, здавалася, што мы з ёй на некалькі хвілін проста размінуліся, таму насамрэч яна дзесьці побач, непадалёку: хутчэй за ўсё, падалася да суседкі па нейкай патрэбе ці, што таксама магчыма, пайшла ў краму па хлеб і набыць яшчэ чаго-небудзь да хлеба. Але, як ні чакаў, мроячы пра наша спатканне, не рыпнулі весніцы, не пачулася шорхату апалага лісця і я не пабачыў яе прысутуленую цяжкаватую постаць і тое, як яна з радаснай дрыготкай усмешкаю на вуснах у парывістай спешнай хадзе рушыла мне насустрач. Мы не абняліся і не пацалаваліся, не ўвайшлі, як раней, у свой белы цагляны дом і не прыселі на кухні да старога прастакутнага стала, каб папіць духмянай гарбаты і ўволю нагаварыцца, бо нам больш ніколі не выпадзе шчаслівая магчымасць пабыць разам. Ды нешта рабілася са мною дужа незвычайнае, і ўсё таму, што на гэты раз, ступіўшы на родны падворак, я быццам раптоўна забыўся на сапраўдную рэальнасць, існы стан рэчаў, прытым мне востра адчулася яе нябачная прысутнасць, мне верылася, што яна недзе тут і вось-вось зараз прыйдзе, хутка вернецца, толькі трэба крышачку пачакаць…

У яе жывым абліччы заўсёды перш-наперш кідаліся вочы, якія нагадвалі два маленькія светла-блакітныя азерцы. Але так часта здараецца, як толькі насоўваецца старасць: чалавек пачынае дрэнна бачыць і губляць сваю актыўнасць, сілы, працаздольнасць. Яе зрок з цягам часу сапсаваўся, пачынаў згасаць, не даючы паўнавартасна жыць, як раней, калі ўсё бачылася ярка і выяўна. «Уваччу цемень гэткая, як быццам шэрае павуцінне вісіць і прагляду не дае», — скардзячыся, наракала яна на кепскі зрок, рэзь і сверб у вачах. Іншым разам ад яе можна было пачуць, што нячысцік наўмысна пралез у жытло праз комін і тады, як яна моцна спала, зацерушыў вочы. З яе вуснаў чулася кляцьба гэтага ліхадзея, які нарабіў шкоды і пазбавіў магчымасці бачыць белы свет. Што і казаць, вочы — галоўная крыніца нашых уражанняў і адчуванняў, без іх немагчыма адрозніць чорнае і белае, убачыць святло новага дня і ціхае змяркане вечара, пайсці на вуліцу ці падацца яшчэ кудысьці далей, збіраць

ягады і шукаць грыбы, ганяць на ровары ці ездзіць на аўто, падабраць ключ, каб адамкнуць дзверы — хіба што навобмацак. Чалавек без зроку нібы без рук, небарака і няўдаліца, ён варты жалю і спагады. І нічога часам не паробіш, калі апаноўвае слепата і вочы засціць цемра. Тады жыццё ператвараецца ў суцэльную непраглядную ноч. Яе зрок пагаршаўся хутка і дужа моцна, але яшчэ тое-сёе і так-сяк бачыла, пры гэтым хадзіла, праўда, зважаючы на добра знаёмыя рэчы-арыенціры, ледзь распазнаючы пэўныя контуры і абрысы, найчасцей рухалася інстынктыўна па выпрацаванай за доўгія гады звычцы і дзякуючы сваёй учэпістай і трывалай памяці. У такой сітуацыі можна было апусціць рукі і чакаць хвіліны поўнага зацьмення, аднак яна спрабавала неяк даць рады гэтаму шэраму насланню, ратавацца ад канчатковай страты зроку. «Паедзь да Бушылава і прывязі святой вады з крынічкі», — у гэтай просьбе чулася надзея на цудадзейнае збавенне, і хоць на яе твары ляжаў пазмрачнелы адбітак гаротнай жаночай долі, яна раптам зрабілася ўтрапёнай і больш жвавай. Яно і зразумела: нямоглы чалавек зазвычай мае таемны спадзеў на раптоўнае выздараўленне. Яна рупілася пра сваё, пра тое, ад чаго, магчыма, залежыць, ці ацалее яе зрок, таму, просячы, казала: «Начэрпай трохлітровік, а мо калі не цяжка будзе, то яшчэ набяры бутэльку ці дзве, бо я туды не выберуся і аніяк не дайду, а ты хутка ў горад свой назад падасіся, дык запас бяды не чыніць. Мо святая вадзіца дапаможа і прасвятліць, прарве ўваччу гэтую цёмную засланку. Ратуй, Божачка, здымі з вачэй шарачак, навісь хмарную, пазбаў мяне, грэшную, набрыдзі сляпое-ліхое». І яна тройчы наклала на сябе крыж, шчыра прасіла далей Усявышняга Уладара і Маці Нябесную аб міласэрнай спагадзе і паратунку. Яшчэ яна ўвесь час згадвала, што ў дзяцінстве мела дужа добры зрок: магла ўбачыць у зацененым лесе самую танюсенькую шыпульку ці заўважыць малюпасенькі баравічок, які ледзь-ледзь пралупіўся на волю праз мох.

Мне помніліся яе вільготна-блакітныя вочы ад таго дня, дакладней, ад той хвіліны, калі яна ў вялікім хваляванні і трывозе схілялася нада мною, малым двухгадовым хлопчыкам, якому хірург Крываносаў наважыўся ампутаваць нагу. Дыягназ, а затым і прысуд былі несуцяшальныя, заставалася хіба што скарыцца суровым абставінам і спадзявацца на міласэрнага Бога, які не дазволіць, каб здарылася найгоршае, зжаліцца і ўратуе мяне, змарнелага і схуднелага небарачку — яна праз шмат гадоў часта з жалем-шкадобаю казала, што я тады дзень і ноч плакаў, амаль не спаў, скрычаўся і пасля ўжо толькі пішчаў, як жаўтаротае птушанё. Яе вочы, здавалася, затуманіліся, абмярцвелі, не бачылі нічога, апроч гэтай сваёй бяды: побач ляжала, канаючы, яшчэ жывое яе малое дзіцятка-камячок. Яна захліпалася слязьмі, якія каціліся па шчоках і зрэдку падалі-шлёпаліся на маю худзенькую правую руку. Адтуль, з прадоння чыстых маленькіх азерцаў, трапяткім сполахам у роспачы ўзвіваліся чорныя птушкі скрухі. А колькі было такіх момантаў, калі ў яе вачах патухала не толькі святло, але, здавалася, і само жыццё! Згадваю: учарнелая, з моцна пачырванелымі, як запаленымі, вачыма яна з плачам галосіць-прычытае пры труне сваёй памерлай старэнькай маці і шукае пакутна-няўцямлівым позіркам нейкага апірышча і суцяшэння. І я ўсім сэрцам дужа моцна, нават з нясцерпнасцю чакаў, калі надыдзе новы дзень і ўсё раптоўна пераменіцца. Так хацелася ўбачыць іншыя вочы, дачакацца хвіліны, калі яны расхмарацца, пасвятлеюць і ў іх зноў пачнуць зіхцець праменьчыкі ціхай радасці. І тады я мог бы глядзець у гэтыя дарагія майму сэрцу вочы, поўныя дабрыні, цеплыні і ласкі, увесь час, проста бясконца. Абы каб можна было вярнуць мінулае, тыя дні, калі мы

былі разам, жылі душа ў душу пад адным дахам. Цяпер бы я ведаў, як мне не будзе хапаць яе вачэй, яе пяшчотна-замілаванага позірку са словамі: «Ты адзін у мяне такі на ўвесь цэлы свет. І я люблю цябе і буду любіць заўсёды аж да самай апошняй сваёй зараньки». Помніцца, як яна перад самым маім вяселлем, не жадаючы, пэўна, ні з кім мяне дзяліць, але змірыўшыся са сваёй доляй, новымі акалічнасцямі і абставінамі, ціха і з тужлівым сумам разважала: «Ведай: я ў цябе адна, а жонак, калі што не так пойдзе і не заладзіцца, можа быць і некалькі. Але калі знайшоў сваё каханнечка, абраў сабе палавінку, то, дай Божа, каб у тваім жыцці была адна-адзінюсенькая жоначка. Бярэш, дык жыві і не смяшы пасля людзей. Ды і памятай: я ўсё роўна буду ў цябе адна. Гэтак, як бывае ў чалавека адно сэрца ці адно сонейка на свеце. Ніхто, мой даражэнькі, так шкадаваць цябе не будзе і суцяшаць таксама. Калі ж мяне не стане, і я сыду туды, за вечны парог, а ты, пэўна, разбагацееш, то, як нават дужа захочацца, за ніякую плату, нават самую шчодрую, вярнуць з таго свету сваю гаротніцу ты ніколі не зможаш. Бог дае і забірае. Бог прызывае і цану не называе. От сам ты і павінен разважыць, хто я была і кім буду заўсягды для цябе».

Яна, ведаючы, што ў яе ёсць я, жыла, ідучы праз цяжкасці і пакуты, не спасавала перад рознымі нягодамі і крыўдамі, трымалася з апошняга, не здавалася ў палон нейкіх нечаканых альбо вымушаных абставін, як часам гэта здаралася з кімсьці з няшчасных мястэчковых жанчын, што паддаліся на спакусы чаркі і лёгкага бесклапотнага жыцця-быцця. Яна заставалася сама сабой, вочы яе, калі даводзілася нялёгка і нясоладка, выдавалі ўпэўненасць, цвёрдасць характару, жаданне перагрываць, пераадолець неспагадны час і прычакаць заўтрашні лепшы дзень. Уласна кажучы, і выбару іншага для яе не існавала. А таму яна штодзённа прачыналася і распальвала агмень у печы, руплілася ў хаце і пры хаце, затым выпраўлялася на працу, каб зарабіць капейчыну на пражыццё, а потым увечары подбегам спяшала дамоў, каб у звыклых хатніх клопатах і занятках па гаспадарцы забыцца на сваю долю адзінотніцы. Праўда, пад яе мацярынскаю апекай гадаваўся сын, а таму была прычына, каб жыць і гараваць, не апускаць рукі і не папусціцца самой, выцерпець і, колькі льга, знесці пакут, утрымацца назло і гору ліхому, і воку благому. Таемная моцная вера ды нейкая асаблівая адказнасць за будучыню свайго дзіцяці дапамагалі ёй захаваць ясны, разважлівы розум, трывала, з падкрэсленай годнасцю стаяць на нагах і не дазволіць скрышыць сябе ніякай буры. Ніколі не забуду, як у шалёным прыступе гневу начальніца паштовага аддзялення, жадаючы выжыць яе з працы, лямантавала ў маёй прысутнасці: «Нясеш сябе высока, як каралева! Аднак жа свет на табе клінам не сышоўся! Хто ты тут такая! Хто ты такая?!» Я тады здзівіўся, што яна адказала хоць і не дужа ціха, але досыць стрымана, цвёрда і з унутранай перакананасцю сваёй перавагі перад гэтай начальніцай Люсяй, якая, маючы мужа і дзвюх дачок, ладзіла любошчы з чужымі мужыкамі: «Чалавек я, галубка мая, чалавек. Жанчына, а не падсцілка. Матка свайго дзіцяці, а не курва рыжая. От хто я!». Яна ахвяравала сабой дзеля мяне без ваганняў і дарэшты, без астатку. Таму, мабыць, гэтак маркоцілася і моцна перажывала, калі я прыносіў ёй нейкую непрыемнасць ці, яшчэ горш, вялікае засмучэнне з трывогаю. Аднойчы здарылася адна прыкрая і ганебная гісторыя, пра якую і гаманіць цяпер не варта: сорамна мне за тое, дый годзе. Яна, даведаўшыся што да чаго, не стрымалася, у гнеўным парыве схапіла мяне за плечы і закалаціла, быццам грушку:

— Што ты нарабіў, га? Зірні мне ў вочы! Чуеш, глядзі вочы ў вочы! — і

яна ўзіралася ў мяне так, нібы хацела ўбачыць нешта агіднае, мярзотнае ўва мне там, усярэдзіне, абудзіць вельмі важнае, галоўнае, што ёсць у маёй існасці. Яна загневалася не на жарт, не магла суняцца, супакоіцца і, пачынаючы ўсхліпваць, працягвала нервавацца, сердаваць, абураючыся з горкаю крыўдаю ў голасе: — Дзе цяпер мне вочы ад сораму падзець? Куды ад ганьбачкі схавацца? Як па вуліцы прайсціся і людзям у вочы зірнуць? І што ты сабе думаеш? — пыталася яна і, бачачы, што я ніколькі не пачырванеў, ніяк не збянтэжыўся і не спяшаю схіліць вінавата галаву, папракнула, кінуўшы з дакорам: — Глядзіш так, быццам у свінні вочы пазычыў. Я ж сябе цешыла думкай-думачкаю, што ў мяне хлопец як хлопец, а ён, нераздумлівы, узяў і бяды дурной нарабіў. Дык як цяпер жыць?

Усе гэтыя пабуджальна-запытальныя тырады, плач і прычытанні рабілі сваю справу, лупцавалі-дзейнічалі яе словы гэтак, як кагосьці сурова выхоўвалі б самыя хлёсткія, пякучыя ўдары скуранога рамяня ці бізуна: на душы нешта зварушвалася і шкрэбала, смылела, даймала так, што хацелася раптоўна праваліцца скрозь зямлю. Калі я не вытрымліваў і пачынаў жаласліва прасіць прабачэння-даравання, то мне ўжо невыносна цяжка было глядзець у яе вочы. З цягам часу з’явілася разуменне і ўсведамленне, што нельга раніць яе сэрца, прымушаць хвалявацца і пакутаваць. Бо, не дай і барані божа, калі яна даведаецца пра маю чарговую выхадку ці нейкую шкоду з сябрукамі, то не вытрымае і захварэе альбо, як казала-папярэджвала, «наложыць на сябе рукі». Дужа моцна я пачаў хвалявацца, калі яна злегла з сардэчным прыступам, цэлы дзень не магла ўстаць, і давялося паклікаць доктара. Тады мне аднаму прыйшлося завіхацца па гаспадарцы, бегаць у краму, насіць ваду, паліць у печы. «Пад грудзямі ные. Сэрца баліць», — калі яна так ціха жалілася, то мяне адразу апаноўвала боязь і трывога, няўсцерп жадалася, каб хаця не здарылася нічога надзвычайнага і жахлівага, якой-небудзь бяды. Я хваляваўся і доўга не мог заснуць, прыслухоўваючыся да кожнага яе руху і ледзь чутнага стогну.

А яна ўсё мне велікадушна даравала, хоць і вельмі моцна журылася, плакала, прытульваючы да грудзей і са шкадобаю прыгаворваючы: «Дробны ты ў мяне яшчэ. Не мужык-мужчына, а макаўка зялёная. Чужым розумам жывеш, свайго пакуль не прыдбаў. Сляпое кацянё малое. Сляпое і шалудзівае…». У такія хвіліны я, напэўна, сталеў і хацеў быць іншым — такім, каб яна праз мяне не плакала, не засмучалася, а, наадварот, радавалася ды поўнілася гонарам, гаворачы камусьці: «Мой хлопец слаўны і харошы, адзін такі на ўвесь раён». Вядома, сорам і ганьба не даюць падстаў для пахвалы, таму трэба дбаць пра добрае і рабіць людскія справы, дык, можа, ад кагосьці заслужыш і ўвагі, і павагі, і ўдзячнасці. «Рабі дабро, але падзякі не чакай», — раіла, падказвала яна мне, калі я папытаў, ці варта ісці насустрач малазнаёмаму чалавеку, які меў ува мне патрэбу і прасіў дапамагчы. Тое, што яна казала і прарочыла, рана ці позна спраўджвалася, і здарылася ці адбылося так, як гаварыла яна.

Час пабег наперад без яе. Я ўжо дарослы і сталы чалавек. Як гэта даўно было, калі яна ціха і без руху марнела ў сваім пакоі, смуткавала, скардзячыся ды наракаючы: «Анічагусенькі амаль не бачу — дзень робіцца ноччу». Яна пальцамі рукі ўпарта церла вочы, ёй, мабыць, здавалася, што гэтак саскрабе з іх нейкі брудны налёт, рассуне па баках тумановую шэрань і свет праясніцца, выяўна расчыніцца перад ёю, як і раней, ва ўсіх колерах ды фарбах. З невыказным сумам і ледзь улоўнай надзеяй у вачах яна просіць мяне змачыць кавалачак марлі вадой, прынесенай ад святой крынічкі. Калі вада не ўратуе і не дапаможа вярнуць зрок, дык, па яе словах, усё роўна робіцца трохі лягчэй,

прычым шэра-змрочнае сутонне быццам расступаецца і пачынае святлець, як на ранішнім досвітку. Вочы яе на схіле жыцця пабляклі ўжо, ранейшы светлы блакіт у маленькіх азерцах зацягнуў тонкі бясколерны лядок. Позірк яе абдаваў халадком вечнасці, але рукі былі яшчэ цёплыя, а бачыла яна ўсё сваім чулым і відушчым сэрцам. Дзіўным і неверагодным здаецца тое, што ёй адкрывалася штосьці жыццёва-думнае і важнае, па-сапраўднаму мудрае, вышэйшае і нават боскае. Бачылася і адкрывалася ёй, звычайнай жанчыне, чалавеку зямному, які апынуўся сам-насам з вячэрняю загуслай шэранню, а пасля і агорклаю беспрасветнаю цемрай. Седзячы насупраць мяне вочы ў вочы, яна ўсё роўна быццам узіралася ў маё аблічча, назірала і слухала сэрцам, гарнулася трапяткім цёплым словам, дрыготкім ласкавым голасам да маёй душы, абветранай скразнякамі і настылай у сцюдзёнасці гэтага свету. Шкадую, што ніколі не пацалаваў яе вачэй, не дакрануўся ў адказ да іх сваім цяплом, і можа, акурат здарыўся б чароўны цуд, штосьці неверагоднае: я змог бы вярнуць ёй зрок — хоць на дзень, хоць на гадзінку, некалькі хвілін або адзін-адзіны міг. І тады яна пабачыла б, як я не толькі пасталеў, але і нават пасівеў. Яна ўбачыла б партрэт, зменены часам, гэтым суровым мастаком-рэалістам. А мо тое і да лепшага, што ў яе памяці я застаўся малым дзіцем і маладзенькім хлопцам, перад якім толькі-толькі расхінуўся шырокі жыццёвы далягляд. Мінула гэтулькі гадоў, што адразу і не злічыць. У маёй жа памяці не згасла светлая дабрыня родных вачэй, іх нельга забыць і без іх немагчыма быць самім сабою, не глядзець на іншых людзей, жыццё і рэчаіснасць. Мне быццам перадалося спадчынна-роднаснае і штосьці таемнае, невытлумачальнае, бо менавіта яе вачыма я часта бачу, успрымаю, дзіўлюся, ацэньваю… Не падабраныя акуляры з адпаведнымі дыёптрыямі мне дапамагаюць, а яе светлы, чысты і даверлівы позірк на свет. Той, які помню і буду памятаць, як прыклад стаўлення да людзей і ўсяго навакольнага. Трэба глядзець вочы ў вочы адзін аднаму — і тады ты адчуеш, хто перад табою, і, напэўна, не падманешся ў сваіх надзеях і меркаваннях. Глядзі, сачы за жэстамі і мімікай, аналізуй і рабі высновы. Нездарма кажуць, што вочы — жывое люстэрка чалавека, у якім, калі ты пільны і назіральны, можна ўбачыць і прачытаць літаральна ўсё; яно, маўляў, не падмане, не схібіць, выдасць радасць і смутак, самае вялікае шчасце і самую горкую праўду, якой бы яна цяжкай ды няўцешнай ні была. Хтосьці, магчыма, не пагодзіцца, што па вачах можна счытаць поўную інфармацыю пра чалавека, і няхай сабе. Нехта, наадварот, не будзе пярэчыць і адразу заўважыць, што на такое здатны выключна экстрасэнс. Аднак я абсалютна перакананы: уведаць пра чалавека і яго ўнутраны стан можна калі не ўсё, то штосьці надзвычай істотнае і важнае, толькі трэба адчуваць свайго суразмоўцу ці проста маўклівага спадарожніка. Адчуваць як самога сябе, ставіцца з даверам і чалавечай любоўю. Калі не з любоўю, то з павагай, добразычлівасцю, сімпатыяй…

Нехта, крый божа, можа падумаць, што я баюся ці, што яшчэ горш, саромеюся назваць услых яе імя, гаварыць так, як і павінен казаць сын пра самага роднага, любага і дарагога чалавека на зямлі. Не, рэч не ў тым, каб шматкроць паўтараць гэтае светлае і мілае слова, а ў тым, што з вышыні і аддаленасці часу не хацелася б святое імя забалбатаць у сваёй гаварыльні, неяк ненаўмысна замусольваць яго. Яно жыве ў маёй душы і сэрцы, у сховах сыноўняй памяці, як дзесьці ў пракаветных пушчанскіх нетрах гняздзіцца чорны бусел. І яно зноў ды зноў, як гэтая рэдкая, рэліктавая птушка, вяртаецца да мяне ў згадках і снах, у мае будні і святы, радасныя і сумныя хвіліны.

Няцяжка здагадацца, хто гэты чалавек, вобраз якога паўстае перада мною, як жывы. Безумоўна, ён самы галоўны, адзіны і незаменны ў жыцці, пасланы кожнаму з нас Богам. Спадзяюся, вы здагадаліся, каго я маю на ўвазе, перад кім самазабыўна схіляю сваю пасівелую галаву. Так, перад ёй, сваёй мілай і дарагой мамай, мамачкай, матуляй.

# КАЗАЧНАЯ НОЧ ЗАРАПАДУ

***Не загаснуць зоркі ў небе,***
***Покі неба будзе!***
Янка КУПАЛА

Жнівеньскі вечар дыхае свежаю прахалодай і астуджвае цёплыя хатнія думкі, адганяе дрымоту і млявасць. У гэтыя хвіліны, застаючыся сам-насам з наваколлем, позірк вачэй і, здаецца, сама душа міжволі ўздымаюцца да нябёсаў. Там — і прастор, і раздолле, і воля, там няма ні атрутнай зайздрасці, ні хцівасці, ні цяжкай навісі хлусні-туману. Углядаешся ў разлог настылай цішыні і дзівішся неабсяжнасці гэтага нябеснага валадарства. У загуслай, як ажынавы джэм, цемры мігцяць далёкія зоркі-светлячкі, маркотна звесіў свой востры нос маладзічок. Сузор'і, нібы пярлінавыя каралі, рассыпаліся па цёмным кіліме неба. Здаецца, гэта зіхацяць тысячы трапяткіх агеньчыкаў ці свечачак, якія недзе там, далёка-далёка, трымаюць малыя дзеткі ці анёлы. Усе мы жывём на гэтым свеце пад боскім покрывам агромністага зорнага неба і плывём па зіхоткім Млечным Шляху, вандруем, як і нашы продкі-адысеі, па бяскрайнім, бяздонным касмічным акіяне ў невядомасць і вечнасць.

Зоркі сваім дзівосным зіхценнем вабілі мяне з малых гадоў, а таму хацелася ведаць, хто і як іх запальвае, цёплыя яны ці халодныя, чаму гэткія маленькія і не грэюць, чаму іх так многа, як і да чаго прымацаваны, чаму адны свецяць ярка, а іншыя ледзь тлеюць, ці можна да зорак дабрацца і ці можна іх збіраць жменяй, нібы ягады, чаму яны загараюцца не штоночы і заўсёды знікаюць уранні, дзе зоркі спяць і навошта яны людзям, бо, магчыма, і без іх тыя жылі б і не ведалі ніякага гора, а на зямлі штодня ўзыходзіла б сонца. Чым часцей я глядзеў на зоркі, тым больш узнікала гэтых «чаму», «дзе», «як» і «навошта». Дапытлівы дзіцячы розум спрабаваў спасцігнуць таямніцы разгорнутай зорнай кнігі, знайсці хоць нейкае тлумачэнне нябеснага ўладкавання, але, як я ні намагаўся, усе мае высілкі былі марныя. Над галавой ляжала вялізных памераў чорная коўдра начной цемені, шчодра ўсыпаная бліскучымі пацеркамі, і ніякіх малюнкаў ды ўзораў адразу немагчыма было разабраць. Толькі пільнае, учэпістае вока магло штосьці ўбачыць і хаця б крыху разгледзець. Часта мяне зававбліваў начны далягляд, асабліва тады, калі, здавалася, зоркі вісяць над самай хатай нібы крышталёвыя гронкі. Я запыняў позірк на самых яркіх, іскрыстых агеньчыках, выхопліваў сярод серабрыстага россыпу-багацця разнастайныя злучэнні і купкі зорак, якія ўяўлялі сабой адмысловыя лініі-звівы, галінкі дрэва, абрысы вянкоў, зігзагападобныя стужкі і нейкія дзіўныя фігуры. Узірацца ў зорную далеч было дужа цікава, прасторнае неба бачылася велічным і неверагодна прыгожым. Разам з тым здавалася, што ў бяздонні начнога свету існуе штосьці абсалютна невядомае і загадкавае. Тайнапіс неба быў для мяне суцэльным рэбусам, звышскладанай геаметрычнай задачай,

а, хутчэй за ўсё, узорыстай цуда-вышыванкай, якую выткала на варштаце нейкая нябачная майстрыха. Можна было колькі заўгодна назіраць, як ноч аздабляе неба мудрагелістымі бліскучымі карункамі, любавацца і захапляцца панарамай незямнога казачнага краю. Не больш таго. Азбука зорнага неба была мне невядомай, таму зоркі-загадкі не паддаваліся разуменню, разгадаць іх ніяк не атрымлівалася, бо расчытваць таямнічы сэнс мог толькі той, хто меў пэўныя веды. Наогул, гэта была недзіцячая справа, бо цяжка было наіўнай думкай ахапіць вялікае і неабдымнае, пранікнуць у бязмежжа зорнага сусвету. Пра ўсяведаў-астролагаў тады, у маю дзіцячую пару, людзі нічога не чулі, пра іх не пісалі ў газетах, яны не агучвалі свае гараскопы па радыё і тэлебачанні. Уводзіць мяне ў астраномію пачала бабуля, якая лічылася амаль непісьменнай, але затое мела веру ў Бога ды шмат чаго ведала ад сваёй маці, бабулі ды іншых продкаў, якія прыглядаліся да зорак на небе, варажылі па іх і прадказвалі надвор'е, дабрабыт, будучыню. Мудрыя людзі жылі на нашай зямлі, яны ўмелі чытаць адкрытую зорную кнігу над галавой. Дык вось мая бабуля, як я цяпер разумею, валодала асновамі народных ведаў, якія ў той час акурат ёй спатрэбіліся, каб мне штосьці праясніць і трохі патлумачыць. А сёе-тое, магчыма, яна прыдумляла, даючы волю сваёй сялянскай фантазіі. Памятаю, бабуля непасрэдна, вельмі даверліва гаварыла з сонцам, месяцам і зоркамі, нібы з жывымі, звярталася да іх, як да людзей. Здавалася мне тое дзівацтвам, але яна, выходзячы ў прымерклае сутонне на ганак, казала: «Першым разам, вячэрнім часам Царству Нябеснаму пакланюся, Богу памалюся…». Заўсёды гаварыла ласкава і пяшчотна: «Сонейка маё…», «Месячык ясны…», «Зара мая, заранпачка…». Рыхтуючыся да начнога спачынку, яна знаходзіла хоць колькі хвілін пабыць на дварэ, перавесці дых пасля дзённай працоўнай стомы. Бабуля моўчкі сузірала хараство неба і думала пра штосьці сваё, толькі ёй вядомае. Праўда, калі побач быў я, то яна ўжо не магла пасядзець спакойна ў зацішшы, а мусіла гаманіць са мною.

Маё самае першае пытанне пра зоркі я задаў менавіта бабулі, якая, здавалася мне, ведае пра ўсё на свеце — і тое, што робіцца навокал, і што дзеецца там, у небе, дзе жыве Бог. Нездарма яна столькі часу глядзіць на зоркі. А цікавіўся я пра тое, адкуль на небе гэтыя зыркія агеньчыкі і чаму іх столькі, як драбнюткага маку. Яна, седзячы на прызбе ў прыцемках, крыху задумалася, узняла галаву ўгару і, пазіраючы на пабліскванне першых вястунак летняй ночы, загаварыла ціхім, крыху ўтомным голасам:

— Бог з сявенькай уначы ходзіць і шчыруе. Неба — яго поле, на якое ён сыпле жменяю зоркі-зярняткі. Іх дужа многа, як белых авечачак, жвавенькія такія і непаслухмяныя. А Месяц-дзяцюк у яго за пастушка, ён выганяе зорак-авечачак штоноч на выпас, пільна сочыць, каб тыя куды-небудзь не адбіліся, незнарок не зваліліся на зямельку. Клопатная ў яго праца, бо такую вялікую чараду аднаму пільнаваць трэба. Праўда, яму на пасце памагаюць дзве сястрыцы, дзяўчаткі-мілушкі Вячэрніца і Заранка. А так ён столькі зорак разгубляў бы, што Бог на яго дужа сердаваў бы, нясоладка яму, небараку, прыйшлося б. Вось яно як, даражэнькі.

Над нашым мястэчкам зоркі былі асабліва буйныя і яркія. Часам здавалася, што прыткні толькі драбіну да хаты ці хлява — і як бачыш ускараскаешся на неба, назбіраеш там крышталікаў-светлячкоў паўнюткі кошык. Калі я неяк выказаў бабулі здагадку, што зоркі — гэта зіхатлівыя белыя каменьчыкі, якія, маўляў, можна лёгка пакласці ў шапку ці кішэню, дык яна засмяялася і лагодна пагладзіла мяне па галоўцы, а затым сказала:

— Каменьчыкамі яны на зямлі робяцца, калі падаюць, толькі не ведаю, белыя яны ці нейкія іншыя. Наўрад ці светлыя, хутчэй чорненькія, як вугельчыкі. Калі нехта знойдзе такую скамянелую зорачку, той шчаслівы будзе. Мне вось ніколі не шэнціла, але людзі знаходзяць, ім тады шчасціць. А так зоркі на небе дужа гарачыя, ды і не дробныя, а досыць вялікія. Пакуль даляцяць да нашай зямліцы, дык згараюць, робяцца зусім маленькімі. Бывае, што зоркі крышацца і ад іх нічога не застаецца. Вельмі часта зоркі-іскрачкі падаюць у рэкі і азёры, ды гэтак хутка, што і змеціць не паспееш. Чырк у цемры знічка — і няма, знікае ў цёмнай вадзе.

Блізкія-далёкія зоркі былі ўсё ж недасяжныя, хаця мне, малому хлопчыку, дужа хацелася патрапіць на іх, ды мроі-летуценні не спраўджваліся нават у снах. Калі я пачуў ад бабулі, што яны падаюць на зямлю, то гэта для мяне сталася нечаканым адкрыццём. З тае пары я падоўгу ўзіраўся ў начны мігатлівы краявід і чакаў, пакуль зорка сарвецца з высі і паляціць долу. Ды жаданага дзіўнага цуду на свае вочы не пабачыў, ніяк не атрымлівалася заспець момант, калі бліскучая знічка праляціць зусім побач. Але немагчымае, верылася, аднойчы абавязкова збудзецца. Маленькая зорка-іскрынка ў маёй прысутнасці скранецца з месца, рынецца ўніз і ўпадзе ледзь не да самых ног. А я тым часам, як думалася мне, хуценька падскочу і вазьму яе, такую цёплую і панадную, у свае рукі. Аднак як адрозніць на зямлі зоркі сярод звычайных каменьчыкаў, я таксама не ведаў. Дужа карцела адшукаць гэты чароўны кавалачак цуду. І я марыў пра сустрэчу з зоркай — ужо тут, на зямлі: вось, маўляў, вазьму і раптам адшукаю.

— Ну, калі я тую знічку пабачу? Дзе яна падзелася? — надакучаючы, даймаў я бабулю. А таму пачаў ужо трызніць пра дзівосны каменьчык, штодня не мог дачакацца цёмнага вечара, каб пачаць сачыць, што дзеецца на небе. Напэўна, маленькі кавалачак зорнага рэчыва з космасу меў штосьці магічна-прыцягальнае, бо нясцерпна хацелася ўпэўніцца ў тым, пра што казала бабуля. Захацеўшы займець шчаслівую знаходку, мяне па сутнасці апанавала «зорная» хвароба. Імкнучыся задаволіць маю цікаўнасць, бабуля апавядала далей і яшчэ больш на «зорную» тэму, а я ўважліва слухаў. Вось што яна казала:

— Зорачкі ападаюць без шуму, ціха, як пялёсткі з кветак, найчасцей пад раніцу. Ты спіш сабе, сніш штосьці салодкае, а яны адвальваюцца, ляцяць долу. І такі гэты бліск раптоўны ды кароткі, што раз міргнуў вокам — і прапусціў дзіва. От, ведаеш, можна паўночы глядзець на неба і ніякай там цікавосткі не ўбачыць. Бо трэба, апроч іншага, мець шанцаванне і цярплівасць прычакаць падарунак з нябёсаў. Ды і Божанька не абы-каму зорку-знічку пасылае. Бо калі яна падае, то можна задумаць жаданне на нешта добрае, на шчасце — і яно абавязкова некалі збудзецца. Галоўнае, трэба хуценька паспець загадаць яго, не спазніцца. Не засмучайся, ты яшчэ спаткаеш не адну шчаслівую зорачку. Толькі трэба быць паслухмяным, не рабіць нікому і нідзе аніякай шкоды. Кеміш, пра што я кажу?

— Ага, бабулька, разумею. А куды Месяц-пастух з сёстрамі глядзяць? Зоркі-авечкі прападаюць, дык ім за гэта ой як уляціць. Божанька караць будзе, праўда? Дык чаму яны не сочаць як след? — памятаючы пра ранейшы бабулін расповед, з недаўменнем папытаў я.

— Кожная зорачка, якая падае, вельмі рэдкая і незвычайная. Калі яна злятае з неба знічкаю, то ператвараецца з белай авечачкі ў маленькае дзіва, нясе людзям боскія чары. Яе светлы след азарае душачку чалавечую, грэх у ёй да тла спальвае. Ведай: знічка — божая пасланніца, — адказала бабуля, папраўляючы на галаве сінюю паркалёвую хусцінку.

Ды я працягваў выпытваць у яе пра зоркі ўсё, што яна ведае. Зноў чуўся мой голас, поўны нястрымнай і неадольнай цікаўнасці:

— А чаму зорак так багата на небе? Пэўна, ім хутка там месца не будзе хапаць. Дык тады яны градам пасыплюцца, скрозь усцелюць зямлю. А ці будзе такое: зоркі падаюць як дожджык?

— Зорак дужа шмат, як і сняжынак узімку. Жывому чалавеку рады не даць, каб іх злічыць. Пэўна, столькі зорачак над намі, колькі людзей. Нараджаецца дзіцятка — і ў небе запальваецца яго зорка-заранька. Ад гэтае хвілечкі з ёй на нябачнай нітачцы душа чалавечая трымаецца. Божанька наш калісьці даўным-даўно нарадзіўся: як толькі Дзіцятка на свет паявілася, дык адразу ж высока ў небёсах ясная зоранька заззяла. У кожнага чалавека там ёсць свая зорачка. Ды адны з іх знікаюць, а новыя загараюцца. Ведай, калі на Божае неба глядзіш: зорка-душа лье табе з высі лагодную святлынь.

— А зоркавы дожджык бывае? — зноў я папытаў пра сваё, уласна кажучы, пра тое, што найперш займала і дужа цікавіла мяне.

— Бывае, але досыць рэдка. Яго завуць срэбным дожджыкам.

— Раскажы мне, раскажы, — не адставаў я, бо дужа хацелася пачуць пра зарапад.

— Бывае гэта ў жніўні, калі стаяць светлыя вечары і ночы. Бог расчыняе зорную браму — і на неба выязджае святы Ілья. Ён сядзіць, як пан Радзівіл, у вялізнай срэбнай карэце, запрэжанай махнатымі белымі мядзведзямі. А за той карэтай белы конь цягне воз скарбаў, багацця рознага поўныя мяхі, аж паўз самы верх. Шлях, нібы брукаванка, выкладзены з чыстага срэбра, зіхціць ён так моцна, што на зямлі ад гэтага бляску святлее, як днём. Вячэрніцы з зоркамі-сястрыцамі карагоды водзяць, песні спяваюць. З-пад калёс аж зоркі-іскры сыплюцца і ляцяць на зямлю. Надараецца, які мех са срэбрам развяжацца, дык і трусіцца, бы жвір, той скарб. А людзям здаецца, што срэбны дождж ідзе, і яны мараць разбагацець, спадзеючыся, што Бог знянацку нечуванымі шчадротамі адорыць. Ды марна чакаць чагосьці на дурнічку, тым больш багацця. Бел-свет вялік — не абняць, не аб'ехаць. Вось зарапад срэбных зор-манетак па ўсім свеце і разлятаецца. Паспрабуй іх сабраць, калі жыцця і часу гэтулькі змарнуеш, а можаш толькі з носам застацца. А шчыра працаваць ды рупіцца будзеш, дык і багацце само ў хату прыйдзе, — гэтак гаманіла бабуля.

З цягам часу я ўжо нямала ведаў ад бабулі пра зоркі і зорнае неба: пра Сяўца — Бацьку неба, які з рэшатам-сітам ходзіць і шчодра сее зярняткі, і пра Кол, да якога навязаны белы Конь, і пра Вялікі Коўш, якім Бог чэрпае ваду і палівае дажджамі зямлю, і пра Гусіны Шлях, па якім птушкі-вандроўніцы заўсёды вяртаюцца з выраю ў родныя мясціны. Зорнае неба зачаравала мяне, я літаральна «захварэў» на бабуліны аповеды, і асабліва любіў іх слухаць нанач, лежачы ў цёплай пасцелі. Але аднойчы са мною здарыўся пярэпалах — і я пачаў баяцца начных зорак. Бо, як ні сорамна прызнавацца, быў вялікім палахліўцам. Нечакана ад старэйшых суседскіх дзяцей я даведаўся, што ёсць зоркі не толькі добрыя, але і злыя. Валька і Толік напужалі мяне гісторыямі-байкамі пра мерцвякоў, пра тое, як белыя анёлы прылятаюць па чалавечую душу, забіраюць туды, на халоднае неба, і малых дзяцей. Маўляў, гэта не зорка падае на зямлю, а анёл па чалавека спяшае. Рэч у тым, што ў дзяцінстве я, як і многія малыя, вельмі баяўся абложнай цемры, мне рабілася страшна, калі выходзіў у ноч. А цяпер пасля страшылак Валькі і Толіка дужа моцна злякнуўся, а таму ў поцемках не адважваўся паказаць свой нос з хаты, хадзіў «па-маленькаму» да вядра. Калі бабуля пачула пра мае страхі, пра тое, што напужаўся, і я запы-

таў пра анёлаў-зорак, што з’яўляюцца з весткай пра смерць, то яна адразу перахрысцілася, забожкала, пачала мяне супакойваць, затым дала папіць святой вадзічкі. Мінула крыху часу, і мне захацелася менавіта ад бабулі даведацца пра тых анёлаў, і я пачаў чапляцца да яе, каб расказала тое, што ведае. «Няўжо зорка не што іншае, як анёл з крыламі?» — думалася мне. Тых анёлаў я бачыў на невялікім абразку, які вісеў разам з іншымі іконамі на покуці ў бабулінай хаце. Пра іх я дагэтуль нічога не чуў ад бабулі. Яна на мае просьбы некалькі разоў аднеквалася, кажучы, што няма часу ці скажа калі-небудзь пазней — тады, як паменее клопату і працы. Я адчуваў, што пра небяспечныя, пагрозлівыя зоркі на небе яна нешта ведае, але не хоча гаварыць. Але той дзень аповеду чакаў доўга, хоць і з нецярплівасцю прыспешваў. Хадзіў я ўжо ў школу, мабыць, у клас чацвёрты ці пяты, калі бабуля наважылася расказаць пра зусім іншыя зоркі.

— Белых анёльчыкаў не трэба баяцца, — тлумачыла яна. — Іх пасылае сам Гасподзь, яны і папраўдзе ляцяць, як зорачкі, да зямелькі нашай. У кожнага чалавека ёсць душа, і, калі ён заслужыў, то забірае яе да сябе Бог. Ён і пасылае анёла да таго, хто будзе ў раі. А райскі сад там, у нябёсах, дзе дужа добра людзям, там дрэвы вечна зелянеюць, гожыя краскі цвітуць, птушачкі цінькаюць, белыя лебедзі па вадзе плаваюць, там заўсёдная лагода і спакой. Там людзі жывуць і ніколі больш не ўміраюць.

— А хіба на зямлі няма такога саду? — дапытваўся я.

— Не, тут няма і ніколі не будзе. Рай — дзіўны сад, які пасадзіў сам Гасподзь. Ён адчыняе і зачыняе яго залатую браму. Прытулак на зямельцы чалавека часовы. А жыве ён роўна столькі, колькі Бог адмервае — ні дня, ні хвіліны больш. А таму трэба жыць так хораша і слаўна, каб некалі Бог па цябе на старасці прыслаў белага анёльчыка. Бывае, як добры чалавек памрэ, дык некалькі зорак падае. Гэта па ім Багародзіца, Маці Нябесная, плача, слёз сваіх стрымаць не можа.

А яшчэ пазней, як я пасталеў, дык пачуў бабулін аповед пра іншыя зоркі. Пра іх бабуля ўсё роўна доўга маўчала, хоць Валька і Толік, палохаючы мяне, казалі, што па свеце гойсае зоркаю Змей-пачвара, які часта наведваецца да людскога жытла, хапае дзяцей у чорны мех і нясе ў сваё логава. І зноў я пачаў чапляцца да бабулі з роспытамі.

— На небе ёсць цёмныя, чорныя зоркі, — казала яна. — Гэта зоркі-падманкі. Яны могуць упасці і атруціць ваду, зямельку, людзей. Гэта зоркі Цмока — змея-страшыдлы, які лётае ў цемры. Гэта ён чорнаю коўдраю захінае зоркі, месячык і сонейка. У яго ёсць свае зоркі, ён іх трымае недзе ў чорных лёхах, а сам жыве ў вялізнай халоднай пячоры. Не любіць люты змей ні святла, ні зямельку нашу: усё яму тут вока засціць, каб яго воля, то даўно вакол буялі б толькі хмыз, быльнёг і дзядоўнік. Каб Бог на яго святых Іллю ды Юр’я не пасылаў і тыя яму хвост не прышчамлялі, то на белым свеце ноч цёмная легла б. Ён калісь сыпануў, як з рога, чорных зорак — і да нас страшныя чорныя нелюдзі з рагамі прыйшлі. Гэтыя д’яблы рагатыя вёскі з жывымі людцамі палілі: Прусы, Жавалкі, Калодзезнае… Што там рабілася — адзін жах, пераказваць духу нестае, — бабуля змахнула далонёй слязіну, крыху памаўчала, а затым працягвала: — Цмачына — гідасць і пошасць несусветная. Бывае, ён знарок пасылае шалёную зорку — і тая труціць, паліць, нішчыць і столькі шкоды робіць, што жывёла гіне, лясы гараць, людцы ваююць. Бяда і гора ад такой зоркі. Яе трэба баяцца і асцерагацца, таму не трэба тыркаць пальцам у цемру, калі зорак на небе нямашака. Няшчасце, нядолю наклікаць можна.

Мо і мне перадаліся ад бабулі яе любоў да светлых зорак і свету, і я захапляюся імі гэтак, як і яна. Калі прыязджаю ў мястэчка і жыву там, то заўсёды надвячоркам, акурат проці ночы, выходжу з хаты паглядзець, падзівіцца на зорнае неба. Па радыё надоечы перадалі, што чакаецца незвычайна шчодры зарапад, і я, учуўшы гэтае паведамленне, захацеў пабачыць такую дзівосную з'яву, як метэарытны дождж. Таму выйшаў на падворак раней звычайнага, прымасціўся на лаўцы паміж старой грушай і маладзенькай яблыняй. Вось-вось нябачная рука расшторыць цёмную заслону і на сцэне вечнага неба, як у тэатры, пачнецца касмічная прэм'ера сезона: прарок Ілья выедзе на сваёй сярэбранай калясніцы, колы якой будуць выкрасаць зорачкі-іскры. Здаецца, я ўжо бабулінымі вачыма гляджу на гэты нябесны далёка-блізкі свет. І людзей таксама бачу і ацэньваю, як яна. «Зорка-красачка», — шаптаў я сваёй каханай. Слухаю, бывае, як хтосьці бессаромна маніць, ілжэ так, што і вокам не міргне, дык думаю пра сябе так, як сказала б мая незабыўная бабуля: «Ну і шэльма, хлус з-пад чорнае гвязды». Царства ёй Нябеснае, хай у раі са святымі спачывае.

А сёння і сапраўды дзень незвычайны — ляжыць перад табою светлае, як люстэрка, зорнае неба. Узіраюся пільна-пільна, ужо цяпер праз акуляры, ці не пачынаюць дзе зоркі «гуляць», ці не весяляцца і не скачуць гуртам. Чакаю, як і ў дзяцінстве, цуду. Мне бачыцца-чуецца, як палілася ціхая мелодыя зорнага святла. Міжволі заплюшчваю вочы, млею ў салодкай дрымоце, пасля раптоўна прахопліваюся: мне падалося, што нейкую хвілю-другую я лётаў-блукаў у бязважкасці між зорак. Задумваюся: сон гэта, міраж альбо нешта іншае? Хутчэй за ўсё, лёгкая мроя. Нада мною зіхатліва мігціць зорны россып. Пакуль няма ніякага руху і не хлынуў метэарытны дождж, я шукаю між мноства зорак сваю — менавіта яна бруіць лагодным святлом, пяшчотна супакойвае пасля горычы і мітрэнгаў, спагадае мне па жыцці. Адкуль я ведаю, дзе мая зорка? Бабуля мне яе калісьці даўно паказала: зорка падобная на маленькі белы крыжык. Яна крыху воддаль ад Цялячага Вока, таго месца, дзе Бабы ў копы сена сцягваюць. Нехта, магчыма, можа не ўтрымацца, калі я і далей буду называць нябесныя свяцілы так, як некалі мая бабуля. Маўляў, мы чулі пра вясковых баб ды пекных кабет на зямлі, а не на небе, дык і не тлумі нам галаву бабулінымі казкамі, а карыстайся агульнавядомымі і зразумелымі назвамі, гавары так, як кажуць астролагі і астраномы. Патлумачу, дзе зіхціць мая зорка, але ўжо інакш, на іншай мове: яна знаходзіцца там, дзе гарыць яркі, прамяністы Альдэбаран — зух-хлопец, які назірае за Плеядамі — купкай зорак-сясцёр на зорнай сенажаці. Вось дзесьці ў той частцы жнівеньскага неба зараз і пачнецца феерверк: сыпане-шугане на зямлю срэбны дождж. Галоўны рэжысёр зорнага спектакля — Бог. Яму, Старому, як гэты свет, я веру і давяраю, як нікому, Ён не падмане ў тваіх чаканнях пад вечным небам.





Вольга ШПАКЕВІЧ

# ДУША-СКАРБОНКА

* * *

А вершы пішуцца ад болю,
Ад суму, адзіноты, бед...
Нібы народжана табою
Дзіця і выпушчана ў свет.

Дарогай вузкай, не крывою
Ідуць паэты праз асцё...
І вершы пішуцца крывёю
Душы, параненай жыццём.

* * *

Спалавелае сонца, як пожня,
І пясок залаты — у рацэ.
На вясёлцы пагушкацца можна,
У даганялкі гуляе мой цень.

Мы ва ўбранні Адама і Евы
У таемнасці хмельных лугоў,
Шчырай ласкаю ветру павевы
І спалучанасць двух берагоў.

І змяшчае ў сабе адзін яблык
Гаркату і салодкі нектар.
Промні сонца і цені ад д’ябла
У душы. Ды ўсмешлівы твар.

---

*__Вольга Шпакевіч (Бірук Вольга Цімафееўна)__ нарадзілася 14 снежня 1956 года ў вёсцы Кароцічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.*

*Скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1978 г.) Выкладае беларускую мову і літаратуру ў гімназіі № 25 г. Мінска.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «І тку жыцця сувоі», суаўтар калектыўных зборнікаў паэзіі: «І гаспода мая, і мой храм», «И снова душу греет благодать», «Созвучие», «На крылах натхнення».*

І хаваецца спелае сонца,
Каб сустрэч не сурочыць дваім,
І віруе каханне бясконца
ў нашых сэрцах: маім і тваім.

## ДУША-СКАРБОНКА

У маёй душы-скарбонцы
Назбіралася за век
Столькі неба, столькі сонца,
Столькі чысціні ад рэк!

Там цвітуць сады і кветкі
І гудуць-пяюць лясы,
Золатам усцяж палеткі
Наліваюць каласы.

А ўжо колькі тых азёраў
Пасялілася ў душы,
Што збіраюць ноччу зоры
У глыбокія каўшы.

Там і музыка, і водар,
І вясёлка з нот сямі,
І чатыры поры года,
Як сястрычкі, у сям'і.

А на самым дне скарбонкі
Для вяселля і для ўцех
Столькі песень, песень звонкіх,
Што ірвуцца ўзляцець!

І яшчэ любові столку
Да ўсяго, што тут жыве,
У сваю душу-скарбонку
Назапасіла за век.

## НА РАЦЭ

Цалуюць хвалі носік лодкі,
Плывуць насустрач берагі,
У белай зайздрасці аблокі
Пайшлі наводдаль у кругі.

І гнуцца, кланяюцца травы
У першароднасці абноў,
І цёплы вецер, і ласкавы,
І таямнічасць туманоў...

А мы ўдваіх у надвячорак,
Ты мне раднейшым сёння стаў.
Збяры з ракі хоць колькі зорак,
Калі ўжо з неба не дастаў!

Вячаслаў РАГОЙША

# НЕВЯДОМЫЯ ЛІСТЫ МАКСІМА ТАНКА

Нядаўна ў выдавецтве «Беларуская навука» выйшла з друку цікавая кніжка Святланы Калядка «Максім Танк: Новыя факты, матэрыялы, інтэрпрэтацыі» (2014). Цікавая ва ўсіх адносінах, і не толькі для навукоўцаў, але, як кажуць, і для шырокага чытача. Пра гэта добра сведчыць выдавецкая нататка. Прывядзем яе цалкам: «У даследаванні падаецца гісторыя падрыхтоўкі Збору твораў Максіма Танка ў 13-і тамах, даследуюцца невядомыя ці малавядомыя старонкі біяграфіі паэта, разглядаюцца архіўныя дакументы з фонду паэта ў кантэксце гістарычных падзей літаратурнага працэсу ХХ ст. У адзінаццаці дадатках да манаграфіі змешчаны: 460 вершаў, чарнавых накідаў, варыянтаў і рэдакцый вершаў, якія ніколі не публікаваліся, часткі незавершаных паэм, рукапіс аўтабіяграфіі, пераклад оперы С. Манюшкі «Страшны двор», інтэрв'ю з паэтам на беларускай, рускай, польскай і славацкай мовах, рэцэнзіі, лісты, справаздача, рэкамендацыя, даведкі і некралогі, якія не ўвайшлі ў Збор твораў у 13-і тамах». Па сутнасці, перад намі яшчэ адзін, чатырнаццаты, том Збору твораў класіка беларускай літаратуры.

Хто-хто, а С. Калядка выдатна ведае рукапісную і друкаваную спадчыну найбольшага беларускага паэта другой паловы ХХ ст. Максіма Танка. Менавіта ў яе рукі ад Уладзіміра Мархеля, які цяжка захварэў, перайшло ў свой час кіраўніцтва групай тэкстолагаў для канчатковага завяршэння падрыхтоўкі і выпуску ў свет у 2006—2012 гг. Збору твораў паэта ў 13-і тамах (каментаванне асобных тэкстаў, іх рэдактарска-карэктарская апрацоўка і інш.). Як згадвае Святлана Уладзіміраўна, «праца над выданнем была распачата ў 1996 г. [на наступны год па смерці паэта. — **В. Р.**], але толькі ў 2009 г., праз 13 гадоў, родныя паэта палічылі вартым перадаць сотні дакументаў у БДАМЛМ» [Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў Мінску. — **В. Р.**]. Найперш з гэтых дакументаў, якія спазніліся з уключэннем у Збор твораў, а таксама з тэксталагічнага каментавання іх і склалася названая кніга.

Зразумела, што хоць ва Указе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Героя Сацыялістычнай Працы Максіма Танка (Скурко Я. І.)» ад 10 кастрычніка 1995 г. прадпісвалася Міністэрству культуры і друку «выдаць у 1996—1998 гадах поўны збор твораў Максіма Танка на беларускай мове і двухтомнік яго твораў на рускай мове», да поўнага збору твораў яшчэ і сёння далёка. Праца гэта займае не адзін год і нават не адно дзесяцігоддзе. Толькі нядаўна мы выдалі першыя ў гісторыі беларускай літаратуры Поўныя зборы твораў — Максіма Багдановіча ў 3-х тамах (1992—1995) і Янкі Купалы ў 9-і тамах, 10-і кнігах (1995—2003). Ды і пасля гэтага амаль кожны год адшукваюцца невядомыя раней пісьменніцкія рарытэты — то нейкая публікацыя, закадзіраваная псеўданімам ці крыптанімам, то дароўны надпіс, то ліст… Не адзін год будуць з'яўляцца і новыя матэрыялы, што датычаць жыцця і творчай, грамадскай дзейнасці Максіма Танка.

Аднак вернемся да пытання, закранутага ў загалоўку дадзенага артыкула. У свой час я, як старшыня Камісіі па творчай спадчыне Максіма Танка колішняга Саюза пісьменнікаў Беларусі, член рэдкалегіі 13-томніка, рэдактар яго некаторых

тамоў (3, 4, 5), спрыяў таму, каб у Зборы твораў як мага паўней і аб'ектыўней была ўвасоблена творчая спадчына народнага паэта. У імя гэтага не толькі стымуляваў іншых, але пераглядаў і свой асабісты архіў. Знайшоў асобныя лісты і паштоўкі Максіма Танка, з якім быў асабіста знаёмы з 1969 г. (9 з іх увайшло ў 12-ы том Збору твораў) і пра што пісаў у літаратуразнаўчым эсэ «Шлях да Максіма Танка» («Полымя», 1999, № 9). Знайшоў, ды не ўсё…

У сярэдзіне 1960-х гг. на кафедры беларускай літаратуры БДУ пад кіраўніцтвам прафесара М. Р. Ларчанкі я працаваў над кандыдацкай дысертацыяй па творчасці песняра Нарачы. Помніцца, і Міхась Рыгоравіч, і многія іншыя раілі звярнуцца да паэта, высветліць сёе-тое, удакладніць. Але, па-першае, тэма ў мяне была не па гісторыі літаратуры, а па тэорыі, даследаваў я характар паэтычнай вобразнасці і праблемы вершавання паэта. Хапала таго, што я вычытваў у яго кнігах, публікацыях у перыёдыцы, знаходзіў у мінскіх і вільнюскіх архівах. А па-другое… Стрымлівала мая юначая нерашучасць, піетэт перад жывым класікам нацыянальнай літаратуры, адзіным нашым паэтам-рэвалюцыянерам. І толькі пасля таго як у чэрвені 1967 г. я абараніў кандыдацкую дысертацыю «Паэтыка Максіма Танка. Культура вобраза. Характар верша», якую на «выдатна» ацанілі афіцыйныя апаненты Ю. С. Пшыркоў і В. А. Каваленка, як у наступным годзе ў выдавецтве БДУ выйшла манаграфія пад такой самай назвай, я вырашыў звярнуцца да Максіма Танка. Перад Новым годам са зразумелым хваляваннем паслаў яму з дароўным надпісам сваю кніжку. Можна ўявіць маю радасць, калі неўзабаве атрымаў такі чаканы адказ:

*Мінск, в. Кастрычніцкая, 2—341. В. П. Рагойша.*

*Дарагі Вячаслаў Пятровіч!*

*Шчыра Вам дзякую за Навагоднія пажаданні, а таксама — за «Паэтыку…», якую прачытаў з вялікай цікавасцю, у якой Вы ўпершыню так глыбока заглянулі ў маю паэтычную лабараторыю і па-новаму прачыталі шмат якія творы. Ключом тонкага аналітыка Вы раскрылі некаторыя зашыфраваныя замкі маіх вершаў, міма якіх праходзілі шматлікія крытыкі і даследчыкі. Жадаю Вам здароўя і ўсяго найлепшага ў Вашым асабістым і творчым жыцці. З Навагоднім прывітаннем.*

*Максім Танк. 68 г.*

Каляровая в'етнамская паштоўка, дзе паказаны калектыўны абмалот рысу, была адпраўлена — згодна штэмпеля — 30.12.1968 г. На ёй значыўся і хатні адрас паэта: Мінск, Ленінскі пр., 12—48. На гэты адрас праз некаторы час я паслаў вітанне паэту і яго сям'і з Першамаем. Яўген Іванавіч, як я не раз пераконваўся, быў дакладным і абавязковым у ліставанні. Хутка я трымаў у руках паштоўку з выявай в'етнамца з аўтаматам Калашнікава ў руках і надпісам на рускай мове: «Вьетнам победит»:

*Дарагі дружа!*

*Шчыра дзякую за памяць і за добрыя пажаданні. Горача віншую і Вас са слаўным Першамайскім святам — святам Працы, Вясны, Дружбы. Жадаю Вам усяго найлепшага ў жыцці і творчай працы.*

*Максім Танк.*

*26/IV.69 г.*

Гэтыя два пасланні, якія я нядаўна адшукаў (прычым выпадкова) у сваім хатнім архіве, зразумела, не маглі ўвайсці ў 13-томнік паэта. Яны паспелі трапіць, хоць і без каментара, у кніжку С. Калядка, якой я перадаў іх, калі кніжка ўжо рыхтавалася да друку.

А вось наступныя лісты Максіма Танка пакуль што зусім невядомыя. Адрасаваны яны польскай пісьменніцы Эміліі Кунавіч, якую беларускі паэт упамінае

толькі аднойчы ў сваім «Дзённіку»: «Адпісаў Э. Кунавіч і старому падпольшчыку Сташэўскаму Рыгору, з якім калісьці ў 1933 г. сустракаўся ў Пількаўшчыне» (занатавана 19.IX.1968 г.). Не так даўно ксеракопіі гэтых танкаўскіх лістоў да Э. Кунавіч мне даслаў вядомы польскі славіст з Вроцлава прафесар Тэлесфор Позьняк. «Шкада, не здагадаўся я («рукі не дайшлі») дасланы іх табе крыху раней. Ну, але ж яны не прападуць, дзякуючы Табе», — напісаў ён мне ў суправаджальным лісце.

Мы з ім, нашым земляком (нарадзіўся на Вілейшчыне; у Польшчу, на «землі вернутыя», пераехаў разам з бацькамі пасля Вялікай Айчыннай вайны), знаёмыя яшчэ з 1972 года, калі ён разам з другім славутым беларусістам, прафесарам Базылём Белаказовічам (1932—2010), прыязджаў у Мінск на міжнародную навуковую канферэнцыю. Тых, хто жадае больш даведацца пра Т. Позьняка, адрасую да свайго артыкула «Славіст, народжаны Беларуссю» («Літаратура і мастацтва», 7 снежня 2012 г.), які я напісаў да 80-годдзя вучонага.

Як піша Т. Позьняк, некаторыя лісты беларускага паэта (відавочна, не ўсе) захаваліся ў архіве Э. Кунавіч (1905—1989), якія яна перад сваёй смерцю перадала ў аддзел рукапісаў Бібліятэкі імя Асалінскіх у Вроцлаве. Але ж хто такая Эмілія Кунавіч?

З беларускага друку (пра яе пісалі Г. Каханоўскі, П. Бітэль і інш.), з матэрыялаў, што захоўваюцца ў Фондзе № 25 Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва ў Мінску, польскіх СМІ можна даведацца, што нарадзілася яна ў цяперашнім украінскім горадзе Чарткове (Тарнопальшчына), скончыла ў 1924 г. гімназію ў Закапанэ, пасля чаго была накіравана настаўнічаць на «крэсы ўсходнія» — Віленшчыну і Ашмяншчыну. Працавала ў польскіх школах у вёсцы Забалацце, у мястэчках Ілья, Валожын, Вішнева. Зразумела, асноўнай задачай яе, настаўніцы, як і розных польскіх чыноўнікаў, асаднікаў у былой Заходняй Беларусі, было сеяць «пальшчызну» сярод мясцовага люду. Аднак, замест гэтага, яна пранікласся любасцю да беларускіх сялян, вывучыла беларускую мову, нават пісала на ёй аднаактоўкі для школьных тэатральных гурткоў. У 1942 г. разам з маленькай дачкой была вывезена на прымусовыя работы ў Германію. Пасля Вялікай Айчыннай вайны скончыла Вроцлаўскі ўніверсітэт і з 1960 г. стала пасялілася ў Вроцлаве. З часам развіла пісьменніцкія здольнасці, зарэкамендавала сябе як цікавая мастачка (малявала пастэлі). Выдала кнігі аповесцей «Дзяцінства» (1960), «Неўтаймоўныя сэрцы» (1964), «Карамболь на Млечным шляху» (1970), «Зблытаная пража» (1971), «Шэрая гусь. Успаміны» (1975) і інш. Стала сябрам Саюза польскіх літаратараў. Наведала Беларусь. Перапісвалася з вілейскімі краязнаўцамі, некаторымі былымі сваімі вучнямі. Матэрыялы пра яе склалі асобную вітрыну ў краязнаўчым музеі Ільянскай сярэдняй школы імя А. А. Грымаця.

У аповесці «Неўтаймоўныя сэрцы» Э. Кунавіч з вялікай прыязнасцю і зацікаўленасцю апісала заходнебеларускую вёску 1920—1930-х гг., дзе ёй давялося працаваць, стварыла вобразы надзвычай здольных і працавітых беларускіх сялян, паказала іх быт, звычаі, абрады. Вось іх характарыстыка, дадзеная пісьменніцай: «Яны добрыя, прагныя да ведаў, імкнуцца да прагрэсу, цывілізацыі і культуры, любяць прыгожае, але бедныя, непісьменныя і бездапаможныя перад несправядлівасцю».

Са знаёмства Максіма Танка з гэтай кнігай у 1964 г., дзе яскрава, па-мастацку праўдзіва апісаны вядомыя яму з юнацтва мясціны, і пачалася яго перапіска з Э. Кунавіч. З ліста пісьменніцы да беларускага паэта ад 22 красавіка 1964 г. вядома, што па парадзе Віктара Шведа, тагачаснага кіраўніка Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Варшаве, яна даслала сваю кнігу Максіму Танку і — адначасова — выдавецтву «Беларусь». Даслала, спадзеючыся на пераклад яе на беларускую мову, паколькі «для беларускага чытача яна з'яўляецца важным штрыхом гісторыі і грамадскіх перамен яго айчыны» (БДАМЛМ, фонд 25, вопіс 5, адз. зах.351, арк. 1; у далейшым назва архіва і нумар фонду называцца не будуць). А са зместу ліста Э. Кунавіч да Максіма Танка ад 7 мая 1964 г. (машынапісная копія яго захоўваецца

ў Бібліятэцы імя Асалінскіх) відаць, што паэт — у адказ — прыслаў ёй сваю кніжку вершаў з дароўным надпісам (выслана 1.5.1964 г., атрымана 7.5.1964 г.). На жаль, як піша Э. Кунавіч, у танкаўскай кніжцы яна не знайшла суправаджальнага ліста. Разам з тым паведамляе, што на з'езд пісьменнікаў у Мінск збіраецца група польскіх пісьменнікаў, але яна не зможа паехаць, бо пакуль што не з'яўляецца сябрам Саюза польскіх літаратараў, хоць яе заява ў кіраўніцтве Саюза ляжыць ужо паўтара года. Урэшце, прапануе даслаць паэту прадуктовую пасылку, бо ведае, што «за Бугам» была вялікая засуха, усё выгарала, і «трэба ратаваць прыяцеляў у бядзе». Просіць хутчэй адказаць на яе прапанову.

Максім Танк не прымусіў сябе доўга чакаць. Вось яго першы ліст да Эміліі Кунавіч:

*Мінск. 15.V. 64 г.*

*Глыбокапаважаная пані Эмілія Кунавіч! Прашу прабачыць, што пішу да Вас не на польскай мове, якую люблю і з якой перакладаю, але на якой даўно ўжо не пісаў. Па-беларуску пісаць мяне асмяляе яшчэ і тое, што, прачытаўшы Вашу надзвычай цікавую кнігу, я даведаўся, што беларуская мова для Вас не з'яўляецца далёкай і незразумелай.*

*Пасылаючы Вам свой зборнік вершаў, я не далучыў да яго свайго пісьма таму, што пошта чамусьці патрабуе ўсё перасылаць (і пісьмы, і кнігі) аддзельна, а галоўнае — я збіраўся ехаць на з'езд польскіх пісьменнікаў у Познань і думаў, што мне ўдасца пабываць і ў Вашым горадзе і сустрэцца з Вамі. Але, на вялікі жаль, траса нашых экскурсій прайшла воддаль ад Вроцлава. Сёння ж, вярнуўшыся з Варшавы, я застаў дома Ваша сардэчнае пісьмо, за якое шчыра Вам удзячны. Дужа шкада, што нашы творчыя Саюзы не маюць магчымасці ўключаць у склад сваіх дэлегацый большай колькасці пісьменнікаў, якія хацелі б паехаць да Вас, ці наадварот. Мы асабліва былі б рады гасціць у нас людзей, якіх творчасць, так як Ваша, звязана з нашым краем і народам. Дзякую Вам і за прапанову прыслаць пасылку. Шчыра Вам кажу, што няма ў гэтым ніякай патрэбы. Праўда, адзін час, у сувязі з засухай, некаторых прадуктаў было менш, але зараз ёсць і хлеб і, як кажуць, і да хлеба ёсць усё, што трэба.*

*Думаю, што, калі прыедзеце да нас, самі ў гэтым пераканаецеся. Пераканаецеся, якім светлым і чалавечым стала жыццё нашых вілейскіх сялян, якіх Вы калісьці вучылі, якіх добра знаў сам я, бо па тых жа аколіцах, па тых жа сцежках прайшла некалі і мая маладосць. З глыбокай павагай і братэрскім прывітаннем —*

*Максім Танк.*

Другі з вядомых лістоў Максіма Танка да «пані Эміліі» напісаны ўжо на польскай мове, падчас пабыўкі паэта на сваім нарачанскім лецішчы. Датуецца ён 22 жніўня 1966 г. Гэта значыць, прайшлі два гады пасля першага ліста. Тым не менш, нельга сказаць, што паміж адрасатам і адрасантам у гэты час не было паштовых кантактаў. У БДАМЛМ у чатырох вопісах (2, 3, 5 і 6) Фонду № 25 захоўваецца шэраг лістоў Э. Кунавіч да Максіма Танка. Ведаючы паэта, нельга дапусціць, што хаця б на адзін з яе лістоў ён не адказаў. Відавочна, яны не захаваліся альбо пакуль што не адшуканы.

У прыватнасці, у лісце ад 23.5.1964 г. (вопіс 2, адз. зах. 114, арк. 1 — адказ на папярэдні ліст Максіма Танка) Э. Кунавіч яшчэ раз нагадвае пра жаданне бачыць сваю аповесць «Неўтаймоўныя сэрцы» ў перакладзе на беларускую мову. Лічыць, што «кніжка памагла б яшчэ больш палюбіць Вашу незвычайна прыгожую і шляхетную Айчыну». Просіць паведаміць, ці ўсё ж ёсць магчымасць выдаць яе аповесць па-беларуску. Хоча прыехаць у Беларусь, на свае вочы пабачыць новае жыццё вілейскіх сялян. Але як гэта ажыццявіць? Расказвае пра цяжкія абставіны свайго жыцця і творчасці: у сям'і сем чалавек, усе на яе руках, да гэтага

з 1952 г. яна хварэе на рак. Лечыцца так, як апісана ў яе аповесці, — бярозавай чагай. І гэта дапамагае. Аднак чагу ў Польшчы дастаць цяжка. Спадзяецца, што ў Беларусі атрымаць яе лягчэй. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, распачала новую аповесць — пра жыццё рабочых вроцлаўскай фабрыкі штучных валокнаў…

У лісце ад 5.6.1964 г. (тамсама, арк. 3) Э. Кунавіч перасылае беларускаму паэту рэцэнзію на «Неўтаймоўныя сэрцы», надрукаваную ў часопісе «Kultura» (1964, № 23). А ўжо ліст ад 20.6.1964 г. (тамсама, арк. 4) выразна сведчыць, што Максім Танк адпісваў сваёй адрасатцы, якая прызнаецца, што «лісты Пана прыносяць мне вялікую радасць у маім самотным жыцці». Дзякуе за жаданне прыслаць чагу, апісвае яе знешні выгляд. Раіць пры паездцы ў Вілейку заглянуць у вёску Косічы, дзе жыве яе былая вучаніца, гераіня аповесці «Неўтаймоўныя сэрцы» Анастасія Варановіч, пазнаёміцца з ёй, паслухаць расказ пра яе былую настаўніцу. Сама ж хацела б прыехаць у край, дзе прайшло юнацтва, але як гэта здзейсніць у цяперашніх варунках? Шкадуе, што выданне яе аповесці ў Беларусі «не ёсць актуальным». Відавочна, што менавіта Максім Танк паведаміў ёй пра гэта.

Пад канец таго ж 1964 г. (ліст ад 7.12.1964 г. — тамсама, арк. 5) Э. Кунавіч дзякуе Максіму Танку за дасланыя альбомы, якія ўспрыняла як падарунак да Дня настаўніка (іх яна атрымала якраз у гэты дзень). З ліста сваёй былой вучаніцы Ганны Марцыёнка даведалася, якім шляхам прыйшлі да яе гэтыя альбомы.

У фондах Архіва-музея захавалася і віншаванне з Новым годам, пасланае Максіму Танку з Вроцлава 4.1.1965 г. (тамсама, арк. 6). Цяжка паверыць, што паэт не адказаў на гэта віншаванне. Відавочна, яго паштоўка проста не захавалася.

Перапіска паміж Максімам Танкам і Э. Кунавіч, несумненна, працягвалася і ў 1965 годзе, хоць лістоў беларускага паэта да яго польскай адрасаткі за гэты год мы не ведаем. Як рэдактар «Полымя», Максім Танк паспрыяў публікацыі ў часопісе (№ 9, с. 133—134) невялікага выказвання пісьменніцы пра Беларусь з наступнай рэдакцыйнай «урэзкай»: «Эмілія Кунавіч — сучасная польская пісьменніца, якая ў 20-х гг. гэтага стагоддзя працавала настаўніцай спачатку ў мястэчку Ільі, а пасля ў вёсцы Забалацце каля Вілейкі. Жыццё і культуру гэтай вёскі ў часы панскай Польшчы яна адлюстравала ў сваёй аповесці «Неўтаймаваныя сэрцы».

Выказванне Э. Кунавіч пра Беларусь — гэта адмысловы паэтычны абразок, які варта прывесці цалкам:

«Прыгожая зямля беларуская. Бярозавыя гаі стаяць у бальзамічным пуху вясновага лісця, ля цяністага ручайка залацяцца лотаці; сцелюцца дзераза і аксамітны мох, кучаравая арніка ўзносіць высока над лугам свае жоўтыя пялёсткі. Па шырокім небе плывуць белыя воблакі, гнаныя буйным ветрам усё далей і далей, нясуць з вільготных лясоў дажджы ў пустынныя краі. Незабыўная гэта краіна, цнатліва свежая і чыстая, з крыштальным паветрам, з рыбнымі рэкамі і азёрамі. Незабыўныя песні, старыя, як гэта зямля, стук мяліц пры ёўні, мільганне чаўнака на кроснах. Незабыўныя людзі, разумныя народнай мудрасцю».

У лісце з Вроцлава ад 28.9.1965 г. (тамсама, арк. 8) «сучасная польская пісьменніца» дзякуе рэдактару «Полымя» за «публікацыю ў часопісе ў перакладзе Ганкі Сухой [Марцыёнка. — **В. Р.**] маёй сціплай нататкі»…

1966 год прынёс пэўнае ажыўленне ў перапісцы двух пісьменнікаў. Так, у лісце з Вроцлава ад 25.7.1966 г. (воп. 3, адз. зах. 114, арк. 1) беларускі паэт даведаўся, што Э. Кунавіч дзякуючы запрашэнню сваёй вучаніцы Ганны Марцыёнка мяркуе атрымаць дазвол на прыезд у СССР, хоча сустрэцца з ім, просіць паведаміць, калі і дзе гэта найлепш ажыццявіць. Аднак ужо ліст ад 6.8.1966 г. (тамсама, арк. 9) прыносіць сумную вестку: пані Эмілія захварэла на сэрца (інфаркт?), дачка вымушана за яе рабіць карэктуру новай аповесці. Як адказ на гэтыя два лісты-паведамленні — ліст Максіма Танка на польскай мове, пра які я згадваў вышэй [пераклад з польскай мовы мой. — **В. Р.**]:

*Вельмішаноўная Пані!*

*Мяне вельмі абрадавала, што Пані магла б адведаць нас, тыя мясціны, дзе калісьці Пані працавала, спаткацца са сваімі старымі знаёмымі, сваімі былымі вучнямі, якія так сардэчна згадваюць Пані.*

*Цяжка мне сказаць, дзе я буду, калі Пані прыедзе да нас. Цяпер знаходжуся на адпачынку, над Нараччу. Калі з нейкай дэлегацыяй кудысьці не выеду, то ў верасні і кастрычніку буду ў Мінску, дзе вельмі рады буду з Вамі спаткацца.*

*Здароўем чуюся зараз трохі лепей. Але і цяпер знаходжуся яшчэ пад апекай лекара.*

*Пані не напісала мне пра сваё здароўе. Ці паздаравела ўжо? Шчыра зычу Вам здароўя і поспехаў у розңай творчай працы.*

*З надзеяй на сустрэчу ў Беларусі.*

*Максім Танк*

*Нарач, 22.VIII. 66 г.*

На жаль, хвароба не дазволіла Э. Кунавіч пабываць у мясцінах, дзе прайшло яе незабыўнае юнацтва, дзе горача білася ў грудзях і яе неўтаймоўнае сэрца. Са шкадаваннем успрыняў такую рэальнасць і Максім Танк:

*Глыбокапаважаная пані Эмілія Кунавіч!*

*Я даўно атрымаў Ваша пісьмо, якое дужа нас усіх засмуціла. Засмуціла таму, што Вы так цяжка захварэлі і што не надзеецеся пабываць у нас — на зямлі, дзе столькі засталося Вашых успамінаў, знаёмых і сяброў. А раней адпісаць Вам не змог, бо і сам чуўся дрэнна, і толькі нядаўна змог прыступіць да працы. Спадзяюся, што зараз у Вас са здароўем — лепш. Глядзіце за сабой. А галоўнае — не хвалюйцеся так, як гэта Вы рабілі раней. Я знаю, што раіць — лягчэй. Але няма нічога больш даражэйшага за жыццё, калі яно, як Ваша, было і застаецца каранямі звязана з людзьмі, штодзённымі справамі. З нецярпеннем будзем чакаць ад Вас Вашай новай кнігі, а галоўнае — добрых звестак аб стане Вашага здароўя. Пасылаю Вам адзін са сваіх вершаў, навеяных сумнымі днямі. Ад усяго сэрца жадаю Вам хутчэй паправіцца і вярнуцца да надзеі аб нашай сустрэчы ў Беларусі. З гарачым братэрскім прывітаннем — Максім Танк.*

*Мінск, 8/XI. 66 г.*

Невядома, ці ў гэтым лісце, ці асобна Максім Танк даслаў Э. Кунавіч свой верш «Стрэлкі гадзінніка» — медытацыйна-роздумны, у цэлым мінорны па настроі. Гэта і нядзіўна: у паэта пачало падводзіць здароўе, ён стаў часта хварэць, многія дні праводзіў у шпіталі. Далі пра сябе знаць былыя нягоды, нястачы, арышты, сядзенне ў астрогах. Э. Кунавіч, якая таксама цяжка хварэла, якой жылося няпроста, тонка адчувала беларускага паэта. Верш ёй прыйшоўся да душы, і яна адразу пачала яго перакладаць. У лісце ад 16.11.1966 г. (вопіс 2, адз. зах. 103, арк. 11) яна дасылае свой пераклад верша аўтару арыгінала, пры гэтым удакладняе сэнс некаторых беларускіх слоў, просіць садзеяння ў публікацыі твора ў польскім друку. Максім Танк адгукнуўся адразу, Нават дзіўна (як на сёння) што ліст, пасланы з Вроцлава, быў у Мінску ўжо праз тры дні.

*Мінск, 19.XI.66.*

*Глыбокапаважаная пані Эмілія Кунавіч!*

*Для ўсіх нас было вялікай радасцю Ваша пісьмо, з якога мы даведаліся, што Вы крыху паправіліся і нават прыступілі да працы. Праўда, пасля такой цяжкой хваробы Вам трэба вельмі асцерагацца і не пераймацца рознымі жыццёвымі нягодамі, хоць гэта і не так лёгка зрабіць чалавеку, які, як Вы, усімі сваімі думамі і справамі звязаны з рэчаіснасцю. Я вельмі Вам удзячны за пераклад майго верша — пераклад верны і прыгожы. Я яго паслаў Вам таму, што і ў мяне быў*

*падобны настрой. Верш, пры першай аказіі, перадам сваім польскім сябрам. Летась у PIW-е выйшаў зборнічак маіх вершаў. Калі выйдзе чатырохтомнік, я Вам яго прышлю абавязкова. Быў бы рад, калі мае вершы прыгадаюць Вам знаёмыя мясціны Беларусі, дзе некалі прайшла Ваша маладосць. Дужа шкада, што хвароба перашкодзіла Вам наведаць нас. Будзем спадзявацца, што наступны год будзе больш багаты на сяброўскія сустрэчы. Віншую Вас з надыходзячым Новым годам, жадаю паспеху ў Вашай працы і больш за ўсё — здароўя. З сардэчным братэрскім прывітаннем —*

*Максім Танк.*

У адказ на навагодняе віншаванне Максіма Танка, на мінскі адрас «Ленінскі праспект, 12, кв. 48» прыйшло такое ж віншаванне з вуліцы Боя Жаленскага, 37, што ў Познані, пасланае 21.12.1966 г. (тамсама, арк. 15). Неўзабаве Э. Кунавіч атрымала яшчэ адзін ліст ад Максіма Танка, які яе, несумненна, абрадаваў і абнадзеіў:

*Глыбокапаважаная пані Кунавіч!*

*Што да перакладу верша, у мяне ніякіх заўваг няма, адзінае «zastruzenie» — не знаю, як аднясуцца да арыгіналу і перакладу ў рэдакцыі, куды яго пашлю. Ваша «Serce nienasycone» у нас многія таварышы чыталі. І одзывы на Вашу кнігу былі прыхільныя. Учора я гаварыў з рэдактарам нашага выдавецтва тав. Бажко аб выданні Вашай кнігі на беларускай мове. Відаць, гэтымі днямі ў нашым Саюзе пісьменнікаў будзем абмяркоўваць пытанне перакладаў з братніх літаратур. Там будзем гаварыць і аб Вашай аповесці.*

*Сама справа перакладу не будзе нейкай непераадольнай перашкодай. Перакладчыкаў з польскай мовы ў нас шмат. Галоўнае — каб наша выдавецтва запланавала кнігу. Зразумела, што ў гэтым годзе ўжо нічога не ўдасца зрабіць, бо план зацверджаны. Гутарка можа ісці толькі аб 1968—69 гг.*

*Ад усяго сэрца жадаю Вам у Новым годзе плённай працы, а галоўнае — здароўя, здароўя і здароўя.*

*З глыбокай пашанай і братэрскім прывітаннем —*

*Максім Танк.*

*Мінск, 11/І. 67 г.*

Надзеі, аднак, і ў 1967 г. не ўвасобіліся ў рэальнасць. Ні з паездкай у Беларусь. Ні з выданнем па-беларуску «Неўтаймоўных сэрцаў». Хаця ў тым годзе яе прынялі ў Саюз польскіх літаратараў і ёй здавалася, што «ёсць цяпер надзея на пераклад кніжкі на беларускую мову» (вопіс 3, адз. зах. 114, арк. 8). У тым жа годзе на адной з міжнародных навуковых канферэнцый яна пазнаёмілася з вядомым беларускім археолагам Леанідам Побалем. Менавіта праз яго яна з удзячнасцю пераслала Максіму Танку «сціплы сувенір» — разьбу па дрэве (ліст ад 13.3.1967 г. — тамсама, арк. 17). Адказ і падзяка не прымусілі сябе доўга чакаць:

*Глыбокапаважаная пані Кунавіч!*

*Не знаю, як Вам дзякаваць за памяць і за цудоўны падарунак — копіі разьбы з ратушы Вашага горада Вроцлава. Некалькі тыдняў таму назад мне перадаў гэта, перад сваёй паўторнай паездкай у Польшчу, наш супольны знаёмы — Леанід Давыдавіч Побаль, надзвычай цікавы чалавек, энтузіяст археалогіі. Я не здзіўлюся, калі ён некалі знойдзе курганы-магілы легендарных нашых продкаў: Леха, Чэха і Руса. Ён мне расказваў аб сустрэчы з Вамі і аб тым, як яго па-сяброўску сустракалі ў братняй Польшчы.*

*Вы нічога не пішаце пра сваё здароўе. Спадзяюся, што чуецеся лепш. Жадаю Вам шмат радасных і шчаслівых дзён у жыцці.*

*З глыбокай пашанай і братэрскім прывітаннем*

*Максім Танк.*

*Мінск, 12.V.67 г.*

Перапіска паміж Максімам Танкам і Э. Кунавіч, хоць і не такая інтэнсіўная, трывала і ў 1968 г. Польская пісьменніца праз рускага паэта Сяргея Астравога, які наведаў Вроцлаў, даведалася пра хваробу Максіма Танка, і ў лісце ад 25.10.1968 г. (тамсама, арк. 2) пажадала яму хуткага выздараўлення. Разам з тым расказала пра «добрую навіну — падпісала выдавецкую дамову на аповесць «Карамболь на Млечным шляху». Праз год павінна выйсці з друку». А 1 верасня таго года паведаміла, што набыла ў кнігарні кнігу Максіма Танка «Зімовыя прыгоды» ў перакладзе на польскую мову, і «гэтай кніжкай зачаравана» (вопіс 6, адз. зах. 91, арк. 16). Прыпамінае свой ранейшы пераклад «Стрэлак гадзінніка», у які «ўклала нават залішне уласных адчуванняў, яшчэ не ўмела ўжыцца ў шляхетную прастату Аўтара». Максім Танк працягнуў дыялог:

*Мінск, 20.IX.68 г.*

*Глыбокапаважаная Пані! Я і не спадзяваўся, што мае «Зімовыя прыгоды» завандруюць да Вас, і што яны, агулам, некалі выйдуць на польскай мове, бо казкі мае некалькі раз збіраліся выдаць (Вайнтраўб) і ўсё нешта станавілася перашкодай на іх шляху. Я дужа рад, што яны Вам — чалавеку, які цудоўна ведае ўпадабанні і густы нашых самых маладых і патрабавальных чытачоў, — спадабаліся. Тав. Варашыльскі пераклаў толькі некалькі казак з таго, што мною напісана. І пераклаў выдатна, за што я яму бязмерна ўдзячны. Відаць, тое, што ён сам паходзіць з Гродзеншчыны і ведае беларускую мову, дапамагло яму пераадолець усе перашкоды, якія, звычайна, стаяць перад кожным паэтам-перакладчыкам. Пішу Вам з бальніцы. Зноў — сэрца. Калі выйду з-пад апекі сваіх дактароў, прышлю Вам свае апошнія выданні, хоць зараз, працуючы ў апараце Саюза пісьменнікаў і стаўшы бюракратам, няма калі і думаць аб сваіх творах. Ад усяго сэрца жадаю Вам паздаравець. Спадзяюся, што хутка праясняцца многія справы і ў міжнароднай палітыцы, якія ўнеслі шмат непакою ў наша жыццё.*

*З глыбокай пашанай*

*Максім Танк.*

14.12.1968 г. Э. Кунавіч у сваёй паштоўцы выказала радасць, што «пан вярнуўся да здароўя». Параіла: трэба «захоўвацца», старацца жыць «на цішэйшых абаротах». Выказала намер у 1969 г. «на запрашэнне Ганкі Сухой-Марцыёнка» прыехаць у Мінск. У адказ беларускі паэт напісаў (паштоўка без даты, на паштовым штэмпелі число зацёрта, значыцца толькі: …12.68):

*Паважаная пані Эмілія!*

*Шчыра Вам дзякую за памяць. Ужо каторы раз хвароба мяне выводзіць са строю. Зараз чуюся крыху лепш, хоць больш чатырох месяцаў праляжаў і дома і ў бальніцы. Я дужа рад, што ўжо хутка Ваша аповесць выйдзе ў свет. Горача віншую Вас і Вашу сям'ю з надыходзячым Новым годам. Жадаю Вам шмат шчаслівых і радасных дзён, здароўя і поспехаў у працы. З сардэчным прывітаннем*

*Максім Танк.*

Максім Танк неўзабаве спецыяльнай паштоўкай яшчэ раз павіншаваў Э. Кунавіч з надыходзячым Новым 1969-м годам:

*Глыбокапаважаная пані Эмілія!*

*Сардэчна віншую Вас і Вашых блізкіх з надыходзячым Новым годам! Жадаю Вам шмат здароўя, шчасця, шмат светлых і радасных дзён у Вашай працы і ў жыцці!*

*З братэрскім прывітаннем*

*Максім Танк.*

*Мінск, 68 г.*

А ўжо на пачатку студзеня 1969 г. паэт даслаў Э. Кунавіч асобны ліст:

*Мінск, 11/I.69*

*Шаноўная пані Эмілія!*

*Я дужа рад, што Вы збіраецеся наведаць Мінск, пабываць на старых, знаёмых і дарагіх Вашаму сэрцу мясцінах. Спадзяюся, што нам удасца сустрэцца, хоць у гэтыя юбілейныя гады рэдка прыходзіцца бываць дома. Сёння атрымаў тэлеграму, у якой прапануюць мне ехаць да Вас на з'езд польскіх пісьменнікаў. На вялікі жаль, мушу адмовіцца ад гэтай цікавай камандзіроўкі да маіх польскіх сяброў, бо больш чатырох месяцаў праляжаў у бальніцы са сваім сэрцам, і таму зараз баюся рызыкаваць. Магчыма, што хутка буду ў Маскве. Пастараюся праз замежную камісію навесці спраўку аб Вашым перакладзе паэмы С. Астравога. На ўсякі выпадак пасылаю Вам яго дамашні адрас: Москва, А-319, ул. Черняховского, 4, кв. 51, Сергей Григорьевич Островой. Сардэчнае прывітанне Вам і Вашай сям'і. З надзеяй на хуткую сустрэчу*

*Максім Танк.*

Нарэшце, у пачатку ліпеня 1969 г., Э. Кунавіч наведала Беларусь, сустрэлася са сваімі колішнімі вучнямі, пазнаёмілася з Максімам Танкам. 22 ліпеня газета «Літаратура і мастацтва», у сувязі з Днямі польскай літаратуры, прысвяціла польскаму прыгожаму пісьменству цэлую старонку. І асноўную частку яе адвяла Э. Кунавіч. Тут змешчаны партрэт пісьменніцы і ўрывак з яе аповесці «Гады пакуты» пад назвай «Люба», перакладзены на беларускую мову былой яе вучаніцай М. Пісарэўскай. Ва ўрэзцы да публікацыі паведамлялася: «У Лодзінскім выдавецтве прынята да друку аповесць Э. Кунавіч «Гады пакуты». Гэта аўтабіяграфічны твор. У ім гаворыцца аб гадах, праведзеных пісьменніцай у фашысцкім працоўным лагеры, аб падпольнай працы ў нямецкага гаспадара. Аднак і ў самых цяжкіх умовах людзі не гублялі свайго чалавечага аблічча. Прадстаўнікі розных нацый, яны дапамагалі адзін аднаму і дзякуючы гэтаму дасягалі сваіх — хай і нязначных — перамог. Аб гэтым якраз ідзе гаворка ва ўрыўку з аповесці…». У лісце ж да Максіма Танка ад 27.8.1969 г. (вопіс 3, адз. зах. 114, арк. 4) Э. Кунавіч дзякуе за «такі мілы, зычлівы прыём». Кажа, не пісалася доўга, бо хацела «паслаць Пану эсэ пра пабыўку ў Мінску», аднак не дачакалася публікацыі ў друку і пасылае ліст без яго. І яшчэ: «З Мінска я вынесла найлепшыя ўспаміны. На цяперашнім з'ездзе пісьменнікаў у Гданьску не буду, але калі хто-небудзь з калег з Мінска будзе і загляне ў Вроцлаў, то можа ў любы час дня і ночы завітаць да мяне. Тут знойдзе без клопату і харчаванне, і начлег».

З прабачэння за затрымку з ліставаннем пачаў свой зварот да «пані Эміліі» і Максім Танк:

*Глыбокапаважаная пані Эмілія!*

*Ізноў прашу прабачэння, што не змог Вам адпісаць раней, бо апошнія месяцы, як цыган, увесь час быў у падарожжы. Зараз вярнуўся з Фінляндыі і спыніўся ў Маскве, куды мне прыслалі «Wiadomosci» з Вашымі цудоўнымі ўспамінамі аб Беларусі, поўнымі цяпла і братэрскай добразычлівасці. Ваш прыезд запачаткаваў сёлета шматлікія сустрэчы ў Беларусі з польскімі сябрамі. Гасціла ў нас цэлая група польскіх пісьменнікаў з Варшавы, Катовіц, Памор'я, з якімі мы ездзілі ў Навагрудак. Дужа шкада, што стан здароўя Вашага не дазволіў і Вам пабываць на знаёмай Вам Вілейшчыне, дзе Вы настаўнічалі, на Нарачы — на маёй радзіме. Спадзяюся, што наступным разам, калі зноў наведаеце нас, нам удасца гэта ажыццявіць*

*Вяртаючыся да Вашых уражанняў аб Беларусі, аб сустрэчах з намі, асмельваюся зрабіць адну заўвагу: трэба было нас і пакрытыкаваць, бо мы маглі Ваш побыт зрабіць больш цікавым і змястоўным. Праўда, наведваючы мясціны, дзе*

*прайшлі юнацтва і маладосць, дамініруе лірычнае пачуццё, ад якога ніхто з нас ніколі не зможа ўратавацца.*

*Ад усяго сэрца віншую Вас з надыходзячым святам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Жадаю Вам поспехаў у Вашай творчай працы, шчасця, а найбольш — здароўя.*

*З глыбокай пашанай і братэрскай любоўю*
*Максім Танк.*
*Масква, 26/X.69 г.*

На жаль, спадзеў не толькі аўтара, але і самога Максіма Танка на выпуск аповесці «Неўтаймоўныя сэрцы» на беларускай мове не ажыццявіўся і ў 1969 годзе. Таму, віншуючы польскую пісьменніцу з надыходзячым 1970 годам, ён пра кнігу ўжо не ўспамінаў:

*Паважаная пані Эмілія!*

*Ад усяго сэрца віншую Вас з Новым годам! Жадаю Вам шмат здароўя, шчасця, поспехаў у Вашай творчай працы.*

*Хай будзе новы год для ўсіх нас шчодрым на хлеб і песні, на частыя сяброўскія сустрэчы.*

*З братэрскім прывітаннем*
*Максім Танк.*
*Мінск, 1969 г.*

Невядома, па якой прычыне кніга Э. Кунавіч пра Заходнюю Беларусь «Неўтаймоўныя сэрцы» так і не змагла ў Мінску выйсці з друку. Саюз пісьменнікаў Беларусі, на чале якога ў 1967 г. стаў Максім Танк, у гэтым пытанні вырашальнай сілы не меў. Не меў такой сілы — пры ўсіх заслугах і ўсёй уладзе — і сам народны паэт. Усё вырашала адзінае тады выдавецтва мастацкай літаратуры «Беларусь», дакладней — яго кіраўніцтва. А над выдавецтвам стаяў ЦК КПБ…

Не разумеючы гэтага, Э. Кунавіч у лісце да Максіма Танка ад 13.12.1971 г. пісала: «Раіў мне п. Мальдзіс, каб яшчэ раз папрасіла Пана аб арганізацыі перакладу «Неўтаймоўных сэрцаў» на беларускую мову. Нібыта перакладчыца Бяганская хоча заняцца гэтай справай, маглі б зрабіць тое і п. Мальдзіс альбо Караткевіч. Сардэчна прашу вырашыць гэта пытанне» (вопіс 3, адз. зах. 114, арк. 8). Невядома, што адказаў Максім Танк на гэты ліст, і ці ўвогуле адказаў. Перапіска паміж пісьменнікамі паступова згасала. Апошняе, што засталося ад яе (дакладней, што мы ведаем), — гэта танкаўскае навагодняе віншаванне «пані Эміліі» з новым 1975-м годам:

*Глыбокапаважаная пані Эмілія!*

*Сардэчна віншую Вас і Вашых блізкіх і родных з надыходзячым Новым годам. Жадаю Вам шмат здароўя, шчасця і поспехаў у працы і ўсяго найлепшага ў Вашым прыгожым і творчым жыцці.*

*З нарачанскім прывітаннем*
*Максім Танк.*
*Снежань 1974 г.*

А кнігу Эміліі Кунавіч «Неўтаймоўныя сэрцы» ўсё-такі варта было б выдаць па-беларуску. Яна, як і яе аўтар, таго заслугоўвае.



# ЛІСТЫ ЯНКІ БРЫЛЯ ДА ВІСАРЫЁНА ГАРБУКА

*24 лістапада 2013 года споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі Вісарыёна Сцяпанавіча Гарбука. Выпрабаванняў і нягод, якія выпалі на долю гэтага чалавека, хапіла б на сотню людзей, але ў любых абставінах ён не губляў мужнасці і веры ў ідэалы рэвалюцыі. Падчас пражывання ў Пяцігорску, маючы першую групу інваліднасці, Вісарыён Сцяпанавіч не парываў сувязі з радзімай. Ён выпісваў і чытаў практычна ўсе беларускія літаратурныя часопісы і газеты, перапісваўся з пісьменнікамі, грамадскімі дзеячамі, франтавымі сябрамі, землякамі, настаўнікамі і вучнямі. З 1976 года пачаліся яго эпісталярныя зносіны з Янкам Брылём, якія працягваліся больш як дзесяць гадоў і перараслі ў сапраўднае сяброўства. Што аб'ядноўвала гэтых людзей? Тэм, якія ядналі іх душы, было шмат, але галоўныя з іх: вайна і творчасць. Пра свой ваенны лёс Янка Брыль пісаў: «Пасля прыйшлі служба ў польскім войску, фронт (19 дзён бітвы пад Грыняй), палон, уцёкі, акупацыя, партызаншчына...»(ф. 234, в. 2, спр. 90).*

*Вісарыён Гарбук быў прызваны ў Чырвоную армію ў 1941 годзе, дзе ў інжынерных войсках асвоіў прафесіі тапографа, рэкагнасцыроўшчыка, будаўніка. Узвядзенне абарончых рубяжоў на Доне, у Калінінскай вобласці, у роднай Беларусі, пад Арлом, на Віслe і Одэры, будаўніцтва траншэй, дотаў, камандных пунктаў, мастоў і пераправаў было яго паўсядзённай ваеннай працай. Дзень Перамогі Вісарыён Сцяпанавіч сустрэў у Берліне і з гонарам паставіў свой аўтограф на сценах рэйхстага.*

*Таму франтавое братэрства хутка аб'яднала двух пісьменнікаў. Па прапанове Янкі Брыля яны перайшлі «на ты», хаця цікава, што Іван Антонавіч «Ты» заўсёды пісаў з вялікай літары.*

*У фондзе 234 Вісарыёна Гарбука Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, які налічвае 540 адзінак захоўвання, ёсць 14 лістоў і 3 паштоўкі Янкі Брыля (в. 2, спр. 90) і адзіны чарнавік ліста В. С. Гарбука Янку Брылю (в. 1, спр. 139). Ён без даты, але, думаю, што яго можна аднесці прыкладна да 1975—1976 гадоў, бо ў ім ідзе размова пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...», якая пабачыла свет у 1975 годзе.*

*Спадзяюся, сучасным чытачам будзе цікава пазнаёміцца з лістамі двух выдатных пісьменнікаў, бо ў іх жывое дыханне гісторыі, літаратурныя і грамадскія з'явы нядаўняга мінулага, разважанні творцаў аб літаратурным працэсе і слушныя парады сучасным і будучым пісьменнікам.*

**Аляксандр ВАШЧАНКА**

***Аўтар выказвае падзяку Беларускаму дзяржаўнаму архіву-музею літаратуры і мастацтва за прадстаўленыя матэрыялы.***

## Чарнавік ліста В. С. Гарбука Янку Брылю

Дарагі Янка!

Кніга «Я з вогненай вёскі» прачытана. Адчуваецца, што з усіх сведчанняў людзей, апытаных Вамі, адабрана сюды ўсё самае істотнае і індывідуальнае. Кампазіцыйна матэрыял размеркаваны ў найлепшым варыянце, а, можна сказаць, Ваш смелы творчы каментарый кроўна зліты з успамінамі. Вельмі ўражваюць фота Краўцова. Амаль кожнае з іх — псіхалагічнае абагульненне і мастацкі партрэт чалавека. Усё ж разам: кніга — сведка апакаліптычных часоў нашага народа. Пісаў і адкідваў з дзесятак варыянтаў адказу Вам, мой дарагі сябра. Ваша кніга «Я з вогненнай вёскі» нібы крык роспачы: «Мёртвыя, дапамажыце жывым!» Хто мае вочы, хай бачыць, хто мае вушы, хай чуе! Ці многа такіх? Тысячы, мільёны, мільярды? А яно, вогненнае, нарастае да апакаліптычных памераў. Кніга — заклік, кніга — папярэджанне да ўсяго чалавецтва. Колькі гадоў яе голас будзе гучаць? Ці не напаткае яе лёс кнігі з пералікам злачынстваў турак над армянамі ў 1915 годзе, аб існаванні якой я даведаўся толькі з нарыса Бітава «Уроки Армении»? Ці не занадта прывычным стала для нас гучанне слоў: «Хірасіма», «Асвенцім», «Гітлер», «Сонгмі»? Я спытаў дзяўчынку з восьмага класа, убачыўшы на яе шыі на залатым ланцужку крыжык, што так і значок свастыкі можна пачапіць. Яна запярэчыла: «Не, на яго моды не будзе. Ён не мае раўнавагі, каб элегантна трымацца». Яна была піянеркай, стала камсамолкай, добра вучылася.

З аднаго боку кароткая памяць. З другога: «Плеццю вобуха не пераб’еш», «Чаму бываць, таго не мінаваць», «Трэба жыць, як набяжыць»… Колькі такіх прымавак пакору і безнадзейнасці стварылі народы ў адказ на таталітарызмы ўсіх часоў…

Найдрабнюсенькі штодзённы клопат хвіліннага значання, найабмежаванейшая цікаўнасць ці поўная абыякавасць адных і глухата і бяспамятнасць да гісторыі другіх. Людзі без мінулага і будучага даюць магчымасць рабіць з імі любое. Сапраўдная «перадгісторыя чалавечага роду» (Маркс).

(Фонд 234, вопіс № 1, справа 139)

## Лісты Янкі Брыля да Вісарыёна Гарбука

1.XII.76

Дарагі Вісарыён!

З прыемнасцю прачытаў Вашы афарызмы. Асабліва спадабаліся (лічу па абзацах, спадзеючыся, што ў Вас ёсць экземпляр пасланага): трэці, дзевяты, дзесяты, дванаццаты, два апошнія, якія Вы назвалі «З вопыту Захаду» і апошні, прыпісаны на полі. «Суд» мой — самы прыхільны, бо я і сам люблю такое, і пісаць, і чытаць. А што да «Таварыства аматараў афарыстыкі», дык мне думаецца, што калі гэтым зацікавяцца тыя, каму Вы напісалі, калі напісалі яшчэ камусьці ды ён таксама адкажа — вось яно і будзе наша «непісанае» натуральнае таварыства. У нас цяпер столькі ўжо розных секцыяў, клубаў, таварыстваў, што калі іх не насыціць актыўным зместам — толку не будзе. Я, напрыклад, так і не магу зразумець, навошта створаны клуб (ці таварыства?) аматараў кнігі? Кнігу люблю з маленства, а вось патрэбы ў гэткім клубе ніколі не адчуваў. Формы, формы, а сумуецца па змесце…

Найлепшае, чаго хочацца пажадаць і Вам, і сабе, і ўсім, хто схільны да афарызмаў, — плённа пісаць іх і шчасліва друкаваць. У гэтым сэнсе найбольш прыдатна, можа, якраз «Маладосць», а то і «ЛіМ», у якім цяпер, дзякуй богу, новы рэдактар.

Пішу з бальніцы (тромбафлебіт левай нагі, глыбокія вены), таму і са спазненнем. Жадаю Вам усяго добрага!

Янка Брыль.

2.I.79

Дарагі Вісарыён!

Яшчэ раз з Новым годам! Хай ён будзе нам светлым!

Шчыра дзякую за пісьмо, за вершы. Вельмі добра гэта — адчуваць, што мэта ў нейкай меры дасягаецца, што ты сумленным людзям патрэбны. Яно ж у кожнага з нас бывае — і «дрэнны настрой», і сумненні, і вось тады радкі сябра, цеплыня яго душы вельмі і вельмі дарэчы.

Кнігу сваю я паслаў Вам, прыйшоўшы з Саюза пісьменнікаў, дзе глядзеў Вашу выстаўку ў бібліятэцы, наладжаную нястомным у сваёй прыязнасці Міколам Хведаровічам, — хацелася такім чынам, пасылкай кнігі, даць Вам адчуць, што і я пра Вас думаю, разам з добрымі хлопцамі і дзяўчатамі розных узростаў.

Вершы спадабаліся, але кожны па-свойму: адзін як сяброўскае пісьмо з глыбокім балючым падтэкстам, другі — з суровым, вечным, як гекзаметр, асуджэннем подласці. Такое б друкаваць!

Што да «дзённікавасці» — без рыфмы, з рыфмай, — дык гэта я, і сапраўды, хваляваўся, ці не зарана выходжу на людзі са сваім «суб'ектыўным», чаго у нас не любяць, або прынамсі так кажуць («залішне суб'ектыўна»), калі хтосьці вылазіць за стандартную рысу.

Былі сякія-такія непрыемнасці, найбольшае — знялі з абмеркавання ў камітэце па дзяржаўных прэміях СССР нашу «Я з вогненнай вёскі…» і мне было няёмка перад сааўтарамі, але яны — хлопцы разумныя, усё разумеюць. Другое — публікацыя ў «Нёмане» апярэдзіла кнігу, і там пасля паскублі трохі, а хацелі яшчэ і больш… Затое ж многа было добрых чалавечых водгукаў.

<…> я чытаў, з прыемнасцю, спачатку ў «Звяздзе», потым і кнігу купіў.

Ці чыталі Вы ў «Маладосці», № 11 за … мінулы ўжо год маю новую аповесць?

Цісну руку і яшчэ раз дзякую

Янка Брыль.

21.VI.79

Дарагі Вісарыён!

16. VI вярнуўся з Польшчы і застаў Ваша пісьмо, што ўсхвалявала мяне радасцю сапраўднага сяброўства, душэўнага, чалавечага «общения».

Дзякую Вам, дружа, ад усяго сэрца!

Думка пра неабходнасць «нравственного самоусовершенствования» жыве са мной і ўва мне з самага ранняга юнацтва, калі я, на шаснаццатым годзе жыцця, пачаў паглыбляцца ў свет Талстога і ўсіх, што «иже с ним». Пасля прыйшлі служба ў польскім войску, фронт (19 дзён бітвы пад Грыняй), палон, уцёкі, акупацыя, партызаншчына, пасляваенны Мінск з яго руінамі і культоўшчынай, сталасць і — зноў думкі пра тое, што хваробы нашага часу можна лячыць толькі «знутры», бо формы добрыя ёсць, а са зместам — такое ўражанне — чым далей, тым горш…

«Адценне іроніі», як Вы пішаце, тое, што ставіла «ідэйнасць» якога-небудзь Модэля ці Кучара вышэй за «дзівацтвы» Талстога, разумныя, па-сапраўднаму заклапочаныя народным лёсам людзі пачалі, зноў жа Вашымі словамі кажучы, «саскрабаць» даволі ўжо даўно: успамінаючы выступленні Леаніда Леонава і Максіма Рыльскага ў 1960 годзе. Дый адчуванне гэта сям-там цяпер, у выступленнях новага пакалення сталых. Рэвалюцыя не павінна закрэсліваць больш, чым трэба для канструктыўнага руху наперад.

Дзякую Вам за добрыя словы пра мае запісы і аповесць. Што да запісаў, дык «Маладосць» збіраецца даць недзе ў 9-ым ці 10-тым нумары новую іх падборку. Прыемна мне, што ў аповесці Вас найбольш «уразіў канец». Дзеля яго і пісаў я ўсю рэч, ён мне «мерещился» вельмі доўга, асабліва настойліва — зімой 1976—77 гг., у бальніцы, і рыхтаваўся я да гэтай рэчы даўжэй, чым пісаў яе. (Дарэчы, яна ідзе ў «Дружбе народов» № 7.)

У Польшчу я сабраўся пасля трохгадовага перапынку. Аказія — «дні савецкай літаратуры» ў горадзе Зелёна Гура. Потым — Варшава і Лодзь. Там у мяне даволі шмат сяброў, з гэтай краінай і гэтым народам звязаны я жыццём і творчасцю, і таму туды час ад часу хочацца.

Цяпер еду з жонкай і дзевяцігадовай унучкай у вёску, пад Нёман, каб асвяжыцца трохі родным жыццём.

Усяго Вам добрага!

Янка Брыль.

13.XI.80

Дарагі Вісарыён Сцяпанавіч!

Днямі я вярнуўся з Сочы, дзе лячыў сваю нагу «мацэстай» (ужо чацвёрты год узапар езджу туды ў кастрычніку). А там аднойчы, ціхім вечарам, чытаючы добрую прозу нарвежца Б'ёрнсона, успомніў чамусьці Вас… Тое цудоўнае <u>чамусьці</u>, калі раптам, як быццам без дай прычыны ўспамінаецца блізкі чалавек і хочацца сказаць яму добрае слова. Я яго і сказаў бы адразу адтуль, але не было з сабой блакнота з адрасамі і прыйшлося адкласці на Мінск.

Вось і пішу Вам — проста так сабе, каб сказаць, што часта і цёпла згадваю Вас і ад душы жадаю Вам усяго добрага.

Пішу «Вы», «Вас» і такое ўражанне, што нам трэба быць «на ты». Калі згода — пачніце па-старшынству, прыму з прыемнасцю.

Навін у нас няшмат. Шамякін замест Броўкі сеў у энцыклапедычным выдавецтве, Гілевіч, замест Шамякіна, у саюзе. Добрых рэчаў з'явілася вельмі няшмат. Будзем з 1. I. 81 мець новае выдавецтва «Юнацтва», куды ніяк не падбяруць начальства.

Галоўнае — праца, у чым пераконваешся, чым далей, то ўсё больш, добрая кніга, трохі добрай музыкі і сапраўдная дружба. Ну, і малеча. У мяне ўнучка Дануся, 10 год, дачка мае дачкі і Рыгора Семашкевіча; з ёю я добра дружу. У другое дочкі — дзесяцімесячны Міхась, у якога дзед сентыментальна закаханы. А яшчэ і нявестка павінна даць нам штосьці, ужо зусім неўзабаве. Можа, гэта і падштурхне мяне, нарэшце, пісаць для малых. А вельмі хацелася б!..

Усяго найлепшага.

Янка Брыль.

9. XII. 80

Дарагі Вісарыён!

Перш за ўсё — як там з аперацыяй, як самаадчуванне?

Дзякую за сімпатычныя, вясёлыя апавяданні. Дануся жыве даволі далёка, у мікраraёне Серабранка (назва ад вёскі, якую горад праглынуў на паўднёвай ускраіне), ходзіць у свой чацвёрты клас на другую змену і да дзеда з бабай прыязджае — дай бог — у нядзелю. Пры першай магчымасці перадам ёй гэтыя апавяданні, а то і разам іх прачытаем. Цяпер у Данусі не толькі дваюрадны брат Міхась, якому пайшоў дванаццаты месяц, а яшчэ і сястра, таксама дваюрадная, Волечка, якой сёння дванаццаць дзён, і старэйшына маіх трох унукаў, Дануся, прыязджаць будзе часцей. Міхась з бацькамі, маёй старэйшай дочкай Галяй і яе мужам, жыве недалёка ад нас, а Волечка, дачка майго Андрэя, жыве з намі.

Дарэчы, Данусіна мама, мая меншая, Наташа (па мужу Семашкевіч) працуе рэдактарам у Алены Васілевіч, у дзіцячай рэдакцыі выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Калі ўжо да выдавецкіх спраў, дык з 1. I. 81 у нас будзе новае выдавецтва «Юнацтва», куды падбіраюць начальства. Паглядзім, наколькі лепш будзе з гэтымі падзеламі… Паперы пабольшае ненамнога.

Маковіцкага я таксама дастаў і прачытаў яго «запоем», як доўгачаканае. Якая гэта раскоша! І якая пераклічка з сучаснасцю…

У суседзей нашых, разам з добрым, нямала і таго, што хвалюе, трывожыць… Як яно пойдзе далей?..

Тое, што пішаш пра свой дзённік, інтрыгуе мяне. Можа, дасць бог сустрэцца ды зазірнуць…Днямі я чытаў шматгадовыя запісы аднаго майго (старэйшага на 9 год) сябра, вясковага настаўніка, чалавека таленавітага і светлага, і было вельмі добра ад гэтага…

Жадаю Табе ўсяго найлепшага. Напішы пару слоў.

Янка Брыль.

30.III.81

Дарагі Вісарыён!

Усцешыў Ты мяне сваімі трыма пісьмамі (17. XII +15. III +16. III), «Фіранкай на скразняку» і зборнікам «Кто такие мы». Дзякую і віншую.

Думаў: яшчэ раз пачытаю апавяданне, прачытаю кнігу, а тады ўжо напішу. Але ж ад Польшчы, ад думак, да чаго гэта можа давесці, нават і не чытаецца…

У апавяданні «ўчапіўся» за яго канцоўку, якая збірае ўсё ў адно цэлае, злавіў Тваю задуму, — каб дыхалася лягчэй… Кнігу прачытаў да палавіны за ўчарашні дзень. Міла ўсё гэта і разумна, ды вось цяпер, раніцай, зноў Польшча — на варшаўскім радыё і пра нішто іншае не думаецца… Хоць бы ўсё гэта закончылася мірна!..

А думаў я пра Цябе ўвесь час, гутарыў некалькі разоў з Хведаровічам, пытаўся і чакаў, і зноў, яшчэ раз дзякую Табе, што дачакаўся.

Дзённікавыя запісы Мележа я чытаў у рукапісе, трохі (калі браць па колькасці) большым за апублікаванае «Маладосцю», але і там, як Ты пішаш, трэба дзівіцца, што надрукавалі. Добра было б усё ўбачыць у друку, і будзем спадзявацца, што ўбачым, нават і ў дзесяцітомным зборы твораў, які выдаецца. Я ў рэдкалегіі гэтага выдання.

Тое, што ўспаміналася Табе над старонкамі маіх нарысаў, у пэўнай меры вядома і мне, я і пісаў трохі пра такое, нават і надрукаваць давялося — у 60-дзесятых гадах. Тады, дарэчы, і дзённік Чорнага ў «Полымі» надрукавалі, што ў зборы твораў менш удалося.

Я з хваляваннем чакаю карэктуру свайго пятага тома, які ўвесь складаецца з «лірычных запісаў». Вельмі хочацца яго ўбачыць і выслаць сябрам… Чацвёрты том (дарожныя нататкі і выступленні па творчых пытаннях) ужо на другой карэктуры і, магчыма, выйдзе ў якім-небудзь маі ці чэрвені. Наш паліграфічны камбінат вельмі загружаны больш выгаднымі, многатыражнымі заказамі і ўвесь час спазняецца з выданнем малатыражных заказаў.

14—15. IV у нас будзе з’езд пісьменнікаў, які павінен прайсці спакойна, можа, хіба, начальства трохі памяняецца. «Маладыя» (наймаладзейшаму 45) сакратары многім абрыдзелі за пяць год сваім служэннем «сябе ў літаратуры». Замест Шамякіна прыйшоў увосені Гілевіч, хлопец культурны і энергічны; добра было б, каб да яго дадаліся таксама культурныя хлопцы, пад сцягам Танка, які, па сутнасці, мала цікавіцца справамі, да таго ж і шмат хварэе. Аднака ж сцяг, аўтарытэт, і гэта — без іроніі.

Стаміўся я ад усёй сваёй «творчасці» ды «дзейнасці», супакоіцца мог бы ў вялікай працы, а тут, як на гора, не пішацца…

Спыніўся, напісаўшы гэта, бо падумалася: а ці не сорамна мне пісаць такое Табе?.. Калісьці дома, у вёсцы, чуў я, як гаварыла старая яўрэйка: «Няма мне большы боль, добра і гэты боль»… Абмежаванасць гэта ці так ужо створаны чалавек, што кожнаму сваё баліць?.. Ты там, дружа наш мужны, змагаешся за кожную напісаную, прачытаную старонку, а я Табе скарджуся… І Дастаеўскі ўспамінаецца — з ягоным: «Человек думает, что он несчастлив, ибо не знает, что он счастлив» (цытую па памяці), з чым і наша народнае пераклікаецца: «Не гаруй,

дзядзька, горш будзе». Не дай бог, каб было! Няхай жывуць усмешкі, якіх так многа ў Тваёй кнізе, няхай жыве мужнасць нашых найлепшых часін ды хвілін!

Усяго добрага!

Янка Брыль.

P. S. Толькі што пазваніў у «Маладосць» Дамашэвічу, спытаўся, ці прысылаў Ты ім што-небудзь, бо не думаў, што апавяданне ўжо ім паслана. Варта паслаць. Яны, праўда, стогнуць, што «партфель перапоўнены», але месца заўсёды знойдзецца. Дамашэвіч (добры хлопец!) спытаў пра Цябе: «Ён нам штосьці даўно нічога не шле»…

Яшчэ раз — усяго найлепшага.

Янка.

## Паштоўка

29.IV.81

Дарагі Вісарыён!

Толькі што бачыўся з Табой па тэлевізары, чуў твае добрыя словы… Віншую Цябе — салдата, пісьменніка, сябра — з днём Перамогі, жадаю светлага настрою, новых таленавітых старонак. Успаміналі Цябе днямі з Міколам Хведаровічам, ходзячы ў Купалаўскім парку… Абдымаю.

Янка Брыль

25.V.81

Дарагі Вісарыён!

Дзякую, дружа мой мужны, за добрае пісьмо, за вясёлае «непрадказуемы ў паводзінах і творчасці»… Калісьці Піліп Пястрак гаварыў пра такіх: «Можа рабіць нечаканасці». Пабольш бы сілы ды ахвоты на такія нечаканасці!.. А што да «народнасці», дык хапіла б з нас Купалы і Коласа, а то ўжо цэлы каменданцкі ўзвод. У больш дарослых літаратурах, рускай ды ўкраінскай, звання гэтага няма. Калі ж зусім шчыра гаварыць пра гэта, дык мне прыемна, што не хадзіў, не прасіў, на іншых не нагаворваў… Хай будзе. Хоць пісаць ад гэтага не стане лягчэй, дый і друкаваць, выдаць, таксама. Паглядзім.

Толькі што гаварыў па тэлефоне з Ленай Васілевіч, перакінуліся добрым словам пра Цябе. Харошы яна чалавек, мы з ёй сябруем.

Раіш мне кнігу <…> і Кардзіна (з якім, дарэчы, знаёмы). Пашукаю ды пагляджу. Люблю такія даследаванні. А дзённікі — тым больш. У красавіку быў у Кіеве, там адзін з сяброў, Леанід Навічэнка, падараваў мне дзённік Тычыны. Цікава, асабліва з дзён маладосці, калі і сам ён, і паэзія яго былі без усякіх «налётаў»… А што цяпер гаварыць пра дзённік, скажам, Льва Мікалаевіча, які так многа дае і розуму, і сэрцу. Зоф’я Калкоўская, адна з найбольш пародзістых полек-пісьменніц, усё жыццё пісала дзённік. Гадоў 10 таму я з асалодай прачытаў яе дзённік з гадоў акупацыі, — сапраўдная вялікая літаратура.

Суседзі мяне таксама хвалююць. Каб толькі да найгоршага не дайшло, чаго я быў спалохаўся 30. III, пра што і пісаў Табе.

Я мог бы даць Дамашэвічу Тваю «Фіранку на скразняку», але без аўтарскага дазволу не зрабіў гэтага, бо і правіць Ты там, магчыма, захочаш што-небудзь.

Калі ў Пяцігорск даходзяць украінскія кнігі — пацікаўся «Марусяй Чурай» Ліны Кастэнка. Мне далі прачытаць гэты «раман у вершах». У паэзіі сучаснай даўно не чытаў нічога падобнага.

У нас цішыня, роўненька ўсё да сухоты… Чытаю карэктуру пятага тома, які ўвесь з «лірычных запісаў». Чацвёрты выйдзе месяцы праз два.

Усяго добрага!

Янка Брыль.

8.XI.81

Дарагі Вісарыён!

Дзякую за пісьмо, за апавяданні. Каб у мяне было сваё выдавецтва, я з прыемнасцю выдаваў бы такія і падобныя рэчы, у тым ліку і свае, бо некаторыя таксама ляжаць, чакаюць лепшага часу…

У пачатку верасня сам сябе павіншаваў з тым, што пяты том прайшоў цэнзуру амаль зусім шчасліва, без асаблівых выкрэсліванняў, чаго нельга сказаць пра рускую кніжку, якая ўлетку выйшла ў «Советском писателе» («Рассвет, увиденный издалека»), дзе па лірычных запісах добра-такі пахадзіла, патэпала старая, палахлівая рэдактарка, мадам Каробачка.

Цябе з «Мастацкай літаратуры» перанеслі ў «Юнацтва», бо з ліпеня месяца гэтае юнае выдавецтва пачало сваю самастойнасць. «Мастацкай» кадры рэдактараў разумнейшыя, а ў «Юнацтве» — толькі адзінкі, як Алена Васілевіч і некаторыя іншыя, могуць вытрымаць параўнанне з тым, што хацелася б і трэба было б мець.

Пішаш: «Мо выбераш момант…» — у сэнсе наведання Пяцігорска. Буду рад такой нагодзе, аднак апошнія гады я стаў непараўнана менш мабільным з-за сваіх ног, амаль нікуды не езджу.

Ці чытаеш Ты часопіс «Беларусь»? Я там друкую ў 11 нумары новыя рэчы, калі цікавішся — з прыемнасцю вышлю на суд.

Мая работа на бліжэйшы час — падрыхтоўка аднатомніка выбранай спадчыны Якуба Міско, майго добрага друга, які памер у мінулым месяцы. Летась «Маладосць» друкавала яго дакументальную аповесць «Было яно калісьці…» (№ 9), — можа, чытаў? Вельмі станоўчы, светлы быў чалавек.

Ёсць задума новых апавяданняў, сёе-тое нібы пачата, але — чым далей, тым тужэй яно пішацца…

У літаратуры нашай апошнім часам нічога «из ряда вон выходящего» не з’явілася, нудна і душна ад роўнядзі, сухой і шэрай…

Ну, жадаю Табе, дружа, светлага настрою!

Я. Брыль.

5.V.82

Дарагі Вісарыён!

Дзякую шчыра за пісьмо і святочныя добрыя пажаданні. У сваю чаргу, хоць і са спазненнем, віншую Цябе з Днём Перамогі і жадаю ўсяго добрага.

Чытаючы пра адкрыццё Кандзінскага, я весела, светла ўспомніў, як мы ў маленстве рабілі падобныя адкрыцці: сагнуўшыся, зірнуўшы паміж ног назад — убачыўшы тое самае зусім інакш — радаваліся гэтаму перамяшчэнню ліній і фарбаў. Не памятаю, вядома ж, калі я такое адчуў упершыню, аднак, мяркуючы па ўнучцы, якой 17 месяцаў, і якая ўжо робіць такія адкрыцці, і ў мяне, як і ва ўсіх, адбылося гэта вельмі рана. І ёсць у гэтым нейкі разумны пачатак — сузіранне свету па-дзіцячы, у здзіўленні ад новай, незвычайнай ігры фарбаў, у святой наіўнасці вечнага адкрывання. Пры адной, вядома, умове — каб у мастака гэта было шчыра, таленавіта, бо без гэтага — мазня, ад якой ці смешна, ці хочацца завыць. У абстрактным мастацтве (таленавітым) ёсць штосьці, і многа, ад музыкі, што так выразна праявілася ў «двухбаковай» творчасці Чурлёніса.

Дзякую за добрае слова пра маю падборку ў «Беларусі». Часопіс гэты доўга быў у заняпадзе, цяпер мы стараемся, кожны па-свойму, неяк падняць яго, аднак сумная слава жыве яшчэ, валачэцца, як доўгі, прыземлены дым ад паравоза, і чытаецца наша «Беларусь» пісьменнікамі з меншай увагай, чым іншыя часопісы (хоць, між іншым кажучы, «Полымя» моцна пайшло ўніз). Янка Скрыган, з якім мы даўно, ад першых дзён яго вяртання, сябруем, калі я спытаў у яго, ці чытаў ён маю падборку, адказаў: «А, «Беларусь» я, братачка, не чытаю». Гэта я ўсё гараджу да таго, што добрае слова Тваё — другое па ліку, пасля Веры Палтаран, якая чытала ў рукапісе.

Пры нагодзе перадай, калі ласка, маю шчырую ўдзячнасць свайму другу Анатолю Бугаёву і найлепшыя яму пажаданні. Пісьмо яго — таксама з удзячнасцю — вяртаю.

З Савіцкім пры нагодзе буду гаварыць. Ох, з гэтымі «прывычкамі»! Сяго-таго і ад гарэлкі трэба было б адвучыць… Не ўдаецца…

Усяго найлепшага — Табе і блізкім.

Я. Брыль.

**Паштоўка.**

24.I.83

Дружа Вісарыён!

Непакоіць тваё маўчанне. Як адчуваеш сябе, як настрой? Буду рад хоць бы самай кароткай вестачцы. Часта і цёпла думаю пра Цябе…

Пасля свайго шасцітомніка я даўгавата ныў, ды вось, дзякуй нашаму богу, зноў пачаў працаваць. А гэта ж — галоўнае.

Цісну руку і жадаю ўсяго добрага.

Янка Брыль.

25.II.83

Дарагі Вісарыён!

Усцешыў Ты мяне сваім пісьмом, — дзякую! За добрае апавяданне і за выразкі — таксама. Сумна ўсё гэта, што ў іх, сумна і ад думак, якія гнятуць, вядома ж, не аднаго Цябе, але… Але трэба і радавацца. Нядаўна я сустрэў у Талстога такія словы — з асаблівым націскам: «Радоваться! Радоваться!!» Сонцу, жыццю, добрым людзям і добрым кнігам. Гэта ўжо я не дабаўляю ад сябе, а так, без двукосся, цытую Льва Мікалаевіча.

Пасылаю Табе заказной бандэроллю кнігу майго добрага сябра, Якуба Міско. Яна толькі што выйшла, а ён пакінуў нас блізу паўтара года таму назад. Паглядзі яе, там ёсць што пачытаць.

Наконт склероза…Трымаюся пакуль што і я. А вясной паеду ў родныя мясціны, дзе летась пабудаваў дамок над Нёманам, каля лесу. Цяпер працую... можна сказаць, што і нядрэнна, ва ўсякім выпадку кожны дзень, — пішу для новай кнігі, якую мне запланавалі на 1985 год. Ідзе туга, але так яно і павінна быць у нашым узросце.

Адсвяткавалі мы 90-годдзе Максіма Гарэцкага. Асоба і пісьменнік! А лёс які!.. Выступаў з Адамовічам і па тэлебачанні, і на ўрачыстым вечары, а сёння яшчэ прыйдзецца выступіць і на канферэнцыі ў інстытуце літаратуры Акадэміі навук.

Згадвалі мы Цябе некалькі дзён таму назад з Алёнай Васілевіч, трывожыліся з прычыны твайго маўчання, а ўчора, калі сустрэліся ў саюзе пісьменнікаў, казаў ёй пра Тваё пісьмо.

Будзь здароў, дарагі, і хай будзе свята на душы!

Янка Брыль.

27.V.83

Дарагі Вісарыён!

Прыехаў на два дні ў Мінск і з прыемнасцю прачытаў Тваё пісьмо. Дзякую! Хацеў адказаць на яго адтуль, з-над Нёмана, «больш экзатычна», але гэта толькі зацягне справу.

Сядзім там з жонкай з 24. IV, многа працуем («фізічна»), асабліва яна, бо і агарод нейкі трэба ж было пасадзіць, а цяпер і палівацьь яго трэба. А тут жа мне, з маімі тромбамі, паднімаць цяжкае нельга, і цяпер сорамна, калі мая Ніна, дарэчы, заядлая ў працы, больш завіхаецца адна…

Кажаш — не пішацца і пытаешся, што рабіць… Я нічога іншага ў такіх, вельмі нярэдкіх, выпадках не магу прыдумаць, як ныць, ад'ядаць сэрца і чытаць. Бо

сілай і сапраўды ў нашай справе многа не возьмеш. І разумна Ты гэта сказаў, — «чым больш думаецца, тым менш пішацца». Ведаю гэта ў нейкай меры і я…

Цяпер як быццам пацягнула да працы, бяру туды, у сваё Крынічнае (назва суседняй вёсачкі), сёе-тое нібы пачатае, — можа, пойдзе. Хораша там вельмі, — салаўі, зязюлі, удоды, драчы, шпакі, ластаўкі, — але ж і адзінотна, і гэта дапамагае, прымушае варушыцца.

Сёння са мною едзе туды старэйшая ўнучка, Данута, дачка нашай малодшай дачкі Наташы і беднага Грышы Семашкевіча, — дзяўчынка закончыла шосты клас, любіць бабу і дзеда, яны яе таксама, усё будзе нашай тройцы весялей. А потым пад'едуць і іншыя дзеці ды ўнучкі.

«Cód nad histą»… Гэтым нам калісьці тлумілі галаву ў школе і ў войску. Жыве гэты «цуд» у многіх польскіх (і не польскіх, вядома) галовах і сёння… А ўсё ж з некаторымі палякамі я перапісваюся, нават мой «Золак» недзе там маецца выйсці…

Рад, што кніга Міско зрабіла на Цябе належнае ўражанне, рад і за Свету Алексіевіч.

Абдымаю Цябе, дружа, і жадаю ўсяго добрага!

Янка Брыль.

26.IV.84

Дарагі Вісарыён!

Шчыра віншую Цябе — салдата — з надыходзячым святам Перамогі і жадаю ўсяго добрага ў Тваю хату.

Само сабой, дзякую за пісьмо і дадатак. Апавяданнейка атрымалася. Мне падумалася толькі, што лепш назваць яго «Надо», — як?

З увагі на чытацкі ўзрост, мне здаецца, не трэба такіх дарослых слоў, як «немедленно я отверг мамину версию» (стар. 3) або «не отступил, настоял! Превозмог!» Праўда, дзеці цяпер растуць занадта хутка (мяркую па сваёй унучцы, якой 3 гады і чатыры месяцы), аднак вучыць іх прастаце трэба, відаць, з самага малку. Прымі гэта як пажаданне ісці «от хорошего к лучшему».

Прыемна, дружа, што Табе працуецца. Днямі, на адным са сходаў, давялося сядзець утрох з Панчанкам і Быкавым. Пімен пахваліўся: «Паўтара года не пісалася, а вось пачаў!..» І такая радасная усмешка. Ведаю гэта і я, як людзі добрыя, што за пакута, калі не пішацца, і што за радасць, калі зноў пачынаеш быць самім сабой — тым, што трэба. Месяц таму назад здаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» новую кнігу апавяданняў, эсэ і мініяцюр, і вось сяджу, зноў думаю, што нічога ўжо з мяне не будзе, нічога я не варты і г. д. Гніль такая. Як алкаголік чаркай, ратуюся кнігамі, вельмі многа чытаю, хоць вочы і не надта зоркія ўжо.

Юсцінаса Марцінкявічуса Ты чытаў, відаць, у нашым альманаху «Братэрства», у перакладзе Алеся Разанава? Гэта — сур'ёзнае, чаго не скажаш пра Сачанку. А ці чытаў Ты запісы Фёдара Янкоўскага ў яго кнігах «Абразкі» (1975), «Прыпыніся на часіну» (1979), «І за гарою пакланюся» (1982)? Летась «Советский писатель» выдаў яго выбранае, паўтарыўшы назву «И за горой поклонюсь». Калі не чытаў — раю.

Ну, вось так. Яшчэ раз дзякуй і хай у Цябе ўсё будзе добра.

Янка Брыль.

4.X.83

Дарагі Вісарыён!

Дзякую шчыра за пісьмо, кнігу, выразкі з газет — тую, што парадавала мяне водгукам на «Витражи», і тую, дзе цікавы артыкул, з якім я быў знаёмы, але перачытаў з цікавасцю. Дзякую таксама за добрыя словы пра лімаўскую публікацыю. Сёння запрапаную ім новую падборку, як заўсёды, трохі хвалюючыся: а ці тое гэта, а ці так і г. д. У кастрычніцкім нумары «Полымя» звярні, калі ласка, увагу на падборку маіх апавяданняў. Рыхтую кнігу ў план 1985 года, даецца туга. На дзіва

нядрэнна працавалася ў вёсцы, з якое мы вярнуліся на зімоўку пазаўчора. Нават крыху засумаваў я там на адзіноце па добрых людзях, хочацца сустрэцца з сім-тым. Сёння якраз і пачну, — іду на паседжанне прэзідыума, дзе будзем абмяркоўваць выдавецкія планы «Мастацкай літаратуры» і «Юнацтва». Толькі што пазнаёміўся з гэтымі планамі, дакладней — праектамі іх, каб выказаць пэўныя меркаванні. Ідзе здольная моладзь і ў паэзію, і ў прозу, што асабліва радуе, але прэ таксама нямала халтуры, перш за ўсё ад тых, хто не могуць прабіцца ў цэнтральныя выдавецтвы і дамагаюцца па месцы жыхарства. На сходзе прасядзім амаль да пачатку юбілейнага вечара Хвядоса Шынклера, так што асяроддзя нашага я чарпану сёння «папоўніцы». А пасля гэтага буду нацэльвацца на цішыню і засяроджанасць… Жывем мы з сынам, нявесткай і ўнукамі, Волечкай, якой праз два месяцы будзе тры гады, і Антосем, якому чатырнаццаты месяц. Зранку зачыняюся ад іх у сваім пакоі і стараюся мужна адстойваць свае правы на працу, хоць Волечка і казала ўчора, што «піша — гэта не працуе, а градкі поле (баба, вядома) — гэта працуе».

Вось і ўсё пакуль што, дарагі мой. Шчыра вітаю Цябе і Тваіх блізкіх, усім жадаючы ўсяго найлепшага. З прыемнасцю чытаў прадмову Аленіну да Твае кнігі — як быццам і дома ў Вас пабываў.

Твой Янка Брыль.

7.XI.85

Дарагі Вісарыён!

Сёння яшчэ не позна павіншаваць Цябе са святам Вялікага Кастрычніка і пажадаць усяго добрага і Табе, і Тваім найбліжэйшым!

Дзякую за пісьмо, за добрыя словы пра маю кнігу.

Згодзен з Табой, што да новага кіраўніцтва. Толькі б сілы яму ды непахіснасці ў выкананні задуманага. У вачах, у думках пасвятлела…

Засмуціў ты мяне, дарагі наш, мужны дружа, паведамленнем пра сваё здароўе. Трымайся, трымайся, хай Табе дапамагае наш бог!

Жадаеш здароўя і мне… Што ж, клопат ёсць і ў мяне: з нагой «пяленгуюся» дзевяты год. А цяпер яшчэ і рукі нешта баляць да лакцёў. Меўся ехаць у Польшчу, як ветэран Другой сусветнай вайны, але адмовіўся. Цяпер зноў прапануюць ехаць у канцы лістапада як перакладчыку польскай прозы. Відаць, таксама адмоўлюся. Палячуся трохі, — з нагамі хаджу цераз дзень на ўколы (троксевазін), а з рукамі на масаж пачну хадзіць пасля свят. Вось так яно. І шчыра дзякую Табе за пажаданне здароўя.

Працаваў я гэтае лета мала. «ЛіМ» надрукаваў 1-га г. м. слова пра Караткевіча. Хочацца, замест падарожжаў, каб пасядзелася над нечым новым, — у гэтым яно, наша найбольшае шчасце.

Яшчэ раз сардэчна дзякую Табе за добрыя словы, за братняе разуменне і абдымаю з надзеяй на ўсё добрае.

Янка Брыль.

## Паштоўка

4.V.86

Дарагі Вісарыён!

У новай кнізе Лены Васілевіч перачытваў яе словы пра Цябе і спахапіўся, што не павіншаваў…

З Днём Перамогі Цябе і найлепшыя пажаданні!

У нас нічога асаблівага. З’езд прайшоў і прайшоў, а працаваць трэба самому. 9. V. з жонкай і параю ўнукаў (5, 5 і 3, 5 гг.) едзем у вёску.

Абдымаю.

Янка Брыль.

(Ф. 234, в. 2, спр. 90).

Васіль ЖУРАЎЛЁЎ

# У ПОШУКУ ДУХОЎНАЙ АПОРЫ

Які́м бы шырокім і па-мастацку грунтоўным малюнкам не выступала ў літаратурным творы калектыўная сіла, духоўная энергетыка і воля грамады, у таленавітым мастацкім тэксце індывідуальная постаць чалавека і яе самадэтэрмінантны патэнцыял звычайна ніколі не адсоўваліся на ўзбочыну сюжэтнага дзеяння. Ды і, урэшце рэшт, адметнасць таго ці іншага калектыву рашаючым чынам абумоўліваецца своеасаблівасцю характараў тых людзей, якія ў гэты калектыў уваходзяць і адлюстроўваюць, вызначаюць яго маральна-этычны і сацыяльна-псіхалагічны вобраз.

Праўда, былі ў нашай літаратурнай гісторыі перыяды, калі паняцці і катэгорыі класавасці, калектывізму, партыйнасці бралі на сябе залішне шырокія дэтэрмінантныя паўнамоцтвы, скіроўваючы мастацкую думку ў вузкае рэчышча сацыялагізму (а нярэдка і вульгарна-сацыялагічнай схемы), перашкаджаючы, а то і проста адбіраючы ў чалавека права на свабоднае, індывідуальнае самавыяўленне. А калі ж такое права ён спрабаваў адстойваць, не пагаджацца з афіцыйнымі поглядамі і рашэннямі, якія прапаноўвалася лічыць адзіна правільным ацэначным позіркам на жыццё, дык такія творы, а разам з імі іх аўтары, нярэдка траплялі пад удары жорсткай крытыкі, што ў шэрагу выпадкаў былі подступам да яшчэ больш суровага абвінавачвання пісьменніка ў неразуменні генеральнага курсу партыі. Вядома, што мастацкае слова пры такой грамадска-літаратурнай сітуацыі шмат губляла, а нешта істотнае — назаўсёды і беззваротна. Некаторыя важныя праблемныя лініі літаратурнай рэальнасці, якія ў сувязі з такім неспрыяльным збегам абставін вымушаны былі прыпыніць сваё развіццё, на нейкім новым, больш прымальным і свабодным для творчай працы этапе звычайна зноў вярталіся на ранейшае праблемна-тэматычнае літаратурнае поле, шукаючы і знаходзячы ў многім новую, адпаведную запатрабаванням часу і ўзмужнелым грамадскім поглядам, мастацкую трактоўку.

Такую пачэсную і нялёгкую місію часта бярэ на сябе новае пакаленне пісьменнікаў, хоць і тыя пісьменнікі, якім па незалежных ад іх прычынах не пашчасціла разгарнуць сваіх задум і планаў напоўніцу, імкнуліся надаць ім пэўную мастацка-вобразную завершанасць. Даволі плённым і ўсё яшчэ недастаткова даследаваным этапам з’яўляюцца ў гэтым плане 60-я гады мінулага стагоддзя, калі ў нашай літаратуры адбываўся такі моцны ўсплёск мастацкай энергіі, якая, нараджаючыся ў канкрэтна-гістарычным часе, выходзіла далёка за яго межы, сягала закладзенымі ў яе думкамі, пачуццямі, тэндэнцыямі ў заўтрашні дзень літаратурнай рэальнасці, дапамагаючы ёй умацавацца на грунце высокіх гуманістычных прынцыпаў увагі да чалавека і яго індывідуальнай «самасці». Мы, відаць, не памылімся, калі зазначым, што ўсё тое лепшае, што было створана ў нашай літаратуры ў 60-ыя і ў наступныя 10—20 гадоў, звернута ў перспектыву і складае важнае эстэтычнае ядро прыгожага пісьменства Беларусі на сённяшні дзень. Гэты этапны набытак пісьменніцкай працы — досыць важкі і сур’ёзны доказ таго, што найбольш значныя і глыбінныя адлюстравальна-пазнавальныя працэсы на літаратурнай ніве адбываюцца на каардынатах чалавеказнаўства і

жыццязнаўства, на працягах шчырых, разумных і сумленных узаемастасункаў чалавека з абставінамі і навакольным светам.

Творчасць А. Кудраўца можа быць тут пераканальным прыкладам. Мастацкі і праблемны спектр сацыяльна-псіхалагічных праяў чалавечых характараў у творах гэтага пісьменніка шырокі і разнастайны. Галоўнай фігурай, аднак, блізкай і сугучнай аўтарскаму разуменню пра высокі патэнцыял духоўнасці, з'яўляецца чалавек, які мае свае індывідуальныя погляды на тое, што адбываецца ў жыцці, імкнучыся суадносіць і звязваць іх з пошукам нейкай важнай ісціны і спосабамі яе абнаўлення, асэнсавання ці хоць бы захавання яе «статус-кво» ў межах агульначалавечых каштоўнасцей. Іначай кажучы, ён арыентуе чалавека на пазітыўны дыялог з ісцінай, якую ён сам, гэты чалавек, павінен знайсці, вытлумачыць або, як мы сказалі, дзейсна паспрыяць яе функцыяніраванню ў тых формах і той ролі, што замацаваны і выверацы векавымі духоўнымі законамі традыцыі.

Пісьменнік нязменна паслядоўны ў тым сваім перакананні, што пошук і адстойванне ісціны і праўды з'яўляецца найважнейшай жыццёвай задачай кожнага чалавека на гэтай зямлі. Зыходзячы з такой маральна-этычнай максімы, ён усё ж прызнае, што ў шэрагу выпадкаў чалавеку патрэбна і дапамога збоку, і нейкія вонкавыя пабуджальныя матывы. Але гэта, на думку пісьменніка, зусім не азначае, што чалавека трэба спяшацца апраўдваць і шкадаваць, калі ён сам раней часу пачынае панікаваць, плакацца і бедаваць, не прыклаўшы належнага змагання з неспрыяльнымі для яго сіламі.

Адна з гераінь апавядання А. Кудраўца «Жанчыны» (1975), якая нечакана для сябе трапіла ў бальніцу і досыць мужна змагаецца са сваёю цяжкай хваробай, прыгадвае: «Любіла пацвельвацца з мужчын, што насілі з сабой валідол ці нітрагліцэрын: «Што вы за мужчыны?» — не баялася, што нехта пакрыўдзіцца на яе словы, — людзей трэба падвінчваць, трэба сачыць, каб не апускалі крылле, яно таксама ўніз цягне, калі яго апусціць. Ажно і сама…». Гераіня, як бачым, схільна прызнаць, калі і саму напаткала сур'ёзная хвароба, што была ў сваіх словах крыху рэзкаватай, катэгарычнай у дачыненні да тых, хто, як ёй здавалася, залішне ўжо беражліва ставіўся да сябе і заўсёды насіў «з сабой валідол ці нітрагліцэрын». Але яна па-ранейшаму, як можна меркаваць з далейшых яе разважанняў, лічыць, што чалавек і ў няпростых жыццёвых варунках не павінен псіхалагічна размагнічвацца, расслабляцца, не прыклаўшы па максімуме супрацьдзеянняў неспрыяльнаму збегу акалічнасцей.

Думка пра заўсёдную неабходнасць быць гатовым да пошуку духоўнай апоры ў самім сабе з яшчэ большай завостранасцю прагучала ў аповесці «Развітанне» (2002, 2007). Гераіня гэтага твора настаўніца Ніна ў гутарцы з былым аднакурснікам па навучанні ў педвучылішчы Адамам расказвае яму пра сваю нялёгкую і драматычную паласу жыцця, калі цяжка і, здавалася, без надзеі на выздараўленне захварэў яе муж, а тут яшчэ ў дадатак і строга рэгламентаваны настаўніцкі час працы ў школе, і догляд за падлеткам-сынам, і шмат іншых безадкладных і клопатных спраў, праблем і пытанняў, якія пераважна ёй адной спатрэбілася ўзяць на сябе і вырашаць іх. І вось у такі няпросты жыццёвы момант гэтай жанчыне-настаўніцы падумалася, што трэба нейкім чынам настроіць, абудзіць свайго мужа, які бадай што зусім зняверыўся ва ўласных сілах і якога сталі адольваць апатыя і песімізм, раззлавацца «на сваю хваробу, на сябе, на сваю бездапаможнасць, на сваю бязвольнасць» і паспрабаваць выйсці з цяжкага крызіснага стану: «З тым і прыехала да яго, — заўважае Ніна, — і расказала яму пра ўсё. Мне здаецца, на вайне немагчыма без злосці, на вайне заўсёды павінна быць злосць, а вайна з хваробай — гэта, можа, самая страшная з войнаў, бо гэта вайна з самім сабой. І я яго раззлавала. Я яму сказала: «Ты павінен жыць, як жыў дагэтуль. Не можаш гэтага рабіць фізічна, — рабі ў думках, у галаве, ты павінен гэта рабіць. Рабіць, быццам нічога не змянілася. Прачнуўся: устань, зрабі фіззарадку, пагаліся, памыйся. Ты павінен сам есці, сам садзіцца, сам уставаць, сам хадзіць. Усё сам, сам, сам!.. Інакш табе сорамна будзе перад сабой, перад дзецьмі…»

І які ж вынік прапаноўваецца чытачу пасля ўсіх гэтых балючых турбот, клопатаў, перажыванняў жанчыны і яе спадзяванняў на выратавальную сілу змагання чалавека са сваімі слабасцямі і апатыяй. «Не ведаю, што яго паправіла, — адказвае на такое пытанне гераіня, — а можа, паправіла мая злосць».

На вялікі жаль, не заўсёды і такое адкрытае, разумнае, шчырае, добразычлівае, заклікальна-патрабавальнае слова здольнае крута змяніць у падобных сітуацыях стан развіцця падзей да лепшага. Але ж і адмаўляць гаючы і выхаваўчы ўплыў такіх слоў і такіх думак на псіхалагічнае самаадчуванне чалавека таксама нельга. Мы ўспрымаем як нешта бясспрэчнае, калі чуем і гаворым, што эмацыянальна-чулы і абнадзейлівы голас урача падчас дзейнічае на пацыента не менш эфектыўна, чым дарагія лекі і медыкаменты. Вядома, неаспрэчным фактам з'яўляецца і тое, што ўсяму гэтаму актыўна дапамагаюць тут аптымістычны, жыццядайны настрой і валявая энергія самога чалавека, скіраваныя на пераадоленне цяжкасцей і пошук выхаду з бядотнага стану.

З чалавекам такой актыўнай духоўна-псіхалагічнай «самасці» ў творах А. Кудраўца (прынамсі, у найбольш значных, таленавітых яго творах) непасрэдна ці апасродкавана звязваецца пастаноўка асноўных праблемных пытанняў і іх вырашэнне. Прытым пісьменнік зусім не настроены штучна ствараць для сваіх герояў нейкія спецыяльныя, канфліктна-экстрэмальныя літаратурныя сітуацыі, каб раскрыць іх духоўную самадастатковасць або выявіць недахоп гэтай сілы ў іх дыялагічным кантакце з абставінамі. Ён, канечне, не абмінае і тэматыку, дзе жыццё аж залішне насычана, напоўнена падзеямі і сітуацыямі падкрэслена складанага зместу, дзе насустрач чалавеку выходзяць няпростыя варыянты маральна-этычнага выбару і прад'яўляюцца вялікія патрабаванні валявой і духоўна-інтэлектуальнай напружанасці.

Такая атмасфера напружанасці і драматызму пануе, напрыклад, у яго таленавітых апавяданнях пра вайну «Холад на пачатку вясны» (1971), «Зязюля пракукуе заўтра» (2001). На шлях заглыбленага роздуму пра магчымасць чалавека не губляць уласную годнасць у самых складаных абставінах часта выходзіць мастацкая думка і ў рамане «Пасеяць жыта». Правамерна звярнуць увагу на выяўленне самадэтэрмінантнага фактару ў раскрыцці характару чалавека і на бытавых сюжэтных лініях твораў А. Кудраўца. Жорсткі вонкавы націск абставін на герояў тут быццам бы адсутнічае. Але гэта зусім не азначае, што ўсё навокал чалавека складваецца тут самахоць, лёгка і проста нават і пры яго паслабленым псіха-фізіялагічным выдаткаванні самога сябе ва ўзаемадзеянні з навакольнай рэчаіснасцю.

Відаць, так і думалі, так і жылі-былі новыя гаспадары хаты, у якой некалі кватараваў былы студэнт педвучылішча Адам, герой аповесці «Развітанне», і якую праз пэўны час наведаў, спадзеючыся сустрэць там увішную, гаспадарлівую цётку Шуру. І што ж, якія вонкавыя перамены ён убачыў? «Дайшоў да пераезду і далей па сцежцы да хаткі-мазанкі з крывабокай каравай ігрушай ля дзвярэй і хлевушком, нібы прылепленым да глухой сцяны. Тынкоўка на хатцы патрэскалася, а ля вушака і зусім адвалілася, паказваючы белыя лучыны. Адам падумаў, што сэрца цёткі Шуры — колішняй гаспадыні гэтай хаткі — не вытрымала б бачыць такі непарадак. Яна замяшала б гліну з дробна пасечанай саломай і замазала б гэтыя трэшчыны, і ўсё, што абвалілася, пасля пабяліла б, і хатка была б, як лялька. І ўсё-такі была спадзеўка: «А можа, цётка Шура яшчэ жыве тут?..» Спадзеўка вельмі няпэўная, бо не надта дагледжаныя градкі буракоў і агуркоў ля хаткі падказвалі, што тут яўна другая гаспадыня.

І хлевушок расчынены напята, а ў ім відна сухая даўняя пацяруха. Значыць, ні каровы, ні свіней у ім не трымаюць, а цётка Шура заўсёды трымала».

Дык хто ж гэта *другая* гаспадыня, што давяла раней дагледжаную сціплую гаспадарку да такога непрыгляднага, занядбанага стану? Напачатку хочацца падумаць, што пасяліўся тут слабы і нямоглы чалавек, якому і простая работа даецца нялёгка. Аднак даволі хутка галоўны герой гэтага твора мусіць заўважыць, што ў такіх сваіх здагадках памыляўся: «Дзверы ў нізкія сенечкі былі расчыненыя, і

Адам пастукаў костачкамі пальцаў аб вушак, даючы знак пра сябе. На стук аднекуль з глыбні азваўся звонкі жаночы голас: «Хто там? Заходзьце…» Адам ступіў цераз парог у хатку. Каля печы стаяла маладая жанчына, і склаўшы рукі пад грудзьмі, пазірала на яго. Чакала, што ён скажа».

Як бачым, не нейкі слабы і нямоглы чалавек сустракае героя на парозе гэтай хаткі, дзе ў студэнцкія гады ён кватараваў, а «маладая жанчына», ды і голас у яе не абы-які, а «звонкі жаночы голас». Гэтыя дэталі, як можна меркаваць, маюць у тэксце не другараднае значэнне. Чаму ж усё-такі ў гэтай маладой жанчыны са звонкім голасам такі запушчаны, недагледжаны, зарослы травой невялічкі агарод?

Відаць, гэта жанчына, — скажа нейкі чытач, — проста ленаватая. Такое яго меркаванне не будзе пярэчыць мастацкаму сэнсу таго эпізоду, пра які ідзе гаворка. Але *асноўнае і сказанае аўтарам нібыта паміж іншым* прыхавана ўсё ж у падтэксце. Падтэкст у творах А. Кудраўца наогул з’ява ў сэнсавых і структурных адносінах мнагавектарная і шматзначная. І ў дадзеным выпадку пісьменнік больш заклапочаны не столькі тым, каб упікнуць чалавека ў ленасці і нядбайнасці, колькі актывізацыяй увагі аб нашай супольнай адказнасці за *малое і вялікае*, што адбываецца вакол нас. Бо ў залежнасці ад усяго гэтага, ад вялікіх і малых нашых высілкаў складваецца і фарміруецца адпаведны сацыяльна-псіхалагічны малюнак рэчаіснасці і ў шырокіх маштабах.

Таленавітае мастацкае слова ў многім на самай справе выяўляе сваю сутнасць у падтэксце, недагаворанасці, у шматзначнай сэнсавай энергетыцы мастацкіх дэталей. Так і тут. Разгорнутая мастацкая дэталь у творы А. Кудраўца глыбокім праблематычным пытаннем паўстае як у межах рэтраспектывы нашай рэальнасці, так і ў кантэксце бягучай сучаснасці з яе паваротам у заўтрашні дзень. Мы ведаем, што было нямала валюнтарысцкіх і часта балючых эксперыментатарскіх прыёмаў рэфармавання беларускай вёскі і грамадскай сельскагаспадарчай сістэмы. Даводзіцца канстатаваць, што важнае ключавое стырно кіравання ў гэтай складанай і няпростай галіне жыцця нярэдка знаходзілася ў руках недастаткова прафесійных і не заўсёды сумленных людзей. Натуральна, што ўсё гэта не лепшым чынам закранала духоўны і псіхалагічны стан грамадства, негатыўна адбіваючыся і на характары чалавека. Памылкі, недагляды і промахі ўчарашняга дня не праходзяць дарэмна для сучаснасці і дня заўтрашняга.

У апошнія гады часта чуюцца, напрыклад, нараканні на тое, што вёска, маўляў, абязлюджваецца і што ў ёй застаюцца пераважна старыя людзі, а моладзь без асаблівай шкадобы і хістанняў пакідае бацькоўскія хаты і мкне ў гарады.

Бягуць у горад дочкі і сыны,
Няма на іх ні дзягі, ні закона.

Гэтыя словы выказвае сталы чалавек, вясковец, безыменны герой аднаго з санетаў яркай кнігі З. Марозава «Гронкі зорных суквеццяў» (1998). Яму, гэтаму чалавеку, вельмі балюча ўсведамляць, што так вось адбываецца. Яго хацелася б зразумець і не спяшацца асуджаць, хоць прыёмы і сродкі, якія ўяўляюцца яму, нельга прызнаць прымальнымі і эфектыўнымі ні з маральна-этычнага, ні з практычнага, эканамічнага бакоў. Мы ўжо, як кажуць, «праходзілі» той этап у жыцці нашай вёскі, калі селяніна (маладога, пажылога, старога) утрымліваў у вёсцы статус бяспашпартнага жыхара. Вялікай гаспадарчай аддачы такая ўстаноўка, як вядома, не дала. Наадварот, як і ўсялякае абмежаванне, *што так ці іначай* скоўвае ўнутраную актыўнасць чалавека і нівеліруе яго духоўна-інтэлектуальны інтарэс, прынесла ў многія сферы жыцця багата ўсялякага негатыву.

Будзем шчырымі і прызнаем, што літаратурная думка і працы некаторых вучоных-гуманітарыяў (гісторыкаў, філосафаў, сацыёлагаў) на пэўных этапах развіцця нашага грамадства падчас таксама не лепшым чынам уплывалі на складванне спрыяльных умоў для выяўлення індывідуальнай ініцыятывы асобы. Там, дзе чалавек меў намер падумаць і непаспешліва паразважаць, яму нярэдка пра-

паноўвалася апрыёры і на веру прымаць гатовыя, хоць і не заўсёды адпаведныя і сугучныя аб'ектыўным і мудрым законам жыцця праекты.

У беларускай літаратуры пра вёску такая з'ява, як мы ведаем, знайшла вельмі шырокі адбітак. На гэтых праблемна-тэматычных абсягах не апошняе месца адводзілася і чалавеку, які пакідаў за сабою права на самастойнае рашэнне, нягледзячы на моцны вонкавы дыктат і імкненне афіцыйнай грамадскай сілы прымусіць яго прыняць безальтэрнатыўную праграму дзеяння.

Якуб Колас нібыта цалкам пагаджаецца, што галоўны герой гэтага твора селянін-серадняк Пракоп Дубяга марна траціць час, зацягваючы і адкладваючы сваё ўступленне ў калгас і такім чынам быццам бы сумняваецца ў тых рэкамендацыях і патрабаваннях, якія несла ў сабе тэорыя і практыка суцэльнай, залішне паспешлівай і ў многім драматычна-трагедыйнай паводле сваіх вынікаў калектывізацыі. На самай жа справе загаловак і сюжэтны фінал коласаўскай аповесці з'яўляюцца своеасаблівай праявай маскіроўкі, каб неяк зменшыць цэнзурны націск і паспрыяць твору выйсці на чытацкую аўдыторыю. Аўтару важна было правесці думку аб тым, што так званы здаровы сэнс і цвярозае меркаванне простага чалавека могуць унесці і ў асновы складанага тэарэтычнага пошуку істотныя дапаўненні і карэктывы.

Так думаючы і разважаючы, аўтар і яго герой, безумоўна, мелі на тое сур'ёзныя падставы. Бо амаль усякая, нават сур'ёзна распрацаваная тэорыя заключае ў сабе пэўны элемент альтэрнатыўнасці і гіпатэтычнага погляду. Асабліва гэта датычыцца тэарэтычных высноў, якія, не прайшоўшы належнага апрабавання ў рэальным жыцці, на практыцы, нацэльваюць грамадскія сілы на іх *хуткую беза-глядную і безадкладную* рэалізацыю. Нешта падобнае і заўважаецца тады, калі звыклага да працы на ўласным кавалку зямлі селяніна без яго папярэдняга ўзважанага роздуму, ваганняў і хістанняў, заклікалі прыняць ідэю калектывізацыі як адзіную і бясспрэчную формулу важнай гаспадарчай дзейнасці. У Якуба Коласа да тэарэтыкаў такога кшталту былі, канешне, сур'ёзныя пытанні, і некаторыя з іх вуснамі свайго героя пісьменнік у адкрытай ці завуаляванай форме выказвае ў аповесці «Адшчапенец».

Агульнавядомы выраз: рэальную гісторыю, яе асобныя падзеі і з'явы ў больш ці менш закончаных і завершаных формах нельга па-сапраўднаму тонка і глыбока ацаніць і зразумець у межах крытэрыяў умоўнага ладу (сослагательного наклонения). Уяўляецца, аднак, што наша жыццё сёння было б іншым (прынамсі, не горшым), калі б вышэйшыя ўладныя інстанцыі краіны ўважліва прыслухаліся да голасу такіх «адшчапенцаў» і «нехацімцаў», як коласаўскі Пракоп Дубяга, чорнаўскі Лявон Бушмар, мележаўскі Васіль Дзяцел або персанаж славутай паэмы А. Твардоўскага «Краіна Муравія» Мікіта Маргунок. Відаць, і на абсягах вясковай рэчаіснасці мы бачылі б на цяперашні час іншую, меней ускладненую няпростымі пытаннямі і праблемамі карціну. Дарэчы, пра ўсё гэта можна меркаваць, не вельмі далёка выходзячы за межы прагнозаў і параўнанняў, як мы сказалі, умоўнага ладу, суадносячы аналагічныя ці блізкія паводле свайго значэння з'явы ў рэальным кантэксце іх развіцця і руху літаратурна-грамадскай гісторыі.

Сёння, напрыклад, мы называем відавочнай і бясспрэчнай ісцінай, што менавіта там, дзе чалавек выступаў у мастацкім творы як свабодная, удумлівая асоба і ў абставінах кан'юнктурнай паспешлівасці і вонкавага націску на яго волевыяўленне, імкнуўся захаваць сваю індывідуальную духоўную самасць, найболей там выспявалі, закладваліся моцныя асновы мастацкай традыцыі, унутрана скіраванай на перспектыву прадуктыўнага разгортвання ў новых, сугучных гістарычнаму і літаратурна-грамадскаму часу запатрабаваннях. Цяжка ды і немагчыма ўявіць, што пры адсутнасці сур'ёзных мастацкіх набыткаў у папярэднія гады маглі б з'явіцца ў нас такія шырокавядомыя цяпер творы, як «Палеская хроніка» І. Мележа, трылогія «Шэметы» М. Лобана, раман А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка» пра вёску і яе складаныя шляхі-дарогі ў глыбокай і многім наватарскай інтэрпрэтацыі. Вядома, кожны з названых тут пісьменнікаў — таленавіты майстар

слова. Але талент шматкроць пашырае і паглыбляе сваю адлюстравальна-пазнавальную сілу, абапіраючыся на плённую літаратурную традыцыю. Гэты закон эвалюцыі і развіцця мастацкай думкі заўжды захоўваў і захоўвае сваю асноўную сутнасць. Названыя тут пісьменнікі шмат у чым працягвалі ў сваіх творах тыя сюжэтныя лініі, якія з прычыны неспрыяльных тагачасных умоў мусілі заканчвацца недагаворанасцю, шматкроп'ем у творах іх папярэднікаў, да прыкладу, у раманах «Мядзведзічы» К. Крапівы, «На чырвоных лядах» М. Лынькова, «Зямля» К. Чорнага. Некаторыя героі тут быццам бы неахвотна, туга адклікаюцца на голас афіцыйнай улады, але ў шэрагу выпадкаў іменна яны імкнуліся закладваць у фундамент бягучай, зменлівай і ў асобных сваіх звівах кан'юнктурнай рэальнасці пазітыўную энергію глыбокага аналітычнага роздуму, хоць ім, на жаль, і не ўдалося на той момант павярнуць ходу падзей у жаданым для іх напрамку.

Гэтыя творы (яны ўсё яшчэ ў нашай крытыцы і літаратуразнаўстве *належным чынам* застаюцца недаацэненымі) з'явіліся моцным каталізатарам у мастацкім асэнсаванні праблематыкі вясковага жыцця і актыўным эстэтычным супрацьдзеяннем тэндэнцыі, якая, пракламуючы ідэю аптымістычнага позірку ў заўтрашні дзень, у той жа час адкрыта ці прытоена звужала і стрымлівала магчымасць заглыбленага роздуму, сумненняў і крытычных разважанняў чалавека на шляху да гэтага прыгожага і сонечнага, светлага заўтра. Аднак ні ў жыцці, ні ў літаратуры такая тэндэнцыя значны час адступаць і здаваць свае пазіцыі не збіралася і не хацела.

Сапраўды, нярэдка назіраецца дзіўная, парадаксальная сітуацыя. Чалавек, які сам у той або іншай ступені з'яўляецца будаўніком і стваральнікам рэчавай і духоўнай рэальнасці, у нейкі момант схільны падпадаць пад яе залішне моцны ўплыў і прымаць на веру яе кан'юнктурныя, прасякнутыя суб'ектывісцкімі настроямі рухі і заклікі як вельмі важную або нават ключавую, генеральную лінію. І адбываецца гэта найчасцей тады, калі чалавек дае сабе паслабленне, разглядаючы знешнія ўплывы і сілы ўздзеянняў на яго як адзіны, *абсалютны і бясспрэчны* дэтэрмінант. Маўляў, там, наверсе, усё грунтоўна ўзважылі, прадумалі, вырашылі і мне няма чаго марна траціць час, абцяжарваць сябе і камплексаваць.

Тут мы зноў мусім прыгадаць тыя эпізоды з аповесці А. Кудраўца «Развітанне», дзе аўтар разам са сваім біяграфічна родным героем задумваюцца: чаму гэта маладая, са звонкім голасам жанчына так запусціла, занядбала сваю маленькую гаспадарку? Пісьменнік не дае нейкага прамога адказу на гэта пытанне, але пабуджае чытача ўсё ж падумаць над ім, калі паказвае зусім рознае самавыяўленне чалавека ў адэкватных ці амаль аднолькавых абставінах.

Добра вядома, што і ў апошнія дзесяцігоддзі існавання савецкай улады ідэя калектывізму падчас усё яшчэ заяўляла пра сябе як вельмі важны арыенцір партыі і ўрада ў рэфармаванні сельскай гаспадаркі. Дастаткова прыгадаць хоць бы п'есу А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» (1961). Гэта быў час па-свойму прыкметнай дэмакратызацыі грамадскай рэчаіснасці краіны, хоць паралельна з такой, безумоўна, пазітыўнай тэндэнцыяй селяніна зноў настройвалі і падштурхоўвалі, хоць і ў больш мяккай і далікатнай форме, чым гэта назіралася ў драматычна-трагічныя 30-я гады, зрабіць новы крок на шляху пашырэння калектыўных форм гаспадарання і звужэння да мінімуму ў гэтай сферы асабістага індывідуальнага інтарэсу. І гэта, нібыта, пойдзе толькі на карысць краіне, чалавеку і яго духоўнаму росту.

Безумоўна, гэта былі толькі рудыменты ранейшай ультрарэвалюцыйнай тэорыі, але другарадным і малаістотным фактарам лічыць іх было б заўчасна. Яны яшчэ неслі немалую небяспеку і маглі негатыўна паўплываць на складванне сацыяльна-псіхалагічнай атмасферы ў краіне і псіхалогіі чалавека. Трывога за далейшы лёс краіны і чалавека, які ўжо неаднойчы трапляў «на кручок» аптымістычна-падманлівых галасоў, найперш і кіравала творчым інтарэсам А. Макаёнка як аўтара п'есы «Лявоніха на арбіце». І асабліва лёгка, як вынікае з твора, трапляюць у залежнае поле знешніх уплываў і чужой волі людзі, якія ўласную

самастойнасць адсоўваюць на іншы план і з ходу спяшаюцца падчас і сціплую функцыю ўлады прызнаць галоўнай вядучай сілай і генератарам ісціны ў вышэйшай інстанцыі.

Адна з дзеючых асоб названай п'есы, простая вясковая жанчына Лушка, напачатку размовы аб ліквідацыі прысядзібнага ўчастка і продажы калгасу ўласнай каровы ўспрымае быццам стрымана і не выказвае колькі-небудзь рэзкай нязгоды са сваім мужам Лявонам, які адразу ўгледзеў у такім замаху на сціплую асабістую ўласнасць калгасніка нешта алагічнае і аддаленае ад здаровага сэнсу: «Ты, Лявон, — гаворыць яна, — не пярэч. Ты цяпер маўчы і не дыш. Як людзі, так і мы. Ад людзей не адстанем». Тут Лушка яшчэ хістаецца і сумняваецца, каб адразу прыняць рашэнне. Яна яшчэ пакідае за сабой пэўную магчымасць падумаць і суаднесці сваё ўласнае дзеянне з учынкамі і дзеяннямі іншых людзей, сваіх аднавяскоўцаў. Аднак роздумы і разважанні яе былі, як відаць, неглыбокімі, каб супрацьстаяць знешнім уплывам і адстойваць уласны пункт погляду. Дастаткова было старшыні калгаса Буткевічу пахваліць яе і паспрыяць вылучэнню «кандыдатам у дэпутаты райсавета», як гэта простая, але амбіцыёзная вясковая жанчына перастае аглядвацца на іншых і не супраць нават пакамандаваць імі. Толькі вось магчымасцей такіх у яе пакуль што няма, апрача хіба магчымасці крытыкаваць і ўшчуваць свайго мужа Лявона, які ніяк не хоча пагадзіцца з тым, што мець добра ўроблены прысядзібны ўчастак ці ўласную карову ў хляве шкодзіць нейкай іншай, хай сабе нават вялікай і карыснай грамадскай справе. І тут яна дае поўную волю свайму «грамадскаму» імпэту: «Ты — раб каровы, раб курыцы, раб лебяды. Табой жыўнасць распараджаецца... Ты пупавінай прырос да свайго двара. Ты гатоў нават жонку кінуць, каб захаваць сваё, маё, лебяду, карову», — такую тыраду негатыўнай характарыстыкі дасылае Лушка ў адрас Лявона. А поруч з гэтым не забывае ў святле пазітыву прадставіць уласную персону і акрэсліць далейшыя планы свайго жыцця і далейшых дзеянняў: «Я колькі гадоў каровіным хвастом спутана была, горб гнула над лебядой. Цяпер — хопіць, даволі! Баста! Я зараб-ляю на сябе. Я — на службе. Адслужыла, зарабіла, а цяпер, у вольны час, магу і парыбачыць... Мяне ў дэпутаты вылучылі! Кіраваць буду такімі, як ты! Ленін як вучыў? Кожная кухарка павінна ўмець дзяржаваю кіраваць. Дзяржаваю! Ну, я пакуль не дзяржавай, а ў раёне. А там падвучуся, глядзіш, і...».

П'еса А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» з'яўляецца камедыяй, і мастацкія прыёмы гіпербалізацыі, іранічныя і сатырычныя спосабы перабольшанняў у многім абумоўлены тут самою прыродай камедыйнага жанру і ўспрымаюцца як натуральны мастацка-вобразны ход аўтарскай думкі. Мы, безумоўна, будзем парушаць у сваёй інтэрпрэтацыі нейкія істотна важныя сэнсавыя аспекты такіх твораў, не да канца ўлічваючы іх жанравую спецыфіку і падтэкставы патэнцыял іроніі. А з камедыяй «Лявоніха на арбіце» нешта падобнае здарылася. Вельмі выразна гэта праявілася ў сцэнічнай пастаноўцы твора. Іранічна-ўсмешлівы, хоць ацэначна не з'едлівы і незласлівы голас драматурга ў раскрыцці характару Лушкі ў шэрагу тэатральных пастановак камедыі «Лявоніха на арбіце» быў тэндэнцыйна трансфармаваны насуперак рэальнай мастацкай задуме твора.

Вядома, рэжысёры — людзі не настолькі наіўныя, каб не ўгледзець і не зразумець, што знешне пазітыўнае стаўленне драматурга да Лушкі як камедыйнага персанажа сур'ёзна падточвае і нават разбурае іронія падтэксту аўтарскай характарыстыкі гэтай дзеючай асобы. Але ўплыў кан'юнктуры, у стварэнні якой у дадзеным выпадку першарадная роля належала вышэйшым партыйным структурам, адвольна памяняў месцамі пазітыўныя і негатыўныя характарыстычныя акцэнты.

Непрадузяты аналітычны падыход да разгляду макаёнкаўскай камедыі «Лявоніха на арбіце» дае надзейную падставу сцвярджаць, што не Лушка, а менавіта Лявон з'яўляецца тут галоўнай дзеючай фігурай, на баку якой знаходзяцца аўтарскія сімпатыі і ў асобе якой ён бачыць спакойнага, ціхага, па-сялянску практычнага і ўпартага абаронцу важных асноў мудрай народнай традыцыі. Зна-

ходзячыся пад няспынным агітацыйным націскам розных галасоў, якія імкнуцца амаль сілком вырваць у яго згоду, каб той дзеля агульнага калектыўнага інтарэсу звёў сваю сялянскую гаспадарку на нішто, Лявон нібыта адступае і ў чымсьці схільны пагадзіцца з такімі «запрашэннямі» і рэкамендацыямі. Ён нават кідае ў свой адрас самакрытычны папрок: «Відаць, я ўсё-такі не ў нагу маршырую. Трэба перамяніць нагу...» Праўда, тут жа і ўдакладняе самога сябе: «Толькі карову пакуль што...». І гэта яго быццам бы між іншым зробленая заўвага-карэктыва, як можна зразумець, болей нагадвае часовае, вымушанае адступленне, своеасаблівы тактычны ход, чым разлічанае на перспектыву цвёрдае і канчатковае рашэнне.

Чалавека, духоўна ўстойлівага перад націскам вонкавых абставін, ніколі не выпускаў з поля свайго зроку і А. Кудравец. Ён умее разгарнуць паказ характару такога чалавека шырока і панарамна і разам з тым валодае адмысловым псіхалагічным майстэрствам сціслай лаканічнай характарыстыкі, калі мастацкае слова, як гэта падчас назіраецца і ў камедыі А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце», экстрапаліруе сваю досыць актыўную дэтэрмінантную функцыю на пярэдадзень фарміравання чалавечага характару. І нярэдка тут, у выніковай ацэначнай і характарыстычнай сутнасці, спрацоўвае ўсяго толькі нейкая драбніца — адна маленькая дэталь ці некалькі трапных слоў, выказаных аўтарам ад уласнага імя ці ад імя сваіх герояў, што, аднак, актыўна дапамагае чытачу ўвайсці ў асацыятыўнае поле, істотна пашыраючы такім чынам альтэрнатыўнасць межаў успрымання і трактоўкі мастацкага твора, выяўлення яго вузлавой ідэі і яе галоўных носьбітаў — чалавечых характараў.

У аповесці А. Кудраўца «Развітанне» пісьменніка, відаць, дужа цікавіць пытанне: з якіх жа жыватворных крыніц немаладая жанчына цётка Шура, гераіня гэтага твора, чэрпае тую натхняльную і пабуджальную сілу, што дапамагае ёй быць гаспадарлівай і ўсё прыводзіць да ладу на сваім невялікім прысядзібным участку, знаходзячы ў дадатак магчымасць трымаць на сваім двары немалую па мерках таго часу колькасць свойскай жывёлы. Аўтар адказвае на гэта пытанне досыць лаканічна, разлічваючы, праўда, і на тое, што і чытач не застанецца тут безуважным і абыякавым, каб не разгарнуць і не дапоўніць аўтарскае слова-характарыстыку чалавека ўласным роздумам. «Ёй цяжка было нават падумаць, — заўважае пісьменнік, маючы на ўвазе ўсё тую ж увішную і гаспадарлівую цётку Шуру, — што недзе некалі яна зможа жыць без клопату пра гэтых жывых чатырохногіх істотаў, з якімі яна ўмела так *любоўна гаварыць, быццам бы гэта былі яе дзеці*».

Вось гэта параўнанне пра любоў-прыязнасць цёткі Шуры да ўласнай гаспадаркі, да свойскай жывёлы, «*як да сваіх дзяцей*» (курсіў наш. — **В. Ж.**), хоць і знаходзіцца на пэўнай аддаленасці ад галоўнага сюжэтнага кірунку аповесці, не застаецца малазначным дадаткам да характарыстыкі чалавека, асэнсавання яго дзеянняў і іх пабуджальных матываў. Кажучы іншымі словамі, аўтар хоча сказаць нам, што толькі там, дзе да справы адносяцца так, як добрая і любячая маці адносіцца да сваіх дзяцей, і можна разлічваць на нейкія сур'ёзныя і прадуктыўныя вынікі. Пра гэта нагадвае, дарэчы, чытачам Я. Янішчыц у сваім выдатным вершы «Ты пакліч мяне. Пазаві», часцінку з якога мы тут працытуем:

Пачынаецца ўсё з любві,
Нават самая простая ява.
І тады душой не крыві
На дарозе жыцця шырокай.
Пачынаецца ўсё з любві —
Першы поспех, і першыя крокі.
Прыручаюцца салаўі,
І змяняюцца краявіды.

Пісьменніцкая думка А. Кудраўца таксама ў многім была выклікана запатрабаваннямі рэальнага жыцця, павевамі грамадскага часу, які настройваў, пабуджаў

мастакоў слова на больш удумлівыя і глыбінныя пошукі і паказ чалавека свабоднай ініцыятывы і не заціснутага знешнімі абставінамі. У пошуку і раскрыцці духоўных рэсурсаў такога чалавека нашмат паглыбляла і пашырала свой мастацкі дыяпазон наша літаратура ў творах пра вайну, дзе чалавеку неаднойчы даводзілася спадзявацца і пакладацца пераважна на самога сябе. Тут адна толькі творчасць В. Быкава можа быць яркім і паказальным мастацкім прыкладам самадэтэрмінантнага выяўлення літаратурнага героя як чалавека і грамадзяніна.

Багата складаных праблем, якія прыцягвалі ўвагу, хвалявалі нашых пісьменнікаў, у тым ліку і А. Кудраўца, заставалася і на мірных гонях жыццёвай рэальнасці. Пастунова, як мы ведаем, камандна-адміністрацыйная сістэма звужала і паслабляла межы сваёй кантрольна-дыдактычнай і павучальнай функцыі, але цэлы шэраг важных, праблемных пытанняў літаратурна-грамадскага характару па-ранейшаму пакідала ў сферы сваіх кампетэнцый і паўнамоцтваў, недатыкальных для сумненняў і крытычнага слова. Ды і тэорыя сацыялістычнага рэалізму, пакрысе вызваляючыся ад дагматыкі і схематызму, бадай што ці не да апошніх гадоў жыцця савецкай краіны мела даволі паслядоўных абаронцаў менавіта тых палажэнняў і метадалагічных прынцыпаў гэтай тэорыі, паводле якіх чалавек у сваіх узаемадзеяннях з навакольным светам і вонкавымі абставінамі нярэдка абмяжоўваўся рознымі правіламі і нарматывамі, што слаба дапамагалі, а падчас сур'ёзна перашкаджалі ўвасабленню яго планаў і намераў у пазітыўныя і прадуктыўныя вынікі. А гэта азначала, што і радыкальнаму абнаўленню жыцця рабілася ў такім разе не лепшая паслуга.

Ды якой бы ў рэшце рэшт інтэлектуальна і духоўна моцнай, глыбокай і дальнабачнай не была пэўная *лідарская сіла* ў абагульненым вобразе нейкіх тэорый, дзяржаўных структур ці іх канкрэтных людзей, асноўныя, канкрэтныя, стваральныя і пераўтваральныя працэсы ў жыцці застаюцца за чалавекам свабоднай, мудрай і гуманістычнай ініцыятывы. Тут трэба будзе прызнаць слушным выказванне нашага сучасніка, вядомага філосафа і сацыёлага, доктара філасофскіх навук Л. Гуцаленкі, які, абапіраючыся на багаты вопыт гістарычнай рэальнасці і аўтарытэт сусветнай філасофскай думкі, прыходзіць да высновы, што сапраўдная крыніца жыццястойкіх сацыяльных працэсаў «знаходзіцца не ў знешніх прычынах, а ва ўнутраных пабуджэннях чалавека, яго актуальных патрэбнасцях, інакш кажучы, у тых матывацыйных імператывах, што рухаюць кола гісторыі». На думку вучонага, іменна з такім чалавекам «не ў апошнюю чаргу трэба звязваць надзею на вырашэнне надзвычай складанай сітуацыі, у якой апынулася сучаснае чалавецтва». Яму імпануе тут меркаванне сусветна вядомага філосафа Вебера, які лічыць, што «*усё ў соцыуме стартуе... з акта канкрэтных сацыяльных дзеянняў канкрэтных людзей*» (курсіў наш. — **В. Ж.**).

Такое выказванне хтосьці, відаць, захоча пашырыць альбо паглыбіць, унесці дапаўненні, карэктывы і можа нават заўважыць, што ў складаных і востраканфліктных сітуацыях чалавеку далёка не заўсёды пад сілу кардынальна павярнуць абставіны ў бок праўды і справядлівасці. Гэта, на думку А. Кудраўца, таксама трэба ўлічваць, каб не парушыць асноватворныя законы і прынцыпы гуманізму. Гераіня апавядання А. Кудраўца «Познія яблыкі» (1996) не вытрымлівае, напрыклад, цяжару абставін і канчае жыццё суіцыдам. Магчыма, што хтосьці ў падобных неспрыяльных абставінах паспрабаваў бы пашукаць іншыя шляхі выхаду з існуючага драматычнага стану і іншыя спосабы нязгоды і пратэсту і супрацьдзеяння крывадушным і хлуслівым, несумленным сілам. Але ў чымсьці вінаваціць ці дакараць простую вясковую жанчыну, як вынікае з твора, падстаў няма, бо яна наогул не думала і не падазравала, што тая грамадская структура мясцовай улады, якой канстытуцыйны грамадскі закон ды і законы агульначалавечага маральнага кодэксу прадпісвалі стаяць на варце праўды і справядлівасці, працяглы час стане ўводзіць шчырага і даверлівага чалавека ў зман. І калі ёй становіцца зразумелым, што там, адкуль яна чакала спачування, падтрымкі і дапамогі, працуюць людзі, якіх яе клопаты і няпросты жыццёвы лёс зусім не кранаюць, а калі і цікавяць,

то не выходзяць далей іх карыслівых і эгаістычных інтарэсаў. Гэта запозненае адкрыццё людскога двурушніцтва і няшчырасці канчаткова надламала яе духоўна і фізічна, пахіснула веру ў чалавечую дабрыню і надзею на лепшае заўтра і наблізіла трагічны фінал.

Сваёй галоўнай мэтай у гэтым творы пісьменнік ставіў правядзенне думкі, што і настройваючы, пабуджаючы чалавека на актыўнае самадэтэрмінантнае ўзаемадзеянне з неспрыяльным збегам абставін, не заўсёды гуманна і правамерна патрабаваць ад яго нейкай неадступнай духоўнай і фізічнай звышнапружанасці. І аўтар мае тут рацыю. Бо цяжар працяглай звышнапружанасці і перагрузкі не вытрымлівае нават моц жалезабетонных канструкцый і стальных тросаў.

Праблема чалавек і абставіны настолькі, аднак, складаная, што, нягледзячы на свой шматвяковы стаж яе асэнсавання і даследавання ў мастацкай літаратуры, крытыцы і літаратуразнаўстве, яна і на сённяшні дзень у многім застаецца вострапалемічным аб'ектам. І найболей тады, калі паўстае пытанне аб вызначэнні характарыстычных магчымасцей чалавека, які апынуўся на перакрыжаванні моцных шматвектарных уплываў. Глыбей паглядзець на гэту праблему пісьменнік запрашае свайго чытача ў апавяданні «Зязюля пракукуе заўтра» (2001).

Адзін з герояў гэтага твора васямнаццацігадовы вясковы юнак Алесь, сам таго не жадаючы, пад ціскам нейкіх вельмі складаных абставін становіцца паліцаем. На словы свайго старэйшага на два гады брата-партызана Паўла, каб Алесь таксама ішоў у партызаны, той, як вынікае з яго адказу, зрабіць такі крок пакуль што не гатовы: «Ты быццам дзіця. Ці забыўся, як я трапіў у паліцыю?.. Мне не было куды дзявацца».

Ды Павел, як відаць, рашуча і не настойвае, каб Алесь адразу ж даў згоду пайсці ў партызанскі атрад. Яму, безумоўна, былі добра вядомы тыя прычыны, што вымусілі яго брата стаць паліцаем, хоць сутнасць усіх такіх прычын і матываў не называе і не раскрывае. Там, дзе сюжэтная лінія ўшчыльную падыходзіць да іх выяўлення і раскрыцця, мастацкая думка раптам набывае пункцірна-абагулены характар недагаворанасці і часта перарываецца шматкроп'ем, што паказвае на яе незавершанасць і магчымасць далейшага шматварыянтнага разгортвання.

Чытач можа дапусціць тут, што Алесь пайшоў на ўслужэнне ворагу насуперак уласным жаданням толькі з тактычнай мэтай, каб выкарыстаць момант і хоць на нейкі час адвесці бяду ад сваёй маці, адзін з сыноў якой знаходзіцца ў партызанскім атрадзе, а сама яна застаецца жыць у сваёй хаце. Адносіны акупантаў да партызанскіх сем'яў добра вядомыя — яны былі жорсткімі, бязлітаснымі.

А магчыма, такім чынам, як гэта падумаў Алесь, далучыўшыся да паліцэйшчыны, ён разлічваў узвесці навокал сябе нейкі часовы бар'ер, каб адкараскацца ад прымусовай адпраўкі ў Германію на цяжкія работы. Тагачасная рэчаіснасць мае на сваім уліку нямала падобных фактаў наіўнага і ў большасці выпадкаў драматычна-трагедыйнага выбару чалавека. Зашыфраваная ў форму недагаворанасці і шматкроп'я падтэкставая плынь пісьменніцкай думкі не закрывае шлях яе выхаду і на такое асацыятыўнае поле чытацкіх роздумаў, разваг і здагадак.

Правамерным будзе, аднак, сказаць, што пры ўсёй той падкрэсленай і завостранай аўтарскай арыентацыі на падтэкст, пісьменніку, відаць, не хацелася пакідаць тут чытача на раздарожжы, на шляху няпэўнай альтэрнатыўнасці. У дадзеным выпадку важна не прапусціць хоць бы вось такі фрагмент мастацкага тэксту, дзе коратка гаворыцца пра ўзрост персанажа і ў сціслай абмалёўцы падаецца партрэтная характарыстыка таго, хто ўзяў у рукі нямецкі карабін, стаў паліцэйскім, бо яму, як ён заўважае, не было «куды дзявацца»: «Уладальнік нямецкага карабіна быў шчуплейшы (за свайго брата Паўла. — **В. Ж.**), з непрыхаванай адзнакай дзіцячай цікаўнасці на далікатным твары ўчарашняга школьніка. Ён быў маладзейшы, яму было васямнаццаць. Яму б яшчэ кацёлкі ганяць па вуліцы, ды зноў жа — вайна... І вось гэты нямецкі карабін пры ім, і гэтая паліцэйская форма...»

Дык што, можа, пісьменнік спрабуе знайсці нейкую апраўдальную аргументацыю ўчынку свайго героя, які ў цяжкі і адказны для краіны час апынуўся на

другім, варожым баку барыкад? Не, такое, ці ў чымсьці падобнае меркаванне логіка аўтарскай аргументацыі ў апавяданні «Зязюля пракукуе заўтра» не прымае ды і, не будзе памылкай сказаць, рашуча адхіляе.

Трэба памятаць, што ні суровы ваенны час, ні аддаленая ад гэтага часу рэальнасць (калі, вядома, у яе інтэрпрэтацыйную сістэму не закладваўся прадузяты, тэндэнцыйна-суб'ектывісцкі падыход) не апраўдвалі чалавека, які пераходзіў на бок жорсткай і нялюдскай сілы, напачатку, можа, і не маючы на мэце аддана служыць гэтай сіле і не разлічваючы, як той Рыбак з аповесці В. Быкава «Сотнікаў», на працяглае з ёю супрацоўніцтва. А. Кудравец таксама не знаходзіць магчымым апраўдваць альбо зніжаць шкалу асабістай адказнасці героя апавядання «Зязюля пракукуе заўтра», васямнаццацігадовага юнака Алеся. Але нельга ўсё ж не адчуць на гэтым напрамку руху сюжэтнай лініі твора глыбокай аўтарскай занепакоенасці лёсам чалавека і шчымліва-журботнай гуманістычнай ноты.

Былі на тое і сур'ёзныя прычыны, каб пісьменніцкае слова настройвалася тут на журботную элегічную і гуманістычную хвалі. Рэзка парушанае вайною мірнае жыццё раптам увайшло, як вядома, у такі стан складанасці, што падчас і высокія інстанцыі генералітэту і ваенных штабаў на пэўных этапах драматычнага і трагічнага развіцця падзей знаходзіліся ў разгубленасці. А тут у няпростым калейдаскопе падзей часова акупіраванай зямлі апынуўся нядаўні школьнік, васямнаццацігадовы вясковы юнак, якога яшчэ цягнула «кацёлкі ганяць па вуліцы», а час не чакаў і ставіў яго перад неабходнасцю адказнага маральна-этычнага выбару і развязвання тугіх вузлоў жыцця. У падобных выпадках якраз дарэчы была б і нейкая надзейная апора і падмога чалавеку, які ў чымсьці застаецца яшчэ дзіцем. Такая падтрымка да Алеся своечасова не прыйшла, а ў самога яго не хапіла той духоўнай моцы і ўнутранай падрыхтаванасці, што заўжды дапамагае чалавеку супрацьдзейнічаць неспрыяльнаму збегу акалічнасцей і адшукаць больш дакладныя і адпаведныя ісціне жыццёвыя арыенціры.

А. Кудравец, як мы сказалі, усё роўна не апраўдвае гэтага персанажа, хоць таму і сапраўды ў чымсьці можна паверыць, што яму «не было куды дзявацца» і што не па сваёй добрай волі ён мусіў пайсці ў паліцыю. Але пісьменнік не спяшаецца ў катэгарычнай форме і асуджаць яго. На аўтарскі погляд, прыхаваны ў глыбіні падтэксту апавядання «Зязюля пракукуе заўтра», больш ці менш дакладная, аб'ектыўная характарыстычная ацэнка чалавека можа быць дасягнута, апрача ўсяго, на шляху нязменнага захавання найважнейшых маральна-этычных і гуманістычных прынцыпаў.

Гэтаму вучыць нас жыццёвы вопыт і мудрая літаратурная традыцыя. Складаная, тонкая і досыць далікатная ў маральна-этычных і ідэалагічных аспектах праблема, якая зацікавіла А. Кудраўца ў апавяданні «Зязюля пракукуе заўтра» напачатку XXI стагоддзя, звярнула на сябе ўвагу Я. Коласа яшчэ ў гады мінулай вайны. Так, у яго паэме «Адплата» (1944) дзейнічае персанаж з той няўстойлівай, хісткай і палахлівай «пароды» людзей, што схільныя больш прыстасоўвацца да абставін, чым перарабляць іх ці супрацьдзейнічаць ім. Такія людзі ў крытычныя моманты лёгка перабягаюць на бок мацнейшага. Памкнуўся стаць на такі шлях, хоць і не без вонкавага прымусу, і прыстасавацца да так званага «новага парадку» і Цімох. Яму было строга загадана высачыць і дапамагчы гестапа схапіць партызанскага камандзіра. Загад гэты ён не выканаў, бо пачаў пакрысе ўсведамляць, што пераступае нейкую важную мяжу агульналюдскага закону. Цімох, можна сказаць, па сваёй волі прыходзіць у партызанскі атрад з раскаяннем і «людзям адкрыта прызнаўся», што меў напачатку намер супрацоўнічаць з ворагам і нейкі час супрацоўнічаў — знаўся з адданым паслугачом акупацыйнай нямецкай улады.

Пісьменнік не з'яўляецца прыхільнікам абсалютнай рэабілітацыі гэтага персанажа толькі таму, што той сам, без прынукі, прыйшоў у партызанскі атрад і адкрыта ва ўсім павініўся. Не тыя былі часы, каб з ходу ды яшчэ ў партызанскім атрадзе ісці на паспешлівы давер. Пісьменнік прызнае ў многім слушнымі галасы той часткі партызан, што былі «згодныя на пакаранне» Цімоха.

Аўтар запрашае, аднак, вельмі ўважліва выслухаць і тых, хто знаходзіць, што адкрытае прызнанне чалавекам сваёй віны, падмацаванае пэўным чынам канкрэтнымі дзеяннямі, жаданнем асудзіць самога сябе за ранейшыя памылкі, не можа не ўлічвацца пры вырашэнні яго лёсу нават у напружаных, складаных абставінах, якія вымушалі людзей быць надзвычай асцярожнымі. Партызанскі сход пасля доўгай палемічнай гаворкі і ўліку ўсіх «за» і «супраць» прымае рашэнне адпусціць Цімоха, хоць пэўны недавер да гэтага чалавека ў партызан, відаць, застаецца.

Якуб Колас не настройвае чытача на ўсёдаравальна-альтруістычны, у адносінах да персанажа, погляд. Але асноўны ход мастацкай думкі пісьменнік падводзіць усё ж да вываду, *што толькі праз давер да чалавека і захаванне аддаленых ад кан’юнктурнага інтарэсу прынцыпаў пралягае вялікая дарога да праўды і справядлівасці*. Іншай альтэрнатывы тут аўтар не бачыць і, як вынікае з твора, гэтую дарогу, занядбаўшы агульначалавечы, гуманістычны досвед, лёгка можна «згубіць, к праўдзе і волі з рук выпусціць ніць» і наогул страціць арыенціры і заблудзіцца ў «цёмным паходзе». Гэтыя словы Якуба Коласа найперш прачытваюцца ў *кантэксце* канкрэтнага ваеннага перыяду, калі яны былі сказаны і напісаны. Уяўляецца, што сваім праблемным гуманістычным сэнсам думка нашага класіка звернута і ў перспектыву *малога і вялікага* гістарычнага часу.

Гуманістычная коласаўская традыцыя, мяркуючы па ўсім, дае знаць пра сябе і ў апавяданні А. Кудраўца «Зязюля пракукуе заўтра» і ў многіх іншых яго творах. Гуманістычная метадалогія, гуманістычныя падыходы, як паказвае пісьменнік, утрымліваюць нас ад несправядлівых асуджальна-крытычных адносін да чалавека і паспешлівых тэндэнцыйна-суб’ектывісцкіх рашэнняў. Але сам гэты чалавек, міжвольна выходзячы ці наўмысна вырываючыся з гуманістычнай маральна-этычнай прасторы, таксама сур’ёзна збядняе свой духоўны свет, хоць нярэдка спрабуе згладзіць, прыхаваць, зашыфраваць такія хібы характару ў формах нейкіх хітрыкаў, уяўнай добразычлівасці і вонкавай актыўнасці.

Вобраз такога чалавека па-мастацку выразна пададзены ў апавяданні А. Кудраўца «Вясёлыя людзі» (1975). Каравачнік Рыгор Мельнічонак, што «гадоў з дзесяць ці болей ездзіць па сёлах, збірае старызну», на першы погляд можа паказацца чалавекам кампанейскім, вясёлым, схільным пагаварыць аб высокіх матэрыях, і быццам бы па першым клічу гатовы прыйсці на дапамогу. Аднак словы *«быць» і «здавацца»,* як вызначальны крытэрый характарыстыкі чалавека, у рэальнасці далёка не заўсёды супадаюць. Не супадаюць яны і ў вызначальным кантэксце характару Рыгора Мельнічонка. Калі, да прыкладу, гаворка заходзіць безадносна да *яго непасрэднага ўдзелу* ў развязванні нейкіх тугіх жыццёвых вузялкоў, ён нібыта на словах гатоў не проста ісці, а бегчы, каб як найхутчэй адклікнуцца ў якасці памагатага. Але вось адну такую, напачатку безадносна-агульную размову спатрэбілася пераключыць у канкрэтнае дзеянне з яго асабістым удзелам — і тут мы ўжо бачым зусім іншага чалавека.

Мельнічонку здаецца дзіўным, смешным і алагічным зварот да яго аднавяскоўкі Адаміхі, якая прыходзіць да гэтага персанажа з надзеяй знайсці ў яго падтрымку, спагаду і просіць «разам думаць, што з дзецьмі нашымі рабіць». А дзеці — гэта дачка Адаміхі і Мельнічонкаў сын, якія наважыліся стаць сям’ёй, пажаніцца. Мельнічонку гэта вельмі не даспадобы, бо на шляху маладых людзей узнікае пэўная праблема, да якой, на добры лад, не павінен застацца абыякавым і Рыгор Мельнічонак. Але цяпер ён вось у такім іранічна-насмешлівым тоне адклікаецца на ўсхвалявана-заклапочаны і трывожны голас суседкі «разам падумаць» аб іх дзецях: «Давайце думаць разам, што з дзецьмі нашымі рабіць. Во як. Дачцэ яе неўзагадкі раджаць трэба, дык я думай. А ты, куды ты глядзела, што ў цябе дачка такая? Сама павінна была пасці яе, калі чула слабасць... А то прыйшла. Той у бальніцу пара лажыцца, а яна — давайце разам думаць... Трэба было пасці раней...»

Пасля такіх «глыбакадумных» разважанняў гэтага чалавека становіцца зразумелым, што чакаць ад яго дапамогі камусьці іншаму — марная надзея. А словы ў

яго лексіконе пра дабро, праўду, шчырасць і справядлівасць з'яўляюцца не болей, як камуфляжам і памкненнем прыхаваць і нават узвялічыць сябе *сапраўднага*. Натуральна, што такія людзі, як Рыгор Мельнічонак, зрэдку бываюць мо і шчырымі ў сваім псіхалагічным выяўленні, але гэтая іх «шчырасць» пераважна і тут замыкаецца на вузкаіндывідуалістычным інтарэсе, а таму, як лічыць пісьменнік, яна і не здольна вывесці чалавека на нейкі прадуктыўны шлях ні ў матэрыяльна-практычнай, ні ў духоўнай сферы. Своеасаблівым каментарыем да гэтых слоў магло б быць тут выказанае ў адкрытай публіцыстычнай форме ў апавяданні «Дзень перад святам» (1975) такое аўтарскае меркаванне: «Гэта толькі гавораць так: «непаўторны; непаўторнае...» Усё можна паўтарыць. Паўтарыць наноў. Трэба толькі, каб жыла душа. Жыла і балела. Толькі балючая душа можа даць жыццё памяці, уваскрасіць мёртвае».

Такі аўтарскі каментарый прачытваецца і як ўзбагачанае глыбокім сэнсам мастацкае і метадалагічнае крэда ў вызначэнні прыярытэту той духоўнай сілы, якая здольна асэнсоўваць, абнаўляць і рухаць ключавыя працэсы жыцця. Захопліваючы ў сваю арбіту характары людзей самага рознага сацыяльна-псіхалагічнага складу і самай разнастайнай духоўнай арганізацыі, функцыю галоўнага героя аўтар пакідае ўсё ж за чалавекам, які можа ці змог узяць з крыніц і набыткаў агульначалавечага вопыту нешта карыснае, выверанае часам, каб падзяліцца гэтым набыткам з кімсьці іншым ці з яго дапамогай паспрыяць самому сабе ў выпадках вырашэння і асэнсавання нейкіх важных пытанняў. Аўтарскія сімпатыі да такога чалавека настолькі моцныя і ўстаялыя, што гэта часта знаходзіць свой адбітак у самой танальнасці пісьменніцкага голасу. У некаторых такіх момантах А. Кудравец злёгку быццам бы падштурхоўвае сваіх герояў да роздуму і дзеяння, бо на іх ён ускладвае асноўныя надзеі і ім давярае свае ўяўленні пра дабро і зло, праўду і ману, жыццё і смерць.

У рамане «Пасеяць жыта» гэту функцыю носьбіта і выразніка маральна-этычных і грамадзянскіх ідэалаў жыцця пераважна выконвае галоўны герой гэтага твора Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі. Паслухаем асобныя такія яго меркаванні: «Чалавек без дысцыпліны — ніжэйшая інстанцыя, бо ніякіх рэсурсаў не мае, і тут сам Бог не памочнік. Лічы, прапашчы, кончаны...» А вось думка, што па-свойму працягвае і разгортвае папярэднюю: «Вайна даўно забурылася, бераг адзін, і трэба што ёсць сілы прыбівацца да яго. Трэба мець смеласць паглядзець праўдзе ў вочы... То што каторыя шукалі нейкай сваёй выгады, гэта іншае. Яны заўсёды шукалі і шукаць будуць. І ў адной сям'і не заўсёды і не ўсё гладка бывае: там пасварыліся, там не паладзілі, але калі бацьку б'юць, некалі ляжаць на печы ці з-за плота пазіраць, тут закасвай кулакі — і ў бойку. А раз награшыў, будзь добры — адчытайся за грахі. Гэта ўжо закон».

На асобных каардынатах сюжэтнага дзеяння рамана «Пасеяць жыта», як мы ўжо заўважалі, выразна адчуваюцца галасы мастацкай і філасофска-эстэтычнай тэндэнцыі экзістэнцыялізму, у межах якой чалавек звычайна выступае як вельмі актыўная і самастойная асоба ў дачыненні да неспрыяльных, экстрэмальных абставін і нярэдка гатовы ахвяраваць нават уласным жыццём, кінуць выклік самой смерці, каб абараніць такім чынам сваю ўласную годнасць чалавека і высокія прынцыпы чалавечнасці. Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі закранае гэта пытанне як бы паміж іншым у размове з падлеткам Валерам. Але чытач успрымае яго словы як вельмі блізкае душы і свядомасці чалавека перажыванне, што прайшоў цяжкімі шляхамі мінулай крывавай вайны і не па чутках ведае псіхалогію яе ўдзельнікаў, якія ішлі на вайну па позвах ваенкаматаў, а ў многіх і многіх выпадках дабравольна, па закліку сэрца і ўласнага сумлення, выдатна ўсведамляючы, што на франтах і ў партызанскай барацьбе чалавеку заўжды пагражае смяротэльная небяспека і што шэраг сітуацый будуць вымагаць ад яго быць над самім сабой строгім і справядлівым суддзёй, вышэйшай камандзірскай воляй і галоўнай самадэтэрмінантнай інстанцыяй. «Я табе скажу: няма нічога страшнага на гэтым свеце, — гаворыць ён. — Трэба толькі мець цярпенне і ўпартасць па-

дурному не лезці на вастраўё і заўсёды ведаць, чаго хочаш. Дайжа тады, калі неба табе здалося з аўчынку і няма скарынкі хлеба, каб з'есці. Бо ў кожнага ў запасе застаецца смерць, як у таго салдата маршальскі знак... Ты спытаеш у мяне: што ёсць на мяжы жыцця і смерці? І я скажу: страх. І чым большы ён, тым чалавек бліжэй да смерці».

Паслухаўшы тут Ігната Сцяпанавіча, нехта можа заўважыць, што той уцягвае дзевяцікласніка Валеру ў сферу залішне цяжкіх і складаных для падлеткавага ўзросту праблемных філасофскіх разваг. У гэтай галіне сапраўды яшчэ і на сённяшні дзень застаецца шмат пытанняў, якія цяжка паддаюцца асэнсаванню нават глыбакадумнаму аналітычнаму розуму высокапрафесійных філосафаў, таленавітых пісьменнікаў, эрудзіраваных гісторыкаў і псіхолагаў. Але нягледзячы на ўсё гэта, у нас няма падстаў папракнуць героя рамана «Пасеяць жыта», калі той сур'ёзную і няпростую гаворку распачынае з падлеткам. Ігнат Сцяпанавіч, канечне, не разлічвае, што Валера адразу, з ходу, усё сказанае і перажытае чалавекам старэйшага пакалення ўбярэ ў сябе, пераварыць і дэталёва зразумее. Аднак зусім небеспадстаўна ён спадзяецца, што хоць нейкая часцінка яго багатага жыццёвага вопыту ўсё ж павінна застацца ў душы і сэрцы падлетка, пэўным чынам дапамагчы яму будаваць уласнае жыццё і духоўна фарміраваць самога сябе.

Дзеля такой высакароднай справы герой А. Кудраўца не шкадуе духоўных высілкаў, адчуваючы і, відаць, разумеючы, што прадуктыўная аддача чалавека ў *любой* галіне дзейнасці з'яўляецца адлюстраваннем дзвюх узаемадзеючых дэтэрмінантных сіл — шчыра зацікаўленага, мудрага і глыбокага знешняга ўплыву і настойлівага, сканцэнтраванага імкнення самога чалавека да самаўдасканалення, самаарганізацыі свайго «я», якое ў лепшым выпадку ніколі не дазволіць сказаць сабе, што дасягнула апошняй ступені ў пазнанні, асэнсаванні і вытлумачэнні жыцця. Праўда, гармонія такога дружалюбнага і суладнага супрацоўніцтва паміж гэтымі, як мы сказалі, дэтэрмінантнымі сіламі часта застаецца праявай не столькі рэальных фактаў, колькі высакародных чалавечых памкненняў-ідэалаў.

Разгляд гэтай праблемы ў літаратуразнаўчых працах амаль заўжды суправаджаецца зваротам да вядомага рамана І. Тургенева «Бацькі і дзеці», у якім закранаецца і па-мастацку таленавіта раскрываецца па-свойму адвечная тэма аб несупадзенні ацэнак і поглядаў маладой генерацыі людзей на асобныя актуальныя пытанні і галоўным чынам на тыя з іх, што звязаны з вызначэннем ролі традыцыйных і наватарскіх імператываў у агульным руху грамадскага прагрэсу. Вядома, што І. Тургенеў, які ў многіх сваіх творах чуйна настройваўся на хвалю зараджэння і развіцця абнаўленчых тэндэнцый у бягучым руху жыцця, звычайна выказваў сваю нязгоду, калі мудрую і ў многім яшчэ моцную традыцыю нейкая духоўна недаспелая ці праз меру амбіцыйная маладая сіла спрабавала раней часу вывесці ці нават выкрасліць з актыву грамадскай дэтэрмінацыі. Чытач адчуе такую скіраванасць аўтарскай думкі і ў яговым рамане «Бацькі і дзеці», хоць пісьменнік не хавае сваіх сімпатый да маладога чалавека, які імкнецца расшырыць сферу прагматызму і наватарскай ролі канкрэтна-практычнага, нацэленага на рэальныя вынікі дзеяння. Але яму ўсё-такі бліжэй не канфрантацыя паміж новым і старым, а сама магчымасць пошуку пунктаў судакранання, прыцягнення і *зваротнай сувязі* паміж імі.

Яркім, арыгінальным і высокапрафесійным шукальнікам *гармоніі і гарманізацыі* ў гэтай галіне з'яўляецца класік нашай літаратуры Якуб Колас. Ён не адмаўляецца ад пошуку такой суладнасці нават тады, калі ў арбіту яго твораў трапляюць чалавечыя характары, людзі і з'явы, дзе традыцыя і наватарства, падчас не заўсёды спелыя і грунтоўныя ў сваім развіцці, спрабуюць правесці паміж сабой канфліктна-палемічную дэмакрацыйную лінію і ў адасоблена-замкнутых іманентных дзеяннях заявіць пра сябе як пра значную ці нават галоўную, вядучую сілу. Рэзкая форма такой палемікі назіраецца, да прыкладу, у алегарычным коласаўскім апавяданні «Кажух старога Анісіма» (1912). Ні той бок, што сімвалізуе *ўстарэлую традыцыйную грань думкі*, ні тая жыццёвая тэндэнцыя, у якой

увасабляецца пэўны элемент *новага погляду*, не знаходзяць паміж сабой тут згоды і паразумення.

Якуб Колас зусім не схільны, аднак, да таго, каб нехта штучна паскараў і сілавым націскам падштурхоўваў ходу падзей. Яму больш імпануе ў падобных выпадках эвалюцыйны працэс, хоць гэта не азначае, што пісьменнік пакідае тут за чалавекам ролю пасіўнага сузіральніка, якому толькі застаецца чакаць і спадзявацца, што ўсё прыйдзе, адбудзецца і сфарміруецца само сабой. Паняцце *эвалюцыі* ў мастацкай інтэрпрэтацыі Коласа — гэта таксама своеасаблівы актыўны ўдзел чалавека ў жыцці і адметнае выяўленне яго жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі. Адно толькі варта тут памятаць, што ў працэсах дыялогу традыцыйных і наватарскіх ліній, канцэпцый, тэорый, калі яшчэ не вызначылася іх каштоўнасная сутнасць і *не праясніўся галоўны напрамак* іх развіцця, чалавеку пажадана бліжэй трымацца плюралістычнай пазіцыі і альтэрнатыўных падыходаў.

Паспешлівасць, як лічыць Колас, у другой сваёй алегарычнай казцы «Чортаў камень» (1919), можа толькі нашкодзіць там, дзе трэба прыпыніцца, пачакаць, падумаць, паразважаць, хоць чалавека часта і спакушаюць на такіх шляхах нязбытныя ружовыя ідэі пачынаць як мага хутчэй бегчы напрасткі. Некаторыя персанажы гэтай казкі цвёрда трымаюцца думкі, што з так званым чортавым каменем, які быццам бы нясе ў сабе злую энергетыку, «лепш адразу пакончыць, парваўшы яго порахам». Прыняўшы пад увагу час напісання гэтага твора, няцяжка здагадацца, што пісьменнік бярэ тут пад абарону гуманістычныя прынцыпы, якія ў той невясёлы перыяд нашай гісторыі падвяргаліся катастрафічным і небяспечным паводле сваіх вынікаў парушэнням. Праглядваецца ў названай казцы і аўтарская нязгода з непрымірымымі партыйнымі заклікамі і лозунгамі змагацца з рэлігіяй, як «опіумам народа». Пры ўсёй шырыні і шматграннасці сэнсавых значэнняў, акумуляваных у дадзеным творы, галоўнай застаецца, напэўна, думка: крышыць, бяздумна і паспешліва ламаць у жыцці нешта такое, што табе не падабаецца ці што яшчэ нясе ў сабе шмат «цёмнага, невядомага, няяснага», неправамерна і *неразумна*.

Ну, а дзе ж той найбольш прымальны выхад з такога становішча і якая метадалогія ў пошуку ісціны можа быць прызнана тут карыснай, эфектыўнай і ўзята за аснову? Якуб Колас, як можна зразумець, схіляе чытача заўжды лічыцца з індывідуальнай думкай чалавека, але вузлавыя аспекты ісціны шукаць тут трэба і на шляхах плюралістычнай сістэмы поглядаў, ацэнак, меркаванняў, і на шырокім полі альтэрнатыўнасці, хоць і ў такім разе пытанне можа заставацца ў чымсьці адкрытым для далейшага яго асэнсавання. Вось так, напрыклад, у разгорнутай форме сімволіка-алегарычнай альтэрнатыўнасці выказвае Якуб Колас у гэтым творы сваё меркаванне аб тым, што сур'ёзныя ісціны звычайна адкрывалі і здабывалі дзякуючы напружанаму выдаткаванню духоўнай і фізічнай энергіі, і гатовенькімі на паверхні яны ніколі не ляжалі: «Адны гаварылі, што чапаць камень — грэх, другія казалі, што на камень наложаны праклён і крануць яго боязна — можа здарыцца якое-небудзь няшчасце. Былі і такія людзі, якія проста стаялі за тое, што камень і павінен быць тут, каб людзі вучыліся быць асцярожнымі і разумнымі, каб умелі самі абладзіць сваю бяду, сваё няшчасце, бо каб не было на свеце зла, дык кожны дурань лёгка трапіў бы ў рай. Прычына трэцяя — ніхто не давёў добрага спосабу, як узяцца за справу.

Змяняецца свет, разумнеюць людзі. Цяпер яны многа гавораць пра Чортаў камень, і думкі іх падзяліліся: адны стаялі за тое, каб гэту справу з каменем аддаць на суд часу, другія даводзяць, што лепш адразу пакончыць з ім, парваўшы яго порахам. Чыя тут праўда, няхай мяркуе той, хто пачуе гэту казку».

Мы закранулі такі аспект праблемы з намерам падкрэсліць, што моцная, скіраваная на метадалогію альтэрнатыўнасці і плюралізму мастацкая тэндэнцыя ў творчасці Якуба Коласа пэўным чынам, відаць, паўплывала і на А. Кудраўца, калі той запыняў сваю ўвагу на паказе чалавека, галоўнае жыццёвае крэда якога — пошук ісціны і спосабаў яе рэалізацыі ці набліжэння да яе. А ўвогуле нават цяжка

сказаць: на каго з беларускіх пісьменнікаў у той або іншай ступені Якуб Колас не ўплываў? Ды і незалежна ад таго, непасрэдна ці апасродкавана натхняў і арыентаваў Якуб Колас свайго сабрата па прафесіі ў яго пошуках мастацкага інструментарыю, альтэрнатыўных і плюралістычных падыходаў да асэнсавання нейкіх пытанняў і раскрыцця чалавечых характараў, бясспрэчным застаецца факт: гэты аспект паэтыкі ў творах пісьменніка цесна ўзаемазвязваецца з высокім патэнцыялам літаратурнай традыцыі.

А. Кудравец, як мы ўжо гаварылі, надае выключна важнае значэнне фактару самадэтэрмінацыі, як вельмі моцнаму стымулу ў фарміраванні духоўнай асобы чалавека і вызначэнні яго дзеянняў і ўчынкаў. Але ён хацеў бы, каб яго чытач не аддаляўся тут ад каштоўнасных ацэначных крытэрыяў у сваіх падыходах да высвятлення *рэальнай вагі і сапраўднага значэння* паняцця «самадэтэрмінацыя» як унутранай, пабуджальнай і матывацыйнай сілы, што без нейкага адкрытага прымусу і націску настойліва падказвае чалавеку дзейнічаць так, а не іначай і неадступна трымае яго ў адпаведных духоўных і маральна-этычных межах самаарганізацыі, самакантролю, самаўдасканалення. Пісьменнік улічваў у такім сваім імкненні цясней звязваць паняцце «самадэтэрмінацыя» з сістэмай каштоўнасных крытэрыяў той момант, што далёка не ўсякае сфарміраванае ў сілавым полі самадэтэрмінацыі дзеянне-ўчынак ці дзеянне-думка знаходзяцца ў суладным, гарманічным і сэнсавым адзінстве з ісцінай, хоць нярэдка (і наш час не з’яўляецца тут выключэннем), шэраг гучных, амбіцыйных, прэтэнцыёзных ці зусім памылковых прапаноў, думак, ідэй, меркаванняў паспешліва атэстуюцца па высокай шкале навізны і наватарства толькі па той простай прычыне, што яны, маўляў, трымаюцца на самастойнай аснове *іншадумства*.

Зразумела, альтэрнатыўнасць, плюралізм меркаванняў і падыходаў у высокім значэнні і функцыянальным выяўленні гэтых паняццяў азначае і іх глыбокую звязанасць з самымі рознымі праблемнымі пытаннямі, якія вымагалі глыбокай аналітыкі і сур’ёзных абагульненняў. Але ж добра вядомы і такія шырока распаўсюджаныя з’явы, калі ў плюралістычным калейдаскопе думак, ацэнак, меркаванняў чалавек болей зацікаўлены звярнуць увагу на сябе, на сваю ўласную персону, чым на тую праблему, якая абмяркоўваецца. А нярэдка сустрэнем і такое, што да заглыбленага абмеркавання і асэнсавання нейкага складанага пытання чалавек, проста кажучы, не гатовы, духоўна не падрыхтаваны, хоць перад сваімі апанентамі і грамадскай аўдыторыяй намагаецца зрабіць выгляд усёведа, наватара-іншадумца, усяляк падкрэсліваючы «*самастойнасць*» уласнага погляду.

«Нястрымную пагоню» за такой уяўнай самастойнасцю і такім інфантыльным іншадумствам, «заснаваных не на змястоўных, а на фармальных прыкметах», з’едліва высмейваў у свой час Г. Гегель, на якога спасылаецца, разглядаючы гэта пытанне, вядомы беларускі філосаф, доктар філасофскіх навук Т. Адула ў сваім грунтоўным даследаванні «У пошуках быцця. Філасофія на рубяжы XX—XXI стагоддзяў»: «Паводле ўстаялага памылковага погляду, камусьці здаецца, што думка толькі тады нясе пячатку самастойнасці, калі яна адхіляецца ад думкі другіх людзей, і тады звычайна знаходзіць прымяненне вядомае палажэнне, *што новае — не праўдзіва, а ісціна — без навізны* (курсіў наш. — **В. Ж.**).

Наогул адсюль ідзе імкненне, *каб у кожнага была свая ўласная сістэма* і што выдумка лічыцца тым больш арыгінальнай, чым болей яна бязглуздая і безгустоўная, таму што іменна гэтым яна ў большасці выпадкаў даказвае своеасаблівасць і адрозненне ад думкі іншых людзей».

Ёсць над чым падумаць і паразважаць над пытаннямі, звязанымі з вызначэннем рэальных і ўяўных, фальшывых праяўленняў *самадэтэрмінацыі*, чытаючы многія творы А. Кудраўца. Тут мы сустрэнем шмат персанажаў, якія настойліва дэманструюць незалежнасць і самастойнасць свайго «я». Аднак не будзем спяшацца і паасцеражэмся, каб гэту паказушную «незалежнасць» і «самастойнасць» чалавека ацэньваць па высокай маральна-этычнай, сацыяльна-псіхалагічнай, эканамічнай ці нейкай іншай сур’ёзнай шкале атэстацыі і характарыстыкі.

Аднаму з персанажаў рамана «Пасеяць жыта», тыповаму прадстаўніку камандна-адміністрацыйнай сістэмы, старшыні калгаса Заборскаму здаецца, што ён знаходзіцца на такіх вышынях усёведання, усёразумення і ўсёдазволенасці, якія надзяляюць яго правам абсалютызаваць свой пункт погляду і не вельмі паважліва, а іншы раз і з яўнай пагардай ставіцца да альтэрнатыўнага погляду. Так, на крытычную і слушную заўвагу чалавека, які знайшоў патрэбным запярэчыць старшыні і сказаць яму, што той памыляецца ў сваім рашэнні ліквідаваць, высячы калгасны сад, у адказ прагучала нязгода з пагрозлівым папярэджаннем: «Табе даручылі ўчастак работы, у цябе ёсць участак работы, ты і вядзі яго, вядзі, а ў маё носа не суй. Чуеш? Я сам ведаю, што мне рабіць».

Безумоўна, не ўсякая крытычная заўвага заслугоўвае таго, каб яе адразу прымаць і згаджацца з ёю. Мы ўхвальна ставімся да людзей, якія ўмеюць адстойваць сваю пазіцыю. Але адстойваць аргументацыяй, а не вокрыкамі і пагрозамі. А ў дадзеным выпадку з’ява ў аб’ектыўнай і пазітыўнай сваёй сутнасці быццам бы і не схавана за сямю замкамі. Заборскі, кіруючыся нібыта важным грамадскім прынцыпам — «кожны метр зямлі павінен даваць карысць», — прапануе «рушыць сады <...>, нішчыць тое, што людзі гадамі пільнавалі».

На шляху такога вузка-меркантыльнага, просталінейнага намеру, як уяўляецца апаненту Заборскага простаму, але мудраму чалавеку, селяніну Ігнату Сцяпанавічу Вапшчэткі, абавязкова павінна паўстаць разумная і цвёрдая сіла актыўнага супрацьдзеяння. «У кожнага ёсць свая задумка, — разважае гэты герой сам-насам, маючы на ўвазе канкрэтную сітуацыю са старшынёй калгаса, — толькі не ў кожнага хапае розуму паглядзець, на якую пяту жыцця ён наступае. Ці ідзе ў нагу з усімі, ці маршыруе насуперак строю. А калі чалавек сам не бачыць, у які бок ідзе, тут ужо без падказкі няможна, каб не натварыў большага, як гэты Заборскі».

На думку пісьменніка, у дапаможных жыццёвых арыентацыях чалавек мае патрэбу, не абавязкова трапляючы ў складаныя, крытычныя сітуацыі. Чалавеку ў прынцыпе заўсёды наканавана быць *вучнем*. Калі нехта перастае быць ім — сумных вынікаў, духоўнага застою ці нават духоўнай дэградацыі тады не пазбегнуць. Такі незайздросны лёс спасцігае, дарэчы, і грамадства, калі яно, з’яўляючыся ў метафарычна-вобразным разуменні такім *вучнем*, перастае ўслухоўвацца ў шматгалосыя дыялогі і маналогі мудрэйшага з мудрых настаўнікаў — *жыцця*. Кожны з нас, напэўна, неаднойчы чуў ды, відаць, і сам калі-небудзь ужываў у сваёй размове выраз: няма дрэнных вучняў, ёсць прафесійна слабыя ці недастаткова падрыхтаваныя да сваёй працы настаўнікі.

Такія словы нясуць у сабе немалую долю ўмоўнасці і катэгарычнай абагуленасці. Але ў наяўнасці тут і вялікая доля ісціны, якая мае сваіх паважаных прыхільнікаў і абаронцаў. Да прыкладу, А. Макаранка, аўтар такога шырокавядомага твора, як «Педагагічная паэма», гаварыў і шмат разоў падкрэсліваў, што нават псіхалагічна расхістаныя і быццам бы безнадзейна страчаныя для нармальнага жыцця падлеткі-беспрытульнікі з дапамогай мудрай і тонкай гуманістычнай і педагагічнай работы могуць стаць на шлях духоўнага абнаўлення і аздараўлення. Гэта, як вядома, з поспехам было даказана і на практыцы.

У сувязі з нашай гаворкай уяўляе цікавасць і такое аўтарытэтнае выказванне, якое дайшло да нас з глыбокай старажытнасці: «Дэмасфен быў слухачом Платона, — гаворыць славуты старажытнагрэчаскі пісьменнік і філосаф Плутарх, — і сваім красамоўствам абавязаны галоўным чынам яму». Звяртае на сябе ўвагу і такі факт. Калі, напрыклад, у прысутнасці А. Шапэнгаўэра загаварылі аб незвычайным прыродным таленце і геніяльнасці А. Македонскага, філосаф не прамінуў заўважыць, што тут не трэба забываць і пра настаўніка гэтага вучня. А ім быў, як вядома, Арыстоцель.

Гісторыя ведае і шэраг іншых яркіх прыкладаў, калі вучань запазычваў нейкую часцінку духоўнасці ў свайго настаўніка і карыстаўся гэтым багаццем на працягу многіх гадоў жыцця. Але нават і шчодра надзелены ад прыроды пэўным талентам чалавек мусіць сам прыкласці немалыя высілкі на шляху да здзяйснення

пастаўленых задач. Тым болей, калі гэтыя задачы і праблемы складаныя. Якой бы ні была моцнай і мудрай настаўніцкая аўра ў фарміраванні і станаўленні індывідуальнай асобы чалавека-вучня, яе роля застаецца дапаможнай. І гэта не так ужо мала. Іншы раз усяго толькі некалькі разумных, своечасова сказаных слоў зрушвалі з месца сур'ёзныя справы і надавалі ім пазітыўны рух.

Праблема абмену думкамі, пытанні духоўнага дыялогу паміж чалавекам-настаўнікам і чалавекам-вучнем (у шырокім значэнні слова) ніколі не выходзілі на ўзбочыну літаратурнага інтарэсу ў творах і А. Кудраўца. Гэтая праблема і гэтыя пытанні з'яўляліся для яго важным апорным і часта зыходным пунктам у няспынных пошуках і вызначэннях *вядучай і вядомай* сілы ў шырокамаштабным праблемным і амаль заўсёды палемічным кантэксце традыцый і наватарства. Гэта ў асноўным і пабудзіла яго ўзяцца за напісанне рамана «Пасеяць жыта». У той, напрыклад час, калі крытыкі і літаратуразнаўцы «ламалі коп'і», спрачаліся і дыскутавалі аб вызначэнні ролі і месца прыярытэтаў у дыялагічнай мастацкай сістэме і жыццёвым кантэксце традыцый і наватарства, традыцыі-памяці і наватарскага погляду, А. Кудравец трансфармаваў гэту палкую і гарачую палемічна-дыскусійную размову ў мастацкіх характарах многіх людзей і мастацка-вобразных малюнках на старонках рамана «Пасеяць жыта», аповесці «Раданіца» і іншых твораў з уласцівай яго стылёвай манеры адметнай асаблівасцю — пакідаць у падтэксце многае з таго, што яшчэ знаходзілася ў зародкавым стане развіцця і далёка не завершанай стадыі пазнання і асэнсавання. Катэгарычных высадаў і меркаванняў, на думку пісьменніка, тут трэба асцерагацца.

Мы, напрыклад, яшчэ дасюль да канца не выявілі мастацкую глыбіню падтэксту такога, на першы погляд, не вельмі істотнага моманту, як змена загалоўка рамана А. Кудраўца. У часопісным варыянце раман, які пазней стаў называцца «Пасеяць жыта» і замацаваў за сабою гэту назву надалей, ішоў спачатку пад загалоўкам «Сачыненне на вольную тэму» (1984). Галоўнаму герою аўтар давярае тут раскрыць, расшыфраваць і сэнсавае значэнне такой назвы. У размове з дзевяцікласнікам Валерам Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэткі хоча навесці яго на паглыблены роздум пра індывідуальную, асабістую адказнасць чалавека ў вялікіх справах і справах звычайнай жыццёвай абыдзёншчыны: «Вапшчэткі, скажу табе зноў: жыццё — гэта кола, зямля стаіць, а яно круціцца. Бывае, падыме на самы верх, а пасля са ўсяго маху, во тут не дай бог разгубіцца — раздушыць як жабу. Мокрае месца пакіне, а само пакоціцца далей. Яму няма калі чакаць, пакуль ты штаны падцягваць будзеш... Але калі ты правільна выбраў маршрут свой і маеш план, як дабівацца на ім, — ты сам кум каралю, а то і болей. Бо хто набярэцца смеласці сказаць ільву, што ў таго з рота смярдзіць. *Гэта во так, як у вас, у школе, задаюць сачыненне на вольную тэму. Ніхто за цябе яго не напіша. І нечага тут плакаць: без мяне мяне жанілі, мяне дома не было. А дзе ж ты быў?.. Як там у каго выходзіць, гэта ўжо іншае, тут трэба мець сілу смеласці не даць дурной ахвоце і людзям затаптаць цябе»* (курсіў мой. — **В. Ж.**).

Усё гэта прачытваецца і ўспрымаецца ў творы як адкрытая і ў пэўным сэнсе публіцыстычна-пафасная ўхвала валявой ініцыятывы і разумнай, інтэлектуальнай «самасці» чалавека, які заўжды павінен быць гатовым да сустрэчы з суровым і непрадбачаным, неспадзяваным збегам знешніх абставін. Пры такіх сустрэчах, як вынікае з працытаванага тэксту, чалавеку належыць прапанаваць *свой* варыянт дзеянняў і рашэнняў. Традыцыя-памяць нібыта саступае тут крыху ўбок і аддае права першынства духоўна-псіхалагічнай сіле і наватарскаму выяўленню самадэтэрмінацыі.

Дык навошта ў такім разе спатрэбілася той раман, што ў часопісным варыянце быў надрукаваны пад загалоўкам «Сачыненне на вольную тэму», у далейшым выпускаць пад іншым найменнем — «Пасеяць жыта»? Здавалася б, што і ў першапачатковай назве твора «схоплена» яго важная змястоўная і праблемна-тэматычная струна. Ды так яно і ёсць на самай справе. Аднак пісьменнік палічыў патрэбным пайсці на змену загалоўка рамана. І невыпадкова.

У самім найменні «Пасеяць жыта» дзесьці глыбока закадзіравана завостраная ўвага і павага А. Кудраўца да народнага вопыту, народных традыцый як *фундаментальнай і жыццядайнай духоўнай асновы*. Менавіта на гэты грунт абапіраюцца літаральна ўсе без выключэння чалавечыя планы і праекты ў яго творах. Нават і тады, калі нехта з саманадзейным апломбам і заяўляе, што зробленае ці прапанаванае ім *з'яўляецца абсалютнай і поўнай* праявай высілкаў яго індывідуальнага «я», у апанентаў такога чалавека ёсць сур'ёзная падстава запярэчыць яму і сказаць, што і вышэйшая проба наватарства нясе ў сабе пэўны элемент настаўніцкага вопыту і ўплыву папярэднікаў. Вось пра гэта, відаць, думаў А. Кудравец, змяняючы загаловак свайго рамана і маючы на мэце нагадаць чытачу пра высокую духоўную місію традыцый і нязменна высокі абавязак папярэдніх пакаленняў перад наступнікамі. Не выключаецца, што на ход развіцця і завострана акцэнтаваныя павароты мастацкай думкі пісьменніка аказвала тут і моцная сіла духоўнай энергетыкі, сканцэнтраваная ў вуснай народнай творчасці, накшталт: «Паміраць збіраешся, а жыта сей», «Што пасееш, тое і пажнеш» і інш.

Разам з тым А. Кудравец не хацеў бы, каб наступнікі, нашчадкі, абапіраючыся на шчырую, бескарыслівую падтрымку і дапамогу традыцыі, жыццёвага вопыту папярэднікаў, духоўна размагнічваліся і жылі толькі спадзяваннем на падтрымку папярэднікаў, што іх і сёння, і заўтра, і надалей нехта абавязаны абслугоўваць, весці за ручку і ўвесь час падказваць, куды пайсці, што і як зрабіць. Тут пісьменнік многае мог прыгадаць і са свайго ўласнага жыцця, якое не песціла сялянскага хлапчука ні ў раннія гады, ні пазней, калі яму, апантанаму жаданнем вучыцца і, як кажуць, выбіцца ў людзі, даводзілася шмат у чым разлічваць і пакладацца пераважна на самога сябе.

Ды і не толькі творчая, а і ўсякая іншая сфера чалавечай дзейнасці (і тым болей дзейнасці, скіраванай на сур'ёзнае абнаўленне раней адкрытага і знойдзенага), вымагае ад чалавека індывідуальных, самастойных высілкаў. Безумоўна, тут ён заўсёды пры жаданні і імкненні можа абаперціся на агульналюдскі вопыт. Але, як мы ўжо гаварылі, не варта забываць і пра тое, што нават самая моцная і самая аўтарытэтная традыцыя, уключаючы сюды і так званыя *вечныя ісціны*, з'яўляецца толькі дапаможным, больш ці менш актыўным сродкам у індывідуальных намаганнях чалавека выйсці на нейкія новыя шляхі асэнсавання і пазнання жыцця.

Прытым традыцыя і сама ўяўляе па-свойму *адкрытую сістэму*, якая пакрысе, неўпрыкмет папаўняецца, узбагачаецца, у чымсьці відазмяняецца — і таму жыве, і з веку ў век прадуктыўна функцыяніруе. Цікавую думку выказвае тут вядомы рускі літаратуразнаўца і філосаф А. Ф. Лосеў. Паводле яго слоў *вечнасць,* як найважнейшы дэтэрмінант няспыннага і прадуктыўнага абнаўлення руху ва ўсіх сферах і працэсах жыцця, «сама знаходзіцца ў вечным станаўленні... Яна (вечнасць) — ёсць вечная маладосць і ніколі не знемагае ад прытоку ў яе жывых сіл». Гэта меркаванне буйнога вучонага-гуманітарыя ўспрымаецца і як своеасаблівы заклік да чалавека, каб той не забываў, *што нават абапіраючыся на вечныя ісціны, яму самому трэба падтрымліваць іх жыццядайную сілу і навучыцца з раскіданых фактаў здабываць ключавыя асновы сэнсаў*. Іначай чалавеку можа падчас здавацца, што ў вонкавых праявах рэальнасці і яе знешнім калейдаскапічным руху закладзена, запраграмавана і яе важнейшая сутнасць. А таму наўрад ці трэба залішне высільвацца, каб радыкальным чынам нешта змяняць навокал сябе і ў самім сабе.

Такую ці ў чымсьці падобную жыццёвую пазіцыю многія героі твораў А. Кудраўца, найбольш арыентаваныя на пастаноўку і вырашэнне складаных пытанняў, лічаць непрымальнай. Ніхто не ўсумніцца ў тым, што творчасць гэтага пісьменніка знаходзіцца ў надзвычай цеснай знітаванасці з духоўнай і літаратурнай традыцыяй. Але мы нідзе не знойдзем у яго мастацкіх творах і яго публіцыстычных артыкулах недаацэнкі, заніжаных адносін да наватарскага пошуку. Ідэя актыўных праяў чалавека пераважна таксама выступае ў А. Кудраўца як важная і

неабходная перадумова выхаду на нейкую новую ступень пазнання і асэнсавання рэчаіснасці.

Шкала традыцыйных тэндэнцый і наватарскай думкі ў творах пісьменніка наогул досыць рухомая. У аповесці «Раданіца», напрыклад, пануючы настрой стварае традыцыя і ў многім бярэ на сябе галоўную сэнсавую нагрузку, хоць і тут мастацкая сіла традыцыі ні разу не выяўляе радыкальна рэзкага супраціву чалавеку ў яго імкненнях нейкім чынам *павысіць і паглыбіць* духоўна-інтэлектуальную самасць. А вось у рамане «Пасеяць жыта», дзе моцную змястоўную і структураўтваральную функцыю выконвае традыцыйны духоўны патэнцыял, не знаходзіцца на ўзбочыне праблемнага руху сюжэта і тэндэнцыя наватарскага погляду, часам спрабуючы вырвацца наперад і пэўным чынам нават пацясніць традыцыю ці паставіцца да яе палемічна.

Іначай кажучы, мастацкая сістэма дыялагізму традыцый і наватарства ў творах А. Кудраўца вызначаецца сваім рухомым, дынамічным характарам і — што таксама важна падкрэсліць, — сваёю скіраванасцю захаваць у сабе нейкае жывое магнетычнае ядро, што з'яўляецца своеасаблівым *абярэгам* гэтай сістэмы і яе выратавальнікам ад пашкоджанняў і разбурэнняў. Пісьменнік лічыць зусім натуральнай і нават патрэбнай, неабходнай з'явай, калі ў межах ці на ўзмежжы традыцый і наватарства адбываюцца самыя разнастайныя працэсы палемічнага і плюралістычнага розгаласу, супярэчнасцей і нязгоды. Шляхі да ісціны і праўды ніколі не былі лёгкімі і простымі. Але, як гэта ўяўляецца А. Кудраўцу, і ў самых цяжкіх, складаных і экстрэмальных сітуацыях трэба ўсяляк пазбягаць парушэнняў бадай ці не ў самым галоўным компасе чалавечых арыентацый — *недапушчэнні нейкіх устойлівых катэгарычна-непрымірымых форм адасобленасці*, *абсалютызацыі разрыву* ўзаемасувязей паміж тым, што напрацавана многімі пакаленнямі нашых папярэднікаў — і называецца *агульналюдскім вопытам альбо традыцыяй*, і тым, што, адмыслова зроблена, створана пасля ці запланавана, закладзена ў розныя праекты і праграмы зрабіць, стварыць нешта адметнае, своеасаблівае ў перспектыве — і ў слоўнікавым найменні выступае як *наватарства*. На шляху захавання суладнасці, гармоніі і разумнай меры ў механізме функцыянавання гэтых адвечных духоўных законаў, як лічыць А. Кудравец, перад чалавекам адкрываюцца шырокія магчымасці ў пошуку ісціны і ў пошуку спосабаў і прыёмаў самаўдасканалення і пазнання самога сябе.



**Валянціна ЛОКУН**

# ВАЙНА І МІР УЛАДЗІМІРА ГНІЛАМЁДАВА

Празаік У. Гніламёдаў дапоўніў сваю хроніку новым грунтоўным раманам «Ліхалецце», які друкаваўся ў часопісе «Полымя» цягам 2012 — 2013 гадоў, а сёлета пад назвай «Вайна» выйшаў у выдавецтве «Беларуская навука». Згадаем ранейшыя кнігі хронікі: «Уліс з Прускі» (2006), «Расія» (2007), «Вяртанне» (2008), «Валошкі на мяжы» («Полымя», 2009, № 8, 9; 2010, № 9; 2011, № 1, 2).

Як і папярэднія творы пісьменніка, раман «Ліхалецце» — гэта шырокафарматнае, шматмернае адлюстраванне жыцця. Народнага жыцця. Жыцця «ў вайне». Раман пранізаны псіхалагічна глыбокім, «шматгалосым» адчуваннем вайны. Найперш народным адчуваннем. Такім адчуваннем былі прасякнуты мастацкія дыскурсы К. Чорнага і І. Чыгрынава. Вайна ва У. Гніламёдава, яе жанравамастацкая рэалізацыя ўгрунтаваны філасофіяй новага часу, якая сцвярджаецца ў межах сучаснай сацыяльна-культурнай і нацыянальна-ментальнай парадыгмы. Аўтар стварае свае мастацкія формы, у якіх ён напружана шукае суровую праўду нацыянальнага быцця, яго духоўную аснову. Творчая інтуіцыя пісьменніка, сфарміраваная на грунце народнага гісторыка-культурнага вопыту, валодае вялікай сілай духоўнага і маральнага ўздзеяння.

«*Тэма вайны,* — адзначыў У. Гніламёдаў, — *з'ява фенаменальная, разлічаная на будучыню. Вайна не становіцца і не павінна станавіцца гісторыяй — каб не было надалей, як учора <…> Тэма невычэрпная. Ды не зняўшы шапку перад народам-пакутнікам, не будзе нашчадак паўнавартасным чалавекам*» [8, с. 8]. Так абазначыў пісьменнік задачы беларускай «ваеннай прозы». Па сутнасці тым жа занепакоены і іншыя вучоныя. Прафесар Т. Шамякіна, увогуле падтрымліваючы У. Гніламёдава, пазначае яшчэ і адказнасць гэтай літаратуры перад яе папярэднікамі: «*Беларуская літаратура засведчыла сябе ў свеце як літаратура перадусім ваеннай тэмы. Прычым яна далёка не вычарпаная, хоць кожны пісьменнік, які звяртаецца да яе, маючы за сабой багатую і плённую традыцыю, адчувае асаблівую адказнасць перад чытачамі і папярэднікамі — бліскучай плеядай беларускіх пісьменнікаў-франтавікоў*» [9, с. 8].

У літаратуру прыходзяць новыя пакаленні творцаў, народжаныя ўжо пасля вайны. З'яўляюцца новыя мастацкія адлюстраванні, творчыя адкрыцці. Вайна, трансфармуючыся ў катэгорыю памяці, «прарастае» ў дзень сённяшні, экзаменуючы сучаснага героя на грамадзянскасць, патрыятызм, унутраную чысціню. У гэтай сувязі згадваюцца арыгінальныя аповесці апошніх год: А. Федарэнкі — «Ціша» і А. Брава — «Дараванне», дзе вайна ўспрымаецца як імператыў духоўнага ачышчэння.

Мастацкая свядомасць У. Гніламёдава захоўвае ў сваёй памяці эстэтыку мінулага. Разам з тым стыль пісьменніка мае сваю дыялектыку, сваю «меру» суадносін агульнага і індывідуальна-асабістага, аб'ектыўнага і суб'ектыўнага, гістарычнай плыні жыцця і асобнага лёсу чалавека. Арганізуючым цэнтрам гэтай маштабнай мастацкай прасторы з'яўляецца гісторыя сям'і Кужаляў. Гэта аўтабіяграфічная аснова твора.

Разам з гісторыяй свайго роду пісьменнік жывапісуе і жыццё роднай Прускі, а праз яе і жыццё ўсяго беларускага народа, асабліва «заходнікаў», іх

светаадчуванне і светаразуменне. Узнікае тэма народа як «суб'екта» быцця, як носьбіта складана-супярэчлівага стаўлення да жыцця і свету. І гэта з'яўляецца істотным формастваральным момантам, які вызначае стылявую структуру прозы пісьменніка.

Творы У. Гніламёдава — гэта перадусім шматгалоссе жыцця. Мы зноў сустракаемся з галоўным героем хронікі Лявонам Кужалем, яго жонкай Фёклай, «чалавекам мудрым» Павалам Гальяшам, кавалём Цішкам Пахолакам, фальваркоўцамі Якавам Арыстархавічам і Амброжыем Пацамі, вандроўнікам Кузёмкам і многімі іншымі. Да гэтай шматаблічнай тыпалогіі вяскоўцаў, пададзеных у гістарычнай дынаміцы свайго развіцця, аўтар дадае новыя мадыфікацыі канцэптуальных герояў. Найперш трэба вылучыць вобраз Васіля Платонава, які ў апавядальнай лініі сям'і Кужаляў, напэўна, стане пераемнікам Лявона, зойме саліруючае месца ў вобразнай структуры наступных тэкстаў. Васіль — адзін з прадаўжальнікаў роду Кужаляў, але ён прадстаўляе ўжо новае пакаленне, новую генерацыю народа беларускага — савецкіх людзей. Тым не менш, рускі па паходжанні, ён быў узгадаваны беларускай зямлёй, беларускім этнакосмасам. Лявон Кужаль, які замяніў яму роднага бацьку, перадаў яму сваё адчуванне радзімы — радзімы як бацькаўшчыны, як «дому». «*Цяпер гэтага трэба трымацца — родных сцен, свайго,* — падумаў Васіль у першы ж дзень вайны. — *Калі што і абароніць ад паваротаў лёсу, дык толькі яны...*» [1, с. 25]. Васіль пройдзе праз вайну партызанскую — вельмі складаную для яго, і франтавую — не менш цяжкую. Пададзены сродкамі сацыяльна-псіхалагічнага аналізу вобраз Васіля жывы, жыццёва рэальны, ідэйна няспрошчаны. Бацька траіх дзяцей, Васіль у час вайны жыў найперш страхам за сваю сям'ю, сваіх бацькоў. Але добра ўсведамляў і тое, што з ворагам трэба змагацца. Не за ўладу, а за гэтую сям'ю, бацькоўскі дом. І ён змагаўся. Цярпеў і змагаўся. Як сапраўдны беларус, як славянін. Як грамадзянін і патрыёт сваёй бацькаўшчыны.

Тэкст У. Гніламёдава структурна складаны, у ім спалучаецца хранікальнае адлюстраванне вайны з хронікай жыцця ў Прусцы. Твор рознастылёвы. Эпічнае апавяданне перабіваецца «дакументалістыкай», канкрэтна-гістарычнымі звесткамі, рэальнымі фактамі і падзеямі. Ён мае разгалінаваны сюжэт з мноствам апавядальных ліній і дзеючых персанажаў. Дамінуюць пры гэтым дзве сферы чалавечага існавання — вайны і міру.

Вобраз вайны акрэсліваецца спакваля — праз метафарызаванае апавяданне. Вермахт набліжаўся да Пруські «*як чорная хмара — грымеў, лязгаў жалеззем, пагражаў неадольнай сілай... Жалезныя пачвары рухаліся грозна, самаўпэўнена і нястрымна*» [1, с. 28]. Элемент сімволікі закладзены і ў сцэну першай сустрэчы прускаўцаў з немцамі, калі апошнія ссеклі вішню, бо да верху, да вішань, не маглі дастаць. Гэта «знак бяды», перасцярогі, папярэджання. «*Ссечанае дрэва ляжала на зямлі голае, згвалтаванае, вывалянае ў пяску, зможанае*» [1, с. 29]. Ці не такой згвалтаванай і зможанай неўзабаве стане сама Беларусь! У дадатак да ўсяго немец страляе ў бусла, які насамрэч з'яўляецца сімвалам Беларусі. Усё гэта трагічныя «знакі» вайны 1941 года, бо немцы 1914 года «*не выглядалі такімі самаўпэўненымі, нахабнымі і драпежнымі. Буслоў не білі*» [1, с. 29].

Пазней пісьменнік вуснамі Кузёмкі вельмі трапна пазначыць вайну як зло спрадвечна сатанінскае: «*Гэта князь цемры разбушаваўся! Ён! А хто? А хто ж яшчэ? <...> Аснаванне зямлі калоціцца, хістаецца, як п'яны. У Бібліі гэтак напісана*» [2, с. 27]. Успрыманне вайны героямі У. Гніламёдава, такім чынам, генетычна звязана з народным светаўспрыманнем.

Гісторыя беларускага народа — гісторыя несупынных войнаў, уціску і рэвалюцый. І процістаянне ім. «*То Расія, то Польшча, то Саветы, то немцы — так вось і жывём*" [1, с. 33], — скажа адзін з герояў рамана Якаў Арыстархавіч.

Супастаўляючы дзве антыманічныя стыхіі жыцця — вайны і міру — аўтар засяроджваецца перадусім на даследаванні «прыроднай» трываласці «міру». Яго цікавіць не столькі процістаянне гэтых дзвюх стыхій, колькі выяўленне духоўнай дамінанты «міру». Гэта вызначае і галоўную канцэпцыю рамана. Нават у

абставінах безуладдзя, а пасля і дыктату акупацыйных улад, вайна «*не выбіла прускаўцаў з наладжанай жыццёвай каляіны, а толькі прыпыніла, замарудзіла хаду іх штодзённага існавання і звузіла яго*» [1, с. 34]. «*Жыццё не прыпынілася, яно па-ранейшаму валодала нейкім сваім упартым самарухам. Як заўсёды, трэба было жыць, як бы цяжка ні было*» [1, с. 41].

Рухаючай асновай жыцця, паводле У. Гніламёдава, з'яўляецца праца на зямлі. Менавіта на ёй, зямлі, усё трымаецца. «*Нам гаспадаркі трымацца трэба,* — адзначыць Лявон Кужаль… — *Хлеба ніхто нам не дасць*» [1, с. 30]. Нават у жорсткіх абставінах вайны Васіль Платонаў будуе сабе новую хату. А фальварковец Якаў Арыстархавіч з братам Амброжыем марыць набыць вятрак… Канцэпцыя зямлі ва У. Гніламёдава, як і ў Я. Коласа і І. Мележа, набывае якасці філасафемы.

Пісьменнік працягвае развіваць ідэю духоўнай адметнасці беларускага народа, яго ментальнасці, філасофскай сутнасці. «*Нас можна заваяваць, але намі цяжка ўладарыць,* — пазначыць Павал Гальяш. — *Мы славяне, а гэта — іншае. Мы як бы і ціхія, але і скрозь камень праб'емся*» [1, с. 40]. Духоўнае ўзвышэнне — асаблівы крытэрый ацэнкі народа. Не менш важны за крытэрый гераічнага плана.

— «*Мы нейкія стомленыя,* — з сумам адзначыць Лявон. — *Калі з Амерыкай параўнаць, дык там людзі надта пракідкія, дзейныя, дзелавыя. У іх усё ў руху, усё кіпіць! А ў нас? Нават Расія больш разваротлівая* <…>

— *Мы не стомленыя, мы аслабелыя,* — папраўляе сябра Павал Гальяш. — *У кожную вайну, а іх прыбрыдала сюды шмат, трэць народу гінула. А за што? За каго? За чорта лысага! Ды і паміж сваімі шмат сварак было… Але мы ўсё ж такі не стаміліся жыць*» [1, с. 40]. Уменне выжываць ва ўмовах несвабоды і рэвалюцыйных зрухаў — гэта дамінанта духоўнага самавызначэння і сацыяльнай самарэалізацыі беларусаў як нацыі.

Вялікай канцэнтрацыяй духоўнай энергіі пазначаны адлюстраваны ў тэксце вобраз-канцэпт камянецкага Стаўпа. Разам з такімі метафарызаванымі вобразамі, як пушча, лес, жніво і г. д. На думку А. Рагулі, «*мастацкія канцэпты ў беларускай літаратуры — гэта дыяграматычныя фігуры, якія адлюстроўваюць не толькі логіку чыстага руху, але і логіку* ***пераадолення*** *зла сацыяльнага*» [10, с. 152]. Ва У. Гніламёдава вобраз камянецкага Стаўпа з'яўляецца яшчэ і носьбітам гістарычнай памяці народа.

Камянецкі Стоўп — сведка сівой старажытнасці. Ён нібыта дыхаў самой мінуўшчынай. Гэты вобраз заключае ў сабе ідэю непарушнасці жыцця прыпушчанскага краю. І не толькі яго. «*Як стаяў, так і стаіць,* — падумаў Лявон, пазіраючы на Стоўп, — *трывалы. Гэта ж ужо семсот гадкоў яму. З трынаццатага стагоддзя!*» [1, с. 55] Разам з гісторыяй Стоўпа, пададзенай у кантэксце гісторыі краю, пісьменнік выяўляе і генетычныя карані народа прыпушчанскага. Ад дулабаў яны цягнуцца — было такое племя сярод валынянаў. Слынная гісторыя гэтага краю. Годны народ насяляў яго. Народ, які быў адметны сваёй нескаронасцю. Каго толькі не было на гэтай зямлі. «*І крыжакі былі, і шведы, і рускія, і французы, калі Напалеон на Маскву ішоў. Немец тут таксама ж не ўпершыню. І край гэты ў розныя часы розным дзяржавам падпарадкоўваўся, але ўсё адно належаў нашым людзям, якія тут жылі*» [1, с. 56]. Ствараецца малюнак неадольнай жыццесцвярджальнай сілы, у якім знітоўваецца матэрыяльнае і духоўнае, экзістэнцыяльна-быційнае і сацыяльнае, мінулае і сучаснасць: «*Усё гэта — і дзядуля, і ветах, і дождж, і раса на траве, і камянецкі Стоўп — усё гэта адзін ланцуг жыцця, якое працягваецца, плыве з мінулага ў будучыню і валодае нейкай дзіўнай неадольнай і ўсёперамагальнай сілай, перад якой, пэўна, ніхто і нішто не можа ўстаяць*» [1, с. 56]. Вайна таксама не можа спыніць, парушыць гэты спрадвечны прыродны працэс.

Вайна, ва ўспрыманні герояў У. Гніламёдава, гэта таксама жыццё, яго трагічная форма, «*цяжка, цяжка ўсім — і прыродзе, і чалавеку. Але як бы ні было, усё роўна ўсё разам — гэта жыццё, і трэба жыць, знаходзячы, чым жыць…*» [1, с. 56] «*Часам я наогул думаю,* — скажа Кузёмка, — *ці магчымы свет без няшча-*

*сцяў, забойстваў, катастроф?*» [2, с. 35]. Вайна — гэта жыццё-выпрабаванне, якое «*патрабуе ад чалавека намагання ўсіх сіл, душэўных і фізічных. Тут вельмі важна на нешта абаперціся — на пачуццё вернага таварыша, на пачуццё чалавечай еднасці ў цяжкой сітуацыі*» [2, с. 37].

Чалавека жывіла прырода, зямля. Як некалі Антэя. Падчас жніва Лявон удыхаў палявое паветра і адчуваў, як прыбываюць сілы і мяняецца да лепшага настрой. «*Гэтак было заўсёды. Выходзіў у поле, з плугам ці касою, і хмурныя думкі знікалі самі сабой, забываліся, а ў глыбіні душы абуджалася нечаканая радасць і цікавасць да жыцця. Не ў малой ступені гэтаму старалася дапамагчы навакольная прырода*» [1, с. 41]. Прырода, субстанцыянальная і гарманічная па сваёй сутнасці, процістаіць унутранаму разбурэнню чалавека. Ці варта маркоціцца, «*калі навокал такая па-чалавечы блізкая табе прыгажосць, столькі непадробных фарбаў і такая цішыня, столькі любасці і замілавання? У чалавеку, як і ў гэтай буйнай прыродзе, усё нарэшце прыходзіць да згоды, замірэння і гармоніі*» [2, с. 24—25].

Аднак вайна ўсё ж уцягвала і вяскоўцаў у свой страшэнны вір. Без іх жадання ўцягвала. Вось і Лявон, які спачатку вырашыў для сябе, што жыць «у вайне» трэба так, «*каб не прыцягваць да сябе чужога вока, не заводзіць лішніх знаёмстваў і ва ўсіх выпадках трымацца далей і ад немцаў, і ад тых, хто ім служыць, і ад розных выпадковых людзей*» [1, с. 54], не вытрымлівае «нейтралітэту». Ён літаральна на дарозе падбірае ледзь жывога салдата-акружэнца Саньку Растатуева, сібірака, а пасля і паперу падпісвае, што ён паручаецца за яго, «*адказвае за гэтага рускага ўласным жыццём*» [1, с. 66]. А неўзабаве «*зловіць сябе на думцы, што трэба неяк супрацiўляцца акаляючым абставінам, уціску, які гэтак бессаромна наступаў на чалавека. Але як?*» [2, с. 15] Не атрымалася «мірнага супрацоўніцтва» з новымі ўладамі і ў Якава Арыстархавіча, які быў перакананы, што «*з немцамі не проста дамовіцца, але можна. Дамаўляцца лепш, чым сварыцца. Улада сваркі не любіць*» [2, с. 16]. А між тым, тая ж улада спачатку жорстка забіла яго вернага сабаку Фуйка, а неўзабаве і яго самога з братам Амброжыем укінула ў каталажку за «*неуплату кантынгенту*».

Храналагічна дакладна, шырокай «плынню» адлюстроўвае У. Гніламёдаў і партызанскі рух на Брэстчыне.

Ён адкрывае гісторыю гэтага руху ад самага яго пачатку, ад вытокаў. Даследуе гэтую тэму пісьменнік грунтоўна, не абыходзячы яе супярэчнасцей, выяўляючы і станоўчыя, і адмоўныя моманты народнага супраціву. І самае галоўнае, ён адыходзіць ад стэрэатыпаў ранейшай «ваеннай» прозы, але не займаецца і «маралізатарствам», не ачарняе партызанскі рух у прыпушчанскім краі, які, паводле У. Гніламёдава, складваўся **стыхійна**, з ліку акружэнцаў, людзей лесу. Гэтыя людзі не мелі ні тэорыі, ні практыкі партызанскай барацьбы, усё даводзілася спазнаваць на ўласным вопыце, толькі ў лютым 1942 года з'явіўся «*ўпаўнаважаны з Масквы*».

У тэкст уведзена мноства разнастайных гісторый-навел, дэманструюцца дзясяткі асобных індывідуальных лёсаў з ліку акружэнцаў, палонных, былых вязняў. У гэтым плане, кажучы словамі З. Драздовай, пісьменніку «*ўдалося паказаць «бязмежную разнастайнасць» чалавека*» [11, с. 239], у дадзеным выпадку «чалавека вайны». З другога боку, усё гэта значна пашырае геаграфію вайны, яе прастору, паглыбляе яе трагізм, выкрывае супярэчнасці яе першых дзён і месяцаў: «*Мы не адступалі, а ў сушнасці бяжалі, як авечкі*» [1, с. 58], — з горыччу скажа Санька Растатуеў, распавядаючы сваю «гісторыю».

Вялікі майстар побытавай дэталі, «субстанцыянальных падрабязнасцей жыцця» (Т. Шамякіна), аўтар надзвычай уважлівы да такіх жа субстанцыянальных падрабязнасцей ляснога жыцця партызан. Яно ўражвае сваёй незвычайнай суровасцю, непрыстасаванасцю. Гэта было жыццё на выжыванне. Тое жыццё, падкрэслівае празаік, «*здавалася, ужо нічога не каштавала, хацелася аднаго, абрынуцца на зямлю і не ўставаць*» [3, с. 57]. Але чалавек — загадка. У яго ёсць «*нешта мацней за яго самога. Магчыма, што яно і дазваляе трываць. Што гэта такое? Бог, прырода, памяць, гены? Цяжка сказаць, аднак выходзіць, што*

*чалавек — істота моцная, трывушчая, і ён церпіць, жыве, нават у самых неверагодных умовах*» [3, с. 57]. Толькі часам нават і ў самых трывушчых канчаліся сілы: «*Лепш памерці ад варожай кулі, чымсьці ад голаду і холаду. Хай яно здохне — такое жыццё!*» [3, с. 57] Гераізм партызан зімой 1941—1942 гадоў заключаецца не ў геройскіх учынках, бо іх не было. Геройствам можна назваць ужо тое, што яны змаглі проста выжыць. Дарэчы, далёка не ўсе.

Партызаны прыпушчанскага краю неслі вялікія страты. Асабліва разгромнай, сведчыць аўтар, сталася аблава ў канцы 1942 года, пасля чаго супраціўленцы пачалі дзейнічаць больш дробнымі мабільнымі групамі. І толькі ў 1943 годзе на лютаўскім пленуме ЦК КП(б) у Маскве была пастаўлена задача цэнтралізаваць партызанскі рух, ачысціць Белавежскую пушчу ад немцаў. З'явіўся загад № 0042 ад 14 ліпеня 1943 года «Аб партызанскай рэйкавай вайне на камунікацыях ворага».

Былі і іншыя задачы Цэнтра, якія ранейшай літаратурай замоўчваліся, або раскрываліся не сутнасна. У прыватнасці, загад ліквідаваць установы гміннай адміністрацыі і працуючых там служачых разам з іх сем'ямі. Гэта тычыцца і паліцаяў, здраднікаў і розных іншых нямецкіх прыхвасняў. Антыгуманная па сваёй сутнасці акцыя, бо яна вяла да смерці ні ў чым не павінных дзяцей і жанчын.

Завастрае пісьменнік сваю ўвагу і на адным з самых балючых пытанняў жыцця ў акупацыі — спальванне вёсак разам з іх жыхарамі. Аўтар прыводзіць яскравы дакумент таго часу — нямецкую абвестку, у якой паведамляецца, што ў Камянецкім раёне за сакавік-красавік 1943 года партызанамі былі ўчынены наступныя «злачынствы»: абстраляна паштовая машына і забіты чатыры нямецкія ваеннаслужачыя, забіты немец-верхавік, забіты вознік амтскамісара, забіта пяць вайскоўцаў каля вёскі Лёскі.

«*У адплату і для заспакаення Камянецкага павета*» немцы спалілі вёску Ліпна Камянецкага павета, спалена таксама «*западазроная ў бандыцтве*» вёска Лёскі і расстраляна 216 (!) яе жыхароў. Ці адпавядаюць гэтыя ахвяры панесеным стратам?

Згадваецца пісьменнікам яшчэ адзін момант вайны — рэйд каўпакаўцаў пад кіраўніцтвам Вяршыгары вясной 1944 года. Адыходзячы праз Пруску, партызаны замініравалі гасцінец, на якім пазней на адной з мін падарваўся нямецкі грузавік. Як вынік гэтага, атрыманы загад: Пруску спаліць, а яе жыхароў расстраляць. Толькі цудам гэты загад не быў выкананы. Прускаўцы засталіся жыць. Пісьменнік стварае эмацыянальна дакладную, псіхалагічна ёмкую сцэну на выгане, куды сагналі асуджаных на смерць людзей. «*Тое, што адбывалася, здавалася неверагодна цяжкім сном. У паветры пахла смерцю. Хто і калі думаў, што вось такім чынам давядзецца раптам апынуцца перад яе тварам? Прускаўцаў усё болей ахутваў страх. Час цягнуўся як вечнасць. Здавалася, што гэтай жудасці не будзе канца. Ад жаху яшчэ болей знерухомеў аброслы сівым мохам стары крыж, што стаяў тут жа пры канцы вёскі, насупраць Пахолкавай кузні. Лявону здалося, што ён ледзь чутно зарыпеў, усё роўна як ад нейкага нутранога болю.*

*У душу пранікаў пакутлівы перадсмяротны сум*» [5, с. 15].

Малюнак вялікай уразлівай сілы. Метафара крыжа — сапраўдная знаходка пісьменніка. Гэты мастацкі вобраз злучае фізічнае і духоўнае, зямное і нябеснае, ён уздымае меру чалавечага болю да касмічных маштабаў — нібыта само неба знерухомела ад чалавечай жудасці на зямлі.

Такім чынам, вайна ў адлюстраванні У. Гніламёдава — гэта яшчэ і страх смерці, адчуванне смерці: «*Жыццё страшыла і ўдзень, і ўночы. Смерць хадзіла побач і пагражала кожнаму <...> Страх, які валодаў людзьмі, стаў галоўным матывам іх паводзін. Больш за ўсё даймаў клопат, каб хоць як ацалець у гэты жорсткі, неміласэрны час*» [4, с. 25].

Разам з тым вобраз вайны ў прозе пісьменніка ўключае ў сябе і станоўчы матыў. Трагедыя вайны спараджала ў людзей надзею-спадзяванне: «*Калхозаў, кажуць, не будзе»,* — перадае Лявону вялікую «навіну» Кузёмка.

— «*Добра было б, каб без калхозаў,* — сказаў Лявон. — *Усё адбяруць!*» [6, с. 18].

— «*Цяпер усё павінна быць добра, і людзі, і жыццё...*» [7, с. 20] — нібыта падсумуе пазней іх словы Фёкла.

Псіхалагічна-рэалістычнае, дакументальна аб'ектываванае адлюстраванне вобраза вайны, трагічнага па сваёй сутнасці, пісьменнік часам разнастаіць рамантызаванай прозай. Вось так па-майстэрску выпісаны рамантызаваны малюнак бою. Характэрна, што падаецца ён праз успрыманне маладога камандзіра Чырвонай Арміі Дзмітрыя Новікава — Дзімкі-рамантыка, які «*стаміўся ад вайны*» і «*сам сабе шукаў смерць*» [3, с. 49]. (Гэта, да ўсяго, адзін з самых яркіх малюнкаў рамана ў цэлым.) «*Выбухі пачулі не адразу — спачатку ўбачылі полымя пад коламі паравоза, нібы па іх ударыла маланка. Навокал на імгненне стала светла, як днём, і пачуўся выбух. Паравоз марудна, спакваля, прыўзняўся, потым пахіснуўся набок і, куляючыся, павольна зваліўся з высокага насыпу. Платформы наляталі адна на другую, станавіліся, як коні, на дыбы і затым валіліся ў прыдарожную канаву. Туды ж разам з імі падалі танкі, гарматы, машыны, кантэйнеры з нейкім грузам. Уражанне было такое, нібы цягнік правальваецца кудысьці ў апраметную. Пачуліся выбухі ў вагонах — у тых, дзе, відаць, знаходзіліся боепрыпасы. Зямля дрыжала, як у ліхаманцы. Тоны металу, пяску, гравію, камення ўзняліся ў паветра. Дзімка нечакана злавіў сябе на думцы, што ёсць у гэтым відовішчы і нейкая прыгажосць. Выбухі сляпілі сваім бляскам. Шквал агню. У паветры стаяў суцэльны гул, у якім яму выразна пачулася бравурная, радасная, заліхвацкі-бадзёрая музыка*» [3, с. 49]. Так успрымаў вайну некалі і герой «Пармскага манастыра» Ф. Стэндаля Фабрыцыа дэль Донга.

Панарама дзейнасці партызан у прыпушчанскім краі «перагукваецца» з лёсавызначальнымі падзеямі Вялікай Айчыннай вайны: бітвай пад Масквой, Сталінградскай бітвай і г. д. Гэта не толькі павялічвае геаграфічную прастору апавядання, а яшчэ і эпізуе яго, робіць больш маштабным. Падзеі вайны, знітоўваючыся з падзеямі міру, ствараюць хранікальна цэласную карціну быцця.

Пераканаўча, з вялікай энергетычнай сілай пададзены і момант вызвалення Прускі ад нямецкага нашэсця. Апавядальная плынь, якая «рухалася», як і войска Чырвонай Арміі, «*шырокаю, паўнаводнаю ракою*», заканчваецца дакументальна-дакладнай звесткай: «*Гэта былі байцы 218-й стралковай дывізіі генерал-лейтэнанта Уладычанскага Антона Сцяпанавіча.*

*Лявон запомніў гэты дзень: 5 ліпеня 1944 года, серада*» [7, с. 18].

* * *

Канцэпцыя гуманізму як веры ў народ ва У. Гніламёдава спалучаецца з хрысціянскім гуманізмам, хрысціянска-этычнымі ўяўленнямі аб свеце і чалавеку. Хрысціянская вера для беларусаў была магутным рухавіком, які дапамагаў людзям у самыя цяжкія хвіліны. Падчас акупацыі адбылося страшэннае святатацтва: з пpускаўскай царквы немцы скінулі званы — для арміі, на пераплаўку. Звергнуты сімвал веры свабодалюбівага народа, яго абярэг. Вяскоўцы, у адказ на такі нечуваны вандалізм, паставілі каля царквы крыж — як знак ахвярнасці, знак надзеі: «*можа, ён абароніць ад бяды*» [4, с. 49]. Усёй вёскай — рытуальна — ткалі спецыяльны ручнік на гэты крыж. І крыж, і ручнік з'яўляюцца неад'емнымі артэфактамі хрысціянскай культуры, яны маюць сваю гісторыю і філасофію. А перадусім вялікую магічную сілу. Беларусы-заходнікі не паспелі адчуць атэістычнага ўціску бальшавікоў. Вера для іх «*заўсёды была адзнакай маралі і прыстойнасці, сродкам дзеля захавання грамадскай культуры, традыцыйнага ладу жыцця і звычаяў*» [7, с. 13]. Вайна, пацвярджае аўтар «Ліхалецця», яшчэ больш зблізіла людзей з царквой, яны сталі больш набожнымі. Вераю і царквою людзі спадзяваліся выратавацца ад вайны і ўціску новых улад. Яны шукалі абароны і спачування ў Бога. Царква выконвала ролю духоўнага яднаючага цэнтра. «*Царква не ціснула на чалавека, не аддаляла людзей аднаго ад аднога, а нібы нават наадварот — збліжала, змяншала, пераадольвала чалавечую адчужанасць*» [7, с. 35].

Менавіта ў царкве Лявон Кужаль востра адчуе сваю сувязь з продкамі, адчуе сябе працягам іх духоўнай сутнасці. Менавіта з царквою, з хрысціянскай ідэяй ахвярнасці звязвае аўтар рамана духоўнае адраджэнне ўсяго беларускага народа.

* * *

Мастацкі свет У. Гніламёдава дзівіць сваімі маштабамі. Як адзначыў В. Жураўлёў, «*У. Гніламёдаў пацвердзіў і даказаў, што буйная эпічная форма ў нашай літаратуры і на цяперашнім эвалюцыйным этапе яе развіцця далёка не вычарпала сваю адлюстравальна-пазнавальную, эстэтычную, грамадскую «місію», ды і не збіраецца сыходзіць з арэны літаратурнага жыцця*» [12, с. 200]. Эпічная проза У. Гніламёдава — гэта мастацкае адлюстраванне няспыннага нацыянальнага руху жыцця ў сітуацыях сацыяльных змен, спасціжэнне гістарычнага быцця беларусаў праз катаклізмы Першай сусветнай вайны, рэвалюцыйныя пераўтварэнні, сацыяльныя змены 20—30-х гадоў, і цяпер — праз выпрабаванні Вялікай Айчыннай вайны. Яго мастацкія дыскурсы — гэта разам з тым і дэманстрацыя ідэйна-эстэтычнага багацця ў адлюстраванні нацыянальных тыпаў ментальнасці як вядучых духоўна-сацыяльных феноменаў беларусаў. Шматгалоссе тэкстаў празаіка ёсць сінтэз індывідуальна-канкрэтных, унікальных у сваім «тэмбравым» афармленні, галасоў. Мастацкая свядомасць аўтара «Ліхалецця» прасякнута філасофскім асэнсаваннем анталагічных асноў вайны і міру. Такім чынам яго проза пацвярджае ідэю аб шырокіх магчымасцях сучаснай беларускай школы раманістыкі і з'яўляецца ўзорам для далейшага яе развіцця.

Праца над хронікай не скончана. Наперадзе нас чакаюць новыя творы пісьменніка, новыя мастацкія адкрыцці.

## Літаратура

1. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2012. — № 6. — С. 10—72.

2. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2012. — № 7. — С. 10—60.

3. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2013. — № 1. — С. 7—29.

4. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2013. — № 2. — С. 20—75.

5. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2013. — № 4. — С. 8—64.

6. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2013. — № 5. — С. 10—56.

7. Гніламёдаў, У. Ліхалецце : раман / Уладзімір Гніламёдаў // Полымя. — 2013. — № 6. — С. 17—37.

8. «Круглы стол» на тэму «Вялікая Айчынная вайна ў літаратуры: учора, сёння, заўтра» / ЛіМ. — 2013. — 3 мая. — С. 8.

9. Шамякіна, Т. Раман за калючым дротам / ЛіМ. — 2014. — 28 лютага. — С. 8.

10. Рагуля, А. Плынь / А. Рагуля // Полымя. — 2013. — № 2. — С. 148—164.

11. Драздова, З. Новыя вехі беларускага гістарычнага рамана // Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой…» / уклад. Мікола Мікуліч — Мінск: Четыре четверти, 2012. — С. 225—278.

12. Жураўлёў, В. На каардынатах навелы і рамана // Уладзімір Гніламёдаў: «Заставацца сабой…» / уклад. Мікола Мікуліч — Мінск: Четыре четверти, 2012. — С. 184—200.

**Алена КАРП**

# ЛІТАРАТУРНАЯ КРЫТЫКА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА НАШАНІЎСКАГА ПЕРЫЯДУ Ў СВЯТЛЕ ДЫСКУРСНАГА АНАЛІЗУ

Антон Луцкевіч у гісторыі Беларусі вядомы як бацька нацыянальнага адраджэння (А. Сідарэвіч), душа «Нашай нівы», генератар яе ідэй, «палітык, сацыёлаг і публіцыст еўрапейскага маштабу і еўрапейскай жа культуры» (У. Конан) [4, с. 29]. Не менш значная і цікавая за грамадзянскую актыўнасць А. Луцкевіча яго літаратурная дзейнасць, а менавіта літаратурна-крытычная спадчына. Даследчыкі вылучаюць у творчасці крытыка тры этапы: нашаніўскі, перыяд 1920—1928 гг. і 1929—1939 гг. Паводле А. Сідарэвіча, нашаніўскі перыяд пачынаецца водгукам на зборнік Янкі Купалы «Шляхам жыцця» 1913 г., а заканчваецца першым у Беларусі зборнікам літаратурна-крытычных артыкулаў «Našy pieśniary» (1918 г.). У гэтай працы, аднак, мы выкарыстаем як матэрыял для аналізу і больш ранція творы А. Луцкевіча «Маладая Беларусь» (1911 г.) і «Мае ўвагі» (1912 г.). Хоць і мае рацыю А. Сідарэвіч, ацэньваючы «Мае ўвагі» наступным чынам: «…перад намі не так крытыка, як палітычная публіцыстыка» [10, с. 7]. Але нават такія працы А. Луцкевіча цікавыя як характэрныя для перыяду станаўлення беларускай літаратурнай крытыкі, якая часта межавала з публіцыстыкай.

Літаратурная крытыка мае камунікатыўную прыроду, разлічвае на сувязь, узаемапаразуменне паміж яе суб’ектам, аб’ектам і адрасатам, а таму падаецца правамерным разгледзець нашаніўскую крытыку А. Луцкевіча ў святле дыскурснага аналізу. Дыскурс — міждысцыплінарнае паняцце, якое ў літаратуразнаўстве разумеецца даволі шырока. Мы возьмем за аснову вызначэнне В. Цюпы: дыскурс — гэта камунікатыўная падзея, то бок субыццё суб’екта, аб’екта і адрасата пэўнага адзінага (хоць часам і вельмі складанага паводле сваёй структуры) выказвання. У межах дыскурснага аналізу тэкст (у нашым выпадку — корпус тэкстаў) бачыцца як узаемаабумоўленасць трох існых у ім кампетэнцый: рэферэнтнай, крэатыўнай і рэцэптыўнай. Рэферэнтныя кампетэнцыі адрозніваюцца адносінамі выказвання да рэчаіснасці. Віртуальная рэальнасць складае рэферэнтную функцыю тэксту. Крэатыўныя кампетэнцыі суадносяцца з віртуальнай фігурай аўтара, адрозніваюцца інтэнцыямі аўтарства ў дачыненні мовы. Рэцэптыўныя кампетэнцыі адрозніваюцца адносінамі дыскурсу да свядомасці. Тэкст выказвання прадугледжвае пэўную камунікатыўную пазіцыю адрасата.

Пачнем разгляд нашаніўскай крытыкі А. Луцкевіча з рэферэнтных кампетэнцый. Трэба сказаць, што як палітык ён добра ўсведамляў тыя супярэчлівыя варункі, у якіх адбываліся нацыянальнае адраджэнне і станаўленне беларускай літаратуры. У першых сваіх артыкулах, якія знаходзяцца на памежжы крытыкі і публіцыстыкі, прытым апошняя відавочна пераважае, А. Луцкевіч абірае адпаведную знешнім умовам стратэгію. Ён выразна сутыкае, супрацьпастаўляе адраджэнскі пафас і варожую яму шавіністычную рыторыку. Прыклад такой рыторыкі ён прыводзіць у артыкуле «Маладая Беларусь»: «Ёсць, праўда, людзі, каторыя даводзяць, быццам лічыць сябе беларусам і гаварыць па-беларуску можна толькі датуль, дакуль жывеш у мужыцкай хаце, у холадзе і голадзе, з жывёлай, парасятамі, курамі і т.д. <…> Калі ты інтэлігент, — кажуць яны, — дык будзь расейцам,

палякам або чым толькі хочаш, але не беларусам!» [5, с. 13] Але тут жа і адкідае гэтую рыторыку як несправядлівую, не пацверджаную рэчаіснасцю. Беларускі рух даваў усё больш падстаў для аптымізму, адной з іх якраз і было з'яўленне зборніка «Маладая Беларусь», і голас крытыка гучыць цвёрда і ўпэўнена. Ён гаворыць пра поспех нацыянальнага адраджэння і маладой беларускай літаратуры так, нібы ён **ужо** стаў відавочным фактам, нібы больш не патрабуе абароны, а ўсе намаганні шавіністычнай прапаганды вартыя жалю. А. Луцкевіч не робіць дапушчэнняў, ён сцвярджае аксіёмы, гаворыць як пераможца. Хоць рэальна станаўленне беларускай мовы і літаратуры ўсё яшчэ адбывалася праз перашкоды, але А. Луцкевіч у артыкуле «Маладая Беларусь» мадэлюе рэчаіснасць ідэальную, тую, якая мусіць быць. Такая тактыка была сапраўды дарэчнай, жыццесцвярджальнай, здольнай натхніць і абнадзеіць.

Прэзентуючы зборнік «Апавяданні» Якуба Коласа ў артыкуле «Мае ўвагі», А. Луцкевіч таксама звяртаецца да надзённых сацыяльных праблем. Выказванне крытыка імператыўнае, дыдактычнае. Ён размаўляе нібы настаўнік з неразумнымі вучнямі, спрабуючы праз мастацкае і крытычнае слова выхаваць, пераканаць чытача.

Нельга не пагадзіцца з высноваю А. Сідарэвіча: «Менавіта спалучэнне ўласна літаратурнага, эстэтычнага ды сацыяльнага падыходаў да твораў літаратуры і мастацтва і стане адметнаю рысаю крытыка Луцкевіча» [10, с. 8]. На тое, што гэта была свядомая пазіцыя, указвае і вызначэнне А. Луцкевічам артыкулаў, прадстаўленых у зборніку «Našy pieśniary», як **літаратурна-сацыяльных** нарысаў. У гэтым сэнсе А. Луцкевіча можна разглядаць як паслядоўніка Г. Пляханава, які казаў пра два акты, што здзяйсняе крытыка: сацыялагічны і эстэтычны. Літаратура ўяўлялася А. Луцкевічу адгалоскам жыцця, уплывовым удзельнікам грамадскіх працэсаў, і ў яго літаратурна-крытычнай творчасці выразна выяўляўся глыбінны грамадзянскі пафас, які В. Каваленка лічыць прыкметай развітой крытыкі.

Сацыяльны і эстэтычны падыход у яго крытыцы разумна ўраўнаважаныя. Выбар інструментарыю, метаду даследавання залежыць ад таго, чаму аддае перавагу сам аўтар, які пачатак больш яўна рэалізуецца ў яго творчасці: грамадзянскі або парнаскі. У водгуку на «Апавяданні» Якуба Коласа эстэтычная ацэнка яшчэ даволі лаканічная, у большай ступені крытыка цікавіць сувязь творчасці з жыццём, практычнае значэнне кнігі для чытача-селяніна. У рэцэнзіі на зборнік Янкі Купалы «Шляхам жыцця» ў роўнай меры рэалізуюцца абодва падыходы, а ў артыкуле «Пясняр чыстай красы» і пазнейшых па часе «Янка Купала» і «Максім Багдановіч» крытыка ўжо цікавяць найперш пытанні эстэтычныя. Так, ён вядзе гутарку пра адметную паэтыку гэтых аўтараў, чыстую красу, гармонію зместу і формы, нацыянальнага і агульначалавечага. Крытычная стратэгія адпавядала рэчаіснасці: менавіта М. Багдановіч сцвярджаў паняцце красы як раўназначнае з паняццем народнасці, распачынаў курс на еўрапеізацыю, мадэрнізацыю беларускай літаратуры, кшталтаванне ёю высокіх класічных узораў. Творчасць паэта атрымлівала ў крытыцы А. Луцкевіча такія высокія ацэнкі: «…бачым у «Вянку» вершы такой формы, такой будовы — часта вельмі рэдкай, якой могуць пахваліцца толькі найбольш культурныя народы з найвышэй развітай літаратурнай мовай, здаецца, калі б наш «пясняр красы» меў толькі адну мэту: паказаць, што беларуская мова можа развівацца, як мова літаратурная, — дык ён гэтай мэты дайшоў» [5, с. 17]; «…літаратурныя здабыткі Максіма Багдановіча <…> стаўляюць імя яго ў гісторыі развіцця беларускай літаратуры на адно з найбольш пачэсных месц» [5, с. 60]. Можна параўнаць, наколькі іншыя акцэнты — у характарыстыцы Цішкі Гартнага: «…Цішка Гартны — перш за ўсё *пралетарый*, свядомы сваіх класавых інтарэсаў і гатовы аддаць усе сілы свае за вызваленне працы ад панавання капіталу» [5, с. 53].

Крытыка А. Луцкевіча была прапарцыйнай, адэкватнай творчасці разглядаемых аўтараў: дзе выяўлялі сябе адметныя эстэтычныя канцэпцыі, там падрабяз-

ней на іх спыняўся крытык, дзе пераважала грамадзянская праблематыка, там і крытыка апелявала найперш да ідэалагічных аспектаў. Так, у першым выпадку больш аналітычнымі, разгорнутымі каментарыямі суправаджаюцца цытаты, у другім — каментарыі носяць апісальны, вытлумачальны характар, у першым выпадку А. Луцкевіч схіляецца да эстэтычнай крытыкі, у другім — да герменеўтыкі.

Адмысловы таксама выбар крытыкам аналізуемых аўтараў. Усе яны або заслугоўваюць высокай ацэнкі дзякуючы свайму важкаму ўнёску ў развіццё беларускай літаратуры, або проста сімпатычныя А. Луцкевічу сваімі перакананнямі. Адпаведна ўсе яны ацэньваліся станоўча. Крытык не акцэнтаваў увагу на недахопах, калі і згадваў іх адным радком, то тут жа нівеляваў: «Купала мала працуе над сваімі вершамі: яны ў яго ад першых творчаскіх праяў родзяцца неяк самі. Праўда, у іншых з іх ёсць з гэтай прычыны розныя недахваткі; але нават імправізацыі яго не губляюць ад гэтага сваёй цэннасці» [5, с. 47]. Пры такім ракурсе дасягненні маладой беларускай літаратуры пераважалі над адзінкавымі хібамі, і гэта дапамагала ўмацоўваць яе імідж, ствараць пазітыўны вобраз.

Разглядаючы крэатыўныя кампетэнцыі, заўважым перадусім, што аўтар гаворыць ад першай асобы множнага ліку і не вылучае сябе з агульнага «мы», якое ў розных кантэкстах можа трактавацца і вельмі шырока як беларускі народ, так і больш вузка: свядомая інтэлігенцыя, рэдакцыя «Нашай нівы». Гэтае «мы» знаходзіцца ў апазіцыі да «яны», дзе яны — гэта ворагі беларушчыны, рэакцыйныя сілы (найбольш выразна ілюструе гэты тэзіс артыкул «Маладая Беларусь»).

У крытыцы А. Луцкевіча відавочная пазіцыя аўтара, ён не хавае сваёй салідарнасці і прыналежнасці да нацыянальнага руху. Факты біяграфіі аналізуемых аўтараў падаюцца ў святле адпаведнай ідэалогіі, адносна якой тыя або іншыя падзеі з жыцця пісьменнікаў ацэньваюцца як станоўчыя або негатыўныя. Пры адноснай нейтральнасці тону крытыка няцяжка таксама адгадаць пэўныя эмоцыі: гордасць за поспехі ў справе адраджэння, захапленне паэзіяй, сімпатыю да герояў сваіх артыкулаў. Цікава, што крытык не размяжоўвае вобраз аўтара і вобраз лірычнага героя, і часта суперажыванне, спачуванне героям пераносяцца ім на аўтараў твораў.

Захапіўшыся аб’ектам даследавання, А. Луцкевіч разнявольваецца ў сваім маўленні, дапускае паэтычнасць, вобразнасць. Рыторыка яго крытычнай творчасці жыццесцвярджальная і аптымістычная. Да прыкладу, артыкул «Адгалоскі жыцця» ілюструе, як у межах аднаго сказа старая, «жаласлівая», «плакальная» рыторыка з арсеналу ранніх нашаніўскіх твораў змяняецца новай: баявітай і гордай: «Народ-мучанік, народ-гаротнік, бяспраўны, забіты, прыніжаны доўгай няволяй, скідае старыя путы і бачыць перад сабой тое, аб чым дагэтуль адно ў думках сукромных мог думаць» [5, с. 25].

Звернемся цяпер да рэцэптыўных кампетэнцый крытыкі А. Луцкевіча. Наяўнасць адрасата крытык адназначна прадугледжваў. І тое, што ў сваіх артыкулах А. Луцкевіч дае выключна аналіз і характарыстыку і абыходзіцца без рэкамендацый аўтарам, дазваляе казаць, што ён скіраваны найперш да шырокага чытача, а не да аналізуемых творцаў. Яго ідэальны рэцыпіент — гэта носьбіт аднолькавага з аўтарам культурнага коду, чалавек, уключаны ў «мы». І хоць у артыкуле «Пясняр чыстай красы» кола патэнцыйных рэцыпіентаў звужаецца не проста да кола інтэлігенцыі, але да кола тых, «чыя душа бачыць хараство ў чыстай паэзіі» [5, с. 16] (а гэта нават не ўся заангажаваная ў нацыянальны рух эліта), можна сцвярджаць, што для А. Луцкевіча неістотнае сацыяльнае становішча яго рэцыпіента. Ён імкнецца дайсці і да чытача-селяніна, і да чытача-інтэлігента. З аднаго боку, рэцэнзія — жанр, які наўрад ці мог зацікавіць аўдыторыю неабазнаную, да таго ж, ужо адбылася пераарыентацыя «Нашай нівы» на сілы інтэлігенцыі і на адпаведную рэдакцыйную палітыку (падрабязна пра гэта гаворыцца ў кнізе Т. Вабішчэвіч «Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі (1900 — 1910-я гг.):

фактары, механізмы, этапы»). Эстэтычныя пытанні з большай верагоднасцю закраналі інтэлігенцыю. Але з іншага боку, А. Луцкевіч практычна не ўжывае адмысловай літаратуразнаўчай тэрміналогіі, піша дастаткова простай, а часам і спрошчанай мовай, спадзеючыся на ўвагу малаадукаванага вяскоўца. Так, у артыкуле пра Якуба Коласа ён намагаецца гаварыць на роўных з «нізкім» чытачом, апелюючы да звыклых яму рэалій: «Піша ён лёгка — от, быццам у прыяцельскай гутарцы апавядае сябрам то аб жыцці-быцці роднай вёскі, то аб смяхотных здарэннях з вясковым «начальствам»…» [5, с. 39], але праз спецыяльную лексіку выдае сябе як чалавека адукаванага, абазнанага: «…а то і ў **алегарычным**, пераносным значэнні казкі расказвае» [вылучана намі — **А. К.**] [5, с. 39]. А. Луцкевіч імкнуўся пашырыць кола рэцыпіентаў, уключыць у яго і інтэлігентаў, як правіла, у першым пакаленні, і — на роўных правах — вяскоўцаў (прыкладам можа служыць артыкул «Адгалоскі жыцця»). Такая стратэгія, хоць і не была лёгкай у рэалізацыі, адпавядала дэмакратычным установкам «Нашай нівы».

Сучасная рэцэпцыя літаратурна-крытычнай спадчыны А. Луцкевіча дае падставы гаварыць пра слушнасць і актуальнасць, пазачасавасць высноў крытыка. Яго тэзісы, ацэнкі, перакананні разышліся сярод паслядоўнікаў, умацавалі свой статус. Так, напрыклад, і ў сучаснай літаратуразнаўчай, крытычнай думцы выкарыстоўваюцца вызначэнні А. Луцкевічам М. Багдановіча як песняра чыстай красы і Янкі Купалы як паэта з ласкі Божай. Часам, аднак, гэтыя характарыстыкі нівелююцца, набываюць характар штампаў, клішэ.

Найбольш паспяхова ў крытычнай творчасці А. Луцкевіча рэалізуецца рытарычны статус перакананя, які суадносіцца з імператыўнай карцінай свету. Крытык можа ўдакладняць свае погляды, але кіруецца да ісціны, якая разумеецца як адзіная і падлягае верыфікацыі. Ён не сумняваецца ў сваіх тэзісах («…мы можам **смела** казаць…» [5, с. 15], «Цётка і Буйло — **бясспорна**, найбольш выдатныя жаноцкія сілы ў беларускай паэзіі…» [5, с. 67] — вылучана намі — **А. К.**), яго артыкулы, сабраныя ў кнігу «Našy pieśniary», набываюць статус падручніка па гісторыі беларускай літаратуры. Крытыка ў прынцыпе схільная апеляваць сэнсамі і абапіраецца на сугестыўнасць, намагаецца давесці сваю думку. Крытыка А. Луцкевіча тут не выключэнне, адпаведна мы можам казаць пра яе эмблематычную дыскурсіўнасць. Аўтар абмяжоўвае сваю ініцыятыву, з аднаго боку, ён не можа выйсці за межы фактаў, праўды, з другога, ён выяўляе сваю пазіцыю, але гэта пазіцыя грамады, таго кола, у якое ён уключаны, а яго ўласнае стаўленне да аб’екта пазіцыянуецца і ўспрымаецца як правільнае, агульнапрынятае, тое, якое павінна быць, якое можна выкласці ў падручніку. Эмблематычная дыскурсіўнасць тэксту з мадальнасцю перакананя адпавядае рэгулятыўнаму рэсурсу ўспрымаючай свядомасці. У крытыцы А. Луцкевіча рэалізуецца стратэгія маналагічнай згоды. Ідэальны рэцыпіент мусіць усвядоміць данесеныя да яго імператывы і скарэктаваць свае погляды ў адпаведнасці з імі.

## Літаратура

1. Бочаров, А. Г. Жанры литературно-художественной критики. Лекции / А. Г. Бочаров. — М.: Изд-во Моск. ун-та, 1982. — 51 с.

2. Вабішчэвіч, Т. І. Станаўленне нацыянальнай паэтычнай традыцыі (1900 — 1910-я гг.): фактары, механізмы, этапы / Т. І. Вабішчэвіч. — Мінск: Беларус. навука, 2009. — 254 с.

3. Каваленка, В. А. Праблемы сучаснай беларускай крытыкі / В. А. Каваленка. — Мінск: «Навука і тэхніка», 1977. — 192 с.

4. Конан, У. М. Філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння / У. М. Конан // Крыніца. — 1999. — № 4 — 5. — С. 27 — 41.

5. Луцкевіч, А. І. Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. І. Луцкевіч; уклад., прадм., камент., індэкс імёнаў, пер. з пол. і ням. А. Сідарэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — 460 с.

6. Луцкевіч, А. І. Našy pieśniary / Anton Nowina. — Wilnia: Drukarnia «Znicz», 1918. — 83 с.

7. Мароз, К. М. Літаратурная крытыка Заходняй Беларусі / К. М. Мароз. — Брэст: Выд-ва Брэсцкага дзярж. ун-та, 2001. — 120 с.

8. Мароз, К. М. Талент віленскага крытыка / К. М. Мароз // Полымя. — 1996. — № 1. — С. 293 — 319.

9. Навойчык, П. І. «Наша Ніва» і літаратурна-грамадскі працэс на Беларусі пачатку XX стагоддзя: дыс. на атрым. вуч. ступ. канд. філал. навук: 10.01.01. / П. І. Навойчык. — Мінск, 1996. — 116 с.

10. Сідарэвіч, А. М. Ідэалогія крытыка Антона Луцкевіча / А. М. Сідарэвіч // Выбраныя творы: праблемы культуры, літаратуры і мастацтва / А. І. Луцкевіч. — Мінск: Кнігазбор, 2006. — С. 3 — 12.

11. В. И. Тюпа. Анализ художественного текста: учеб. пособие для студ. филол. фак. высш. учеб. заведений / В. И. Тюпа. — 3-е изд., стер. — М.: Издательский центр «Академия», 2009. — 336 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 11 жніўня 2014 года.

## Рэзюмэ

У артыкуле разглядаецца літаратурна-крытычная творчасць Антона Луцкевіча нашаніўскага перыяду ў святле дыскурснага аналізу. На прыкладзе яе дэманструюцца як агульныя для станаўлення беларускай літаратурнай крытыкі тэндэнцыі, так і адметная аўтарская канцэпцыя.

**Ключавыя словы:** беларуская літаратура, літаратурная крытыка, нашаніўскі перыяд, Антон Луцкевіч, дыскурс, дыскурс-аналіз.

## Summary

The article deals with discourse-research of literary rewievs by Anton Luckevicz of the «Nasha niva» period. Using his works as an example, common tendencies in formation of Belarusian critique are shown, as well as individual author’s concept.

**Content words:** Belarusian literature, critique, «Nasha niva» period, Anton Luckevicz, discourse, discourse-research.






*Змітрок МАРОЗАЎ.*
**Вачыма сэрца. Вершы, санеты, вянкі санетаў, вянок вянкоў санетаў.**
*Мн.: Чатыры чвэрці, 2014.*

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# ПРА ТВОРЧАСЦЬ, ЯКАЯ ЛЕПШ БАЧЫЦЦА «ВАЧЫМА СЭРЦА»

**Санеты** пісаць няпроста, па сабе ведаю. Асабліва так званыя, класічныя санеты з рымфоўкай *абба абба вгг ввг*. А калі дадаць яшчэ, што ў класічным санеце розныя радкі нясуць розную сэнсавую нагрузку: у першых васьмі радках абазначаецца тэма, яе развіццё, у заключных жа трохрадкоўях — павінен быць адказ на пастаўленыя вышэй пытанні. Асаблівая ж нагрузка падае менавіта на апошняе трохрадкоўе, якое мусіць быць самым моцным у вершы па думцы і вобразнасці.

Не кожны паэт зможа пісаць санеты. Нават многія вельмі добрыя паэты. Я маю на ўвазе сапраўдныя санеты, а не проста чатырнаццаць вершаваных радкоў, якія, быццам бы, і з'яўляюцца гэтым жанрам па правільнасці рыфмоўкі, але па сваёй лірычнай і паэтычнай сутнасці нават і блізка ля санета не стаялі…

Калі і асобны санет напісаць няпроста, то што ж тады казаць аб **вянку санетаў**, які складаецца аж з 15 асобных санетаў, у чатырнаццаці з якіх апошні радок кожнага адначасова і першы радок санета наступнага, а пятнаццаты санет, так званы **магістрал**, складаецца з першых радкоў усіх чатырнаццаці санетаў! І пры гэтым сэнсавая нагрузка «вянка санетаў» павінна быць такой жа, як і ў асобным санеце: *абазначэнне тэмы, развіццё тэмы, адказ на пастаўленыя пытанні…*

Беларускіх паэтаў, на творчым рахунку якіх ёсць і вянкі санетаў, не так і шмат. І адзін з самых вядомых — Змітрок Марозаў, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і самай прэстыжнай рэспубліканскай літаратурнай прэміі «Залаты Купідон». Да ўсяго і лаўрэат Міжнароднага літаратурнага конкурсу «Семья — Единение — Отечество».

Але галоўнае нават не прэміі і не званне лаўрэата. Галоўнае — талент!

Калі няпроста напісаць адзін санет, калі вельмі складана стварыць вянок санетаў, то што казаць ужо аб **вянку вянкоў санетаў**, дзе сплятаюцца ў «вянок» не асобныя санеты, а чатырнаццаць (!) вянкоў санетаў плюс «вянок-магістрал», а ўсяго у вянку вянкоў — аж 225 асобных санетаў. Па чатырнаццаць радкоў у кожным!

Першы, не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы» З. Марозаў стварыў у 1990 годзе. На мой погляд, нават калі б ён нічога больш не напісаў наогул, то і тады б імя ягонае назаўсёды засталося ў беларускай літаратуры.

Але З. Марозаў не збіраўся і не збіраецца спыняцца на дасягнутым. Сведчанне таму — яго новая кніга «Вачыма сэрца», назва якой поўнасцю адпавядае зместу.

У ёй усё на дзіва гарманічна і збалансавана: і прыгожае, з густам зроб-

ленае афармленне, і выдатная прадмова слыннага літаратуразнаўцы Вячаслава Рагойшы, і, вядома ж, самі вершы. А яны падзелены на дзве часткі. У першай пад красамоўнай назвай «Я ўсё часцей жадаю слухаць неба» змешчаны санеты. Як асобныя, так і вянкі санетаў і, вядома ж, знакаміты вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». У другую частку «Яблыня зімы» ўвайшлі вершы, якія напісаны ў апошнія гады. Яны разнастайныя па тэматыцы, але, у асноўным, гэта невялікія лірычныя творы аб прыродзе, каханні, любові да роднай зямлі:

Бярозка на старой царкве
Замест крыжа…
Лісцём трапеча,
Нібыта некага заве
З жніва крывавага на веча.

А мо — пра светлы марыць век?
Карэнне ў мур глухі ўпілося…
Пакайся, мілы чалавек,
Перш чым жывое жаць калоссе.

Ці яшчэ:

Бярозавая светласць,
Асінавая сінь,
Рабінавая ветласць,
Кляновая цяплынь,
Ліпнёвая лагода…
Шмат сонечнасці ў дрэў,
Ля іх душа заўсёды
Становіцца мудрэй.

Цудоўныя вершы, светлыя, трапяткія, з нейкай своеасаблівай ясенінскай інтанацыяй.

Канечне, не ўсе творы мне спадабаліся аднолькава (дакладней, не ў аднолькавай ступені кранулі патаемныя струны маёй душы), але слабых і нават проста «прахадных» сярод іх няма, што сведчыць не толькі аб таленце аўтара, але і пра ягоныя высокія патрабаванні да сябе і сваёй творчасці. Самае галоўнае — вобразы З. Марозава заўсёды запамінальныя, паэт не паўтарае іншых, а піша па-свойму адметна:

Паўзе бабулька на кавёлах
Ад крамы з торбачкай пустой,
Бягуць праз двор дзяўчаткі ў школу
Гуллівай звонкаю гурмой.

Век чалавечы, як імгненне,
Ды ёсць у ім свой строй і лад:
Адным — вясёлы час квітнення,
Другім — самотны лістапад.

Вядома ж, сама тэма супрацьстаўлення маладосці і старасці, квітнеючай пары юнацтва і апошніх гадоў згасання далёка не новая, і пра гэта шмат і сказана, і напісана рознымі аўтарамі. Але вось так, як у З. Марозава, не сказаў і не напісаў яшчэ ніхто. Як і пра заўчасную смерць многіх мужчын:

Мужчыны рана паміраюць…
Мо, каб не бачыць з небыцця,
Як прыгажосць сваю губляюць
Жанкі пад ношаю жыцця?..
Што, зберагаючы каханне,
Дзяцей і ўнукаў берагуць…
І ўсё ж не ў гэтым апраўданне
Мужчынскай долі…
Хай жывуць!

Ці вось такое, шчырае, набалелае:

Я не кляну сваё былое,
Па днях пражытых не тужу…
Мо не чарнілам, а крывёю
Радок апошні дапішу.

Калі ж мне часам давядзецца
Раптоўна ў бездань дзён сысці, —
Пакіну вам, нашчадкі, сэрца,
Што не хлусіла пры жыцці.

Наогул, да тэмы ўзаемаадносін паэта і сучаснага грамадства, да няпростай тэматыкі ролі паэта і паэзіі ў ім З. Марозаў звяртаецца неаднаразова:

Няма куды мне больш імкнуцца.
Сыду да прашчураў нямых…
Ды толькі вершы застануцца —
Жывыя сведкі дзён маіх.

Адзін пракляццем іх пазначыць,
Другі — заўважыць ды змаўчыць…
А трэці сам не растлумачыць:
Чаму душа ад слёз гарчыць?

І яшчэ, на гэтую ж тэму:

Ёсць словы вечныя, як свет,
Ёсць мовы музыка жывая…
Хто вершы піша — не паэт,
Паэт, хто сэрцам іх спявае!

І гэта сапраўды так! Менавіта сэрцам павінен «спяваць» свае вершы сапраўдны паэт, вершы, у якіх абавязкова павінны быць «вечныя, як свет» словы і жывая музыка мовы да іх.

Апроч шчымліва-кранаючых лірычных вершаў, у кнізе зрэдку сустракаюцца і вершы зусім іншай танальнасці, у якіх, як слушна і трапна заўважыў у сваёй прадмове Вячаслаў Рагойша, «*увачавідкі мяняецца лірычная танальнасць паэзіі Марозава: шчымлівая споведзь-развага пераходзіць у сатырычную, нават саркастычную з'едлівасць*». І далей В. Рагойша адзначае, што «*з цягам часу яшчэ раскрыецца на ўсю моц сатырычны талент Змітрака Марозава*».

Узяць, да прыкладу, верш «Пакаленне».

І мы разбегліся па норах,
Чакаем старасці сівой,
А быў жа некалі ў нас порах,
І бераглі мы гонар свой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Час улагоджваў нас маною
Пра хуткі рай на ўсёй зямлі,
І мы сляпою грамадою
Пад маршы ў будучыню йшлі.

Прыйшлі…
Спалілі сэрцаў порах
На спрэчкі, звады і віно,
Як пацукі, сядзім у норах…
Што будзе? Нам усё адно!

Перагортваю старонку — і яшчэ адзін верш, які таксама да інтымналірычных аніяк не аднясеш:

Дзеля самай светлай мэты
Ён аддаў зямлю Савету.
І каня свайго калгасу
Самы першы перадаў.
Потым сам туды ж падаўся…
«Раскулачваннем» займаўся,
Нават Бога не збаяўся,
Калі родзічаў ссылаў.
Мае ён узнагароды
(Бо «служыў» свайму народу!),
У сляпой, глухой хаціне
Дажывае ціха дні,
Адзінокі, спахмурнелы,
З крыўдай злой, незразумелай…
Без каня і без надзелу,
Без спагадлівай радні.

Такая вось яна, паэзія З. Марозава, вельмі розная і часам нават спрэчная, але ўсюды аднолькава таленавітая…

Напрыканцы хацелася б вярнуцца да першага раздзела кнігі, раздзела санетаў, у якіх можна сустрэць і інтымную лірыку: «Вачэй тваіх вільготнае святло // Мяне пяшчотай дзіўнай счаравала, // Яно спакой душы маёй забрала — // І пачуццё былое ажыло…», і філасофскі роздум аб паэзіі і паэтах, іх ролі ў грамадстве: «Кароль санетаў, велічны Петрарка, // Табе мае прачулыя радкі. // Праз доўгія эпохі і вякі // Для ўсіх сляпых ты свеціш зоркай яркай…», трывогу за няпросты лёс сённяшняй моладзі: «Свет патанае ў п'янстве і падмане. // Трывожуся часцей за маладых. // Вунь дзецюкі ад крамы, быццам здані, // Гурмой брыдуць панура ў нікуды…»

Але больш за ўсё ўразілі мяне пранізліва-пранікнёныя радкі з наступнага санета:

Старэнькі сад наводшыбе сяла.
Парэпаныя, цёмныя галіны,
Нібы далоні цёткі Акуліны,
Якая век багата пражыла…

Не ведаю нават, чым канкрэтна кранулі, зачаравалі такія простыя, здаецца, радкі. Але паўтараў іх зноў і зноў, марна спрабуючы разгадаць амаль няўлоўную таямніцу імгненнага паэтычнага натхнення. Не разгадаў, так што таямніца так і засталася таямніцай. І добра, што засталася…

А закончыць свае развагі хачу самым апошнім вершам з новай кнігі Змітрака Марозава, вершам, які аўтар прысвяціў (ахвяраваў, як ён сам адзначыў) дырэктару выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяне Анцух:

Жыву, пакутую, люблю.
Малюся коласу і Богу,
З трывог і радасцей ляплю
Днём і ўначы сябе самога.

Жадаю я спасцігнуць век,
Які пражыць не давядзецца…
І ўсё ж я проста чалавек,
Гляджу на свет вачыма сэрца.

«Вачыма сэрца» называецца кніга. І словамі «*вачыма сэрца*» аўтар яе завяршае, як бы сплятаючы паміж сабой пачатак і заканчэнне. А значыцца, уся кніга гэтая — таксама своеасаблівы «вянок», вянок паэтычнай творчасці Змітрака Марозава, аднаго з самых плённых і таленавітых сучасных беларускіх паэтаў.



*Ганад ЧАРКАЗЯН.*
**Доля.**
**Поэзия и проза.**
*Перевод с курдского*
*Р. Бородулина,*
*К. Камейши, В. Липневича.*
*Мн.: Ковчег, 2014.*

Ігар ШМЫГА

# БЭЗУ ПЯШЧОТНЫЯ ПЯЛЁСТКІ...

Ганад Чарказян умее даваць назвы сваім кнігам, пачынаючы ад першай з іх «Прочность», што пабачыла свет яшчэ ў 1980 годзе. За ёю была «Цвет доброты», потым «Пространство и время», «Обожженные жаворонки»… Нядаўнія «Не умирай раньше смерти», «Ноша», «Горький запах полыни»… Усяго набіраецца дваццаць чатыры кнігі, сярод якіх і тры зборнікі, адрасаваныя дзецям. Паэзія, проза, а таксама ў некаторых паэзія і проза пад адной вокладкай, як і ў гэтай — «Доля». Але пра назвы… Няцяжка заўважыць, што яны, як на першы погляд, нічым асабліва не вызначаюцца, але разам з тым за пэўнай прастатой, нават некаторай звыкласцю іх заўсёды хаваецца глыбокі сэнс.

Узяць хоць бы новую, і тую, што выйшла трыма гадамі раней, — «Доля» і «Ноша». Прынамсі, аўтар прадмовы «Яго вышыня» народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін правільна сказаў: «Ноша паэта — зайздросная ноша. Бо ўвесь цяжар яе вывяраецца на вагах самога сэрца. Важкасць кнігі відавочная». Дазволю сабе як бы развіць гэтую думку: «Доля паэта — зайздросная доля». Якая ж яна, сённяшняя доля Г. Чарказяна, і можна даведацца, пазнаёміўшыся з творамі, што склалі змест гэтага ўдалага томіка.

Адкрываюць яго аб'яднаныя агульнай назвай апавяданні «Іспыт» у перакладзе на беларускую мову Казіміра Камейшы. Назва аднаго з гэтых твораў «малога жанру» — «Іспыт дабрынёю». Пераважная большасць з іх нясе ў сабе тую філасофскую напоўненасць, якой заўсёды вызначаецца проза Г. Чарказяна, незалежна ад таго, гучаць у ёй горскія матывы, ці тэматычна яна звязана з паўсядзённым жыццём беларускай зямлі. Хоць, калі добра разабрацца, урэшце рэшт — гэта не так і важна. Істотней тое, чым жыве душа апавядальніка, пра што яму прагнецца расказаць, які чалавеказнаўчы патэнцыял закладвае ён у аснову сваіх твораў. Філасафічнасць у апавяданнях Г. Чарказяна — гэта магчымасць убачыць, паказаць, раскрыць жыццё ў самых розных ягоных праявах. Пры гэтым на, здавалася б, лакальных прыкладах, у чым і пераконваюць такія апавяданні, як «Негр», «Імітацыя бою», «Палата № 7», «Цяжкая ноша» і іншыя.

Аднак сярод твораў «малога жанру», прадстаўленых у кнізе, я б усё ж вылучыў апавяданне «Моня і Джын», што мае падзагаловак «Амаль казка». Сапраўды, у аснове гэтага твора неверагодная гісторыя, далёкая ад рэальнасці. Каза бабулі Моні выпадкова адкапала на агародзе сховішча, у якім тры тысячы год знаходзіўся джын Усум-Бусум. Ён, спачатку ўзрадаваўшыся, што апынуўся на волі, цяпер, аднак, просіць бабулю Моню: «Мая пані, памажы-памажы мне вярнуцца ў сваю цямніцу…» А ўсё таму, што за кароткі час знаходжання на свабодзе паспеў расчаравацца ў людзях: «Убачыў усю чарнату душы чалавечай. Людзі страцілі сумленне і забылі, што такое спагада,

дабро, любоў… Усе абманваюць усіх, і ўсе пра гэта ведаюць. Галава пайшла кругам, калі пабачыў, як дзеці тузаюць за бароды, а дарослыя смяюцца…»

Пераказваць апавяданне няма сэнсу, яго трэба ўважліва чытаць. Тады і ў волю насмяешся (прысутнасць гумару ў творах — адна з істотных адзнак таленту Г. Чарказяна), дый над самім жыццём задумаешся. Між іншым, у апавяданні «Моня і Джын» прысутнічае і пэўная дыдактычнасць, якая ў ім, як і ў некаторых іншых творах, вельмі да месца, бо нясе ў сабе жыццесцвярджальны змест, дазваляючы чарговы раз задумацца над тым, ці так мы жывём, як трэба, ці не занадта часта страчваем важныя арыенціры, без якіх можна ператварыцца ў спадарожнікаў, якія блукаюць у поцемках і не могуць знайсці правільны шлях.

У вершах жа лірычны герой напоўніцу раскрывае сваю душу. Вяртаецца ў гады маленства, што засталося далёка за пікамі гор, прагне кахання і жыве ім. Дый жа зноў імкнецца спасцігнуць саму сутнасць жыцця, як мага лепш зразумець ягоную існасць. З'яўляецца спадзяванне на лепшае, але не абыходзіцца і без шкадавання, што многае мінаецца, а тое, што прыйдзе, — ужо не для цябе, а для іншых, хто ідзе за табою следам. Табе ж шмат у чым ужо застаецца жыць толькі ўспамінамі. Імі і напоўнены некаторыя вершы кнігі. Поруч жа змешчаны чаргаві — чатырохрадкоўі, шмат якія з іх блізкія да афарызмаў, настолькі думка, пакладзеная ў аснову гэтых мінітвораў, важкая сваім зместам, часам і метафарычна насычаная.

Дарэчы, у кнізе «Доля» змешчаны і ўспаміны, у якіх згадваюцца тры выдатныя беларускія пісьменнікі — Пятрусь Броўка, Рыгор Барадулін, Алег Лойка. Як вядома, мемуарныя згадкі рознага кшталту — заўсёды маюць суб'ектыўны характар. Мера ж суб'ектыўнасці, калі можна так сказаць, адваротна прапарцыянальная сумленнасці таго, хто звярнуўся да гэтага жанру. Калі мемуарыст болей дбае аб сабе, імкнецца паказаць сябе як мага з лепшага боку, ён, па сутнасці, як бы прыніжае таго, пра каго піша, а сябе пры гэтым як мага больш узвялічвае. Ні аб якой аб'ектыўнасці ў такім выпадку гаварыць не даводзіцца. І толькі тады, калі за пяро бярэцца чалавек з чыстым сумленнем дый з пачуццём уласнай годнасці, ён ніколі не дазволіць сабе падобнага падыходу. Для яго куды важней — паказаць сапраўдную ролю ў літаратуры тых, хто, дзякуючы Богу, шмат у чым спрыяў і фарміраванню ягонага таленту, а таксама згадаць тыя ці іншыя цікавыя выпадкі з іхняга жыцця.

Менавіта так і піша Г. Чарказян. Калі аб'яднаць агульнай назвай ягоныя ўспаміны (ён жа з'яўляецца таксама і аўтарам не менш цікавых успамінаў пра народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава «Па праву памяці», што друкаваліся ў шостым нумары «Полымя» за гэты год, якія ў кнігу не паспелі ўвайсці), то гэта будзе гучаць так: «Было». Дарэчы, у савецкія часы пад такой назвай у выдавецтве «Советский писатель» пабачыў свет аб'ёмны том мемуараў выдатнага паэта-песенніка Яўгена Далматоўскага.

Сапраўды, было шмат што помнае і ў жыцці Г. Чарказяна, аўтара кнігі «Доля», у тым ліку і тое, што тычыцца згаданых пісьменнікаў, якія ў пэўнай ступені сталі і яго старэйшымі таварышамі, а што людзьмі і з ягонай біяграфіі, то пэўна. Гэтай удзячнасцю за тое, што сваёй прысутнасцю яны азнаменавалі светлыя эпізоды ў яго жыцці, шмат у чым дапамаглі ягонаму творчаму станаўленню, і прасякнуты згадкі пра іх. Прынамсі, ва ўспамінах «Незабыўны Пятрусь Броўка» Г. Чарказян прызнаецца: «Думаю, што ў маім жыцці мне пашанцавала па-сапраўднаму двойчы. Першы раз — калі сустрэўся з беларускай дзяўчынай, якая стала маёй жонкай. Другі — калі сустрэўся і пазнаёміўся з Петрусём Усцінавічам Броўкам. Але тады я яшчэ не здагадваўся аб той вялікай ролі, якую ён потым адыграе ў маім жыцці».

Самыя прыязныя словы знаходзіць Г. Чарказян, калі гаворыць пра Р. Барадуліна «Я позвоню тебе из трамвая…»: «Несмотря на постоянную загруженность, Бородулин все же сумел перевести пять моих книг поэзии и прозы. Мне достаточно взять их в руки, чтобы самое плохое настроение тут же улетучилось. "Да будь я и негром преклонных годов, лежачим иль на ходу ли — я счастлив навеки уже от того, что меня перевел Бородулин". А если еще вспомню, что судьба подарила мне общение с такими личностями, как Петрусь Бровка и Василь Быков, то и вообще кажется, что жизнь прожита мною не зря. Любопытно, что все они с Витебщины.

Видимо, эта земля особенно плодовита на таланты».

У гэткім жа духу напісаны і згадкі пра А. Лойку «Дарога на Слонім»: «Менш стала цяпла, дабрыні, надзеі. І ніхто не запоўніць гэты прабел. На вялікі жаль, прабелаў з кожным днём усё большае і большае. І нічога тут ужо не паправіш. Толькі варта памятаць, што нішто з мінулага проста так не знікае. Гэта трэба памятаць тым, хто яшчэ жыве і ходзіць па гэтай зямлі. Рабіце больш дабра, і людзі будуць памятаць вас, як памятаю я Алега Антонавіча Лойку, таленавітага паэта, настаўніка, перакладчыка, даследчыка… Чалавека, маці якому была родная беларуская зямля, а сястрою — ціхая Шчара…»

Ёсць у Г. Чарказяна цудоўны верш «***Небо с землей обнялись…», што, як і некаторыя іншыя ягоныя творы, нясе ў сабе элегічны пачатак (усё ж нездарма Р. Барадулін часам за вочы называў Ганада Бадрыевіча «грустным Ганадом»), а такія інтанацыі, як вядома, кранаюць самыя патаемныя струны душы, выклікаючы нярэдка самотлівы настрой, прымушаючы задумацца над тым, наколькі ў гэты свеце, кажучы словамі вядомай песні, «призрачно все», але разам з тым напамінаюць, што, нягледзячы ні на што, жыццё працягваецца і ў ім, у гэтым жыцці, калі захацець, заўсёды можна знайсці не толькі тое, што сведчыць аб незваротнасці страт, але і такое, якое напамінае: зямная прыгажосць вышэй за ўсё і ёю, таксама калі на тое ёсць жаданне, можна радавацца заўсёды.

Гэты верш пераклаў В. Ліпневіч, здолеўшы не толькі праўдзіва перадаць душэўны стан лірычнага героя, але і змог, што таксама важна, а ў нечым нават і больш важна, захаваць светаўспрыманне і светабачанне менавіта самога Г. Чарказяна, калі ягоныя думкі, успаміны, згадкі, памкненні асабліва адчувальныя і значныя. Не ведаючы мовы арыгінала, не сумняваешся, што ягоная адметнасць схоплена В. Ліпневічам дакладна. Адразу адчуваеш, што так мог сказаць толькі Г. Чарказян, а не хто іншы: на выдыху незваротнасці страчанага і на ўдыху вечнага, такога, што ніколі не знікае, бо яно проста не можа знікнуць, таму за ўсім гэтым само жыццё — шматмернае і шматаб'ёмнае, але разам з тым і такое, якое саткана і з пэўнага імгнення.

У дадзеным выпадку з такога імгнення, якое стала сведчаннем згадкі пра тое, што назаўсёды прайшло, але, прайшоўшы, яно і засталося, паранейшаму рэальна, асязальна прысутнічае. У памяці засталося. У пачуццях. У далейшым жаданні жыць:

Небо с землей обнялось. И закат
Просиял, как влюбленный взгляд.
Куст сирени в сумраке сыром
Подпирает почернелый дом.
Все ушло, и не вернуть назад.
Будоражит душу аромат.
И сирени нежной лепестки
Разрывают сердце на куски.

Гэтым прагавітым жаданнем — працягваць жыць, кахаць, не зважаючы на тое, што дзён, адведзеных табе, паменела, любіць тое, што акружае цябе, напоўнена другая палова верша:

Мне еще бы капельку тепла.
Никому нет дела до тебя.
Плачь не плачь — уже металлолом
Паровоз, что был тебе как дом.
И летел в грядущее, как дым,
С кочегаром пылким молодым.
На весь век теплом не запастись —
Постоянно продувает жизнь.
Дни и ночи в ожидании любви —
Сколько ты на свете ни живи.
И сирени нежной лепестки
Разрывают сердце на куски.

Калі паспрабаваць коратка ахарактарызаваць новую кнігу Г. Чарказяна, то ні ў якім разе не абысціся менавіта без гэтага вобраза — вобраза бэзу, куст якога ў вершы «*** Небо с землей обнялись…» « в сумраке сыром // Подпирает почернелый дом». Сам па сабе гэты вобраз успрымаецца на дзіва напоўненым, шматумяшчальным. Пялёсткі бэзу таму і «разрывают сердце на куски», што за імі паўстае само жыццё. Тое жыццё, што акружае нас, дый жыццё, якое так любіць і гэтак хораша ўзнаўляе ў сваіх творах жыццялюб і праўдалюб Г. Чарказян. Такая ўжо ягоная доля — быць не толькі пісьменнікам на зямлі, а і заставацца пры тым і чалавекам — добрым, спагадлівым, у якога пастаянна жыве шчырасць, міласэрнасць А гэта таксама сведчыць на карысць таленту, бо сапраўдны талент, пры ўсім іншым, не церпіць душэўнай чэрствасці і абыякавасці. А яшчэ ён заўсёды ў сваёй аснове — светлы, аптымістычны, у чым і пераконвае кніга «Доля».

**Васіль ШУР**

# МАЛАЯ РАДЗІМА Ў АНАМАСТЫКОНЕ ПІСЬМЕННІКАЎ

У кожнага з нашых пісьменнікаў ёсць радзіма Беларусь, ёсць і «малая радзіма», інакш кажучы, кожны з нас, гаворачы словамі Рыгора Барадуліна, «*мае свае Ушачы*». У літаратуры засведчаны класічныя радкі апісання роднага кутка ў творах і біяграфіях Якуба Коласа, Івана Мележа, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Барыса Сачанкі, Міколы Мятліцкага, Уладзіміра Ліпскага, Вячаслава Рагойшы, Уладзіміра Калесніка і інш. У названым паэтычным абагульненні Р. Барадуліна, якое стала афарызмам і набыло глыбока сімвалічны сэнс, лаканічна перадаецца выключна вызначальная для кожнага чалавека роля «малой радзімы», асацыятыўнасць і сімвалізм яе ўласных назваў, дзе такія элементы стварэння аўтабіяграфізму, павагі да роднага кутка становяцца зыходным пунктам фармавання высокага патрыятызму і павагі да ўсёй Радзімы-Беларусі. У названым афарызме айконім *Ушачы* па эмацыйнай насычанасці раўназначны этноніму *Беларусь*.

Асобныя аўтары, напрыклад, вядомыя вучоныя пісьменнікі М. Улашчык, У. Калеснік, У. Ліпскі, А. Рогалеў, У. Верамейчык, У. Лякін, М. Мятліцкі, А. Карлюкевіч апісанню родных мясцін прысвячаюць цэлыя кнігі. Так Мікалай Улашчык падрыхтаваў вялікі нарыс *«Была такая вёска»* (Мн., 1981), дзе як этнограф прасачыў гісторыю роднай *Віцькаўшчыны* (1883—1917 гады), што недалёка ад Мінска, каля *Самахвалавіч.* Такога падрабязнага і цікавага не толькі спецыялістам эсэ да апошняга часу не было ў нашай нацыянальнай літаратуры. Асабліва падрабязна растлумачаны шматлікія традыцыйныя беларускія ўласныя імёны, айконімы, мікратапонімы вакол Віцькаўшчыны, адзначаны вялікі культуралагічны фон такіх адзінак, якія, на жаль, паступова страчваецца, губляецца.

У пачатку 80-х гадоў XX стагоддзя пра вартасць і неабходнасць стварэння такіх кніг пісаў сам М. Улашчык у лісце, адрасаваным пісьменніку і вядомаму грамадскаму дзеячу Алесю Адамовічу: «Ад *Багацькаўкі* (вёскі, у якой нарадзіліся браты Гарэцкія — **В. Ш.**) зараз засталося мала. Лічу, што гэта наш абавязак (а таксама пра *Глінішчы* Мележа і інш.). Маё ўражанне, пэўна, пераўвялічана, але, здаецца, што, нават карыстаючыся толькі апублікаванымі матэрыяламі, можна напісаць хаця б кароткую гісторыю кожнай вёскі. Між іншым, у прадмове да сваёй кнігі я выказаў неабходнасць сабраць як мага больш звестак і напісаць гісторыю тых вёсак, спіс якіх знаходзіцца ў *Хатыні.* Гэта зусім неабходна. І я нават не разумею, чаму за гэта ніхто (ніякая ўстанова) не ўзяўся да апошняга часу. Страшны канец вядомы, але ж людзі жылі ў гэтых вёсках сотні гадоў…» [1, с. 502].

Прафесар С. Прохарава ў артыкуле «Мой родны кут, як ты мне мілы («Радзіма» ў беларускай мове)» на падставе аналізу твораў Я. Коласа, Я. Купалы і 19 рэспандэнтаў, якія адказалі, што за словы, словазлучэнні яны ўжываюць замест лексемы *радзіма,* выявіла, што часцей за ўсё выкарыстоўваліся словазлучэнні *родны кут*, затым *мой* (родны) *беларускі край, родная зямля, родныя мясціны, родная старонка, беларуская зямля, сінявокі край, зямля бацькоў, зямля продкаў*. Гэтыя выразы маюць адпаведнікі і ў паэтычных тэкстах, апорнымі ў словазлу-

чэннях выступаюць: *кут, зямля, край, старонка* [2, с. 160]. Гэтая ж даследчыца на падставе аналізу сюжэтаў мастацкай літаратуры адзначыла, што для беларуса заўсёды была найважнейшай *малая радзіма*, той родны куток на зямлі, дзе ён прыйшоў у гэты свет і дзе знаходзіцца тая нітка, якая, на думку Я. Купалы, звязвае яго з зямлёй і небам. Магчыма, таму беларус заўсёды бараніў сваю зямлю, але яму не ўласціва агрэсіўнасць і жаданне павялічыць сваю жыццёвую прастору, што, на думку некаторых, з'яўляецца ледзь не недахопам «беларускага шляху развіцця». Такое светаадчуванне, як пераконвае С. Прохарава, і адлюстроўвала беларуская літаратура, на што звярталі ўвагу розныя даследчыкі.

Паказальна, відаць, вельмі лагічна і правільна, што з кнігі Уладзіміра Ліпскага «*Я: праўдзівы аповед пра твой і мой радавод*» пачынаецца вывучэнне беларускай літаратуры ў 6-м класе. І, як слушна заўважыў Алесь Бельскі, аналізуючы вельмі неабходную ў наш час кнігу Анатоля Статкевіча-Чабаганава «*Я — сын Ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак*» (Мінск: Роднае слова, 2011), важна, што ў аснову пабудовы названага літаратурнага курса пакладзены ўніверсальны прынцып уладкавання свету: *я — мой род — народ — радзіма — чалавецтва*... Вучні маюць цудоўную магчымасць распытаць у бацькоў пра сваіх дзядуль і бабуль, блізкіх і далёкіх продкаў, занатаваць самае істотнае і важнае... Гэта аксіёма: агульнае лепш засвойваецца праз канкрэтнае, тое, што мае асобасны сэнс і асобную каштоўнасць [3, с. 79]. Гэты таленавіты даследчык літаратуры ганарыцца сваімі блізкімі. Так, яго дзядзька Фама Бельскі — адзін з арганізатараў адукацыі і пачынальнікаў педагагічнай навукі савецкага часу. Многае ў яго біяграфіі, творчай дзейнасці, як піша пляменнік, пазначана словамі «першы» ці «ўпершыню». Яго родзічы, псіхолаг П. Яталь і прафесар-палітолаг акадэмік Г. Яталь, зрабілі сусветныя адкрыцці ў пэўных галінах навукі. Удзячны А. Бельскі гэтым выдатным вучоным, іх лёсам прысвяціў цэлыя кнігі, што вучаць любіць радзіму, сваіх блізкіх, шанаваць землякоў, якія ўнеслі дастойны набытак не толькі ў айчынную, а і ў сусветную навуку, культуру, асвету. Дарэчы, наша сістэма выхавання раней была пастаўлена так, што асобныя з названых імёнаў у дачыненні да Беларусі мы адкрываем для сябе толькі тады, калі пра іх шырока загавораць у чужых і далёкіх ад нас краінах. Цяпер ёсць магчымасць сказаць пра тых беларусаў і нашых землякоў — прадстаўнікоў іншых народаў, якія нарадзіліся і выхоўваліся на Беларусі, але, па розных абставінах, не маючы магчымасці памнажаць інтэлектуальныя і іншыя набыткі свайго народа, унеслі важкі ўклад у сусветную цывілізацыю — у рускую, польскую, французскую культуру, навуку. Назавём толькі некаторыя імёны, якія вельмі яскрава і пераканальна гавораць за сябе: *Сімяон Полацкі*, *Казімір Семяновіч, Іван Фёдараў* (Федаровіч), *Міхаіл Глінка, Восіп Гашкевіч, Фёдар Дастаеўскі, Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка, Чэслаў Пяткевіч, Міхал Агінскі, Станіслаў Манюшка, Ігнат Дамейка, Тадэвуш Касцюшка, Якуб Наркевіч-Ёдка, Соф'я Кавалеўская, Мікалай Пржавальскі, Гіём Апалінэр, Герман Мінкоўскі, Барыс Кіт, Дзмітрый Шастаковіч, Леў Арцымовіч, Эдуард Пякарскі, Ян Чэрскі, Павел Сухі, Сямён Косберг*…

Добрую справу ў гэтым плане ажыццяўляе кафедра гісторыі, беларускай мовы і дыялекталогіі Брэсцкага ўніверсітэта, шырока распрацоўваючы тэму «малой радзімы», праводзячы навуковыя канферэнцыі, рыхтуючы да друку ўсё новыя і новыя старонкі пра населеныя пункты — хутары, вёскі, сёлы, мястэчкі, а таксама вядомых асоб Брэсцка-Пінскага Палесся. Выкладчыкамі і студэнтамі падрыхтаваны, апрацаваны і часткова апублікаваны краязнаўча-культуралагічныя матэрыялы пра наступныя паселішчы Берасцейшчыны і Піншчыны: *Вялікая Гаць, Хойна, Чэрск, Крушын, Сялец, Селяховічы, Выганашчы, Ліпнікі, Равяцічы, Аброва, Калоднае* і інш. (гл. «Жыццём слугуючы Айчыне» — Брэст, 1999. — С. 90—111). Вельмі карыснае ў гэтым плане шматтомнае (146 тамоў) выданне кніг-хронік «Памяць», прысвечаных энцыклапедычнаму апісанню ўсіх адміністрацыйных раёнаў сучаснай Рэспублікі Беларусь.

На Мазыршчыне, Гомельшчыне добра ведаюць мясцовых краязнаўцаў, вядомых даследчыкаў духоўнай і матэрыяльнай культуры Палесся Аляксандра Рогалева, Аляксандра Бабра, Уладзіміра Лякіна, Міхаіла Капача, якія падрыхтавалі па некалькі кніг пра сваю малую радзіму, мясцовую тапаніміку, пра знакамітых землякоў, якімі можа ганарыцца любы беларус, Напрыклад, былы марскі афіцэр, капітан другога рангу савецкага ваенна-марскога флоту У. Лякін апублікаваў наступныя кнігі, вартыя самай высокай ацэнкі. Гэта «Тры жыцці Змітро Віталіна: гісторыка-біяграфічны нарыс» (Мазыр, 2012), «Фамилии Калинового края» (Мозырь, 2008), «Мозырь в 2012 году» (Минск, 2005), «Гроза двенадцатого года над Полесьем» (Минск, 2009), «Калинковичи на перекрёстке дорог и эпох» (Мозырь, 2010). «На войне, на близкой и далёкой …: сборник воспоминаний» (Мозырь, 2013) і інш., шмат у гэтым плане зроблена і ўраджэнцам з Рэчыцкага Палесся Уладзімірам Ліпскім, які падрыхтаваў некалькі кніг пра свой радавод і сваіх землякоў.

У мастацкіх тэкстах на прыкладах апісання мясцовых назваў, этнаграфічных замалёвак побыту сваіх землякоў, іх стасункаў з суседнімі паселішчамі і інш. можна з вялікім поспехам прапагандаваць лепшыя ўзоры і набыткі матэрыяльнай і духоўнай культуры землякоў, выхоўваць павагу да радзімы Беларусі. Такія творы напоўнены павышаным эмацыянальным сэнсам, насычаны гонарам да зямлі бацькоў, павагаю да землякоў, захапленнем ад гераічнага, жалем, спачуваннем і болем да жахлівых праяў, якія раней спазнавала наша малая радзіма і наша Бацькаўшчына ў цэлым.

Сімваламі малой радзімы ў беларускай літаратуры засведчаны онімы *Мікалаеўшчына, Нёман, Альбуць, Гліншчы, Загор'е, Багацькаўка, Саматэвічы, Давыд-Гарадок, Боркі, Вялікі Бор, Цімкавічы, Бабчын, Ліхаўня* і інш. У гэтых назвах, засведчаных у біяграфіях пісьменнікаў і іх творах, выразна актуалізуюцца апасродкавана-асацыятыўныя асаблівасці, навеяныя ўспамінамі мастакоў слова пра вядомых у наваколлі асоб, гістарычнымі падзеямі, уражаннямі дзяцінства, ускладненым іншым жыццёвым вопытам. У творах літаратуры, як сведчыць аналіз, такія онімы малой радзімы выступаюць «як індывідуальныя моўныя элементы, што пранізваюць усю структуру іх і вызначаюць узаемасувязь і ўзаемадзеянне ўсіх кампанентаў тэксту» (В. Вінаградаў). Безумоўна, што малая радзіма, «пачуццё родных мясцін» найбольш выразна выяўляецца ў творах мастацкай літаратуры праз анамастычныя назвы — айконімы, гідронімы, мікратапонімы і інш. Іменна гэтыя, пераважна рэальныя адзінкі, як падкрэсліваюць даследчыкі, дазваляюць не толькі называць, акрэсліваць прасторавыя межы твора, ідэнтыфікаваць важныя для пісьменнікаў аб'екты, а і перадаць пачуцці, эмоцыі, якія, несумненна, узнікаюць і якія аўтар увасабляе, узнаўляе ў тэксце ўмелым выкарыстаннем онімаў і іншых сродкаў.

У творах Я. Коласа рака *Нёман* малюецца не толькі як прыродны вадаём, які пастаянна цячэ па пракладзеным вадой рэчышчы, а найбольш як своеасаблівая метафара-сімвал, па-мастацку ўвасабляючы яго незабыўную радзіму. Малая радзіма класіка не ўяўляецца без *Нёмана* — ракі яго дзяцінства і юнацтва, апетай у яго шматлікіх творах. Яе ён не забываў да апошніх сваіх дзён. Як падлічана, пісьменнік да любай і шчымліва дарагой яму назвы *Нёман* вяртаўся 152 разы, выкарыстоўваючы яе ў 29 паэтычных і празаічных творах, у перапісцы з сябрамі. Праз *Нёман,* як падкрэсліваў Якуб Колас, беларусы дабіраліся ў іншыя краіны, рака дапамагала землякам паэта ва ўсім: «*Міхал як толькі ажаніўся, / Тады ад бацькі аддзяліўся, / Бо стала цесна. З той прычыны / Хадзіў на сплаў ён, на віціны, / Разоў са два схадзіў у Прусы — / Куды не трапяць беларусы?*»[К-с,VI, с. 32]. Пра значэнне *Нёмана* ў жыцці беларусаў, якія жылі на яго берагах, падрабязна пісаў і М. Улашчык у краязнаўчым нарысе «З сямейнай хронікі»: «*Ці не адзінае месца, дзе можна было што-небудзь зарабіць звыш зямлі, быў Нёман. Зараз (ды нават і не зараз, а значна раней) у Стоўбцах вады летам трохі вышэй, чым па*

*калена. У сярэдзіне XIX ст. Нёман быў Нёман. Гэта была не проста рака, але вялікая дарога «ў Прусы», «Кралевец» (зараз у беларускай літаратуры гэта скрозь «Крулевец» — на польскі лад. Магу засведчыць, мая маці ведала Кралевец, бо туды не раз ганяў плыты дзед). Да таго часу, як была праведзена чыгунка Масква — Мінск — Брэст (Берасце), па Нёману ішлі самыя разнастайныя тавары не толькі з Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, але і з паўночнай Украіны, не кажучы пра плыты, якія гналі і тады, калі пачала дзейнічаць і чыгунка».* [1, с. 266]. Выраз «*Куды не трапяць беларусы*?» стаў крылатым, набыў сімвалічны сэнс. І сапраўды, Я. Колас ведаў, відаць, куды лёс закідваў не толькі мікалаеўцаў, а і такіх выдатных асоб, як *Ігнат Дамейка, Тадэвуш Касцюшка, Якуб Наркевіч-Ёдка, Казімір Семяновіч* і інш. Яго фіксуе слоўнік «Крылатыя словы і афарызмы» Ф. Янкоўскага. Сюды ж адносім і сімвалічныя радкі, якімі пачынаецца паэма «Новая зямля»: «*Мой родны кут, як ты мне мілы!*», «*Мне Загібелька лепш Парыжа*». Безумоўна, што «родны кут» для Я. Коласа — гэта найперш Нёман, яго берагі.

Гідронім *Нёман* у творах Я. Коласа выконвае не толькі ідэнтыфікуючую функцыю — называе адну з вялікіх рэк Беларусі, на берагах якой прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады класіка нашай літаратуры. У тэкстах паэта *Нёман* — гэта і назва-сімвал, неад’емная частка не толькі прыроднай, а і духоўнай рэальнасці роднага краю, Бацькаўшчыны: «*Дык паведай, вецер вольны, / Што павеяў з тых краёў: / Як жыве там край бяздольны, / Край з-пад Нёмна берагоў?»* [К-с, I, с. 394].

У гэтым кантэксце гідронім уваходзіць у склад апісальнага выразу — аўтарскай перыфразы: *край з-пад Нёмна берагоў*, якая метафарычна ўзнікла і прасторава-асацыятыўна выкарыстоўваецца для называння ўсёй Заходняй Беларусі, што ў 20—30-я гады XX ст. уваходзіла ў склад буржуазнай Польшчы. А ў апавяданні *«Туды, на Нёман!»* назва ракі — сімвал далёкай радзімы для беларусаў, выселеных з Гродзеншчыны на *Куршчыну* ў час Першай сусветнай вайны. Падкрэслівае канатацыйную значымасць гідроніма *Нёман* у апавяданні той факт, што ў першых выданнях загаловак гэтага твора гучаў інакш: «*Туды, на Захад!»* (1926 г.). Такім чынам, у выніку змен у кантэксце *Нёман* — гэта не толькі назва ракі, а і тое слова, якое ўвасабляе для пісьменніка і яго літаратурных персанажаў незабыўны край, *Бацькаўшчыну,* з якой бежанцаў разлучыла вайна і куды яны мараць вярнуцца. Замена кампанента загалоўка *Захад* на *Нёман*, відаць, выклікана тым, што ў 20—30-я гады XX ст. геаграфічныя назвы *Захад—Усход* шырока ўжываліся ў перыядычным друку, мове мастацкай літаратуры для абазначэння процілеглых сацыяльна-палітычных сістэм і дзяржаў. І першы загаловак гэтага апавядання нібыта «паказваў», куды так непажадана марацъ вярнуцца персанажы Я. Коласа, што, безумоўна, не адпавядала ідэалагічным устаноўкам і канонам, якімі тады кіравалася кіраўніцтва маладой рэспублікі Саветаў.

У творах Якуба Коласа самыя частыя азначэнні-эпітэты да слова *Нёман* — *срэбразвонны, срэбралітны, светлы, быстры, свабодны, слаўны, родны, сэрцу блізкі, наш, поўны сілы і красы; Нёман корміць і поіць нас, будзіць*. Да гэтай роднай паэту назвы можна падабраць кантэкстуальныя сінонімы-перыфразы: *страшэнны штукар і свавольнік, часціна роднага кута, нерв сяла, родны бацька, Беларусі сын*; параўнанні: *як люстэрка Нёман*. Аўтарская любоў да ракі, пранікнёнасць, захапленне передаюцца разгорнутымі рытарычнымі параўнаннямі: «*І дзе на свеце ёсць такая, / Як Нёман рэчанька другая? Хоць я няволяй цяжкай змучана / І з родным берагам разлучан, / Ды я душою ажываю, / Як вокам мыслі азіраю / Цябе, мой луг і бераг родны, / Дзе льецца Нёман срэбраводны* [К-с, VI, с. 10].

Слова-гідронім *Нёман* уваходзіць у склад наступных назваў-загалоўкаў Я. Коласа: верша *«Нёман»*, апавяданняў *«Нёманаў дар»*, *«Разліў Нёмана»*, *«Туды, на Нёман!»*. У гэтых творах *Нёман* — ключавое слова. Ад яго ідуць нябачныя

сюжэтныя лініі да партрэтаў літаратурных персанажаў, апісанняў пейзажу, дыялогаў, лірычных адступленняў. Такія адзінкі, на думку В. Пятроўскага, ствараюць унутранае адзінства лексічнай сістэмы твора, становячыся істотным элементам яго кампазіцыйнай пабудовы. У адных творах ключавыя словы толькі зрэдку, невыразна выступаюць як дамінанты на фоне ўсяго кантэксту, у другіх — наадварот, густа пранізваюць мастацкую тканіну, прымушаючы чытача шукаць у такіх онімах адметны, незвычайны сэнс [4, с. 54]. Дакладныя геаграфічныя, этнаграфічныя, прыродаапісальныя замалёўкі *Нёмана*, яго берагоў можна знайсці ў наступных творах пісьменніка: «*Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле», «У старых дубах», «Разліў Нёмана», «Наша сяло», «Высокі бераг», «Нёманаў дар», «Вясною», «Новая зямля», «На ростанях»* і інш.

Якуб Колас пры апісанні *Нёмана*, працягваючы народныя традыцыі, шырока выкарыстоўваў прыём адухаўлення, уяўляючы і малюючы раку як жывую істоту, здольную гаварыць, мысліць, адчуваць і г. д.: *«Не знае стрымання ён (Нёман. — **В. Ш.**), не ведае, куды дзець свае магутныя сілы. Але ніхто не жаліўся на яго свавольства. А ў нашым сяле яго надта любілі, бо ён для сяла быў, як родны бацька: і карміў, і паіў, і на сваіх плячах кожнага выносіў, і кожнага за лета разоў тры ў Коўна і Гродна вазіў ды яшчэ і на дарогу даваў грошы. Праўда, язда па Нёмане на плытах не зусім лёгкая рэч... Нёман быў нервам сяла, які будзіў жыццё і прымушаў чутка прыслухоўвацца да таго, што робіцца вакол»* [К-с, IV, с. 71]. *«— От бы каго паслаць у Думу дэпутатам! — жартавалі сяляне, цешачыся, як Нёман праразае ім шырокі разгон, — па крайняй меры быў бы дэпутат, бо стаіць за нас!»* [К-с, IV, с. 71].

У творах Я. Коласа, на яго радзіме вядомы разнастайныя анамастычныя ўтварэнні ад гідроніма *Нёман: Панямонка* — назва рэчкі; *Панямонь і Панямонне* — варыянты назвы сяла недалёка ад Мікуціч (сапраўдн. назва Новы Свержань); *Панямонская гімназія* — мяркуемая навучальная ўстанова ў Панямонні; маёнтак *Над Нёман*, якім валодаў вядомы вучоны Якуб Наркевіч-Ёдка, «*Панямонскія ведамасці»* — газета, якая выдавалася рэдактарам Бухбергам у *Панямонні*; *Наднямонне* — назва мясцовасці вакол Нёмана; *Занямонне* — агульная назва зямель і вёсак, якія знаходзяцца на левым беразе Нёмана, насупраць Мікалаеўшчыны, размешчанай на правабярэжжы ракі; *Занёманск* — вёска ў 40—50-я гг. XX ст., злілася з горадам Масты. У Мастоўскім раёне выдаецца мясцовая газета *«Зара над Нёманам*», *Нёманская нізіна* — геаграфічная тэрыторыя ў сярэднім цячэнні ракі. *Нямнішча* — старое рэчышча *Нёмана,* па дарозе з *Акінчыц* у *Новы Свержань*. *Нёманіна* — у прынёманскіх мясцінах так завуць рачную старыцу. Аб асаблівай прыхільнасці пісьменніка да назвы *Нёман* сведчыць і той факт, што частку сваіх твораў ён падпісваў псеўданімамі *Наднёманец, Nadniemaniec, Марцін з-за рэчкі*. Як вынік трансанімізацыі назва *Нёман* замацавалася ў шэрагу беларускіх паселішчаў: *Нёман* — рабочыя пасёлкі ў Навагрудскім і Мастоўскім раёнах. На Гродзеншчыне ёсць прамысловыя прадпрыемствы, калгасы, установы, назвы якіх утвораны ад гідроніма *Нёман*, напрыклад, шклозавод *«Нёман»*, нават за межамі Беларусі ведаюць «*Нёманскае шкло*» — мастацкія вырабы (посуд, вазы, скульптуры, творы манументальна-дэкаратыўнага мастацтва). «*Нёман»* — штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс. Выдаваўся ў 1945 г. як альманах «Отчизна» рускай секцыі пісьменнікаў Беларусі. У часопісе надрукаваны пераклады твораў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага і інш. вядомых пісьменнікаў. Географы ў басейне сярэдняга і верхняга цячэння ракі выдзяляюць *Нёманскую нізіну*, гісторыкі — *Нёманскую культуру* — археалагічную культуру неалітычных плямёнаў, якія насялялі тэрыторыю Беларускага Панямоння. У гады Вялікай Айчыннай вайны праславіўся французскі авіяцыйны полк *«Нармандыя—Нёман*». *Нёманская аперацыя 1914 г.* — частка Усходне-Прускай аперацыі 1914 г. *Нёман, Нёманскі Васіль* — псеўданімы беларускага пісьменніка *Васіля Матэвушава*, а *Нёманскі Я.,*

*Нёманскі Янка* — псеўданімы пісьменніка *Пятровіча Івана*. Польскі музыкант, спявак *Чэслаў Юліуш Выдрыцкі* ўзяў сабе псеўданім *Нёман* — ад назвы ракі, на якой вырас. У сучаснай літаратуры Гродзеншчыну часта называюць *Прынёманскім краем*. А перыфраза *сыны Дзвіны* і *Нёмана*, якая належыць паэту А. Вялюгіну, — гэта ўзнёсла-паэтычная назва ўсіх нас, беларусаў. Перыфразай *наднёманскі салавей* велічна называлі беларуска-польскага паэта *Людовіка Кандратовіча (Сыракомлю).* Выдавецтва «Юнацтва» апублікавала арыгінальную кнігу «Бацька наш Нёман» (Мн., 2000. Укладальнік Яўген Хвалей), дзе змешчаны творы больш за 190 аўтараў — беларускіх, польскіх, рускіх паэтаў і празаікаў, якія прысвяцілі свае творы гэтай вялікай рацэ. *Нёман* у творчасці гэтых пісьменнікаў — адна з самых магутных, імклівых і любімых у народзе рэк Беларусі. У ліку іх У. Сыракомля, А. Міцкевіч, Э. Ажэшка, М. Багдановіч, Ф. Цютчаў, Я. Купала, Цётка, Я. Колас, А. Астрэйка, К. Буйло, М. Танк, П. Пястрак, А. Русак, П. Глебка, П. Трус, Р. Барадулін, К. Цвірка, Я. Брыль, М. Аўрамчык і інш. Некаторыя творы гэтых пісьменнікаў, прысвечаныя *Нёману,* сталі хрэстаматыйнымі: яны вывучаюцца ў школах і ВНУ. На іх аснове напісаны народныя песні. Крылатымі сталі словы Анатоля Астрэйкі «*Ой Нёман, ой бацька наш родны!»*. Гідронім *Нёман* — сімвал Беларусі не толькі ў Я. Коласа. Так, У. Мархель, аналізуючы творчасць Адама Міцкевіча, у прыватнасці, яго санеты адэскага цыкла «*Да Нёмна*», адзначаў, што «любасць Міцкевіча да радзімы ў гэтым цыкле выказана праз непасрэдную, амаль прадметна адчувальную, а не ўяўную лучнасць з яе акватычным вобразам-сімвалам... Сімвал радзімы, *Нёмана* ў гэтых творах пазначаны псіхалагізаванай скіраванасцю настальгічнай памяці паэта» [5, с. 27]. «З глухіх уздзенскіх лясоў выбягае вузенькі крынічны *Неманец*», да яго далучаюцца яшчэ дзве рэчкі — *Вуса* і *Лоша,* і так пачынаецца *Нёман.* Там, паводле ўласнага прызнання, на берагах *Нёманца* — малая радзіма выдатнага беларускага паэта-песенніка Адама Русака, аўтара ўсенародных песень «*Мой Нёман*» (на музыку Л. Смялкоўскага), «*Стаяць над Нёманам дубы*» (на музыку І. Лучанка), «*Закрасуйся, Нёман*». Ён стваральнік у родных мясцінах этнагарафічна-музычнага ансамбля «*Нёманцы»*, што быў вядомы далёка за межамі Беларусі. Відаць, многія беларускія паэты нараджаюцца ў настальгіі па родным краі. Мабыць, з гэтай настальгіі, як лічыць Ірына Бароўская, паўстала і цудоўная песня, якая стала візітоўкай не толькі Адама Русака, але і ўсёй Беларусі. Адзін з лістоў родным у вёску *Пясочнае* Капыльскага раёна завяршаўся традыцыйным беларускім пажаданнем: «*Бывайце здаровы, жывіце багата!...*», што ў песенным варыянце стала шлягерам. Ва ўсёй савецкай краіне некалі ведалі гэтую застольную песню, так пісаў пра яе выдатны паэт Аляксандр Твардоўскі. «*Бывайце здаровы, жывіце багата*!» — народны шлягер, што ўпрыгожваў рэпертуар Л. Уцёсава, Л. Александроўскай, І. Кабзона, Я. Навуменкі, Н. Мікуліч, ансамбля «Песняры». І сёння песню з сямідзесяцігадовай гісторыяй, як адзначыла А. Бароўская, ведае шырокае кола слухачоў [6, с. 78]. У нашым кантэксце варта тут адзначыць, што А. Русак — аўтар слоў наступных беларускіх песень: «*Лясная песня*», «*Мяцеліца», «Край палескі», «Мой край», «Ой ляцелі гусі», «Як правёў мяне Цімох», «Толькі з табою», «Не шукай», «Не за вочы чорныя», «Песня Марыны»* і інш.

Сімвалам радзімы ў творах некаторых беларускіх аўтараў выступаюць не толькі гідронім *Нёман*, а і *Дняпро, Прыпяць*. Так, у творах У. Караткевіча, асабліва рамане «Каласы пад сярпом тваім», нарысе «Зямля пад белымі крыламі» сімвалам Беларусі выступае гідронім *Дняпро*, які пісьменнік называў «*вялікай Ракой*». У гэтых і іншых творах мастак паслядоўна падкрэсліваў сваё зачараванне, захапленне, павагу і прыхільнасць да любай яму «*калыскі трох народаў*» і нават напісаў кінасцэнарый, азаглаўлены перыфразай «*Дзеці вялікай ракі*». А горад *Рагачоў, Падняпроўе,* паводле шматлікіх успамінаў пісьменніка і яго блізкіх, былі тым, чым для А. Пушкіна *Болдзіна*, для Л. Талстога — *Ясная*

*Паляна*, для Я. Купалы — *Акопы*. Як пераканальна прасачыў А. Верабей, *Дняпро* і *Прыдняпроўе* з’яўляліся для мастака словы «крыніцай натхнення, героямі яго твораў, сімваламі беларускага краю, а *Дняпро* — той артэрыяй, што жывіць родную зямлю і дае ёй сілы» [7, с. 97].

Народны пісьменнік Беларусі Іван Мележ нідзе і ніколі не забываў сваё роднае *Палессе,* аблогі яго балотаў і пушчаў, сакавітую зеляніну і разнатраўе шырокіх прыпяцкіх і дняпроўскіх лугоў, багацце рачулак і азярын, раздолле ўрадлівых палёў і духмяных садоў… Самымі дарагімі і незабыўнымі былі ў яго ўспаміны пра сваю радню, самабытных, непасрэдных і шчырых землякоў-палешукоў, непаўторныя *Глінішчы, Юравічы, Тунеўшчыну, Тур’ю…* У аўтабіяграфіі пісьменнік адзначаў: «З радасцю і болем пад’язджаю я кожны раз к родным сваім мясцінам. Ад *Гомеля* ці ад *Мазыра* — гледзячы па тым, з якога боку ідзе дарога к роднаму кутку, — пачынаюцца гарады, станцыі, вёскі, на якія не магу ўжо глядзець без хвалявання. *Рэчыца, Васілевічы, Мазыр* — для мяне не проста назвы паселішчаў, а як бы жывыя істоты, таварышы маладосці… Чым бліжэй вядзе дарога к *Глінішчам*, тым бліжэйшыя таварышы выходзяць насустрач — *Юравічы* і *Хойнікі, Каранёўка* і *Княжыца, Алексічы* і *Тунеўшчына.* І нарэшце — родныя *Глінішчы*, дзе ўжо выходзяць насустрач такія таварышы, якія не названы ні на якіх самых дасканалых картах, але якія моцна, на ўсё жыццё прапісаны ў сэрцы: *Луцішчы, Тур’я, Канапельскае, Казекава, Перавельскі круг, Паўлаў круг*, беразняк, возера, канава, выганы. Гайкі гэтыя даўно сцёрты з зямлі так, што і пнёў не асталося, у рацэ вады па костачкі, «кругі» многія высахлі нашчэнт — і ўсё ж яны жывуць успамінам у сэрцы, шчымлівай, непатрэбнай тугой страты» (гл.: Мележ І. Трохі згадак і думак // Пяцьдзесят чатыры дарогі. — Мн., 1963. — С. 387).

Такой канцэнтрацыяй рэальных айконімаў і мікратапонімаў усходняга Палесся пісьменнік у параўнальна сціслым кантэксце стварае алюзію масавасці і тыповасці такіх адзінак у рэгіёне. У шэрагу выпадкаў некаторыя з названых онімаў, што вядомы ў народзе і мастацкай літаратуры, напрыклад, *Юравічы, Мазыр, Хойнікі, Глінішчы, Васілевічы,* утвараюць у носьбітаў мовы, чытачоў не толькі анамастычныя, але і вобразныя (мастацкія), а часам і энцыклапедычныя асацыяцыі, у сваю чаргу малавядомыя словы-онімы таксама могуць уступаць, як лічаць даследчыкі, у разнастайныя асацыятыўныя сувязі са словамі агульнымі, што нагадваюць онім знешнім падабенствам, гукавой абалонкай, марфемнай будовай, семантычным напаўненнем і інш.

Для Кузьмы Чорнага родныя *Цімкавічы* таксама значылі вельмі многае. Адтуль яго сюжэты рэальныя і створаныя фантазіяй пісьменніка. У дзённіку пісьменніка пра вызваленне сваёй «малой радзімы» ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ён адзначаў: «Учора ўночы паведамілі ў зводцы, што ўзялі *Цімкавічы. Вялікую Раёўку, Жавалкі*. Родныя мае мясціны! Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там. Там жывуць мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, чалавечыя натуры, пра якія пісаў. Гэта ўсё адтуль сапраўднае» (Маладосць. — 2010. — № 1. — С. 120).

Акадэмік У. Гніламёдаў у інтэрв’ю часопісу «Полымя» (1999. — № 10. — С. 188) адзначаў, што з малых гадоў меў вялікую цікавасць да «гісторыі мясцовасці, гарадоў, мястэчак, вёсак, а таксама да паходжання розных назваў… Што да майго юнацтва, — адзначаў вучоны, — то мяркую, гэта ўжо асаблівы вопыт — вопыт не толькі майго жыцця, але і вопыт жыцця маёй сям’і, роду, вёскі».

А расійскі акадэмік Д. Ліхачоў таксама гаварыў, што калі чалавек не любіць хаця б зрэдку праглядваць старыя фотаздымкі сваіх бацькоў, не прызнае вартасці памяці аб іх, значыць, ён не любіць іх. Калі ж чалавек не любіць старыя вуліцы, нават даволі закінутыя і няўтульныя, — значыць, у яго няма павагі і любові да свайго горада. Калі чалавек раўнадушны і абыякавы да помнікаў гісторыі сваёй радзімы, — ён, як правіла, раўнадушны і да сваёй краіны.

У некаторых пісьменнікаў «*малая радзіма*» — тэма ўсёй творчасці. Так, Васіль Матэвушаў у сваёй аўтабіяграфіі адзначаў: «Мяне часта папракаюць, што я паэт адной тэмы: пішу пра хараство роднага Прыдняпроўя. Можа, гэта і так, але не магу «здрадзіць» ёй, бо маё сэрца навекі звязана з роднай бацькоўскай зямлёй, з яе казачнай пекнатой, а гэта — тэма шматгранная і невычарпальная».

Відаць, асобна патрэбна гаварыць пра ролю «малой радзімы» ў станаўленні і адметнасці творчасці пісьменнікаў, мастакоў. Так, Л. Корань, даследчыца прозы Івана Навуменкі, у артыкуле «Малая» і «Вялікая» радзіма: мастацкі выбар пісьменніка», аналізуючы этапы творчасці гэтага майстра слова, адзначыла выключную ролю *Рэчыцкага Палесся*, «малой радзімы» пісьменніка, на фарміраванне яго як творчай асобы. «Мястэчка *Васілевічы* Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці — вось такая кропка на карце Палесся, у якой разам з нараджэннем былі закладзены псіхалагічныя, эмацыянальныя, урэшце, пэўныя светапоглядныя асновы творчасці Івана Навуменкі... Акрамя месца нараджэння, прыгадаем і яшчэ адзін момант шчыльнай прывязанасці І. Навуменкі да Палесся, так сказаць, палескую школу ў яго лёсе: гэта шэсць пасляваенных гадоў (з 1946 па 1951) журналісцкай працы на Мазыршчыне карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся» [8, с. 138].

Іван Навуменка для стварэння рэгіянальнага каларыту, усебаковага раскрыцця вобразаў у сваіх раманах «*Сасна пры дарозе*», «*Вецер у соснах», «Сорак трэці*» і інш. насычаў тэкст тапанімічнымі і антрапанімічнымі назвамі, якія семантыкай і словаўтваральнымі мадэлямі характэрны для *Мазырскага Палесся*, дзе прайшла яго маладосць, апаленая вайной. Неаднойчы даследчыкі ягонай творчасці змаглі засведчыць, што І. Навуменка, прадаўжаючы творча развіваць коласаўскія традыцыі, шырока ўводзіў у тэксты поруч з гістарычнай асновай і рэгіянальныя элементы, уласцівыя малой радзіме пісьменніка. Так, у названых раманах канкрэтныя месцы дзеянняў (*Азяркі, Бацькавічы, Вербічы, Гарбылі, Грамы, Журавічы, Піляцічы* і інш.), імёны і прозвішчы літаратурных герояў (*Бондар, Драгун, Дрозд, Міця Птах, Іван Лобік, Мазурэнка* і інш.) значна ўзмацняюць рэгіянальную плынь раманаў, бо такія тапанімічныя і антрапанімічныя адзінкі з’яўляюцца арганічнай часткай мясцовай анамастыкі, яны тыповыя для ўсходняга Палесся — радзімы пісьменніка, а ў мастацкіх замалёўках *Гарбылёў* (у сапраўднасці — Калінкавічаў), *Журавічаў* (Юравічаў), *Бацькавічаў* (Васілевічаў — радзімы І. Навуменкі), *Грамоў* (ст. Нахаў) і інш. угадваюцца паселішчы, іх ваколіцы, рэальныя, дарагія для мастака назвы, дзе адбываліся падзеі, апісаныя ў раманах.

Назвы яго твораў успрымаюцца як трапныя метафары, перадаючы найперш успрыманне перажытага праз настальгічную памяць пісьменніка або яго літаратурных персанажаў. Большасць яго сюжэтаў — гэта ўспаміны, пераважна своеасабліва перанесенае праз мастацкія ўмоўнасці, вяртанне ў маладосць і юнацтва: *«Вераніка», «Таполі юнацтва», «Сямнаццатай вясной», «Хлопцы самай вялікай вайны», «Вайна каля Цітавай канавы», «Замець жаўталісця», «Хлопцы-равеснікі», «Падарожжа ў юнацтва», «Пераломны ўзрост», «Сасна пры дарозе», «Вецер у соснах», «Сорак трэці»* і інш. Такія назвы выразна ілюструюць аўтабіяграфізм напісанага І. Навуменкам. Героі яго апавяданняў, аповесцей і раманаў, як падкрэсліваюць даследчыкі творчасці пісьменніка, — у большасці летуценнікі, максімалісты, рамантыкі, верныя вечным каштоўнасцям — дабрыні, сяброўству, справядлівасці.

Невыпадкова, зямляк І. Навуменкі, паэт У. Верамейчык, умела абыграў некаторыя з яго загалоўкаў. Так, у вершы *«Таполі юнацтва»*, перадаючы адметную мастакоўскую манеру І. Навуменкі, выкарыстаўшы аплікацыю назваў-загалоўкаў асноўных твораў пісьменніка, стварыў спецыфічную «гульню слоў» — каламбур, пабудаваны на амафаніі, калі фрагменты верша-прысвячэння «пераклікаюцца» з назвамі-загалоўкамі або іх фрагментамі з твораў. У паэтычных радках Верамейчыка такія загалоўкі ўтрымліваюць павышаны эмацыйны патэнцыял,

становячыся кульмінацыйным цэнтрам паэтычнага паслання і прызнання павагі да творчай спадчыны юбіляра, да асобы пісьменніка: «*Вы сталі народным. / Высокае званне. / Ля Цітавай копанкі — мір. / Лятуць з Васілевіч да Вас віншаванні, / Бо Вы і зямляк і кумір.*

*Хоць хлопцы-равеснікі / моцна ссівелі, / Тапол юнацтва шумяць. / Ды Вы, летуценнік, / Не пастарэлі, / Мы просім пісаць і пісаць. / Няхай не паўторыцца / Той сорак трэці. / Хай бульба раскошна цвіце, / Няхай на планеце / Не ведаюць смерці, / Дзяцінства хай шчасна расце. / Не быць Вам ніколі / У зморы і скрусе, / Часцей к землякам прыязджаць, / Бо ў Васілевічах і ў Беларусі / Таполі юнацтва шумяць».*

У вершы *«Васілевічы»* У. Верамейчык, ужываючы перыфразы, зноў успамінае свайго знакамітага земляка: *«Гарадок у жыццё пазірае, / Бо жыты ходзяць жоўтаю лаваю… / Адпачыць генерал прыязджае / Ці членкор, абцяжараны славаю».* Не без гумару, не ўпамінаючы прозвішча пісьменніка і акадэміка, выразнымі мастацкімі сродкамі — індывідуальна-аўтарскімі перыфразамі («*членкор*, *абцяжараны славаю*»), параўнаннямі, традыцыйнымі метафарычнымі апісаннямі паэт стварае выразны рэтрамалюнак былога мястэчка — раённага цэнтра Васілевічаў, «*горада вясковага*», дзе, «*як у Індыі, ходзяць каровы / Па даўжэзнай цэнтральнай вуліцы… / Толькі глуха шумяць таполі, / Цёплым пухам па вулачках сцелючы. / Што тут ёсць — не даўмецца ніколі! — / Ад былое райцэнтраўскай велічы?».* Тэкст верша надзвычай асацыятыўны: вобраз тапаляў у апавяданнях І. Навуменкі, як піша А. Бельскі, утрымлівае сімволіка-абагульняльны сэнс. Гэтыя дрэвы ўвасабляюць радзіму, з імі звязана дзяцінства і юнацтва: *“Я заўсёды любіў станцыю,* — пісаў І. Навуменка, — *любіў разложыстыя стогадовыя таполі, якія яе ахінаюць…”* Пастаянны зварот да гэтых дрэў (скразны лейтматыў) сведчыць пра глыбокую духоўную сувязь герояў пісьменніка з радзімай, іх трывалую памяць. З таполямі звязаны аўтарскія ўспаміны і думкі, важныя жыццёвыя падзеі, лёсы герояў. Вобраз тапаляў — гэта і своеасаблівая алегорыя маладога жыцця, сімвал юнацтва» [9, с. 122]. «*Пасля вайны ўжо некалькі разоў быў на радзіме,* — як успамінае адзін з персанажаў Івана Навуменкі. — *Гэлі не застаў: яе сям'я ў пачатку вайны эвакуіравалася ў тылавыя раёны і назад у мястэчка не вярнулася. Таполі ўцалелі, разрасліся: не сквер цяпер, а зялёны востраў. Не ведаю, ці прыязджала ў мястэчка Гэля, а калі прыязджала, то ці выклікалі ў яе які-небудзь успамін таполі ў станцыйным скверыку…*» («Таполі юнацтва», с. 267). Узмацняюць паэтычную вобразнасць гэтага верша іншыя мастацкія сродкі, напрыклад, арыгінальна свежы аксюмаран, які нечым падобны да перыфразы, «*горад вясковы»* — пра былое мястэчка *Васілевічы.* Такое ўжыванне заснавана на свядомым алагізме — наўмысным сутыкненні кантэкстуальна несумяшчальных слоў, якія ў такім спалучэнні, па волі аўтара, не без лёгкага гумару перадаюць якасна новае паняцце, прыўносячы элемент нечаканасці, а гумарыстычны вобраз мястэчка, *«былое райцэнтраўскай велічы»,* становіцца выразна запамінальным.

Вёску *Церуха* Гомельскага раёна Іван Шамякін называў сваёй малой радзімай. Вось што пісала пра гэта ягоная дачка Таццяна Шамякіна: «Іван Шамякін найбольш любіў раман-пенталогію «*Трывожнае шчасце*». Не толькі таму, што твор у вялікай ступені аўтабіяграфічны, а і таму, што пісаў яго шчаслівы чалавек. Я добра памятаю час, калі ствараўся раман — памятаю менавіта таму, што гэта былі самыя шчаслівыя для нашай сям'і гады — яны не паўтарыліся…

Абаяльнасць рамана «*Трывожнае шчасце»* не ў апошнюю чаргу абумоўлена тымі абставінамі і тым месцам, дзе твор пісаўся (пераважна ў *Церусе* на працягу некалькіх гадоў)… Знаёмства з *Церухой* у І. Шамякіна адбылося яшчэ ў дзяцінстве. Яго бацьку Пятра Мінавіча, лесніка, здаралася, пераводзілі з месца на месца. Нейкі час у пачатку 1930-х гадоў ён працаваў у лесе каля вялікай вёскі, фактычна мястэчка *Церухі*, блізкай да Гомеля. Тут сям'я пражыла адзін год, калі Іван вучыўся

ў пятым класе. Прыгожая прырода ваколіц вёскі асабліва кранула сэрца ўражлівага хлопца, але галоўнае — тут ён сустрэў сваю будучую жонку, тады, натуральна, яшчэ дзяўчынку, — каранную церушанку Марыю Філатаўну Кротаву, якая стала прататыпам многіх яго гераінь. …Прыгажосць ваколіц *Церухі* на ўсё жыццё ўвайшла ў сэрца будучага пісьменніка. У 1951 годзе на грошы Сталінскай прэміі за раман «Глыбокая плынь», у якім пазнаецца згаданая мясцовасць, І. Шамякін будуе ў *Церусе* звычайную вясковую хату, куды пастаянна прыязджае з сям'ёю на лета прыкладна да сярэдзіны 60-х гадоў. Тут, у *Церусе,* напісаны раманы «*У добры час», «Крыніцы», «Трывожнае шчасце», «Сэрца на далоні»…* Нягледзячы на адсутнасць звыклага камфорту, І. Шамякін любіў Церуху, як любяць родны кут, малую радзіму, як любяць месца, што дае магутны стымул для творчасці і ў той жа час дорыць сапраўдны адпачынак — не бяздумны, а таксама творчы. Ужо ў канцы жыцця І. Шамякін гаварыў, што нідзе яму так добра не працавалася, як у *Церусе*» [10, с. 60—70]

І. Каралёва, даследчыца творчасці А. Твардоўскага, у артыкуле «Вялікая і малая радзіма А. Т. Твардоўскага: тапанімічная лексіка» падрабязна прасачыла ўплыў мовы, гісторыі Смаленшчыны на творчасць вялікага рускага паэта XX ст. Адзначым некаторыя важныя, на наш погляд, абагульненні гэтай даследчыцы, прыдатныя і патрэбныя ў нашым кантэксце: Твардоўскі — смаленскі: ён нарадзіўся на хутары *Загор'е* цяперашняга Пачынскага раёна Смаленскай вобласці. І, нягледзячы на тое, што выйшаў «*на расійскія прасторы*», заўсёды заставаўся смалянінам. Адсюль у яго творчасці як скразныя знаходзяць развіццё дзве тэмы: *Вялікая* і *Малая* радзімы. Цытуем з невялікага артыкула А. Твардоўскага, які так і называецца — «*Аб радзіме вялікай і малой*»: «У большасці людзей пачуццё радзімы ў шырокім сэнсе — роднай старонкі, айчыны — дапаўняецца пачуццём радзімы малой, першапачатковай, радзімы ў сэнсе родных мясцін, бацькоўскага кутка, раёна, горада або вёсачкі. Гэта малая радзіма са сваім асобным абліччам, са сваёй — няхай самай сціплай непрыкметнасцю — красою ўяўляецца чалавеку ў дзяцінстве, у пару памятных на ўсё жыццё ўражанняў дзіцячай душы, і з ёю, гэтай асобнай, уласнай радзімай, ён прыходзіць з гадамі да той вялікай, што абнімае, ахоплівае ўсе малыя і — у вялікім цэлым сваім — ва ўсіх адна… Для любога мастака слова, пісьменніка, наяўнасць гэтай малой, асобнай і ўласнай радзімы мае вялікае значэнне». Гэтыя словы, як пераканальна прасачыла І. Каралёва, поўнасцю суадносяцца з творчасцю самога А. Твардоўскага. Ён, вядомы рускі паэт, ніколі не забываў сваю *Малую* радзіму, хоць жыў і тварыў — у *Вялікай* [11, с. 55]. І яшчэ А. Твардоўскі, як сведчыў яго зямляк М. Ісакоўскі, гэта «*самы вялікі паэт сучаснасці*», «*адзін з найбуйнейшых сучасных паэтаў зямлі*» (І. Абашыдзэ). Ёсць пісьменнікі, як пісаў А. Твардоўскі, чытаючы творы якіх не адчуеш, не распазнаеш, адкуль ён родам — з поўдня або поўначы, з горада або вёскі, ці маецца ў іх свая рака або рачулка, ці было ў іх калі-небудзь дзяцінства…

Родныя назвы Мазыршчыны выклікаюць самыя станоўчыя эмоцыі і асацыяцыі і ў пісьменніка А. Бароўскага: «І сёння, калі пачую назвы вёсак ці мясцін, да сэрца падступае салодкі ўспамін вандровак — *Кімбараўка, Скрыгалаў, Мялешкавічы, Зялёны Мох* (адкуль бацька родам), *Раманаўка, Бярозаўка*, дзе нарадзіўся пазней таленавіты празаік *Андрэй Федарэнка*, адкуль браты *Мікола* і *Віктар Дубровы* — таленавітыя мастакі, *Балажэвічы*, дзе пачынала працаваць настаўніцай *Святлана Алексіевіч*, *Міхалкі*, дзе настаўнічалі *Уладзімір Верамейчык, Усевалад Краўчанка*» [12, с. 150].

Ураджэнец Брагіншчыны У. Верамейчык, улюбёны ў Палессе, яго паселішчы, іх назвы, называючы сябе *«сынам Палесся»*, да апошніх дзён жыў праблемамі гэтага краю, ён не ўяўляў сябе без *Прыпяці, Ліхаўні, Славечны, Мазыра, Юравічаў, Брагіна, Васілевічаў…: «Мой край — / Надпрыпяцкія выспы, / Сасоннік сіні, луг, трысцё. / Я песню тут / Па слову высніў, / Адсюль пусціў яе ў жыццё».*

Падводзячы вынікі зробленага і напісанага, адчуваючы, што век зямны не бясконцы, ён пісаў у вершы «Пра апошняе»*: «Я хлеба апошнюю лусту свайго / Пашлю толькі маці… / Апошні дарыць пацалунак хачу / Любімай жанчыне… / Апошнюю рэчку хачу пераплыць не Лету, а Прыпяць»*, «*… папрашу перад смерцю сяброў дарагіх: / «Мне зрабіце труну з панадпрыпяцкіх сосен, / каб і там для мяне шум ракі не аціх»*. Сказана ёмка, трапна, запамінальна.

Уладзімір Верамейчык ганарыўся, захапляўся многімі куткамі Мазыршчыны і ўсяго Усходняга Палесся, пра што яскрава сведчаць яго дасканалыя дыскурсы-апісанні, насычаныя ўласнымі назвамі, перыфразамі, трапнымі параўнаннямі, эпітэтамі, што густа заселены паэтам у яго вершах, паэмах. Гэта рэальныя назвы-айконімы палескіх вёсак, мястэчак, іншых пасяленняў, напамін якіх у дасведчанага чытача алюзійна выклікае самыя розныя асацыяцыі: *Бабры, Міхалкі, Кустаўніца, Кімбараўка, Салаўёўка, Свідоўка* — мазырскія архаізаваныя назвы, што зніклі ў выніку працэсаў урбанізацыі. Гэтыя паселішчы, вобразна кажучы, «праглынуў» Мазыр, увабраўшы іх у свае сучасныя мікрараёны, што імкліва забудоўваліся ў 60—80-я гады XX ст.; *Гамарня, Барбароў, Юравічы, Палаўкоўскі Млынок, Нехарань, Белы Бераг, Гута, Данілееўка, Карпаўка, Дворышчы, Ліхаўня, Навінкі, Залатуха, Ведрыч, Зашчоб'е, Нахаў* — зніклыя або моцна пасыпаныя чарнобыльскім попелам нараўлянскія і рэчыцкія паселішчы, назвы якіх шчымліва напаміналі У. Верамейчыку пра яго сірочае цяжкае дзяцінства, а таксама гады грамадзянскага сталення і творчага росту. У творах паэта мноства запамінальных апісанняў мясцовых мікратапонімаў, урбанонімаў, гідронімаў, што яскрава адлюстроўваюць праз мастацкія ўмоўнасці асаблівасці палескай флоры і фаўны, перадаюць гістарычную повязь пакаленняў, каларыт гераічнага і трагічнага мінулага і сучаснага: *Ясная Гара, Мазырскі педінстытут, Мазырскі мост*, вуліцы Мазыра — *Свідоўка, Сямнаццатага верасня, Камсамольская, Савецкая* і інш., рачулкі, крыніцы, сажалкі: *Чарацянка, Пятлянка, Славечна, Батыўля, Цітава копанка, Немцава яма, Карпава яма* і г. д. Але галоўныя ў гэтым мнагалікім наборы онімаў *Прыпяць, Мазыр*, якія ў яго паэзіі — аб'екты самай высокай паэтызацыі, адухаўлення, шанавання, захаплення, узнёсласці…

Для паэтэсы з Мазыра Г. Дашкевіч таксама ўласцівы выразны палескі каларыт і аўтабіяграфізм, якія выяўляюцца паслядоўным выкарыстаннем рэальных тураўскіх, мазырскіх, хойніцкіх айконімаў, гідронімаў, мікратапонімаў: *Малешаў, Верасніца, Хільчыцы, Азяраны, Любавічы, Прыстань, Красны Бор, Заверб'е, Вінішчы, Замкавая Гара, Гара, Крываніва, Хойнікі (Хвойнікі), Зарэчча* і інш.; насычэннем тэкстаў рэальнымі імёнамі, прозвішчамі жыхароў з розных куткоў Усходняга Палесся: дзядзька *Рыгор, Клімовічаў род, Міхалка Лагвінец, Даніла, Сідар, Мікола,* бабуля *Макрэня,* дзядуля *Павел* па́ мянушцы *Бог* і інш., ужываннем дыялектызмаў і дыялектных формаў: *кажу́шак* — у тураўскіх гаворках шчупак; *граюць у палёх; харашуха; Галько; утрывацi*; спецыфічных для Палесся фразеалагізаваных выразаў: *плыву за вадою, жыві здарова! спяваў нібы салоўка, адыйсці ў вечнасць*; спецыфічных таўталагічных спалучэнняў: *век векаваць, гора гараваць* і інш., што напаўняе паэтычныя радкі Г. Дашкевіч выразна адметным, запамінальным каларытам.

Яе паэтычным дыскурсам уласціва выключная натуральнасць апісання канкрэтных мясцін Усходняга Палесся. У яе вершах светла і паэтызавана гучаць сапраўдныя назвы рэк, азёр і вёсак Тураўшчыны, Мазыршчыны, рэальныя імёны яе блізкіх — дзядоў, бацькоў, дзяцей, унукаў, тых асоб, з якімі яна працавала, вучылася, выконвала ролі на сцэне тэатра, сябравала. Паэтонімы ў яе творах валодаюць самымі рознымі канатацыйнымі асаблівасцямі — узмацняюць, напрыклад, паўторамі, рыфмай эмацыйны змест пачуццяў і думак мастака і яго літаратурных персанажаў, разам з іншымі сродкамі ўдзельнічаюць у фарміраванні вобразаў, ствараючы ў чытача наглядна-вобразнае ўяўленне аб мясцовасці, асаблівасцях

яе флоры і фаўны, укладзе жыцця палешукоў, іх занятках, марах і спадзяваннях, з'яўляюцца вызначальнымі тэкстаўтваральнымі адзінкамі з высокім асацыятыўным патэнцыялам і інш.

Такім чынам, у выніку семантызацыі літаратурнага оніма ў паэтычным тэксце ў ім сумяшчаецца некалькі сэнсаў: праз агульнае ўспрыняцце ў дасведчанага чытача ў такіх адзінках атрымлівае рэалізацыю прамое значэнне оніма, апрача гэтага, з'яўляюцца (могуць з'явіцца) іншыя, што звычайна ўзнікаюць ад прачытанага (убачанага) раней, і разам з гэтым у свядомасці ствараецца запамінальны аб'ёмны вобраз, які спалучае два планы — яўна выразны і схаваны, фармуючы мастацкае ўяўленне пра аб'ект апісання.

У свядомасці пісьменнікаў, чытачоў некаторыя вельмі ўжывальныя ў творы онімы малой радзімы напаўняюцца дадатковым сэнсам — выступаюць як абагульняльныя знакі вялікіх і малых мастацкіх тэкстаў, несучы на фоне ўсяго мастацкага твора вялікі тыпізуючы патэнцыял своеасаблівых сімвалаў. Параўн., напрыклад, паэму У. Верамейчыка «*Ліхаўня»,* у аснове яе загалоўка — назва募 нараўлянскай вёскі, што стала ў яго творы сімвалам зніклых у выніку Чарнобыльскай катастрофы паселішчаў Беларусі (вёска *Ліхаўня* была радзімай маці паэта); паэму Міколы Мятліцкага «*Бабчын*», назва якой паходзіць ад старажытнай і багатай на фальклорныя традыцыі вёскі Хойніцкага раёна, знішчанай наступствамі Чарнобыльскай катастрофы, у ёй нарадзіўся таленавіты паэт Мікола Мятліцкі. Паселішча таксама вядома, мабыць, на ўвесь славянскі свет у сувязі з тым, што ў Бабчыне жыў і працаваў аўтар класічных прац па этнаграфіі беларусаў і ўсіх славян Чэслаў Пяткевіч.

У апошнія гады апублікаваны краязнаўчыя працы, прысвечаныя канкрэтным мясцінам нашай радзімы, напісаныя з глыбокім веданнем і аналізам біяграфій і лёсаў некаторых асоб, чые імёны па розных прычынах малавядомыя чытачам, асабліва моладзі. Удалы прыклад у гэтым кірунку — нарысы Алеся Карлюкевіча «*Радзімазнаўства: Мясціны. Асобы*» (Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010 ). Аўтар з глыбокай павагай да некаторых забытых асоб і памятных мясцін праз умоўнасці мастацкага тэксту далучае чытача да мінулага некаторых нашых паселішчаў… «*Мы жывём, каб вяртацца*», — згадвае А. Карлюкевіч радкі паэта Анатоля Вярцінскага. У раздзеле «*Мясціны»* праз канкрэтныя назвы ён знаёміць з некаторымі забытымі старонкамі малой радзімы, забяспечвае чытачу вяртанне да сваіх спрадвечных каранёў. Раздзел «*Асобы*», як піша сам пісьменнік, — гэта «*доўгая і бязмежная экскурсія па людскіх лёсах і біяграфіях*», а «*жыццё кожнай вёскі, кожнага паселішча вымяраецца найперш жыхарамі, людзьмі, іх лёсамі*». У такіх кнігах мноства ідэй па ўшанаванні фрагментаў трагічнага і гераічнага малой радзімы кожнага з нас, гістарычных мясцін, пажаданняў і прапаноў па ўзнаўленні і захаванні нярэдка забытай, але непаўторнай спадчыны нашых землякоў, чые імёны могуць быць гонарам усёй Айчыны. У краязнаўчых працах паслядоўна падкрэсліваецца важнасць захавання помнікаў духоўнай і матэрыяльнай культуры нашых папярэднікаў: старажытныя курганы нярэдка ўзворваюцца, назвы рэк, балот, гаёў, шляхоў, паселішчаў перайначваюцца, паданні і легенды забываюцца, рэшткі старажытнай культуры губляюцца, сярод моладзі можна сустрэць нават такіх, якія не ведаюць, не помняць прозвішча, імя сваёй бабулі, сваіх блізкіх і інш.

## Літаратура

1. Улашчык, М. М. Выбранае / М. М. Улашчык: Уклад. А. Каўкі і А. Улашчыка; Нав. рэд. Г. Кісялёў і В. Скалабан. — Мінск: «Беларускі кнігазбор», 2001. — 608 с.

2. Прохарава, С. М. Выбраныя творы / С. М. Прохарава — Мінск: Права і эканоміка, 2009. — 325 с.

3. Бельскі, А. І. Карані і крона радаводнага дрэва. Развагі з нагоды выхаду кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш» / А. І. Бельскі / Роднае слова — 2011. — № 11. — С. 78—81.

4. Петровский, В. В. О ключевых словах в художественной прозе / В. В. Петровский // Рус. речь. — 1977. — № 5. — С. 51—60.

5. Мархель, У. І. Прастора бачання і прастора памкнення: Перастварэнні санета Адама Міцкевіча «Акерманскія стэпы» / У. І. Мархель // Роднае слова. — 2003. — № 2. — С. 27—32.

6. Бароўская, І. А. «Дзе ты зорка мая непагасная ?..: Да 110-годдзя з дня нараджэння Адама Русака / І. А. Бароўская // Роднае слова. — 2004. — № 5. — С. 75—80

7. Верабей, А. Л. Прыдняпроўе ў творчым лёсе Уладзіміра Караткевіча / А. Л. Верабей // Роднае слова. — 2003. — № 3. — С. 95—98.

8. Корань, Л. Д. «Малая» і «Вялікая» радзіма: мастацкі выбар пісьменніка / Л. Д. Корань // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: зб. навук. арт. / рэдкал.: Т. І. Шамякіна (гал. рэд.); укл. А. І. Бельскі. — Мінск: РІВШ, 2006. — 336 с.

9. Бельскі, А. І. Функцыі пейзажу ў прозе Івана Навуменкі / А. І. Бельскі // Творчая асоба І. Навуменкі і праблемы беларускай філалогіі і адукацыі: зб. навук. арт. / рэдкал.: Т. І. Шамякіна (гал. рэд.); укл. А. І. Бельскі. — Мінск: РІВШ, 2006. — 336 с.

10. Іван Шамякін: вядомы і невядомы: успаміны, эсэ, аповесць / Уклад. Т. І. Шамякіна. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — С. 60 — 70.

11. Королёва, И. А. А. Т. Твардовский и Смоленская поэтическая школа: через призму имён собственных / И. А. Королёва. — Смоленск: Изд. «Смядынь», 2010. — 154 с.

12. Бароўскі, А. М. Бурштынавы подых Прыпяці / А. М. Бароўскі // Полымя. — 2003. — № 3. — С. 143 —160.



**Галіна БАГДАНАВА**

# ЛЮДЗІ ПРАГНУЦЬ ПРЫГАЖОСЦІ



***Вядома ж, вы памятаеце словы Дастаеўскага: «Прыгажосць уратуе свет». Дык вось, падчас гутаркі з прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдатам мастацтвазнаўства, дацэнтам Аленай БОХАН я нечакана адкрыла новы, глыбінны падтэкст гэтых слоў. Сапраўды, прыгажосць, хараство гарманізуюць і самога чалавека, і свет вакол яго. Але ж ёсць тыя, хто стварае гэтае хараство, ёсць творцы. У майстэрні, на сцэне, на кінапляцоўцы яны ніколі не паглядаюць на гадзіннік у чаканні канца працоўнага дня і ў канфліктных сітуацыях не спяшаюцца «хапацца за зброю». Яны ведаюць сапраўдны кошт хараства, яны ведаюць, што шлях да гармоніі і прыгажосці па сутнасці бясконцы. Яны настолькі апантаныя творчасцю, самім працэсам стварэння новай мастацкай рэальнасці, што ім няма часу канфліктаваць і ваяваць. Дык можа, чым больш людзей спазнаюць насалоду тварэння прыгажосці, тым больш дасканалым, гарманічным зробяцца і чалавек, і навакольны свет? Творчасцю можна, калі пастарацца, захапіць кожнага. І што далёка хадзіць, нашыя дзядулі і бабулі, жывучы ў вёсцы, таксама тварылі: выразалі з дрэва, ляпілі з гліны, ткалі, вышывалі, выплятали з саломкі тую самую прыгажосць. Але заўжды былі і будуць людзі абраныя, тыя, хто асабліва востра ўспрымае хараство і прагне не проста яго ўвасобіць, а ўвасобіць так, каб узрушыць не толькі сучаснікаў, але і нашчадкаў. Большасць з іх тут у нас, на Беларусі, калі разумеюць, што дадзены ім Богам талент трэба ўдасканальваць, выбіраюць Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, якая, дарэчы, рыхтуецца адзначыць сваё сямідзесяцігоддзе.***

## Касмічныя колы

*Алена Бохан — адна з апошніх вучаніц незабыўнага нашага этнографа і мастацтвазнаўцы Міхася Раманюка, скончыла Акадэмію па спецыяльнасці «Мастацтвазнаўства», потым аспірантуру, абараніла кандыдацкую дысертацыю. Кола яе даследаваняў — пераважна традыцыйнае мастацтва. Але апошнім часам яе публікацыі прысвечаны пераасэнсаванню народнай культуры ў сучаснай візуальнай прасторы. І, самае галоўнае, яна імкнецца данесці свае адкрыцці найперш да моладзі.*

***— Шаноўная Алена Сяргееўна, нашу гутарку мне хацелася б пачаць з адной высновы, якую я зрабіла як рэцэнзент дыпломных работ выпускнікоў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў са стажам. Мне здаецца, што сённяшнія выпускнікі больш глыбока, па-філасофску падыходзяць да ўвасаблення сваіх мастацкіх задум, яны здольныя даць сваім аднагодкам арыенцір, дзе ж шукаць філасофію існасці… Можа, таму на абароне дыпломных у БДАМ робіцца ўсё больш шматлюдна. Як Вам здаецца, філасофская заглыбленасць новага пакалення — гэта іх, так бы мовіць, прыродная ментальнасць або вынік выхавання, глыбока прадуманай сістэмы акадэмічнага навучання?***

— Хацелася б думаць, што Акадэмія робіць грунтоўны ўнёсак у інтэлектуальнае выхаванне маладых мастакоў. Кажу гэта не толькі пра выкладчыкаў-тэарэтыкаў, але і пра ўсіх, хто неабыякавы да светапогляду сваіх студэнтаў. Вельмі ўсцешыла мяне абарона мінулага года, калі дыпломнікі-дызайнеры прадстаўлялі работы, што спалучалі сучасныя падыходы ў выкананні і глыбокія веды мінуўшчыны. І ў гэтым годзе былі творы, якія радавалі і веданнем традыцый, і крэатыўнасцю. Рэцэнзенты неаднаразова адзначалі арыгінальныя і «нелабавыя» рашэнні ў дыпломных работах. А гэта значыць, што аўтары не проста выкарысталі пэўныя элементы традыцыйнай культуры, а, усведамляючы значнасць гэтых з’яў, пераасэнсавалі іх і прадставілі ў сваёй трактоўцы.

***— І сёння ў нашым неспакойным свеце ён, гэты светапогляд, не можа быць ні звужаным да памераў пэўнай групы, групоўкі, ні бязмежна шырокім. Цяпер не трэба ўжо пераконваць — само жыццё даказвае, што павага і цікавасць да мовы і культуры іншых народаў пачынаюцца з павагі да сваіх родных мовы і культуры. Маладыя, у якіх няхай сабе яшчэ няма сям’і, інтуітыўна шукаюць у гэтым жыцці апору, трывалую глебу. І вось праз спасціжэнне, вобразнае асэнсаванне традыцый яны адчуваюць сваю прыналежнасць не да вузкай групы людзей — партыі, суполкі, а да цэлага народа. Маючы апору ў традыцыях Бацькаўшчыны, мяркуючы па дыпломных працах, яны смела сягаюць у Космас, асэнсоўваюць складаныя філасофскія і вострасучасныя праблемы…***

— Нашы выкладчыкі імкнуцца выхаваць у студэнтаў жаданне спасцігаць тое, што пакінулі папярэднікі. Выхаванцам на ўсіх факультэтах заўсёды нагадваюць, што прыйшлі яны не на пустое месца, а ў Акадэмію, якая мае свае багатыя традыцыі, Акадэмію, якая рупіцца пра захаванне і прапаганду набыткаў беларускай культуры. А ўсведамленне таго, што ты з’яўляешся часцінкай чагосьці вялікага, што можаш з гонарам працягваць важную справу, як мне падаецца, дапамагае маладым творцам набыць упэўненасць і ў жыцці, і ў творчасці.

Калі гаварыць пра нашых мастакоў, дызайнераў, трэба зазначыць, што ў іх сапраўды ёсць схільнасць да філасофскага разважання, якая выяўляецца і ў выбары тэм, і ў асаблівасцях пластычнай мовы. Сёлета гэта добра прадэманстравалі некаторыя мастакі касцюма. Мяне асабіста ўразіў цікавы погляд на повязь часоў у спалучэнні з вострасучасным увасабленнем у калекцыі адзення «Калейдаскоп» Юліі Аляксандравай. Дыпломніца здолела аб’яднаць космас беларускага народнага мастацтва, рэмінісцэнцыі з 1960-х і сучасныя модныя тэндэнцыі. Дэкор адзення адначасова нагадваў і народныя посцілкі, і матывы ап-арта. Кожны культурны пласт прачытваўся асобна, і між тым усе элементы гарманічна суіснавалі ў гэтай вельмі актуальнай калекцыі. Думаю, што менавіта такіх вынікаў дабіваюцца нашы педагогі, калі гавораць пра традыцыі і іх важнасць у сучасным свеце.

***— Вы самі шмат часу аддалі вывучэнню і, так бы мовіць, вобразнай адаптацыі традыцыйнай культуры, народнага арнаменту ў сучасным жыцці і сучасным мастацтве. Як я пераканалася, свядомае, з веданнем семантыкі, якой вы якраз і займаецеся, выкарыстанне пэўных традыцыйных народных элементаў і вобразаў дапамагае мастакам ствараць вельмі арыгінальныя, сучас-***



*Васіль Цімашоў «Хваля»*

***ныя творы. І тут нельга не згадаць нашага шаноўнага настаўніка Міхася Фёдаравіча Раманюка, які доўгі час узначальваў кафедру гісторыі і тэорыі мастацтваў. Вы на гэтай пасадзе, а цяпер на пасадзе прарэктара, як мне здаецца, дастойна працягваеце яго традыцыі…***

— Назаўсёды запомнілася, як Міхась Фёдаравіч пачаў з намі, студэнтамі, размову пра традыцыйную культуру — намаляваў канцэнтрычную схему і даў да яе прыблізна такі каментарый: «Вось гэта я, вось сям'я, сябры, грамадскія супольнасці, дзяржава… Схема можа павялічыцца да касмічных маштабаў. Глядзіце, колькі колаў, вельмі важна, каб іх было многа і размяшчаліся яны шчыльна. Бо што такое вялікае пустое кола? Мыльная бурбалка. А калі жыццё чалавека абмежавана толькі некалькімі маленькімі коламі і канцэнтруецца толькі на сваёй асобе? Недасканаласць!» Сапраўды, чалавек мусіць нарошчваць гэтыя колы, каб пашыраўся ягоны светапогляд, каб гарманічна развівацца. У гэтай простай схеме адказ на пытанне, як фарміраваць асобу, і не толькі творчую.

*...Я не ўтрымалася, і паспрабавала ўгледзець тыя самыя раманюкоўскія колы ў дыпломных творах сёлетніх выпускнікоў. Знакавая падзея. Дыпломны праект выпускніцы кафедры скульптуры стыпендыята спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Паліны Піраговай — высечаная з каменю скульптурная кампазіцыя «Планета» — быў усталяваны на беразе вадасховішча ў Паставах. Дыпломніца быццам адкрыла свету душу вялізнага каменя-ледавіка. У цэнтры, у падобным на планету крузе — два пяшчотна схіленыя адно над адным профілі — рашучы, рэзкі мужчынскі і далікатны жаночы, між якімі прасвечвае жывая прырода. А вакол гэтай сцішанай Планеты кахання нечакана жывапісная ў разрэзаным і адшліфаваным камені трывожная, прыродная, касмічная стыхія. На абароне старшыня Дзяржаўнай камісіі народны мастак Беларусі Іван Міско выказаў шчырае захапленне гэтаю па-зямному мудраю касмічнаю кампазіцыяй. А прадстаўнікі мясцовага кіраўніцтва казалі пра тое, што яны ўражаны, як аддана, натхнёна працавалі Паліна Пірагова і яе сябра Васіль Цімашоў, які ёй дапамагаў. І яшчэ дадалі, што жыхарам Пастаў вельмі не хапала вось такога лірычнага ўвасаблення хараства і гармоніі.*

*Варта дадаць, што за час вучобы ў Акадэміі мастацтваў Паліна Пірагова і Васіль Цімашоў удзельнічалі ў шматлікіх міжнародных і рэспубліканскіх пленэрах, яны стваралі скульптурныя кампазіцыі са снегу і лёду, з пяску, дрэва, каменю… Іх творы, з тым самым глыбінным філасофскім падтэкстам, аздабляюць вуліцы Лагойска, Калінінграда, Любліна… У Паставах таксама ўжо ёсць некалькі іх скульптурных кампазіцый.*



*Паліна Пірагова «Планета»*

### Сад красы і роздуму

*У экспазіцыі грандыёзнай выстаўкі «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта» большасць твораў Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў прэзентавала ў фармаце відэа. А побач з арыгінальнымі студэнцкімі працамі экспанаваліся і новыя мастацкія фота рэктара кандыдата мастацтвазнаўства Міхаіла Рыгоравіча Баразны, у якіх гучалі новыя для яго лірычныя, шчымлівыя ноты. Мне здаецца, вельмі важна, што кіраўнікі Акадэміі самі людзі творчыя і перадаюць студэнтам не толькі веды, але і творчы імпэт. У гэтым годзе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў было здзейснена некалькі вельмі арыгінальных творчых праектаў. Адзін з іх — выстаўка і вечар, прысвечаны памяці Міхася Раманюка, другі — творчы праект «Сад» і нарэшце — фотавыстаўка «Беларусы. 100 гадоў жыцця». Выстаўкі, якія экспанаваліся ў галерэі «Акадэмія», мелі незвычайны поспех.*

***— Алена Сяргееўна, ведаю, што і вы, і загадчыца аддзела міжнародных сувязей Кацярына Кёнігсберг, і загадчыца кафедры тэорыі і гісторыі мастацтваў Марыя Карпянкова курыравалі гэтыя праекты. Выстаўкі з цікавасцю прыняла моладзь. І гэта надзвычай важна. Усё пачынаецца з памяці…***

— Прыемна расказваць пра поспехі сваіх выхаванцаў. Студэнты кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў у гэтым годзе здолелі выявіць сябе як добрыя арганізатары і людзі апантаныя цікавымі ідэямі, якія выдатна ўсведамляюць сваю грамадскую місію. Трэба сказаць, што ініцыявала гэтыя праекты кафедра гісторыі і тэорыі мастацтваў, але ў іх рэалізацыі, канечне, прымалі ўдзел усе факультэты Акадэміі.

Найперш трэба згадаць падзею, з якой пачаўся 2014 год. Гэта выстава «Імя працягвае жыць» і вечарына, прысвечаная памяці Міхася Фёдаравіча Раманюка, якая запомнілася надзвычай цёплай атмасферай, шчырымі выступамі паплечнікаў і вучняў. Студэнты прымалі непасрэдны ўдзел у арганізацыі мерапрыемства, але выступалі ўсё ж

у якасці асістэнтаў. А вось задумы і рэалізацыя двух наступных праектаў, можна сказаць, цалкам студэнцкія.

У траўні адбылася выстава «Сад», якую ладзілі студэнты трэцяга курса Ганна Быкава, Кацярына Крамарэнка і Настасся Юзэфовіч. Ідэя стварыць «Сад» нарадзілася падчас майстар-класа дырэктара Прыволжскага філіяла расійскага Дзяржаўнага цэнтра сучаснага мастацтва Ганны Гор, які праходзіў у нас вясной 2013 года. Студэнты вырашылі шукаць натхненне для творчага праекта ў метадычных фондах Акадэміі, якія захоўваюць мноства работ студэнтаў мінулых часоў. Асабліва ўразіла іх мастацкае шкло 1970—1980 гг. Вобразная мова вытанчаных вырабаў са шкла падштурхнула да асацыяцый з вясной і яе чатырма перыядамі — снегатаяннем, голай вясной, зялёнай вясной і прадлеццем. А далей прыйшла ідэя сумясціць мастацкія творы з такімі эфемернымі рэчамі, як пахі. Я вельмі ўдзячная парфюмеру Уладзіславу Рэкунову, які паверыў у энтузіязм студэнтаў і пагадзіўся дапамагчы ў рэалізацыі задумы. На выставе дэманстраваліся фотаработы, відэа. Веснавыя вобразы былі ўвасоблены ў спецыяльна створаных для выстаўкі касцюмах. Адкрыццё суправаджалася выступам вядомага музыканта Віктара Сямашкі, які адмыслова для праекта стварыў гукавы рад. Намаганні маладых мастацтвазнаўцаў не былі марнымі. Пра добрыя ўражанні ад незвычайнай выставы сведчаць водгукі наведвальнікаў.

***— Стваралася незвычайная рухомая ілюзія жывой прыроды — ад снегатаяння да квітнеючага саду…***

— Для нас было вельмі важна, што праект — увасабленне юнацтва і пачатку жыцця — быў рэалізаваны падчас традыцыйнай XLVIII Студэнцкай навукова-творчай канферэнцыі, хацелася б, каб у ім прачытвалася еднасць студэнтаў, што вучыліся колькі дзесяцігоддзяў таму і вучацца сёння. Было цікава паглядзець на свет вачыма тагачаснай і сучаснай моладзі...

***— Для мяне сапраўдным адкрыццём стаў ваш праект «Беларусы. 100 гадоў жыцця», дзе можна было ўбачыць этнаграфічныя фотаздымкі пачатку XX стагоддзя і тыя ж мясціны сёння…***

— Гэта неверагодны праект хоць бы таму, што рабілі яго першакурснікі, якія яшчэ не правучыліся і года. Дарэчы, на фоне агульных недабораў па краіне, у нас, як на вочную, так і завочную форму навучання, на спецыяльнасць «Мастацтвазнаўства» на конкурснай аснове паступілі вельмі зацікаўленыя і таленавітыя маладыя людзі. Яны проста прагнуць вучыцца, здзяйсняць творчыя праекты. Нягледзячы на «несалідны» ўзрост, многія маюць дастаткова грунтоўны багаж ведаў і безліч арыгінальных ідэй.

Ініцыятыўнай групай, якая стварала выставу «Беларусы. 100 гадоў жыцця», сталі Тарас Кучынскі-Паравы, Ганна Біжык і Алена Русакевіч. Натхніла іх праца нашага выдатнага даследчыка народнай культуры, вядомай мастацтвазнаўцы Вольгі Лабачэўскай, якая ў мінулым годзе прэзентавала цудоўны альбом «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911—1912». У студэнтаў нарадзілася ідэя праехацца па тых мясцінах, якія адлюстраваны на фотаздымках Сербава, і паглядзець на іх вачыма сучасніка. Да вандровак студэнтаў-мастацтвазнаўцаў далучыліся і студэнты з кафедры графічнага дызайну. У такім своеасаблівым мастацкім даследаванні зноў жа выявілася повязь мінулага і сучаснасці. Вельмі важным сведчаннем прызнання сталі для нас словы Вольгі Аляксандраўны Лабачэўскай, якая на адкрыцці выставы адзначыла прафесіяналізм і цікавы погляд аўтараў праекта. Новае пакаленне развіваецца, мысліць новымі катэгорыямі.

***— Выстаўка глядзелася вельмі свежа і, як і многія сёлетнія дыпломныя работы, пра якія мы ўжо згадвалі, дарыла шырыню і глыбіню асацыятыўнага ўспрымання. Творчыя праекты мастацтвазнаўцаў, выдатныя творы студэнтаў Акадэміі на Маладзёжнай выстаўцы, у межах праекта «Ад квадрата да аб’екта…» сведчаць, што маладое пакаленне пераступіла мяжу постмадэрнізму і даволі вольна адчувае сябе ў новай сучаснай плыні «постпостмадэрнізму», ці ў беларускім варыянце больш***

***дакладна «посттрадыцыі». Традыцыя сапраўды стала для большасці маладых творцаў тым камертонам, тым яднаючым стрыжнем, вакол якога натуральна спалучаюцца вобразы розных эпох і нават краін. Каб ацаніць узровень асэнсавання сённяшнімі дыпломнікамі традыцый і гісторыі, дастаткова пачытаць іх тэарэтычныя дадаткі да творчых прац. Яны напраўду ўражваюць… Менавіта сучаснае пераасэнсаванне традыцый дазваляе творцам адразу звяртацца і да моладзі, і да больш сталага пакалення…***

— Сёння творчасць немагчымая без ведаў. Важна ўсведамляць, што пройдуць стагоддзі — і пасля нас застанецца той скарб, што створаць вось гэтыя маладыя людзі, якіх хай сабе і няшмат. Многія са студэнтаў ужо выдатна адчуваюць адказнасць за створанае, імкнуцца рабіць сваю працу дасканала. Менавіта яны працуюць не толькі на сённяшні дзень, але і на будучыню…

***— Сёння ў друку нямала пішацца пра авангарднае мастацтва і пра беларускі авангард у прыватнасці. Авангард — гэта, паводле вызначэння, адмаўленне ад традыцый. А ці ёсць, на ваш погляд, нешта адметнае ў беларускага авангарда?***

— Сённяшні беларускі авангард, ці, дакладней, тое, што так называюць, хутчэй пластычныя, візуальныя пошукі, а не канцэптуальная рэвалюцыя. І тут, зноў жа, пэўна, «вінаватая» нашая беларуская ментальнасць, калі хочаце, асцярожнасць, якая стрымлівае ад рызыкоўных эксперыментаў са свядомасцю. Куды спакайней абапірацца на нейкія пэўныя, правераныя часам каштоўнасці і пры гэтым эксперыментаваць з пластычнаю моваю, візуальнымі эфектамі, не правакуючы сацыяльных, філасофскіх канфліктаў у грамадстве. Найчасцей сёння авангардныя памкненні заканчваюцца нейкімі фармальнымі пошукамі, візуальнымі эфектамі, якія, дарэчы, мастакі могуць знаходзіць і вывучаючы ўсё тыя ж традыцыі, аднак вялікага прарыву апошнія дзесяцігоддзі не назіраецца.

***— Традыцыя і ў нашым авангардзе застаецца камертонам…***

— Хацелася б, каб працягвалася традыцыя арыентавацца на высокія эстэтычныя ідэалы. Часта авангард выклікае асацыяцыі з нечым антыэстэтычным. Але, як паказалі нават нашы апошнія студэнцкія выстаўкі, сучаснае грамадства чакае ад мастака прыгажосці… У дваццатым стагоддзі азначэнне «прыгожае» з вуснаў многіх творцаў гучала як лаянка, не лічылася мастацкай задачай. Зараз жа, здаецца, эстэтычны складнік грае ўсё больш важную ролю. Бо сённяшняе мастацтва непазбежна вымушана балансаваць паміж прагай выказацца і ўмовамі рынку, паміж імкненнем да прафесіяналізму і адсутнасцю паняцця «элітарнасць». Сучасныя творчыя праекты балансуюць і на мяжы відаў мастацтва, часам яны складаныя ў плане тэхнічнага выканання і неверагодна маштабныя. Амаль немагчыма пралічыць «мэтавую» аўдыторыю твораў. Таму галоўнай задачай мастацтва сёння бачыцца гармонія ўнутранага свету чалавека і знешняй яго абалонкі, асяроддзя, у якім ён жыве. І гэтая звышзадача, што стаіць перад мастакамі, вымушае студэнтаў Акадэміі ведаць не толькі гісторыю, але і сацыялогію, паліталогію, псіхалогію, якія ў нас выкладаюцца. Як мы ўжо адзначалі, мастацтва мае вялікі ідэалагічны патэнцыял.

***— Ідэалогію ў мінулым стагоддзі ўспрымалі часта як супрацьстаянне, ваяўнічасць. Але ж ідэалогія — гэта найперш сцвярджэнне чалавека ў гэтым свеце і ў грамадстве…***

— Выкрышталізаваны светапогляд…

***— Тады з’яўляюцца годнасць і сапраўдная свабода ў творчасці… Сапраўдным святам стала абарона дыпломнай працы выпускніц кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Надзеі Чумаковай і Ірыны Юдзенковай «Гісторыя горада», роспісу ў арыгінальнай 3D падачы, які яны зрабілі ў гасцініцы «Мінск» да Чэмпіянату свету па хакеі. А як арыгінальна ўспрымаліся «Шляхецкія ганфалоны», выкананыя дыпломніцай кафедры тэкстылю і касцюма Дар’яй Якубовіч, у руках артыстаў «Тутэйшай шляхты»! І колькі сапраў-***

***дных жывых пачуццяў было ў грандыёзных дыпломных палотнах нядаўніх выпускнікоў кафедры жывапісу Глеба Герасімава і Веранікі Герасімавай, якія палка, смела ўвасобілі фрагменты нашай ваеннай гісторыі! Згадваю дыпломныя працы выпускнікоў кафедры графічнага дызайну. Праект Лізаветы Емельянавай, дзе яна вобразна падала малавядомыя факты з гісторыі, так і называўся «Ведай сваё». Сённяшнія студэнты не дэкларуюць, яны прэзенуюць нашую гісторыю, востра і сучасна. Як у рабоце маладога графіка Уладзіміра Шапавалава, дзе вобраз Францішка Багушэвіча праступае на сцяне дома ў графіці, якое зрабіў дзёрзкі юнак. Мы гаварылі сёння пераважна пра прасторавыя віды мастацтва. Але ў Акадэміі, апроч мастацкага і факультэта дызайну і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ёсць яшчэ тэатральны і факультэт экранных мастацтваў. Прасторава-часавыя віды мастацтва гарманізуюць альбо дысгарманізуюць найперш самога чалавека. Пагля-дзеўшы спектакль ці фільм, чалавек застаецца сам-насам. У той час, як да твора жывапісу, графікі, скульптуры, дызайнерскіх вынаходак заўжды ёсць магчымасць вярнуцца, яны могуць знаходзіцца з намі, гарманізуючы асяроддзе, у якім мы знаходзімся.***

— Сапраўды, прасторавыя віды мастацтва, дызайн уздзейнічаюць на нас пастаянна, часам чалавек нават не ўсведамляе гэтага ўздзеяння. З прасторава-часавымі відамі мастацтва іншая сітуацыя, яны літаральна ўцягваюць у сваё поле, але без згоды гледача гэта немагчыма. Таму вельмі важныя і для тэатральнага мастацтва, і для экранных мастацтваў пошукі сучаснай мовы, сугучнай сённяшняй рэчаіснасці. Цяпер у Акадэміі існуе своеасаблівая творчая лабараторыя, дзе засвойваюцца найноўшыя формы сцэнічнага мастацтва, — Цэнтр эксперэментальнай рэжысуры, якім кіруе Таццяна Траяновіч.

Многія знаходзяцца ў палоне стэрэатыпаў наконт нашага «слабога» кіно і тэатра. А між тым нашыя зусім маладыя творцы выдатна зарэкамендавалі сябе за мяжой. Зусім нядаўна выхаванка факультэта экранных мастацтваў Таццяна Дубіцкая прывезла адразу тры дыпломы з IV Міжнароднага фестывалю «Свет миру», які праходзіў у Яраслаўлі. У чэрвені студэнты-дыпломнікі тэатральнага факультэта, падрыхтаваныя кіраўніком курса Зояй Белахвосцік, рэжысёрам-педагогам Аляксандрам Гарцуевым, дэканам факультэта, прафесарам Уладзімірам Мішчанчуком, вярнуліся з перамогай з VI Міжнароднага тэатральнага фестывалю выпускных спектакляў «АПАРТ». Творчая работа — спектакль па п’есе Дзмітрыя Багаслаўскага «Если завтра нет…» — была адзначана «Гран-пры». Дырэкцыя фестывалю выказала ўдзячнасць Акадэміі за выхаванне моладзі, якая з гонарам працягвае творчыя традыцыі. Можна называць яшчэ шмат творчых перамог, якіх дасягнулі студэнты Акадэміі. Магчыма, мы проста прызвычаіліся да таго, што за межамі Беларусі здаецца адкрыццём…

*А можа, калі нашыя творцы прыязджаюць на міжнародныя фестывалі і выстаўкі, іх творы прыносяць якраз тое самае пачуццё гармоніі, якога так нестае ў сённяшнім свеце?*

*Гэтую гутарку хацелася б скончыць не клічнікам, не кропкаю, а менавіта пытальнікам. Каб кожны задумаўся і даў свой адказ. Метавіта вывучэнне традыцый, адвечнай гармоніі нараджае ў маладым творцы вострае жаданне супрацьстаяць усяму, што парушае гармонію і прыгажосць. Выпускнік кафедры скульптуры Васіль Цімашоў прэзентаваў сваю дыпломную працу «Хваля». Гэта выкананы ў метале грандыёзны праект помніка-музея ахвярам Фукусімы, ахвярам усіх глабальных прыродных катаклізмаў. Немінучая, як лёс, як рок, акіянская хваля і абрысы чалавечых постацей, якія, убіраючы ў сябе навакольную прыроду, імкнуцца пераадолець сілу полымя і вады. Побач з імі будуць люстравацца ўсе, хто ідзе ў музей. Так парасткі вясною, убіраючы ў сябе сокі роднай зямлі, упарта прабіваюцца праз глебу да сонца, так калісьці ў акіянскіх глыбінях зарадзілася жыццё. Свет уратуе прыгажосць?*

# «ШАЎЧЭНКАВА ДАРОГА Ў БЕЛАРУСЬ»: ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ АДНОЙ КНІЖНАЙ ПРАСТОРЫ

Здараецца, адзначаюць і кніжныя юбілеі. Ці — юбілеі кніжных выданняў, круглыя даты з моманту напісання ці выхаду ў свет пэўных твораў. Прыкладаў таго шмат. Пэўна ж, не толькі літаратуразнаўцы, не толькі дасведчаныя гісторыкі літаратуры, а і многія шараговыя чытачы ведаюць, калі пабачыў свет «Вянок» Максіма Багдановіча, калі выйшла з друкарні купалаўская «Жалейка»... Адзначаюцца такія юбілеі па-рознаму: навуковымі канферэнцыямі ці публікацыямі ў перыядычным друку «з нагоды...», а яшчэ новымі перавыданнямі неўміручых твораў, знакамітых кніг ці іх факсімільнымі выданнямі, якія, так бы мовіць, стылістычна паўтараюць і першакрыніцы, і саму эпоху іх нараджэння. Пагадзіцеся, звяртацца да досведу папярэднікаў, нагадваць пра яго ва ўсіх варунках, з усімі культурнымі акалічнасцямі — справа вартая і надзвычай неабходная.

Падобныя абставіны складваюцца і вакол выдання, якое хацелася б згадаць. Праўда, юбілей у яго зусім малы — усяго 10 гадоў, як кніга пабачыла свет. І, пэўна, па законах юбілеялогіі (будзем лічыць, што такая навука сапраўды існуе), да сапраўднага юбілея ў 50 гадоў (іншыя даты звычайна не прызнаюцца) яшчэ гэтай кнізе надзвычай далёка. І ўсё ж... Размова — пра літаратурна-публіцыстычны зборнік «Шаўчэнкава дарога ў Беларусь», выдадзены ў львоўскім выдавецтве «Світ» якраз дзесяць гадоў таму — у 2004 годзе. Выдадзены пад рэдакцыяй добрага сябра беларускай літаратуры Рамана Лубкіўскага, які неверагодна шмат зрабіў для развіцця, умацавання беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей. І, канечне ж, імя Вялікага Кабзара ў гэтых сувязях адыгрывае велізарную ролю. Хто думае іначай — няхай зазірне ў своеасаблівую храналогію «Старонкі беларускай шаўчэнкаініяны (1829—2002)», падрыхтаваную Раманам Лубкіўскім, які не толькі рэдактар унікальнага тома, але і яго аўтар і ўкладальнік. Дадзеную публікацыю можна смела назваць храналагічным нарысам. Адкрываюцца старонкі 1829 годам («Юны Тарас Шаўчэнка як слуга пана Паўла Энгельгардта прыбывае ў Вільню — горад, дзе сыходзяцца ўплывы трох культур: польскай, беларускай, літоўскай. Праязджае праз беларускія гарады і вёскі — Лоеў, Рэчыцу, Жлобін, Бабруйск, Ігумен, Мінск, Радашковічы, Краснае, Маладзечна, Пруды, Смаргонь»).

1905—1907 гады: «Янка Купала працуе над перакладамі твораў Шаўчэнкі». 1909 год: у купалаўскай «Жалейцы» змешчаны верш «Памяці Шаўчэнкі...» 2002 год: «Год Т. Шаўчэнкі ў Рэспубліцы Беларусь...»

«Шаўчэнкаву дарогу ў Беларусь» адкрывае ўступнае слова народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча — «Год на парозе тысячагоддзя». Але яшчэ раней — перад тытулам — выдаўцы на разварот падаюць «Запаведзь» («Заповіт») Тараса Шаўчэнкі ў арыгінале і ў перакладзе Янкі Купалы. Атрымаўся, так бы мовіць, падвойны авантытул. «І мяне ў сям'і вялікай, / У сям'і вольнай, новай, / Не забудзьце памянуць / Добрым ціхім словам». Вершаваныя радкі заверстаныя на выяве фотаздымка помніка Т. Шаўчэнку. Львоўскае выдавецтва яшчэ і ўрок кніжнай культуры дае.

Увогуле, калі разглядаць выданне з боку мастацтва кнігавыдавецкай справы, то зборнік па-добраму ўражвае. Сціплыя і вельмі красамоўныя, гаваркія (і па колеры — таксама) шмуцтытулы, калантытулы. За ўсё гэта можна толькі падзякаваць мастаку Фёдару Лукаваму і мастацкаму рэдактару Віктару Лахненку.

Што да будовы кнігі, то яна складаецца з наступных раздзелаў: «У вянок генію», «Пад знакам Года Кабзара», «У славе і любові», завяршаюць выданне «Старонкі беларускай шаўчэнканіяны», «Біяграфічныя даведкі пра аўтараў», «Рэзюмэ».

У першым раздзеле — «У вянок генію» — вершы беларускіх аўтараў, прысвечаныя Тарасу Шаўчэнку. У храналагічнай паслядоўнасці змешчаны вершы Каруся Каганца, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Уладзіміра Дубоўкі, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Язэпа Пушчы, Адама Русака, Вячаслава Рагойшы, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава, Сяргея Панізніка, Алеся Пісьмянкова, Васіля Жуковіча, Віктара Шніпа, Людмілы Рублеўскай, Валерыя Стралко, Анатоля Вярцінскага. Сапраўдная паэтычная анталогія, якой можна было даць і такую назву — «Беларускі паэтычны вянок Тарасу». Вось толькі шкада, што не пазначаны імёны перакладчыкаў. Ці ўсё гэта ажыццявіў Раман Лубкіўскі?..

«Пад знакам Года Кабзара» — дакументальная ілюстрацыя да падзей 2002 года ў літаратурным, культурным кантэксце ў сувязі з шаўчэнкаўскай тэмай. Тут і інтэрв'ю, і выступленні ўкраінскага пасла ў Беларусі Анатоля Андрэевіча Дроня. Раскіданыя па перыёдыцы, яны з часам маглі б застацца па-за ўвагай як шырокага чытача, так і гісторыкаў літаратуры, шаўчэназнаўцаў. Што ўжо казаць пра падборку афіцыйных дакументаў. А між тым тут ёсць і ліст А. Дроня Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку, датычны ўсталявання помніка Т. Шаўчэнку ў беларускай сталіцы. Пададзены ў раздзеле і перадрукі публікацый з газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Літаратура і мастацтва», «Культура», «Голас Радзімы», «Літаратурная Україна», «Народная газета» і іншых выданняў.

Раздзел «У славе і любові» ўзнаўляе ўсе дагэтуль вядомыя артыкулы, эсэ, нарысы, напісаныя беларускімі даследчыкамі і прысвечаныя Вялікаму Кабзару: аўтары — ад Рамуальда Зянкевіча, Лявона Гмырака, Змітрака Бядулі, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа да Жанны Шаладонавай і Уладзіміра Мархеля. Апошні, між іншым, знаёміць з беларускімі перакладамі «Заповіта». А следам друкуюцца дзесяць перакладаў (іх здзейснілі Макар Краўцоў, Янка Купала, Змітрок Бядуля, Максім Танк, Рыгор Барадулін, Васіль Жуковіч, Вячаслаў Рагойша, Яўген Міклашэўскі, Валерый Стралко, Таіса Мельчанка). Напрыканцы раздзела — дыялог Вячаслава Рагойшы і Рамана Лубкіўскага «Беларускі Рэнесанс Шаўчэнкі, альбо Свята не толькі на год...» Між іншым, варта заўважыць: слынны беларускі ўкраініст Вячаслаў Рагойша ў розныя гады нямала зрабіў для засваення спадчыны Тараса Шаўчэнкі ў беларускай літаратуры і культуры наогул. Гэта навідавоку і для чытачоў зборніка «Шаўчэнкава дарога ў Беларусь». З удзячнасцю хацелася б назваць перакладчыкаў, якія дапамагалі тэкстам беларускіх аўтараў прыйсці да ўкраінскага чытача: поруч з Раманам Лубкіўскім гэтым апекаваліся Іван Дзенісюк, Зарана Гук, Ларыса Бондар.

Кніга пабачыла свет у выдавецкай серыі «Шаўчэнка і свет». Добрая падказка львоўскіх выдаўцоў нам, беларусам: даўно наспеў час і нашых класікаў агледзець у судакрананні з усім светам. Хіба ж не скlаліся б такія кнігі пра жыццё і творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы ці, прыкладам, Максіма Танка, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча?..

***Сяргей ЗАЛАМАЙ***

# ФРАНЦУЗСКАЯ МАСТАЧКА З ВІЦЕБШЧЫНЫ



*«Аўтапартрэт»*

*Беларускае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва — цікавая старонка гісторыі і сучаснасці. Яно перадае народны дух, ідэалы і традыцыі людзей, сведчыць пра такія паняцці культуры, як прыгажосць, эстэтыка, гармонія. Яго берагуць і ахоўваюць для нашчадкаў, бо без памяці пра мінулае няма будучыні. А яшчэ пра яго ведае ўся Францыя…*

Габелен як від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва са старажытных часоў здабыў сусветную папулярнасць: высокамастацкімі шпалерамі ўпрыгожана грабніца Тутанхамона, пра яе пісалі Гамер і Авідзій, у сярэднявеччы тканыя карціны віселі ў лепшых кафедральных саборах Еўропы. Але радзімай габелена прынята лічыць Францыю, дзе былі адкрытыя першыя мануфактуры. Майстры французскай шпалеры не толькі ўскладнілі тэхніку пляцення і кампазіцыю, але і вылучылі габелен як асобны твор мастацтва, які належыць выраблять на высокапрафесійным узроўні. Багатыя ткацкія шэдэўры віселі на сценах Версальскага палаца і замкаў Луары. На іх былі ўвасоблены біблейскія сюжэты, летапіс шляхецкіх сем’яў, захапляльныя гісторыі перамог і паражэнняў. Але — усё цячэ, усё змяняецца… Звычкі грамадства, сімвалы эпохі і культура народаў не выключэнне. З часам габелены зусім зніклі з французскіх пакояў, пакінуўшы за сабой сціплую памяць у музеях. Мабыць, яны сталі не моднымі на фоне эры «-ізмаў» — кубізму, футурызму, авангардызму, экспрэсіянізму, а можа, проста згубіліся паміж рэвалюцыямі і войнамі, індустрыялізацыяй і постіндустрыялізацыяй.

І здарылася так, што на парозе XXI стагоддзя на радзіме габеленаў не засталося майстроў, якія б прысвячалі сябе і сваю творчасць стварэнню тканых палотнаў, прасякнутых нацыянальнымі рысамі і класічнай прыгажосцю габеленаў. Але ўсё змянілася з прыездам у Францыю адной беларускай жанчыны, якая адрадзіла мастацтва габеленаў…

Вольга Дзёмкіна нарадзілася на Віцебшчыне, у вёсцы Забаенне Чашніцкага раёна. З ранніх гадоў Вольгу натхнялі прыгажосць роднага краю, блакітна-сінія азёры і знакамітыя землякі: Васіль Цяпінскі, Еўфрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Францыск Скарына, Васіль Быкаў, Уладзімір



*«Чорная быліна пра ненароджаных дзяцей Палесся»*

Караткевіч. Пасля яна прысвеціць не адно палатно сваёй малой радзіме, яе прыродзе і гісторыі, а таксама сваім кумірам мастацтва і духоўнасці.

Маленькую Вольгу, унучку вядомага мастака-партрэтыста Уладзіміра Емяльянава, бацькі вырашылі адправіць у Мінск, у мастацкую школу-інтэрнат І. В. Ахрэмчыка. Але ж у незнаёмым горадзе, без блізкіх людзей таленавітай дзяўчыне прыйшлося цяжка. Кожны дзень быў напоўнены чаканнем канікул, бо толькі гэтыя кароткія тры месяцы Вольга магла правесці дома з бацькам і маці, братамі і сёстрамі, у родных сценах. Можа, таму часцей за ўсё Вольга Дзёмкіна піша лета.

Пасля заканчэння школы ў 1971 годзе быў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, пасля аспірантура ўжо ў Акадэміі мастацтваў, пленэры з іншымі мастакамі, першыя выставы. Цяпер, маючы міжнароднае прызнанне, Вольга адзначае, што ніколі не адчувала сябе за мяжой абдзеленай ведамі, вопытам у тэхніцы выканання. Беларуская школа жывапісу прымушала штодня займацца напружанай працай над сабой як асобай і як творцам, што дазволіла Дзёмкінай стаць знакамітым мастаком у Беларусі, двойчы прызнавацца «Мастаком года» Францыі, увайсці ў Савет мастакоў Францыі, выстаўляцца ў музеях Еўропы і ЗША, мець шмат узнагарод, у тым ліку медаль Міжнароднай акадэміі мастацтва і літаратуры LUTEC і медаль Нацыянальнай асамблеі Францыі.

Многія дзеячы культуры і мастацтваў пакідаюць родныя мясціны па палітычных, ідэйных і матэрыяльных прычынах. Адных вабіць амерыканская мара, другіх клічуць італьянскія вернісажы, а трэціх — марскія пейзажы блакітных берагоў. Вольгу не зводзіў заклік свабоды, роўнасці і братэрства — на французскай зямлі яе чакала каханне. Усё адбылося амаль як у кнігах, якія ілюстравала мастачка: на выставе беларускіх майстроў у Францыі, дзе Дзёмкіна прэзентавала свае габелены, да яе падыходзілі захопленыя, здзіўленыя прыгажосцю і каларытам беларускіх работ мастацтвазнаўцы, мастакі і проста наведвальнікі выставы. Пыталіся: ці сапраўдныя гэта шпалеры і ці можна дакрануцца да дзіўных дываноў. Думалі, што гэта тканіна, размаляваная фарбамі. Але поспех не быў бы настолькі галавакружным, калі б да яе не падышоў выказаць сваё зачараванне музыкант Жорж Пасо, а праз 4 дні не зрабіў бы ёй прапанову рукі і сэрца.

Калі давялося рабіць выбар: быць ужо знакамітым мастаком у Беларусі ці пачынаць усё з нуля ў Францыі, але побач з каханым чалавекам, як і любая жанчына на яе месцы, Вольга выбрала другое. Ёй давялося ісці праз церні да французскіх зорак, каб даказаць, што не толькі Марк Шагал быў таленавітым беларусам, што само мастацтва нашай зямлі, прасякнутае ўнікальным духам народа, годнае, каб быць выстаўленым у лепшых музеях свету. За доўгае

жыццё ў Сан-Тэцьене перад мастачкай адны дзверы зачыняліся, але іншыя адчыняліся, адныя людзі казалі, што яна не мае права называць свае беларускія дываны французскім словам «габелен», а іншыя прасілі адрадзіць габелен на іх радзіме.

Беларускія габелены вісяць у музеях Нью-Ёрка і Парыжа, у пасольскіх дамах і ў прыватных еўрапейскіх калекцыях. Іх адметныя рысы — мяккія колеры, фігурная кампазіцыя, каларыстычная фрагментарнасць разам з глыбокім сюжэтам, які спалучае ў сабе эстэтыку і філасофскі сэнс, звернуты ўглыб чалавека. Першыя беларускія габелены ткаліся на знакамітых мануфактурах Радзівілаў, Агінскіх і ўвасаблялі каларыт мясцовай прыроды, значныя падзеі і святы. Нягледзячы на тое, што сцены беларускіх палацаў сталі ўпрыгожвацца габеленамі пазней за сцены Еўропы і Усходу (у XVI—XVII стагоддзях), сёння беларускае шпалернае мастацтва дасягнула вельмі высокага ўзроўню. Вольга Дзёмкіна адзначае, што ў Францыі, у адрозненне ад Беларусі, не засталося нават ніводнай навучальнай установы, дзе людзі змаглі б спасцігнуць мастацтва стварэння габеленаў, вывучыць іх спецыфіку і гісторыю. У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Вольга доўгі час загадвала кафедрай «Габелен і мадэляванне», дзе прывівала нашым таленавітым творцам прынцып адзінага працэсу стварэння габелена.

На жаль, французы пазбыліся гэтай мовы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і доўгі час не ўмелі нават паклапаціцца пра тую бясцэнную спадчыну, якая дасталася ім ад таленавітых майстроў мінулага. Многія шпалеры выцвілі, пабляклі да такога стану, што іх немагчыма дакладна рэстаўрыраваць. Прычым адбылося гэта з-за нядбалага стаўлення да твораў, няправільнага асвятлення залаў. Так шмат габеленаў папсаваў… Месяц. Спецыялісты адзначаюць, што святло Месяца прыносіць тканым палотнам значна большую шкоду, чым сонечнае святло, і, каб захаваць творы мастацтва, варта зашторваць вокны на ноч.

Склалася так, што на сучасным мастацкім рынку Беларусь і Францыя памяняліся звыклымі ролямі, якія здаўна былі замацаваны за краінамі: беларускі габелен стаў заканадаўцам моды, а ў прыватнасці габелены беларускай мастачкі Вольгі Дзёмкінай. Яе руцэ належаць такія працы, як «Рэха», «Песня з мінулых стагоддзяў», «Ветразь свету», «На строме часу», «Малітва», «Крыніца часу», «Узыходжанне», «Зорка палын», «Таямніца святла», «Пакланіцеся зоркам», «Песня вятроў», «Дажынкі», «Партрэт Уладзіміра Караткевіча», «Гуканне вясны», «Купалле», «Паганскія сімвалы», «Гімн лілеям», сцэнічныя касцюмы для ансамбляў «Песняры», «Жалейка», «Зорачкі», «Купалінка» ды іншыя. Але некаторыя творы стаяць для мастачкі ў адмысловым шэрагу…

«Чорная быліна пра ненароджаных дзяцей Палесся» распавядае пра трагедыю Чарнобыля. Карціна, створаная не рукамі, а абпаленым сэрцам, прысвечаная ўсім жанчынам, якія страцілі сваіх дзяцей пасля страшнага выбуху на АЭС, і маладзенькім дзяўчатам, што ўжо ніколі не народзяць. Тэма страты асабліва блізкая Вользе Дзёмкінай: з яе жыцця паступова сышлі бацькі, а пасля чарнобыльскай аварыі — сястра Святлана. Таму на палатне так выразна прачытваецца смутак, гора і несмяротнае каханне. У працы Вольга звяртаецца да вечнага сімвалу хрысціянскай творчасці — Мадонны, якая не толькі плача аб загубленай Беларусі, але і нясе надзею адраджэння. Полымя па краях сімвалізуе чароўны агонь, здольны спаліць зло чарнобыльскай катастрофы ў сэрцах людзей. Агонь, які саграvae самотныя душы.

Габелен «Рагнеда» з’яўляецца адной з самых знакамітых гістарычных работ мастачкі і размяшчаецца ў Заслаўскім краязнаўчым музеі. Да ўвасаблення вобраза знакамітай княгіні Вольга звярталася не раз, але менавіта гэтая версія Рагнеды найбольш лаканічная і кампазіцыйна эфектная. Аблічча Рагнеды на палатне таксама выконвае функцыю Мадонны ўсяе Беларусі, якая клапоціцца пра нас, нясе прасвятленне і любоў. Зборнае ўвасабленне маці, жанчыны і

святой у адной гістарычнай асобе стала знакавым у філасофіі творчасці Дзёмкінай, якая звяртаецца да спрадвечных беларускіх каштоўнасцей.

Адзін з апошніх сваіх габеленаў — «Сіротка» — мастачка перадала ў Нясвіжскі замак, там яго можна пабачыць і сёння. Работа была створана падчас рэстаўрацыі гістарычнага аб'екта, у гонар занясення яго ў спіс сусветных каштоўнасцей ЮНЕСКА. На палатне распаведзена цікавая гісторыя пра жыццё легендарнага князя Мікалая Радзівіла Сіроткі: яго палітычныя і рэлігійныя погляды, падарожжа ў Егіпет, а таксама ўклад у развіццё беларускіх земель.

У той час, калі амерыканскія і заходнееўрапейскія мастакі зарабляюць грошы камерцыйнымі праектамі і эпатажам, беларускія творцы не забываюць пра вечныя каштоўнасці і душу. У час, калі зямля, здаецца, сыходзіць з-пад ног ад хаосу сучаснасці, хочацца знайсці арыенціры жыцця ў мастацтве. І такія творцы ёсць, прымушаюць разважаць пра свет, зямлю, родны народ і Бога.



*«Рагнеда» (фрагмент)*

Творчасць Вольгі Дзёмкінай — гэта своеасаблівы «мадэрн» па-беларуску: з аднаго боку, ёсць навізна тэхнікі, матэрыялаў, сюжэтаў і спроб іх выканання; з другога — захаванне нацыянальнага духу, класічных канонаў спадчыны. Работы мастачкі адкрываюць яе ўнутраны свет, унікальны і адначасова блізкі кожнаму з нас, бо ён распавядае пра агульначалавечае.

17 гадоў жанчына з Віцебшчыны жыве і працуе ў Францыі і столькі ж гадоў не прымае замежнае грамадзянства. 17 гадоў французы пішуць у СМІ ды на клямарчыках пра нашую зямлячку (няхай сабе і дробным шрыфтам): «Вольга Дзёмкіна (Беларусь)». А на радзіме пампезна адзначаюць: «Вольга Дзёмкіна (Францыя)». 17 доўгіх гадоў мастачка за мяжой стварае новыя габелены і карціны, спрабуе сябе ў скульптуры і рэстаўрацыі, а ў вольны час размаўляе з французамі на роднай мове і бачыць сны пра Беларусь.

***Вольга НЯКРАСАВА***



# ВЕРАСЕНЬ

* * *

На старонках **№ 8—9** «Полымя» за **1929 год** упершыню ў якасці аўтара часопіса выступіў Лукаш Бэндэ з артыкулам «Памяці Уладзіміра Максімавіча Фрычэ». Расійскі і савецкі літаратуразнаўца і мастацтвазнаўца, акадэмік АН СССР Уладзімір Фрычэ памёр 4 верасня 1929 года, а пры жыцці, як пісалася ў некралогу, «быў не толькі стваральнікам велізарных ідэалагічных каштоўнасцяў, не толькі адным з заснавальнікаў марксісцкага мастацтвазнаўства, але і сапраўдным бальшавіком навукі пра мастацтва», «як ваяўнічы матэрыяліст заўсёды мужна і рашуча выступаў супраць псеўдамарксістаў, эклектыкаў і ідэалістаў». Менавіта ён аказаў на светапогляд Бэндэ вялікі ўплыў, і яшчэ невядома, у каго з іх было больш «матэрыялістычнай ваяўнічасці». Бязлітаснай крытыцы і надуманым абвінавачванням падвяргаліся не толькі маладыя пісьменнікі, але і жывыя класікі. Вось, прынамсі, як характарызаваў Бэндэ ў 1932 годзе ў сваёй інфармацыйнай запісцы, якая папярэднічала прыняццю пастановы ЦК КП(б)Б «Аб фактах прасочвання класава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР», Купалу і яго творчасць савецкага перыяду: «Характерен беспрерывным колебанием между советской властью, правда, своеобразно воспринимаемой, и между националистической контрреволюцией…

Стихи, в коих Купала воспевает советскую действительность в минорных тонах, совершенно другого ритма и размера. В этого рода стихах не чувствуется такой возбужденности, чувствительности, розмаха, сочности образа, как в стихах враждебного содержания. Они в большинстве своем сугубо рационалистические, во многих случаях с искусственно подогнанной рифмой».

А вось характарыстыка Якуба Коласа: «Колас, как и Купала, встретил установление и закрепление пролетарской диктатуры в Белоруссии с повышенной националистической реакцией…

Во всех последних произведениях Коласа особенно чувствуется, как его буржуазное по существу мировоззрение сталкивается с нашей советской действительностью, с прошедшей революционной действительностью и, к сожалению, в этом-то столкнове-



*Лукаш Бэндэ (крайні справа ў другім радзе) сярод слухачоў партшколы. 1924 г.*

нии, из под пера его, действительность выглядит с изрядно изломанными боками и исковерканным лицом».

Цікава, што ў гэты час Бэндэ меўся напісаць прадмову да выдання коласаўскай «Новай зямлі», аднак цягнуў з ёй тры гады, пасля чаго Колас не вытрымаў і надрукаваў у «Ліме» за 24 мая 1933 года свой іранічны верш «Аўтару прадмоў да твораў «старых» пісьменнікаў»:

Піша, піша Бэндэ,
Крытык наш суровы,
Да паэм даўнейшых
Грозныя прадмовы.

Час ідзе, і твораў
Тых не знойдзеш з свечкай,
І аб іх заціхлі
Гутаркі і спрэчкі.

«Новая зямелька»
Сталася старою,
Выраслі калгасы
Гэтаю парою.

А наш крытык піша,
Піша і сівее,
Мабыць іх напіша,
Калі Колас стлее.

Новая эпоха,
І кірунак новы…
Можа ці патрэбны
Бэндавы прадмовы?

Аднак і такую, па сённяшнім часе, не самую едкую іронію, многія аўтары, па кім бязлітаснай крытыкай прайшоўся Бэндэ, хавалі ў сабе. Вось, напрыклад, характэрны ў гэтым плане эпізод з успамінаў Сяргея Грахоўскага:

«Восенню 1931 года я пераехаў у Мінск. Праз некалькі дзён трапіў у Дом пісьменніка на літаратурны вечар. Праходзіў ён у невялікай перапоўненай зале. Доўга, нібыта на некага сварыўся, на мяшанай мове з ненатуральным акцэнтам гаварыў Бэндэ.

Выглядаў ён няўмольным камісарам пры літаратуры — у галіфэ, у новенькай суконнай гімнасцёрцы з малінавымі пятліцамі без ніякіх адзнак, падперазаны шырокім рамянём, з пісталецікам пры боку. Пакуль ён бушаваў на трыбуне, усе зацята і прыгнечана маўчалі, угіналіся, хаваліся адзін за аднаго, каб часам не трапіць на вока. Бо ацэнкі яго былі катэгарычныя, як прысуд: «нацыяналістычныя настроі», «дробнабуржуазныя тэндэнцыі», «кулацкая ідэалогія».

Як толькі Бэндэ сышоў з трыбуны, зала адразу ажыла, заварушылася, лёгка ўздыхнула».

Пісталецік — гэта, верагодна, як памяць пра службу кавалерыстам у Чырвонай Арміі падчас рэвалюцыі ды ўдзел у «ліквідацыі бандытызму» на Барысаўшчыне ў 1923 годзе.

Хуткі ўзлёт Бэндэ ў якасці «галоўнага» літаратурнага крытыка ў Беларусі неўзабаве скончыўся гэткім жа хуткім падзеннем. У другой палове 30-х яго абвінавацілі ў трацкізме, а ў 1938 годзе выключалі з Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі.

* * *

У № 9 за 1962 год Максім Лужанін пачынае друкаваць раздзелы з аповесці «Колас расказвае пра сябе». Ва ўступным слове аўтар прызнаецца: *«Больш за дзесяць гадоў назад пачала мне карцець адна турбота: напісаць аб ім аповесць»*. Калі ад 62 адкінуць гэтае «больш за дзесяць», то атрымліваецца, што задума ўзнікла недзе перад тым, ці неўзабаве пасля таго, як Лужанін у 1948 годзе стаў працаваць у Коласа сакратаром. Сваім намерам напісаць пра яго аповесць ён падзяліўся з народным паэтам, спадзеючыся на дапамогу ў «зборы» матэрыялу, але нечакана для сябе атрымаў адмову, пра што пасля ў самой аповесці напісаў так: *«Чытай «Новую зямлю», — сказаў ён. — Я там нічога не зманіў. Уся наша сям'я — пад сваімі імёнамі. А захочаш ведаць, як я настаўнічаў, трапіў у турму, прыгледзься добра да Лабановіча»*. Праўда, праз нейкі час Колас усё ж вырашыў дапамагчы свайму маладому біёграфу, але паставіў умову: падчас іх гутарак нічога не запісваць. Што так яно было на самай справе, расказваў і траюрадны пляменнік Канстанціна Міхайлавіча Юрый Міцкевіч: «У Коласа працаваў сакратарам Мак-



*За рабочым сталом*




ім Лужанін, якому паэт расказваў розныя гісторыі пра сваё жыццё, але не даваў іх запісваць. Дык Лужанін запамінаў, а потым занатоўваў тое, што Колас гаварыў» («Белорусская нива» за 19.07.2012). Тым не менш, верыш і Лужаніну, які ў той жа прадмове да сваёй аповесці прызнаваўся:

«Неяк пасля адной асабліва багатай на змест гаворкі, заўважыўшы, што мне нецярплівіцца хутчэй хутчэй пайсці, Канстанцін Міхайлавіч хітравата скасавурыўся і прамовіў:

— Няма чаго ўцякаць. Бяры ўжо лепш паперу ды запісвай за мною ўслед.

Назаўтра я прынёс тоўстую канцылярскую кнігу і пазнаёміў Канстанціна Міхайлавіча з папярэднімі запісамі. Ён заўважыў некаторыя недакладнасці, тое-сёе дапоўніў і паклаў кнігу ў шуфляду пісьмовага стала.

— Будзем даставаць час ад часу. Не кожны дзень, а калі ўсплыве штонебудзь вартае.

«Вартага» ўспаміналася, на маю радасць, многа, і запісваць даводзілася амаль пры кожнай сустрэчы. Часамі, у маю адсутнасць, Канстанцін Міхайлавіч выцягваў «гросбух для ўсяго, што лезе ў галаву», як жартаўліва ён ахрысціў маю кнігу, і рабіў запісы сваёй рукой або ўкладаў туды нататкі на асобных лісціках».

У канцы другога выдання кнігі «Колас расказвае пра сябе» Максім Лужанін пазначыў даты яе напісання: 1952 — 1962, 1967 — 1972. Такім чынам, на працягу некалькіх гадоў, да смерці, Якуб Колас, верагодна, сам быў своеасаблівым рэдактарам аповесці ў плане дакладнасці тых ці іншых фактаў і дат. Але калі чытаеш і тыя раздзелы, што былі напісаны пасля 1956 года, не сумняваешся ў іх праўдзівасці.

* * *

У **вераснёўскім** нумары за **1968 год** «Полымя» друкуе знакамітую «Загадку Багдановіча» Міхася Стральцова. Праўда, такую назву твор атрымае толькі ў наступным годзе, калі ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе асобным выданнем. У часопісным варыянце ён называецца «Ад Максіма Кніжніка пачатак». Не адразу вызначыцца аўтар і з жанрам: ці гэта эсэ (як у згаданай кнізе), ці аповесць (як у выбраным, якое выйшла ў 1897-м — у год смерці Стральцова, пры тым, што ў ёй быў і раздзел «Эсэ»). У «Полымі» жанр увогуле не пазначаны: ён змешчаны пасля перакладаў вершаў Мікалоза Бараташвілі і Яніса Рыцаса (перакладамі ў часопісе звычайна заканчваецца блок мастацкай літаратуры), а за ім ішоў раздзел «Навука», пасля — матэрыялы крытыкі і літаратуразнаўства.

Добрая назва, вызначэнне жанру (у меншай ступені, вядома, але…) — для Стральцова, цудоўнага стыліста, аднаго з лепшых у беларускай прозе, гэта было важна. Як, напрыклад, важна знайсці той адзіна «правільны» рытм твора. Таму невыпадкова ў кніжным варыянце «Загадкі» ў першым абзацы ён робіць, адну, здавался б, нязначную, а для старонняга вока і незаўважную праўку. Палымянская публікацыя пачынаецца так: *«Надзеі на папраўку амаль не было: ён гэта ведаў добра. І ўсё ж ён паехаў»*. Пазней другое «ён» знікае, і тэкст становіцца яшчэ больш рытмічным, лёгкім, хоць у іншых выпадках вельмі частае ўжыванне пісьменнікам слоў накшталт «ён», «гэты» было якраз да месца.

Невядома, цяжка ці, наадварот, лёгка працавалася Стральцову над «Загадкай Багдановіча». З аднаго боку, здавалася б, каб напісаць ***так***, трэба было хоць у нечым перажыць лёс Багдановіча, як свой уласны. Цяжка? Ды гэта ўвогуле далёка не кожнаму пад сілу. З іншага, Багдановіч быў улюбёным паэтам Стральцова, вельмі блізкім яму па сваім светаадчуванні.

У Багдановіча:

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі
сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

У Стральцова:

Я хачу напісаць радок,
толькі адзін радок,
які наіўны паэт
з галавой, кучаравай, як воблака,
мог бы ўзяць за эпіграф.

Напішу хоць бы так:

«Я аднойчы бачыў кепскага чалавека».



*Міхась Стральцоў: «...Свой голас птушынай песняй здолеў надтачыць...»*

Міхась Стральцоў не першы, хто напісаў грунтоўную працу пра Багдановіча. У 1958 годзе выйшла кніга Сцяпана Майхровіча «Максім Багдановіч». У 1966-м — кніга Алега Лойкі з такой жа назвай. Шмат пра класіка беларускай паэзіі было напісана і выдадзена ў наступныя дзесяцігоддзі. Але стральцоўская «Загадка Багдановіча» на небасхіле айчыннай літаратуры па сённяшні дзень вылучаецца сярод усіх астатніх сваім незвычайна яркім і шчымліва-самотным святлом.

* * *

**Вераснёўскі** нумар часопіса «Полымя» за **1975 год** у раздзеле «Хроніка» паведамляў: *«24 ліпеня ў Мінску, у Доме ўрада, пачала работу першая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі дзевятага склікання»*. Слова для адкрыцця сесіі ўзяў Кандрат Крапіва. Затым пачалося выбранне Старшыні Вярхоўнага Савета БССР, у выніку чаго дэпутаты аднагалосна прагаласавалі за кандыдатуру



*Іван Шамякін: пісьменнік і дэпутат*

Івана Шамякіна. Іван Пятровіч быў не першым пісьменнікам, які ўзначаліў беларускі Вярхоўны Савет. І ўвогуле, гэтае крэсла нашы прызнаныя майстры слова займалі аж з 1965 па 1990 год. Першым пісьменнікам — Старшынёй Вярхоўнага Савета быў Максім Танк (1965—1971), другім — Іван Шамякін (1971—1985), трэцім — Іван Навуменка (1985—1990). Зразумела, пасада была не толькі ганаровая, адказная, але і клапатлівая. Здавался б, як творчы чалавек спраўляўся з ёй і калі паспяваў яшчэ і кнігі пісаць? Але не трэба забываць, што Вярхоўны Савет БССР не з'яўляўся пастаянна дзеючым (сесіі праходзілі два разы на год). Пастаянным органам быў Прэзідыум Вярхоўнага Савета, які па Канстытуцыі хоць і быў падсправаздачны вышэйшаму органу дзяржаўнай улады, меў вельмі вялікія паўнамоцтвы. І хоць Старшыня Вярхоўнага Савета, зноў-такі, па Канстытуцыі, абавязаны быў уваходзіць у Прэзідыум, аднак на пасаду кіраўніка пастаянна дзеючага органа абіраўся іншы чалавек. Так, у тым жа палымянскім матэрыяле чытаем: *«Затым Вярхоўны Савет пачынае разгляд наступнага пытання парадку дня — выбранне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.*

*Слова атрымлівае кандыдат у члены палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі дэпутат П. М. Машэраў. Па даручэнні Бюро Цэнтральнага камітэта КПБ ён уносіць прапанову, аднадушна падтрыманую партыйнай групай і саветам старэйшын Вярхоўнага Савета, аб выбранні Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дэпутата Ф. А. Сурганава.*

*Дэпутат Ф. А. Сурганаў аднагалосна выбіраецца Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР».*

Такім чынам, на пасаду кіраўніка пастаянна дзеючага органа дзяржаўнай улады выбіраўся вопытны функцыянер, чыноўнік. Нагадаем, Фёдар Сурганаў шмат гадоў быў сакратаром, а пасля другім сакратаром ЦК КПБ, а яшчэ раней працаваў старшынёй Мінскага аблвыканкама, знаходзіўся на кіраўнічай камсамольскай рабоце і г. д. Менавіта ён быў правай рукой П. М. Машэрава, разам з ім нярэдка прымаў і суправаджаў высокіх замежных гасцей. У тым ліку, і ў той злашчасны дзень 26 снежня 1976 года, падчас гасцявання ў Беларусі другога сакратара ЦК кампартыі Кубы Рауля Кастра, які разам з жонкай і дзецьмі адпачываў у Белавежскай пушчы. У Мінск з пушчы кубінскі госць вяртаўся на самалёце, кіраўнікі Беларусі — на аўтамабілях. Машына Сурганава ехала апошняй, пасля запраўкі адстала ад калоны і — трапіла ў аварыю, у якой выжыў толькі вадзіцель…

Такім чынам, хоць па Канстытуцыі той, хто займаў пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, на гэты час з'яўляўся першай асобай у краіне, дэ-факта яго паўнамоцтвы былі вельмі абмежаваныя. А ў Канстытуцыі 1978 года (папярэдняя, як вядома, была прынята аж у 1937-м) у Артыкуле 6 было нарэшце зафіксавана тое, што і так было відавочным: «Кіруючай і накіроўваючай сілай савецкага грамадства, ядром яго палітычнай сістэмы, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый з'яўляецца Камуністычная партыя Савецкага Саюза».

Цікава, што ў дзённіках 1980—1995 гадоў Іван Шамякін пра сваю дэпутацкую працу амаль не згадвае. Адзін з рэдкіх запісаў такога кшталту датаваны 8 снежнем 1981 года:

«І зноў эканоміка. Учора сабралі членаў ЦК, дэпутатаў. Раздалі тэзісы дакладаў пад гучным загалоўкам: «Рашэнні лістападаўскага (1981 г.) Пленума ЦК КПСС — баявая праграма партыі і народа.

Трэба ехаць у выбарчыя акругі. Большасць «адбарабаняць» па тэзісах. А я ў разгубленасці. У мяне адчуванне: нельга так гаварыць з народам. Усё правільна: пяцігодка, план 1982 г., міжнародныя акцыі. Аднак, здаецца мне, наступіў час, калі пра ўсё гэта — і пра поспех, і пра цяжкасці — трэба гаварыць інакш, зусім інакш. Але як? Гэтага я не ведаю. Гэтага не ведаюць высокія палітыкі».




*Архіўныя нумары «Полымя» гартаў*
***Алесь МАЛІНОЎСКІ.***

